7 красавіка 2013 года
памёр

# ГЕОРГІЙ ВАЛКАВЫЦКІ
## (1923—2013)

Беларускі паэт і празаік.
Першы  рэдактар “Нівы”.
Заснавальнік Беларускага літаратурнага аб’яднання ў Польшчы.
Грамадскі дзеяч

# Т Э Р М А П І Л Ы

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс

**№ 17** Беласток **2013**

## Змест

**Р э д а к т а р**
***Ян Чыквін***

**Віншуем з 80–годдзем**
пісьменніка, літаратуразнаўца, крытыка
Серафіма Андраюка,
выдатнага сына Беласточчыны (рэд.)

# Серафім АНДРАЮК

## Старонкі



Серафім Андраюк. 60-я гады.

Надышоў той час, той перыяд у тваім лёсе, калі ты жывеш у асноўным мінулым, а можа ў мінулым. Там ты жывеш сярод людзей, у пастаянным знешнім і ўнутраным кантакце з навакольным светам. Ён, свет той, твой. Бяры яго, шукай у ім сваё, душы патрэбнае. Асабліва ў дзяцінстве, у гады юнацкія. Сучаснасць жа ўжо, па сутнасці, не твая; дзень сённяшні не твой. Ты ім ужо дзесьці мала адпавядаеш. Грамадска-сацыяльныя сувязі, сяброўскія, таварыскія ўсё слабеюць і слабеюць. Будучыня?.. Не трэба быць наіўным.

А мінулае пастаянна як бы перажываецца нанова і па-новаму. Яно ўжо падаецца праверанае часам, у кантэксце асабістага лёсу, у плыні жыцця народа. Усё другараднае, нязначнае і неістотнае на тваёй жыццёвай дарозе, у тваім лёсе адмятаецца, знікае. Ты яго не помніш, яго не было. Мінулае часам, гадамі праверана і ачышчана. Найперш гэта датычыцца памяці эмацыянальнай, пачуццёвай. Бо гэтая памяць твая, асабістая, першасная. У аснове яе, у самым пачатку эмацыянальнае ўражанне, узрушэнне, патрасенне. Пазней яна можа пашырацца, паглыбляцца за кошт памяці іншых, памяці агульнанароднай, гістарычнай. Але гэта ўжо пазней, по-

тым. А адразу спачатку — тваё ўласнае, асабістае. Яно найбольш жывое, адчувальнае. Якраз гэтае мінулае найчасцей усплывае ў памяці, хвалюе. Здалёк, вельмі здалёк кліча, гукае.

Ранняе-ранняе дзяцінства. Я ляжу на пасцелі: толькі што прачнуўся. У акно свеціць асабліва яркае сонца. Сонечна. Цёпла, радасна. Як бы плаваеш у гэтай сонечнасці. Уставаць не хочацца. Ды ніхто і не патрабуе.

Яшчэ ўспамін з тых часоў. Вясна. За дарогай, насупраць хаты наш луг. Месцамі яшчэ блішчыць вада. Але паўсюль ужо цвіце лотаць. Шмат сонца. Жоўта-зялёная прыгажосць.

І яшчэ адзін успамін шчымліва ўсплывае ў памяці. Зноў жа ўспамін веснавы. Перад хатай каля хлява на захад — агромністая вярба. Поўна птушак — галкі, шпакі, вераб'і, сарокі, нават совы. Раніцай вярба ўся асветлена сонцам, птушкі пяюць, шчабечуць. Проста як бы боскае дрэва.

Гэта некалькі эмацыянальных яркіх малюнкаў, светлых і шчаслівых, самага ранняга дзяцінства, якія дзесьці вызначылі адносіны да жыцця, яго ўнутранае ўспрыманне.

Жыццё ж рэальнае ў сям'і было, здаецца, не такое ўжо сонечнае, ружовае. Зямлі, разам з пашай, сенажаццю, было не так і мала — дзесьці каля пятнаццаці гектараў. Конь быў, каровы, авечкі, свінні, куры. Нармальная серадняцкая гаспадарка. Зямлю трэба было апрацоўваць, гаспадарку дагледзець. Працаваць даводзілася рана, шмат і ўсім. Сям'я была немалая — пяць сыноў у бацькоў было. Рана навучыліся баранаваць, касіць, жаць, малаціць, каровы і авечкі пасвіць. Што цікава: на рэлігійныя святы і ў нядзелю ніхто ніколі не працаваў, нягледзячы ні на што. У той жа час на полі ніколі нічога не заставалася не ўбранага. Працавалі, што называецца, ад цямна да цямна. Было гэта, скажам шчыра, не надта прыемна. Мала калі хацелася з самой раніцы кароў выганяць: такі салодкі ранішні сон быў. А як спіна балела, калі даводзілася жаць сярпом… І ўсё тое было не якоесьці выключэнне. Так трэба было, так жылі ўсе ў вёсцы.

Бацькі — бацька Антон Мацвеевіч і маці Ганна Фёдараўна (дзявочае прозвішча Кадлубоўская) — у працы пярэдыху не мелі. Асабліва маці: трэба ж было дзяцей дагледзець, управіцца па гаспадарцы, бегчы на поле. Але што істотна: не было якойсьці забітасці, змардаванасці. Бацька амаль кожную нядзелю хадзіў у царкву: ён спяваў у царкоўным хоры. Спяваў добра. Часам браў мяне, і я сядзеў наверсе, там, дзе быў хор, і слухаў, слухаў. І не

дакучала мне гэта. Бацька нядрэнна ўмеў чытаць. Зімовымі ці познеасеннімі вечарамі прыходзілі суседзі, і ён чытаў уголас «Біблію». Слухалі ўважліва, абмяркоўвалі. Сваёй Бібліі не было, на нейкі час яе пазычалі ў таго, хто яе меў. Маці ледзь-ледзь умела чытаць, па складах, як кажуць. Але ў хаце было «Евангелле», і нярэдка яго можна было бачыць у руках маці. Была ўся яна засяроджана і, штосьці шэпчучы, шавяліла губамі. Я не помню, каб маці хоць калі не рабіла што-небудзь, не завіхалася на двары ці ў хаце. Рэдкія былі гадзіны, калі ў святочны дзень жанчыны збіраліся дзе-небудзь на лавачцы пагаварыць, пасмяяцца. Але было тое. Восенню позняй і зімой жанчыны пралі кудзелю — лён, воўну. Збіраліся яны (дзве-тры) у чыёйсьці хаце і пралі, спявалі, расказвалі якіясьці гісторыі. Нярэдка сядзелі доўга — да гадзін дванаццаці. З суседзямі жылі мірна, дружна. Суседская бабуля, якую мы называлі Банадычыха, была для нас як родная. Яна гуляла з намі, няньчыла меншых братоў. Часам прыходзіла і наша бабуля, бацькава маці (яна жыла з малодшым сынам у другім канцы вёскі), прыносіла гасцінчыкі. Мы, дзеці, былі шчаслівыя. У маці бацькоў не было ўжо. І яна заўсёды адчувала сябе дзесьці абдзеленай лёсам. Але асабліва сумаваць, журыцца не было калі: клопатаў гаспадарчых звыш меры, калі можна тут гаварыць пра якую меру. Ды і дзеткі-хлапчукі не давалі асабліва, як сёння кажуць, расслабляцца. Было жыццё як жыццё. Якіхсьці цёмных, змрочных мясцін у маёй памяці не пакінула. Былі, зразумела ж, у вялікай сям'і, асабліва сярод дзяцей, нейкія непаразуменні. Мы, хлопчыкі, не раз мелі жаданне і паваяваць адзін з адным. Маці часам не магла саўладаць. Клікала бацьку. Той прыходзіў з вуліцы, ужо трымаючы рамень у руках, лаючыся. Мы, як тыя мышы пад венік, зашываліся ў кут пад ложак.

Успамін пра той час, тыя гады застаўся светлы, добры. То было жыццё ў нейкай асаблівай еднасці з прыродай, з навакольным светам. Усё гэта фарміравала наш пачатковы эмацыянальны ды, напэўна, і духоўны свет.

Асобная старонка ў маім дзяцінстве звязана з вераснем 1939 года. Усё, што рабілася пазней, пакінула ў памяці адбітак нейкай святочнасці і ўзбуджанасці. Спачатку з'явіліся нямецкія войскі. Немцы былі тады нейкія мірныя, нават добрыя: дзяцей частавалі шакаладкамі, цукеркамі. Якогасьці пераследу, арыштаў не было. Дарослыя расказвалі, што ў адной суседняй вёсцы забілі настаўніка. Потым прыйшлі савецкія войскі. Ніякіх баёў не было.

Мяжа паміж Германіяй і СССР устанавілася па рацэ Буг, за нейкіх сорак кіламетраў на захад ад нашай вёскі. У вёсцы ўвесь час былі вайскоўцы. У нас у хаце таксама жыў афіцэр з жонкай. Першыя дні новай улады запомніліся нейкай агульнай узбуджанасцю, частымі сходамі. Раскулачвання ці нейкага пераследу ў нашай вёсцы не было. Праўда, у суседняй вёсцы, зноў жа расказвалі, раскулачылі аднаго ўладальніка невялікага маёнтка. У гэтыя гады пайшоў я ў школу, у першы клас, хоць было мне толькі шэсць гадоў. Жаданне хадзіць у школу было вялікае. Я проста бег туды. Што характэрна: якраз у тыя гады жыццё народнае, жыццё грамадскае, падзеі агульназначнага зместу хоць у малой ступені закранулі свядомасць, пакінулі нейкі свой эмацыянальны адбітак. Праўда, якісьці ён няпэўны, невыразны, расплывісты. Засталося адчуванне нейкай узрушанасці ранейшага ладу і парадку.

Вайна ўсё перавярнула. Ужо ў першыя дні мы яе адчулі: на захадзе чуліся стрэлы гармат і ўзрывы снарадаў, над вёскай пралятали нямецкія самалёты. Каля чыгункі скінулі некалькі бомбаў. Запомнілася, ноччу ехалі абозы з людзьмі, крыкі, плакалі дзеці. Адчуванне нечага страшнага, невытлумачальна жахлівага. Ваенных дзеянняў ніякіх не было. На станцыі, яна была зусім недалёка ад вёскі, засталіся два пакінутыя таварныя эшалоны з прадуктамі харчавання, адзеннем. Тыя, хто пакідаў эшалоны, перадалі насельніцтву, жыхарам суседніх вёсак, каб яны разбіралі ўсё, нічога не пакідалі ворагу. Праз якія паўдня вагоны былі ачышчаны.

Праўда, калі прыйшлі немцы, было загадана ўсё вярнуць, здаць новым уладам. Хадзілі па хатах, шукалі, дзе што схавана. У гэты час немцаў, па сутнасці, не бачылі. Ва ўсякім разе я не помню. Пачала ўсталёўвацца новая ўлада. Людзі працавалі на сваёй зямлі. Глядзелі свае гаспадаркі. Плацілі падаткі. Помніцца, яны былі немалыя. Мужчын адразу не чапалі. Пазней, калі ва ўсходніх раёнах з’явіліся партызанскія атрады, пачаліся «чыгуначныя войны», мужчын пачалі па начах пасылаць сцерагчы чыгунку. Ніякіх здарэнняў асаблівых у памяці не захавалася. Праўда, была адна гісторыя ў нашай сям’і. Вяртаецца аднойчы раніцай бацька з таго дзяжурства і не пазнаць яго. Ледзь ідзе, твар увесь у сіняках. Аказваецца, ён заснуў. І якраз натрапілі немцы-абходчыкі. Даўгавата давялося залечваць тыя раны.

Адкрылі школу. Пачалі вучыцца. Запомніўся настаўнік, асабліва яго беларуская мова — выразная, сакавітая. Справа ў тым,

што мова, хутчэй гаворка, у нашых мясцінах была своеасаблівая, бліжэй, відаць, да ўкраінскай. Да прыкладу: батько, маты, ходыты, робыты, што ты гаворыш? Побач, дэ тыя овэчкі… Так і ва ўсіх суседніх вёсках. Насельніцтва ў асноўным было праваслаўнае. У нашай вёсцы, дзе было не менш сотні хат, быў толькі адзін паляк, каталік.

Але вернемся да школы. Займацца там доўга не прыйшлося. З'явілася кароста. Школу закрылі. Ды так і потым не адкрылі. Зразумела, у сям'і, дома было што рабіць. У вольныя хвіліны, асеннімі ці то зімнімі вечарамі, дзеці пачалі іграць у карты. Гэта было як насланнё нейкае. Сварыліся, часамі і біліся. Са мною ў гэтай сувязі здарылася адна гісторыя, якая добра запомнілася. Неяк у суседзяў я, нікому нічога не кажучы, ціхенька ўзяў калоду картаў, па-простаму ўкраў, і прынёс дадому. Відаць, пахваліўся, бо бацька моцна палаяў мяне і загадаў адразу несці назад і аддаць. Зараз не помню, што там і як было далей. Але гэта быў урок, можна сказаць, на ўсё наступнае жыццё.

Была ў гэтыя гады і светлая шчаслівая часіна, якая, не дай Бог, скончылася трагічна. З'явіўся ў нас брацік. Роды адбываліся дома. Прымала іх, здаецца, суседняя бабуля Банадычыха. Мы сядзелі ў суседнім пакоі ціха, у якімсьці баязлівым чаканні. Усё ўяўлялася нейкім таямнічым. Крык дзіцяці абудзіў нас ад здранцвення. У далейшым клопаты вакол дзіцяці неяк адводзілі ад усяго, што рабілася навокал. Я вельмі любіў брацікa, увесь час, калі той ужо падрос трохі, няньчыўся з ім. Ён таксама палюбіў мяне, ахвотна са мною гуляў. І як жа гэта было нечакана і балюча, калі Пеця (так звалі брацікa) раптам захварэў (запаленне лёгкіх) і праз вельмі хуткі час памёр. Было яму дзесьці два гадочкі. Было вельмі шкада, крыўдна і балюча. Я доўга з маці хадзіў потым на могілкі. Сумаваў, гараваў.

Гэтая сямейная гісторыя, наколькі светлая, настолькі змрочна-трагічная, дзесьці трохі адхіліла нас ад падзей агульных, звязаных з вайною.

Па-сапраўднаму вайна дала сябе адчуць пры адступленні немцаў. Спачатку ўсё было досыць спакойна. Немцы адступалі без усякага супраціўлення. Салдацкая газета пісала, што савецкі салдат дайшоў да Буга (былая мяжа з фашысцкай Германіяй), напіўся вады з яго і сказаў: «Здравствуй, родной Буг». Раптам прарваліся нямецкія танкі, захапілі вёску. Стаялі каля гумнаў, хлявоў. Часта некуды выязджалі. Пачалі лётаць савецкія

самалёты, бамбіць, страляць. Мы ўцяклі на станцыю, хаваліся ў мураваным склепе. Там нас было нямала. Потым перабраліся ў акопы да сваякоў маці. Акопы былі спецыяльна выкапаны для схаваў. Больш тыдня захоўвалася такая сітуацыя: гарматныя стрэлы, налёты самалётаў. Асабліва страшныя, жахлівыя былі бамбёжкі. Гук самалёта, які пікіраваў, заганяў проста ў зямлю. Ды чалавек неяк прывык да ўсяго. Мы ўжо пачалі вызначаць па гуку снарада, які ляцеў, дзе ён мог упасці: свішча — паляціць далей, як бы шуршыць — можа разарвацца блізка. Імгненна хаваліся. Зноў жа танкі неяк раптоўна адышлі.

Мы вярнуліся ў вёску, дамоў. Хата, хлеў, гумно ці як мы называлі клуня, засталіся цэлыя. Але ўсюды бачны былі сляды куль, снарадаў. Пад нашай вярбою стаяла разбітая машына, далей — яшчэ адна. То тут, то там валяліся раскіданыя снарады, міны. Пазней не аднаго яны пакінулі калекам. Адчуванне было, што ўсё неяк як бы пасвятлела, стала лягчэй дыхаць. Збожжа пераспела, жыта палегла. Уразіла маё дзіцячае ўяўленне знойдзеная ў жыце адарваная кісць рукі. Доўга гэтае месца хацелася абыходзіць. У нас быў прыгожы малады конь. Яго забралі савецкія салдаты, пакінулі старую нямоглую кабылку. З ёю трэба было ўбіраць збожжа, рабіць усе асеннія работы. Але ўсё гэта ішло як звычайнае, мала заўважалася.

Нешта нязвычнае, новае пачалося позняй восенню ці то ўжо зімою. Прыехала аднойчы начальства, напэўна, з Бельска. Ехалі верхам на конях. Адзін быў невялікі ў скураной тужурцы. Як даведаўся ў тыя ж дні, гэта быў партызанскі камісар Зімянін, пазней вядомы партыйны дзеяч рэспубліканскага і саюзнага маштабу. Сабралі вялікі сход. Зімянін выступіў з палкай прамовай. Сказаў, што гэтыя землі зноў вяртаюцца Польшчы ў адпаведнасці з міжнароднымі пагадненнямі. Заклікаў беларусаў ехаць у СССР. Расхваліў, якое там будзе выдатнае жыццё, зямлі хопіць, паноў не будзе. Узбудзіўся народ. Спрэчкі, абмеркаванні, роздумы. Бацька ўзгарэўся ехаць, сыны ўсе таксама каб ехаць. Новы свет, падарожжа. Маці — супраць: свая хата добрая, гаспадарка людская. Толькі што пахавалі дзіця. Чаго там шукаць. Але бацька быў адданы прыхільнік савецкага ладу жыцця. Як жа не ехаць. Не дапамаглі слёзы маці, яе ўгаворы, просьбы. І зразумела ж, дзеці. Яны ўсе за тое, каб ехаць. Пачалі рыхтавацца. Тым больш, што агітатары не забывалі свае абавязкі. З намі збіраліся ехаць, у адзін і той жа час, пяць ці шэсць сем’яў.

Прычым, яны не бедныя. Чаму паехалі? Відаць, у кожнага былі нейкія свае матывы і прычыны.

Вось адзін з недалёкіх суседзяў. Дбайны гаспадар. Меў сваю дагледжаную сажалку, дзе рыба плавала. Усё ў яго было акуратнае, выверанае; панаваў ну проста ідэальны для нашых мясцін парадак. У час першай сусветнай вайны ён трапіў у палон і нейкі час прабыў у Нямеччыне. І пры любой нагодзе хваліў нямецкі лад і парадак. «Не тое, што тая кабылка», — гэта ў адрас усходняга суседа. Прыйшлі немцы. За нейкую правіну ён трапіў да іх у рукі, пратрымалі яго некалькі дзён. Пасля гэтага чалавек зусім змяніўся. І як толькі прапанавалі, ужо пасля вайны, ён адным з першых запісаўся ехаць.

Пачалі рыхтавацца. Пачаліся зборы. З сабою можна было браць (і бралі) усё: коней, каровы, авечкі… Адзенне, абутак, сталы, крэслы, шкафчыкі… Па сутнасці, забіралі ўсю сваю гаспадарку — плугі, бароны, вазы, сані, косы, граблі, цапы малаціць, прасніцы… Помніцца, занялі два вагоны ў таварным цягніку. У адным — жывёла і корм для яе. У другім — сям’я, ежа, адзенне, абутак, усе гаспадарчыя прыналежнасці. У гэтым жа вагоне была печка жалезная: ехалі ранняй вясною, холад яшчэ даваў знаць пра сябе.

Развітанне, ад’езд — нічога з гэтага не помніцца. З дарогі нейкія моманты захаваліся ў памяці. Дарога была далёкая: ехалі ў Сумскую вобласць. Так вырашылі калектыўна: зямля там добрая. Паехалі. Па дарозе ўсюды было спалена, разбурана. Рэдка дзе захаваліся будынкі на станцыях або цэлыя вёскі. Уразіў страшэнна выпадак на станцыі Бярдзічаў. Звычайна стаялі доўга. Дзеці, ды і дарослыя выбягалі з вагонаў па сваіх патрэбах. Ніякіх туалетаў ці чагосьці падобнага ў вагонах не было. Дык воь выскачыў я з вагона. Бачу побач акопны роў: ніхто іх пакуль не засыпаў. Ускочыў я туды — і жахнуўся. Чалавечы труп — лахманы адзення, косці рук і ног, чэрап. Выскачыў я адтуль як ашпараны. Забыўся нават, чаго заскочыў у той акоп. Прайшло ўжо амаль семдзесят гадоў, а ўсё гэта бачыцца выразна і страшна.

Як гэта ні дзіўна, але помніцца яшчэ адзін момант з той доўгай і доўгай дарогі. Звычайна бацька ехаў у тым вагоне, дзе была жывёла. Аднойчы я туды напрасіўся. Прыйшоў нехта з суседняга вагона. Дарога доўгая, ехаць сумна. І вось на адной станцыі яны вымянялі на нешта бутэльку самагонкі з буракоў. Напэўна, і я папрасіў паспытаць. Налілі крыху. Я глытнуў і мяне

тут жа ледзь не званітавала. Такой гадасці ва ўсе наступныя гады я не глытнуў ні разу. Хаця, шчыра скажу, гэта ад чаркі не адвадзіла. Доўгія гады даводзілася час ад часу браць яе. Часам і лішнюю, значна больш. І сёння, калі нешта з таго ўспомніш, бывае вельмі сорамна. Але што зробіш: былое не вернеш.

Вернемся да нашага так бы мовіць падарожжа. Прыехалі ў Сумскую вобласць. Не помню, у сам горад Сумы ці то ў раён які. Голае поле, нідзе ні дрэўца. Як усхадзіліся жанчыны, за імі — мужчыны. Тут не застанемся. Некалькі дзён мітынгавалі. Упаўнаважаны, які суправаджаў цягнік, угаворваў, пагражаў. Нічога не дзейнічала. Тут не будзем заставацца. Вязіце нас у Беларусь. Нехта ўзгадаў, што ў свой час ён быў у мястэчку Шацілкі (сённяшні Светлагорск) Магілёўскай вобласці, і там добрыя мясціны. Павезлі нас туды. Праўда, адна ці дзве сям'і засталіся ў Сумскай вобласці. Прыехалі ў Шацілкі: жах. Усё разбурана. Ніводнага цэлага будынка не было. Недалёка падбіты самалёт ляжаў. Надвор'е даждлівае. Змрочна. Мясцовых людзей і відаць не было. І зноў жанчыны залямантавалі, заплакалі. Мужчыны таксама заўпарціліся. Упаўнаважаны пачаў пагражаць. Не помню ўжо, колькі часу цягнуліся гэтыя спрэчкі. Урэшце вырашылі ехаць у Баранавіцкую вобласць. Маўляў, там, калі што, дык і пешшу можна будзе пайсці дадому.

Прыехалі на станцыю Гарадзея. Тут паведамілі, што ўсіх расселяць у Мірскім раёне. Так амаль усіх і рассялілі па розных вёсках. Нашу сям'ю прывезлі ў невяліую вёсачку, былы шляхецкі засценак, Бербашы. Асобнай хаты свабоднай не было. Яны былі ўсе заняты пагарэльцамі з вёсак суседніх, партызанскіх. Трэба сказаць, што засценак быў раней увесь польска-каталіцкі. Многія да таго часу выехалі ў Польшчу, некаторыя пазней. Засталося дзве ці тры сям'і. Пасялілі нас у старой, крытай саломаю хаце. Хата была на два канцы. У адным жылі двое ўжо старых Бербашаў, гаспадароў, у другім пасяліліся мы. Можна ўявіць, як гэта было, пакінуўшы новую хату ў некалькі пакояў. Абяцалі, калі хто выедзе, даць другую хату. Але абяцанка — цацанка… Так у гэтай хаце мы і жылі ўвесь час. Праўда, праз некалькі гадоў гаспадары выехалі ў Польшчу. Нам дастаўся і другі канец хаты.

Пачалося, па сутнасці, новае жыццё на новым месцы. У параўнанні з тым, як мы жылі ў Польшчы, гэта было вельмі і вельмі дрэнна. Уявіце сабе: шэсць чалавек у адным пакоі. На сядзібе ўсё чужое. Хлеў і гумно ў суседняй гаспадарцы. Страшна

падумаць, як было нам, асабліва бацькам, а найперш ціхай нешматслоўнай маці, ва ўсё гэта ўжывацца. Але той шлях, які мы праехалі, пакуль прыехалі ў гэтыя Бербашы, паказаў нам, нашым бацькам, такое, што страшней, здаецца, і прыдумаць нельга. Разбураныя, спаленыя вёскі, ніводнай цэлай станцыі, падбітыя танкі, машыны, пустыя палі. Вакол толькі нямоглыя старыя, жанчыны, дзеці… Але нікуды не дзенешся.

У суседняй вёсцы Прылукі (там быў сельскі савет) таксама пасялілася дзве сям'і. Спачатку кожныя святы сустракаліся — то яны да нас у госці прыходзілі, то мы да іх. Гэта давала нейкае адчуванне нармальнага жыцця, душэўнага супакаення. Гэтак пакуль ужываліся ў новыя абставіны, прывыкалі да новых умоў. Але ў хуткім часе адна сям'я нашых землякоў з суседніх Прылукаў выехала дзесьці ў Рыгу, другая, таксама, як і мы, Андраюкі, выехалі ў Альберцін (каля Слоніма). Засталіся мы адны. Але за гэты час мы ўжо неяк прызвычаіліся да новага жыцця. Пазней крыху прыехала яшчэ дзве сям'і з Польшчы ў нашы (ужо нашы) Бербашы. Пачалося звычайнае вясковае жыццё. Але яно заўсёды так бывае: не знаеш, адкуль чакаць бяды і калі яна прыходзіць.

Тады, у пасляваенныя гады, помніцца, летам былі частыя і страшныя навальніцы, з моцнымі грымотамі, маланкамі, ліўнямі. Аднойчы дзесьці ў абед усчалася такая навальніца. Праўда, былі мы ўсе ў хаце. Не было толькі самага меншага брата Колі, ён пасвіў каровы. Маці была ў страшнай трывозе, месца сабе не знаходзіла ў хаце. Бацька стараўся супакоіць. Дарэмна. Яшчэ не сціх дождж, як у двор зайшлі каровы. Але пастушка не было. Маці, не дачакаўшыся, пакуль канчаткова сціхне дождж, выскачыла з хаты і пабегла за вёску. Мы таксама выскачылі на вуліцу. Зусім скора пачуўся страшэнны плач, маленне. Мы ўсе кінуліся туды. Убачылі — на дарозе ляжаў наш хлопчык нерухомы. Забіты маланкай. Чаму? Ад чаго? Для ўсіх нас было вялікае гора, асабліва для маці. Яно яе страшна падкасіла. Жыццё на доўгі час страціла для яе свой сэнс і хоць якую радасць.

Выбіты быў з каляіны і я. У гэты час ужо вучыўся ў школе ў Міры. Да гэтага ж адзін год вучыўся ў пачатковай школе ў нашай вёсцы. Вучняў было мала. Вучыліся па два класы: 1 і 3, 2 і 4. Было два настаўнікі. У тыя галодныя, цяжкія гады пытанне ўкамплектаванасці класаў і школ не ўзнікала. Трэба было вучыць. У 3 класе, у які я прыйшоў, нас было тры вучні. Прайшло паўгода: дваіх перавялі ў 2 клас, мяне — у 4. Пасля заканчэння здаў

экзамен і ў пяты клас пайшоў у Мірскую сярэднюю школу. Школа была драўляная, размяшчалася на ўсход ад замкавых валоў. Вучыліся ў дзве змены. У школу хадзілі пешшу — кіламетраў было дзесьці 7. Хадзілі ў любое надвор'е. Зімой выходзілі яшчэ цёмна. Часта даводзілася ісці аднаму. Па дарозе былі відаць збоку толькі дзве хутарскія сядзібы. Аднаму было страшна. Але што зробіш: трэба было вучыцца. Па лясах яшчэ бадзяліся бандыты, было шмат ваўкоў. Ды, дзякуй Богу, нічога гэтага мне не давялося спаткаць. Вучыўся ахвотна. Асабліва падабалася руская літаратура. Настаўніца была ў нас выдатная (яна ж і дырэктар школы) — Марыя Паўлаўна Багамазава. Пазней ёй было нададзена ганаровае званне Заслужаная настаўніца БССР, узнагароджана ордэнам Леніна.. Яна была спакойная, вытрыманая, голасу не павышала. Расказвала цікава, даходліва, з унутраным хваляваннем. Слухалі яе ўважліва, стараліся добра рыхтаваць урокі. Заахвочвала чытанне. Помню, з якім хваляваннем чытаў я том са Збору твораў А. С. Пушкіна (яго паэмы), які настаўніца дала чытаць мне. Чытанне гэтай кнігі было сапраўдным святам. Яна яшчэ больш заахвоціла маё імкненне да чытання. Якраз у гэтыя гады з'явілася ў мяне нейкая сапраўдная прага да чытання. Кніг было мала і ў школьнай, і ў раённай бібліятэцы. Перачытаў я іх шмат. Вучоба з цягам часу стала справай звычайнай, штодзённай. Поспехі былі нядрэнныя — адзнакі ў асноўным 4 і 5. Усё больш пачынаў як бы прывыкаць да навакольнага свету, увaходзіць у гэты свет, пазнаваць яго. Часта перабіраліся праз вал, заходзілі ў замак. Ён быў увесь разбураны. Даху на вежах не было, вакон таксама. Знайшлі там прыстанішча 2 ці 3 сям'і, у каго згарэлі хаты. Лесвіц не было: высока падняцца нельга было. Расказвалі, што ў вайну ў замку немцы трымалі яўрэяў — было гета. Недалёка ад школы на ўсход, ля самай дарогі (гасцінца) на Стоўбцы знаходзілася вялікая магіла, дзе былі пахаваны расстраляныя фашыстамі яўрэі. З даўніх часоў Мір быў вядомы як адзін з культурных і рэлігійных цэнтраў яўрэяў у гэтым рэгіёне. У гістарычных даведніках паведамляецца, што, напрыклад, у 1886 г. тут было 7 сінагог. Зноў жа гістарычныя даведнікі паведамляюць, што пад канец XVIII — пачатак XIX стагоддзяў у Міры было 76 крамаў. А крамы былі ў асноўным у руках яўрэяў. Была свая школа. Былі ў горадзе могілкі праваслаўныя, каталіцкія, яўрэйскія і татарскія. У тыя гады па плошчы, здавалася, яны былі дзесьці аднолькавых памераў. Этнічна, рэлігійна, напэўна, шмат у чым і

побытава жылі вернікі па-рознаму, захоўваючы свае традыцыі і законы. Найбольш адносілася гэта да яўрэяў і татараў. Зноў жа ў ранейшыя гады была тут і мячэць. У той час, калі я вучыўся ў Міры, а гэта былі 1946—1952 гады, працавала Троіцкая царква, якая была заснавана яшчэ ў XVI стагоддзі. Мікалаеўскі касцёл, пабудаваны таксама ў XVI стагоддзі, быў напаўразбураны і прыстасаваны да нейкіх гаспадарчых патрэб. Недалёка ад замка ў парку знаходзілася высокая капліца — пахавальня князёў Святаполк-Мірскіх, пабудаваная недзе ў 1911 годзе. Яна ўражвала выдатным, вялікім вобразам Ісуса Хрыста. Здзіўляў парк. Здаецца, жылі мы ў лесе, розныя дрэвы бачылі. Але тут сустракаліся зусім нам не вядомыя. Усё гэта — і замак, і царква, і касцёл, і капліца, і пейзажны парк — узбуджала наша ўяўленне, абуджала фантазію, выклікала якуюсьці ўнутранную трывогу. Штурхала да роздуму. Яны не пакідалі абыякавым.

Як ужо зазначалася, калі згадваліся клады, Мір быў населены людзьмі рознай этнічнай і рэлігійнай прыналежнасці. Акрамя беларусаў было шмат яўрэяў, палякаў, татар, рускіх. Але што характэрна: нацыянальныя ці то рэлігійныя адметнасці ў школе зусім не адчуваліся. Ды ў той час пра якіясьці рэлігійныя прыхільнасці асабліва ніхто не выказваўся. Мы, як прыехалі ў Бербашы, нейкі час хадзілі ў царкву ў Мір — бацька зноў спяваў у царкоўным хоры, маці ў святочныя дні абавязкова наведвала царкоўную службу. Мы, дзеці, хадзілі на ўсяночную. Аднойчы на Вялікдзень у царкве людзей было шмат, мяне так заціснулі, што я аж заплакаў. Дзесьці пасля гэтага больш і не стаў хадзіць. Тым больш, што пачаліся піянеры, камсамол. Усе сталі атэістамі…

У вёсцы ішло сваё жыццё. І, відаць, больш чым дзе адчувалася грубая, бесцырымонная атэізацыя. Асабліва духоўнага, маральнага ўзроўню. Атмасфера ў грамадстве стала як бы разрэджанай, з нейкімі праваламі. У чалавека парушылася ў значнай ступені ва ўзаемаадносінах з іншымі «тармазная сістэма». «Барані Бог!», «Памілуй, Божа!», «Не баішся ты Бога», «Не гняві Бога», «З Богам», «Не грашы», «Бог усё бачыць». У жыцці чалавека, у сям'і, у грамадстве то былі моцныя абярэгі. Яны стрымлівалі ад маральнага падзення, ад уседазволенасці, дапамагалі годна трымацца ў свеце. Здарылася, што чалавеку як бы перасталі напамінаць, як яму паводзіць сябе ў свеце, у грамадзе, з іншымі людзьмі. Такія з'явы, як зладзейства, хамства, распуста, непавага да старэйшых, хлусня, грубасць, не сустракалі

асаблівых перашкод, адчувалі пэўную вольніцу.

Вёска, у якой мы пасяліліся, была неаднародная. Карэнных жыхароў у канцы 40-х, было ўсяго мо дзесяць сем'яў. І тыя ў большасці жылі на хутарах. Асноўнымі насельнікамі былі партызанскія сем'і, чые сядзібы былі спалены ў час нямецкай акупацыі. Жылі ў пустых хатах жанчыны з Расіі: яны прыехалі на заробкі. Працавалі і ў Бербашах, і ў суседніх вёсках. У нашай сям'і было зямлі, відаць, не менш, чым у Польшчы, дзесьці таксама каля 15 гектараў. Але зямля была горшая, менш урадлівая, параскіданая ў розных месцах. Працаваць даводзілася шмат і ўсім. Засталося адчуванне, што працавалася неяк нудна. Не было таго ўнутранага задавальнення, той радасці, што раней. Жылося напачатку ў плане матэрыяльным быццам і нядрэнна: на два гады нас вызвалілі ад усялякіх падаткаў. Як ужо адзначалася, бацька быў трохі пісьменны. Нейкі час быў як бы старастам у вёсцы. З раёна нярэдка прыязджала начальства. Запомніліся падпіскі на пазыку дзяржаве. Дзяржава ўзамен давала аблігацыі. Лічылася, што ўсё гэта робіцца добраахвотна. На самай справе зараней вызначалі, каму колькі трэба аддаць, прапаноўвалі і патрабавалі. Спачатку мясцовае насельніцтва, потым раённае: пакуль чалавек не аддасць належную суму грошай.

Запомніўся выпадак. Адзін карэнны жыхар вёскі, хутаранец, ніяк не хацеў плаціць выдзеленую яму суму, падпісацца на яе. І вось аднойчы прыязджае з раёна начальнік КДБ. Запрашаюць хутаранца. Усё гэта адбывалася ў нашай хаце. Угаворвалі яго, пагражалі, трымалі дзесьці да гадзін дзвюх ночы. Мне, малому, шкада было глядзець на ўсё гэта, слухаць. І не адпусцілі, пакуль чалавек не падпісаўся. То была добраахвотная падпіска на пазыку.

Не прайшло пасля вайны некалькі гадоў, як паўсюль пачалася арганізацыя калгасаў. У нашай вёсцы ў 1948 годзе, дзесьці пад восень, быў створаны першы ў наваколлі калгас імя Ракасоўскага. Працавалі ўсёй сям'ёй, працавалі дружна, зладжана. Я ўжо хадзіў касіць, жаць, грабці сена, у копы складаць. Паступова калгасы пачалі ўсё больш аб'ядноўвацца. Парушылася зладжанасць у працы, у жыцці наогул. Усё больш пагаршаліся адносіны да зямлі, да вынікаў працы; ат, гэта не маё — калгаснае. Працаваць пачалі ўсё горш. Касіць ездзілі за Нёман: там былі галоўныя калгасныя сенажаці. Дык вось раней туды ездзілі з начлегам. Касіць пачыналі з усходам сонца — з расою. Днём адпачывалі. Сонца схілялася на захад — зноў касіць. Было ў такой працы нейкае

ўнутранае задавальненне. Хаця стамляліся добра-такі. Ды побач быў Нёман: акунешся колькі разоў — і стома знялася. Усё гэта было ў вольны час ад школы — пераважна на летнія канікулы.

Галоўнае ж было — вучоба. Вучыўся я нядрэнна, і бацькі асабліва не прымушалі працаваць: вучыся, сынок. Спачатку вучыўся ў драўлянай школе каля замка. Гэта была беларуская школа. Суседства замка, капліцы, парка, возера падсвядома неяк стваралі адчуванне невядомай даўніны, таямнічасці.

Праз некалькі гадоў, як я пачаў вучыцца ў Міры, там была пабудавана яшчэ адна сярэдняя школа. Ужо руская, цагляная, у цэнтры горада. Мяне чамусьці перавялі ў тую школу, не пытаючыся згоды. Клас (вучні) быў новы, настаўнікі таксама. Як помніцца, вучыцца ў асноўным давялося на другую змену. Дарога ў школу і са школы была іншая, больш людная. Дзесьці пасярэдзіне шляху збоку была вёска, на рацэ Міранцы знаходзіўся вадзяны млын, які, бывала, і працаваў тады-сяды. Праўда, лесу тут было больш. І лес быў большы, гусцейшы. У асеннія дажджлівыя вечары па лясной дарожцы ледзь прабіраўся: цемра страшэнная. Ні над галавою, ні наперадзе ніякага прасвету. Нагамі адчуваеш сцежку, выцягнутай правай рукою засцерагаешся ад галін. Унутраная напружанасць, здаецца, дасягае вышэйшай ступені. Цемра нібы ўваходзіць у цябе.

І вось пазней, праз гады, дзесяцігоддзі, чытаючы і перачытваючы творы пісьменнікаў свайго пакалення, а таксама іх папярэднікаў, асабліва творы празаічныя, бачыш, яшчэ раз упэўніваешся, што не маглі яны не ствараць такіх яркіх, такіх выразных карцін прыроды. Прырода з дзяцінства ўвайшла ў іх, стала іх сутнасцю — псіхічнай, духоўнай. Іх жыццё, іх паводзіны, учынкі шмат у чым прадыктаваны былі навакольным светам прыроды. Іх характары, іх светапогляд народжаны былі прыродай родных з дзяцінства мясцін. Яны частка гэтай прыроды, арганічная частка.

У гэтым сэнсе, мне ўяўляецца, што беларуская мова ў сваім гучанні, у сваёй танальнасці, мелодыцы магла быць народжана беларускай зямлёй, беларускай прыродай — азёрна-лясной, балотнай, поўнай вільгаці, сакавітасці. Таму я на ўсе сто працэнтаў упэўнены, што літаратура любога народа, яе сутнасць, яе мастацкае аблічча найперш, галоўным чынам вызначаюцца мовай. Беларуская літаратура — беларускай мовай. Гэта — пры натуральным, арганічным яе нараджэнні і развіцці.

Вернемся ў школу. Пераход у яе нічым не адбіўся. Не было ніякіх асаблівых цяжкасцей і складанасцей. Пачалася звычайная вучоба. Быў я ў ліку добрых вучняў — па паспяховасці, ды і па паводзінах. Запомнілася дзесьці толькі адно парушэнне дысцыпліны. На перапынку курылі на вуліцы ў туалеце. Раптам з'явіўся класны кіраўнік нашага класа. Я не паспеў кінуць папіросу. І ён павёў мяне ў настаўніцкую. Але нічога — паўшчувалі, пасаромелі. Абышлося.

У гэтай школе, як і ў ранейшай беларускай, любімым прадметам у мяне зноў жа была руская літаратура. І тут выдатная была настаўніца — Антаніна Васільеўна Лапіцкая. Невысокага росту. Акуратная, сабраная. Здаецца, яна ніколі не павышала голасу, але дысцыпліна была выдатная. Яе слухалі. Яна расказвала стрымана, але пранікнёна, нешматслоўна, але прыгожа і па сутнасці. Мне падабалася настаўніца і яе ўрокі. Стараўся вучыцца добра. Тут я захапіўся кнігай яшчэ больш, чым раней. Чытаў шмат. Свет кнігі для мяне быў галоўны, самы важны. Асабліва кнігі прыгодніцкай, фантастычнай. Увесь быў паглынуты кнігай. Узрост быў не такі ўжо і дзіцячы. А дзіцячая кніга «праглыналася» з нейкай асаблівай цікавасцю. Помніцца і сёння «Рыжык» А. Свірскага, «Палес-кія рабінзоны», «Амок» Янкі Маўра, «Цімур і яго каманда», «Лёс барабаншчыка» А. Гайдара, «Прыгоды Тома Сойера» і «Прыгоды Гелькберы Фіна» Марка Твэна, «Коннік без галавы» Майн Рыда, «Шпіён» Ф. Купера, «Таямнічы востраў», «Дзеці капітана Гранта», «Пятнаццацігадовы капітан» Жуля Верна, «Рабінзон Круза» Д. Дэфо, «Падарожжа Гулівера» Д. Свіфта, «Чалавек-амфібія» А. Бяляева... Якраз гэтыя кнігі абуджалі фантазію, клікалі ў далёкія моры-акіяны. Доўгія гады жыла ўва мне мара (вядома ж, нікому не вядомая) стаць мараком. І якое ж было расчараванне, калі пры медыцынскім аглядзе ў ваенкамаце выявілі нейкія непарадкі ў сэрцы. Супакойвалі кнігі, вучоба, праца.

Праграмная літаратура і руская, і беларуская таксама чыталася. З сур'ёзнай — не дэтэктываў і не фантастыкі — літаратуры ўзрушылі тады, пакінулі след у сэрцы і ў памяці паэмы і аповесць «Капітанская дачка» А. С. Пушкіна, паэмы і раман «Герой нашага часу» М. Ю. Лермантава, рамантычныя аповесці М. В. Гогаля, «Анна Карэніна» і «Хаджы Мурат» Л. М. Талстога, «Абрыў» І. А. Ганчарова, з савецкай — аповесці «Дзяцінства», «У людзях», «Мае ўніверсітэты» і апавяданні М. Горкага, раманы «Маладая

гвардыя» А. Фадзеева і «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага. У іх была страсць, прага жыцця, напорыстасць. Пашчасціла, ужо не помню, як гэта здарылася, у 9-м класе прачытаць «Ціхі Дон» М. Шолахава. Агромністы аднатомнік. Чытаў, што называецца, не адрываючыся. Доўгі час знаходзіўся пад уражаннем прачытанага. Адчуваўся незвычайны агромністы свет, выключна жывы, прыгожы і трагічны. Магу шчыра сказаць, што для мяне і сёння гэта адзін з самых лепшых твораў сусветнай літаратуры. У ім шмат сонечнасці, адчуванне бясконцасці жыцця. Ва ўсе пазнейшыя гады я баяўся чытаць яшчэ раз гэты твор. Баяўся згубіць для мяне, можа, самы дарагі літаратурны ўспамін, расчаравацца ў магутнасці мастацкага слова.

Мяне здзіўляюць спробы некаторых «знаўцаў» савецкай літаратуры, якія зноў і зноў спрабуюць даказаць, што раман гэты не Шолахаў напісаў. Што дзіўна, што ў якасці аргументаў вылучаюцца пэўныя моманты, звязаныя са зместам, жыццёвым матэрыялам. А зусім нічога не гаворыцца пра арганічнасць, натуральнасць, цэласнасць раманнага свету, пра яго духоўную, эмацыянальную напоўненасць, пра само слова, яго гучанне, мелодыку. Урэшце нічога не гаворыцца як гэты твор суадносіцца з усёй творчасцю пісьменніка ў плане арганічнасці, падобнасці, можа, дзесьці і адзінства, мастацкага свету, адзінства стылю. Адказ больш чым відавочны. Твор напісаны адным чалавекам, адной рукой.

Кнігі, творы беларускіх пісьменнікаў у тыя гады ў маім пазашкольным і школьным чытанні ў параўнанні з кнігамі, творамі рускай ці то замежнай літаратуры займалі меншае месца. Ды іх і ў бібліятэках было няшмат. І ўсё ж «Курган», «Бандароўна», «Паўлінка» Янкі Купалы, «Новая зямля», «Сымон-музыка», «У палескай глушы», «У глыбі Палесся» Якуба Коласа, «Трэцяе пакаленне» Кузьмы Чорнага, «Салавей» Змітрака Бядулі, «Міколка-паравоз», апавяданні Міхася Лынькова дзесьці аказаліся больш блізкія розуму і сэрцу. Яны як бы вярталі ў таямнічае, невядомае мінулае, дзесьці адкрывалі прыгажосць роднага краю і нашай прыроды, паказвалі праўдзіва і паэтычна жыццё, якім ты сам жыў, жылі вакол цябе людзі. Яны хвалявалі душу. Узбагачалі цябе, прымушалі быць дабрэйшым і больш уважлівым да ўсяго свайго.

Дзесьці ў старэйшых класах пачаў купляць кнігі. Кнігарні тады ў Міры не было. Што-нішто часам з’яўлялася ў газетным

кіёску. Помніцца, што адной з першых кніг, набытых асабіста, былі «Апавяданні паляўнічага» І. С. Тургенева. Зрабіла нейкае светлае ўражанне. Там моцна адчувалася прыгажосць — жыцця, людзей, прыроды, мовы. Дзесьці тады набыў «Нёманскія казакі» Янкі Брыля. Там, у нарысах і апавяданнях, расказвалася пра тое, што адбывалася ў гэтых мясцінах. Мясціны, па сутнасці, усе былі на слыху. Прываблівала шчырасць аўтарава, сардэчнасць, душэўнасць інтанацыі. Напэўна, з тых канца 40-х — пачатку 50-х гадоў Янка Брыль стаў для мяне і як для чытача, і як літаратуразнаўцы любімым пісьменнікам.

Са школьнага жыцця добра запомніліся яшчэ вось якія падзеі. У старшых класах настаўнікам па біялогіі быў нехта Якаў Ізральевіч. Тыповы яўрэй — шчыры, даверлівы, дружны з вучнямі. Дык вось ён арганізаваў у школе драматычны гурток. Я ў ім прымаў самы актыўны ўдзел. Выступалі не толькі ў школе, але і ў раённым Доме культуры. Пастаноўкі былі рознага зместу — ваенныя, з калгаснага жыцця, камічныя. Давялося мне выконваць ролю Івана Нікіфаравіча ў спектаклі, калі можна так лічыць, па аповесці М. В. Гогаля "Аповесць пра тое, як пасварыліся Іван Іванавіч з Іванам Нікіфаравічам». Усплывае ў памяці, што адчуваў сябе я ў гэтай ролі даволі ўнутрана свабодна. Дзеці потым на вуліцы клікалі: «Іван Нікіфаравіч». Ад усяго гэтага застаўся прыемны для душы ўспамін.

Гэта быў нейкі адпачынак ад вучобы. А ўвогуле да вучобы мы адносіліся сур'ёзна. Помню, вельмі многія тады марылі вырвацца з калгаса. І гэта было мэтай вучобы. За сабой я такога не помню. Ды і ў сям'і не было такой мэты ў сувязі з маёй вучобай. Трэба было вучыцца — і вучыўся. Не будзем забываць на тое, што ў школе дзеці вайны былі, па сутнасці, перарасткі. Я, напрыклад, закончыў сярэднюю школу ў дзевятнаццаць гадоў. Гэтае пакаленне добра ведала рэальнае жыццё, ведала, што такое гора, бяда. Не баялася асаблівых цяжкасцей, ведала, як іх пераадольваць. І рабіла гэта, умела працаваць. Яно пазбягала сварак і боек, хаця ўмела браць чарку і брала. Разам з тым была ў ім нейкая нясмеласць, унутраная нейкая скаванасць, нерашучасць. Усё гэта, асабліва моманты апошнія, я адчуваў у сябе. Адчуваў ды і сёння, напэўна, адчуваю.

Вучыўся нядрэнна: і па, так бы мовіць, навуках гуманітарных, і па дакладных. Да душы найбліжэй была літаратура. Але чамусьці лічылася, што гэта навука не мужчынская. Запомнілася,

што на выпускным вечары выкладчыца рускай мовы і літаратуры, у якой я быў адным з лепшых вучняў, і тая раіла паступаць ці то ў політэхнічны інстытут, ці то на фізіка-матэматычны факультэт універсітэта. Бацькі тут мала што маглі парадзіць. Былі яны далёкія ад гэтага. Праўда, маці не раз гаварыла: вучыся за доктара. Але гэта было не маё.

Здаў выпускныя экзамены. Здаў нядрэнна. У атэстаце толькі дзве 4 — па беларускай мове і геаметрыі. Уручылі дыпломы — і авалодала нейкае дзіўнае адчуванне. Нібы апынуўся ў нейкай пустаце — не трэба нікуды рухацца. Ды і не ведаеш куды.

Але доўга не чакалі. Сабралася нас чалавек 4 і паехалі ў Мінск. Усе мы разышліся ў розных напрамках — у розныя ВНУ. Я пайшоў здаваць дакументы ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (тады) імя У. І. Леніна на філалагічны факультэт, аддзяленне рускай мовы і літаратуры. Так у заяве напісаў. Але сакратар прыёмнай камісіі пачаў угаворваць мяне, каб паступаў я на беларускае аддзяленне: маўляў, гэта вам бліжэй, конкурс меншы… І я заяву перапісаў. Набор на беларускае аддзялене ў той год быў самы малы — 25 чалавек. Да гэтага года, а быў гэта 1952 год, і пасля набіралі 50 чалавек і больш. Пачалася падрыхтоўка — настойлівая, упартая.

Прыехалі здаваць экзамены. Пасялілі мяне ў спартыўнай зале ў будынку хімкорпуса. Было там нас не менш 20 чалавек. Спалі на падлозе. Матрацы нейкія былі. Усе былі паглынуты экзаменамі. Здаваў нармальна, толькі па гісторыі трохі «паплаваў». Прымаў Л. С. Абэцэдарскі, выкладчык строгі аж занадта. Паставіў 4. Астатнія былі 5-і. Паступіў. Праўда, радаснага нейкага ўздыму не было. Была трывога, было чаканне: а як там пойдзе? Што чакае?

У такім чаканні прайшлі дні да першага верасня. Справы хатнія адышлі неяк на другі план. Бацькі хадзілі на працу, зараблялі працадні. Адчуванне было, што той хоць які энтузіязм у рабоце, які адчуваўся напачатку, знік. Паныласць нейкая як бы ахапіла ўсіх. Рабілі — інакш нельга. Былі і выдатныя працаўнікі. Але…

Хадзіў і я ў калгас на працу і ў часы школьных, і ў часы студэнцкіх канікул. Касіў, зграбаў сена, памагаў вазіць, тое ж і са збожжам. У пазнейшыя гады быў пастаянным грузчыкам зерня, якое здавалі дзяржаве. Ой, якая была гэта нялёгкая работа: мяшкі былі вялікія — пад 100 і больш кілаграмаў, ніякай механізацыі на складах не было. Мяшкі гэтыя трэба было цягаць на горы зерня па

збітых з дошак лесвіцах. Рукі адвальваліся, ногі дрыжэлі і падгіналіся. Але што зробіш? Трэба. Гэтае разуменне-адчуванне ўвайшло, здаецца, не толькі ў галаву. А ва ўвесь арганізм, у кроў. А вось калі згадваеш калгаснае жыццё, то што бачыцца. Сенакос калгасны быў, як зазначалася, за Нёманам. Раней у час касавіцы там будавалі шалашы, начавалі там. Яшчэ сонца не ўзыходзіла, пачыналі касіць. Касілі ў нейкім бадзёрым, жывым настроі. Прайшлі гады. Касцоў ужо на машыне возяць. Ніхто не начуе, ніхто не косіць з расою. Выязджаюць позна, па дарозе спыняюцца каля сельскай лаўкі. Купляюць што выпіць. Пачынаюць касіць дзесьці каля адзінаццатай гадзіны. Самая гарачыня. Ніякага імпэту. Абы хоць як зрабіць. А можа, я тады ўжо далёка адышоў ад калгаснага жыцця, і ўсё гэта так успрымалася і так помніцца.

Прыйшоў верасень — і я ўжо ў Мінску. Далі месца ў інтэрнаце, на Нямізе. У пакойчыку было нас пяць ці шэсць чалавек. Хлопцы былі ўсе свае — з нашага беларускага аддзялення. Пазней былі іншыя інтэрнаты — па вуліцы Свярдлова, на Бабруйскай. Усюды ў пакоі было чалавек 4—5. Асноўная наша група не мянялася з першага да пятага курса. Ніякіх канфліктных сітуацый не было. Усе хлопцы вясковыя, сціплыя, дзесьці закамплексаваныя. Без ніякіх там прэтэнзій. Жылі ўсе, па сутнасці, на стыпендыю. Трохі што прывозілі з дому. Нейкую капейчыну часам давалі бацькі: працавалі ж яны на працадні, а не на рублі. Снеданне — чай з батонам. Абед — студэнцкая сталоўка. Калі жылі на Нямізе, то бегалі ў сталоўку, якая знаходзілася насупраць нашага інтэрната праз вуліцу. Купілі невялікія каструлькі і ў абед бегалі туды — куплялі першае: боршч ці суп. Там ужо ведалі нас: давалі нам ужо большую порцыю — паўтара, а то і два чарпакі. Хлеб быў свой. Вось і ўвесь абед. Быў нейкі перыяд, што ўзяліся па чарзе на абед варыць супы, баршчы, капусту. Гэта была ідэя студэнта рускага аддзялення Пісарэнкі Івана, былога вайсковага старшыны. Стыпендыі ўвесь час не хапала. Пастаянна ў канцы месяца даводзілася пазычаць. А пазычаць не было асабліва ў каго. Бывала, на шчасце, не так часта, што перад стыпендыяй даводзілася абыходзіцца толькі чаем з хлебам за ўвесь дзень. Было нас некалькі такіх, што час ад часу пачалі чарку браць. А яе без грошай ніхто не даваў. Спрабавалі зарабляць: хадзілі некалькі разоў на таварную станцыю разгружаць вагоны, працавалі на халадзільніку. Але істотна гэта на грашовыя справы, скажу шчыра, не ўплывала.

А тут яшчэ кнігі. Я ўжо гаварыў, што яшчэ ў школе пачаў купляць кнігі. Але ў тым жа Міры не было асабліва дзе ды і асабліва што купляць. Зусім не тое ў Мінску. Тут і кнігарні, тут і кнігі. Божа мой, якое гэта было шчасце набыць жаданую кнігу! Узбуджала, хвалявала сама кніга. Яшчэ да яе чытання. Рукі трымцелі, калі браў яе, адкрываў першыя старонкі. Але колькі было перажыванняў, хваляванняў, пакуль удавалася дастаць гэтую кнігу. Гэта не тое, што цяпер, напачатку трэцяга тысячагоддзя, калі кніг поўна ўсюды і не надта хто іх бярэ. А то — гады 60-я, 70-я ды і 80-я часткова — быў час Кнігі. Кніга была знакам нейкай як бы выключнасці, далучанасці да ліку своеасаблівых асветнікаў, пазнакай культурнасці. За кнігай стаялі чэргі. Асабліва за падпіснымі выданнямі. Помню, была падпіска на шасцітомнік Майн Рыда. А прыгоды, рамантыка, фантастыка — гэта было маё любімае чытанне. Чаму? Растлумачыць не магу. Магчыма, тыя кнігі на нейкі час адрывалі ад аднастайнай шэрай штодзённасці. Магчыма, натура мая, увогуле пасіўная, замкнёная моцна ў сабе, знаходзіла ў гэтай, у такой кнізе хоць якое ўзбуджэнне, ажыўленне, якісьці выхад. Дык вось за падпіскай на Майн Рыда прастаяў на двары дома, дзе знаходзілася кнігарня «Падпісныя выданні», да поўначы. Але падпісаўся. Праўда, не ўсе змаглі падпісацца. Не менш складанымі ў тыя часы былі падпіскі на зборы твораў Ф. Шылера ў 7 тамах, Дж. Лондана ў 5 тамах (потым быў яшчэ дадатковы шосты). Не менш складана было даставаць (не купляць) і асобныя творы тых ці іншых пісьменнікаў.

Праўда, усё гэта (беганне за кнігамі, шуканне кніг) не надта перашкаджала асноўнай справе — вучобе. Можа, і зусім не перашкаджала. Бо ўсё гэта ішло па шляху спасціжэння вялікага свету літаратуры, унутранай далучанасці да яго. Якраз адсюль вырастала, унутрана ўмацоўвалася адчуванне, разуменне: літаратура — гэта маё.

Ужо зазначалася: група ў нас была 25 ці 26 чалавек. Закончылі 25. Але што цікава: з іх 8 хлопцаў. А спачатку было 9. У той час як на рускім аддзяленні з 50 чалавек мужчын было 4 ці 5. Група наша была працавітая, пераважна з вяскоўцаў. Працаваць прывыклі, нейкіх асаблівых амбіцый ці то прэтэнзій лішніх ні ў кога не было. Заняткі наведвалі, лекцыі пісалі. Стыпендыі, здаецца, усе і ўвесь час атрымлівалі. Куратарам у нас была дабрэйшай душы чалавек Вольга Васільеўна Казлова, дачка

славутага партызанскага камандзіра, Героя Савецкага Саюза, на той час Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Калі я на шмат гадоў пазней абараняў кандыдацкую дысертацыю, яна выступала другім апанентам. Былі цікавыя выкладчыкі. Запомніліся добра па беларускай літаратуры — М. Р. Ларчанка, Ю. С. Пшыркоў, пазней І. Я. Навуменка; па беларускай мове — М. І. Жыркевіч, М. А. Жыдовіч; уводзіны ў літаратуразнаўства і тэорыя літаратуры — І. В. Гутараў; замежная літаратура — Д. Е. Фактаровіч, Лапідус (імя і імя па бацьку забыў, а ў даведніках не знайшоў). Кожны з іх быў па-свойму адметны, арыгінальны і як выкладчык, і як чалавек. Напрыклад, калі выкладчыкі беларускай літаратуры ў сваёй знешнасці, паводзінах, у падачы матэрыялу, размове былі стопрацэнтнымі беларусамі, то замежнікі і ў чытанні лекцый, і ў тым, як трымаліся за кафедрай, у гутарках, здавалася, былі народжаны, створаны ў іншых умовах, іншымі ўмовамі. Мы іх лекцыі любілі: яны былі змястоўныя, напоўненыя фактамі, ідэямі, унутрана лагічнымі і завершанымі. Лекцыі ж беларусаў былі для нас больш сваімі, блізкімі нашаму жыццю, душэўнымі. Лекцыі Гутарава на першым курсе былі якіясьці вельмі раскаваныя, з вялікай доляй гумару, са значнай доляй гутарковасці. Паслухаць гэтыя лекцыі прыходзілі студэнты з іншых факультэтаў. Праўда, што ўжо на 5-м курсе пры чытанні тэорыі літаратуры такая манера падачы матэрыялу, па сутнасці, не ўспрымалася. Па-першае, сам матэрыял быў ужо больш грунтоўны, больш змястоўны, па-другое, студэнт ужо быў не той, веды не тыя, адносіны і да жыцця, і да літаратуры таксама ўжо былі не тыя.

Дзесьці ўжо на апошніх курсах (4—5) з’явіліся новыя, маладыя выкладчыкі літаратуры — Іван Якаўлевіч Навуменка і Алег Антонавіч Лойка. Мне асабіста больш давялося сутыкацца з Навуменкам. У нас ён вёў спецсемінар. А можа, спецкурс?.. Не помніцца ўжо. Адно магу сказаць упэўнена: мяне асабіста якраз гэты малады пісьменнік і вучоны найбольш навучыў разумець, адчуваць *мастацкую* літаратуру. У канцы навучання менавіта Наву менка быў кіраўніком маёй дыпломнай. Тэма: «Апавяданні Янкі Брыля». Абараніў, дарэчы, на выдатна. Больш за тое, кіраўнік даў пачытаць работу Брылю. Той, па словах Навуменкі, работу пахваліў. Праўда, мова работы яму не зусім спадабалася.

Ну, але гэта ўсё будзе значна пазней.

А адразу пачалося звычайнае студэнцкае жыццё: лекцыі, се-

мінары, залікі, экзамены. І гэтак круг за кругам. Пасля лекцый, заняткаў сядзелі ў асноўным у чытальных залах — профільных,



Серафім Андраюк, яго маці Ганна, дачка Святлана, жонка Тамара, дачка Алеся. Вёска Бербашы (з сямейнага архіва).

агульнай універсітэцкай. Шмат прадметаў было, так бы мовіць, непрофільных ці то мала профільных. Мяркуючы па назвах прадметаў: агульнае мовазнаўства, славянская мова, старажытнаруская мова, гісторыя беларускай мовы, дыялекталогія — тэарэтычная мовазнаўчая аснова давалася грунтоўная, шырокая. Аднак, улічваючы тое, што практычна ўсе выпускнікі ішлі працаваць у школы, вельмі мала з таго мела практычнае прымяненне. Веданне ж сучаснай мовы — і рускай, і беларускай (правапісу, арфаэпіі, арфаграфіі, сінтаксісу) — адчувальна не хапала. Многае даводзілася вучыць нанова. Але гэта зноў жа потым.

Уваходзіў у студэнцкае жыццё паступова. Па прыродзе сваёй і па-ранейшым жыцці неяк прывык да адзіноты. Адзінота дзесьці стала маёй натурай. Кніга — вось мой найбольшы сябра, была тады, з'яўляецца і цяпер. Сёння — гэта найперш кніга рэлігійнага зместу, рэлігійна-хрысціянскага характару. Каштоўнасць кнігі ўжо тады вызначалася найперш яе эмацыянальным уздзеяннем, адбіткам, які яна пакідала не так у памяці, як у сэрцы. Адбітак

гэты мог зыходзіць і ад сюжэту, канфлікту. А тая кніга, якую трэба было чытаць, паглынаць, толькі кніга праграмная, абавязковая, была такая неабдымная, такая разнастайная. Яна ўзбагачала, узбуйняла, уводзіла ў гісторыю, дзесьці нават у вялізны сусвет жыццё рэальнае, тое, чым жыў ты сёння, чым жылі людзі вакол цябе, чым было тваё жыццё мінулае.

Якім велічным, якім далучаным да жыцця вышэйшага, боскага, якім цэласным, завершаным у сваёй сутнасці, адшліфаваным часам боскай воляю выглядаў час, выяўляўся чалавек і свет у антычнай кнізе, антычнай літаратуры. Ён быў у сваёй сутнасці, у сваіх вызначальных рысах як бы высечаны з граніту, «изваянный», кажучы па-руску.

А кніга, літаратура часоў Адраджэння?! Яна захоплівала, проста агламошвала багаццем чалавечага жыцця, бязмежнасцю, неабмежаванасцю яго праяўленяў, яркасцю выяўленняў чалавечай натуры, яе самых глыбінных і інтымных праяўленняў.

XIX стагоддзе. Рэалізм. Літаратура імкнецца паказаць жыццё ва ўсіх яго праявах, чалавека ва ўсіх яго праяўленнях. Ставіць за мэту спасцігнуць законы грамадскія. Ідзе паглыбленне ва ўнутраны свет чалавека, у яго сацыяльную сутнасць. Прырода, навакольны свет шырока ўваходзяць у літаратуру, становіцца істотным, змястоўна-эстэтычным кампанентам. Усё гэта бачылася ў кнізе, уваходзіла з кнігай у нашу свядомасць і падсвядомасць. Пакідала больш ці менш значны след. Кожная практычна пакідала ў яе чытача, у нас, свой след. Спачатку былі гэта сляды кожны сам па сабе, кожны паасобку. Паступова, дзякуючы вывучэнню гісторыі развіцця літаратур розных народаў, гэтыя сляды кнігператварыліся ў дарожкі, потым у шляхі руху мастацкага слова — як слова боскай ісціны. Вытокі яго, па сутнасці, невядомы і заканчэння не відаць.

Сапраўды:

«На пачатку было Слова, і Слова было з Богам, і Слова было Бог. Яно было на пачатку з Богам. Усё праз Яго сталася, і без Яго нічога не было стаўшыся, што сталася».

*(Евангелле паводле сьв. Яна)*

Сёння так думаецца. Тады ж былі вельмі далёкія подступы да такога разумення. Адчуванне дзесьці ўзнікала толькі. Лекцыі па літаратуры. Пастаянныя размовы пра літаратуру. Само мастацкае слова. Усім гэтым быў напоўнены апошні паверх біялагічнага корпуса. Тут праходзілі заняткі ўсіх аддзяленняў філфака. І варта

згадаць, што гэта быў перыяд вучобы ўсіх тых, каго потым назавуць філалагічным пакаленнем, пакаленнем шасцідзясятнікаў, пакаленнем дзяцей вайны. Якраз у тыя гады (1952—1957), хто раней, а хто пазней вучыліся вядомыя, а то і славутыя пісьменнікі, навукоўцы: Адамчык Вячаслаў, Арочка Мікола, Барадулін Рыгор, Бураўкін Генадзь, Бечык Варлен, Блатун Сымон, Вярцінскі Анатоль, Гілевіч Ніл, Гаўрылкін Леанід, Зуёнак Васіль, Карамазаў Віктар, Кляўко Генадзь, Карызна Уладзімір, Клышка Анатоль, Ліс Арсен, Мальдзіс Адам, Місько Павел, Мушынскі Міхась, Нікіфаровіч Ванкарэм, Нядзведскі Уладзіслаў, Пташнікаў Іван, Рагуля Аляксей, Рыбак Алесь, Саламевіч Янка, Сачанка Барыс, Свірка Юрась, Сімановіч Давід, Сіпакоў Янка, Станюта Аляксандр, Стральцоў Міхась, Цвірка Кастусь, Чыгрынаў Іван…

Названы тыя, чыя творчасць, жыццёвы лёс нядрэнна асабіста знаёмыя, блізкія. Цэлая літаратура. Здаецца, што ні да таго, ні пасля філфак, напэўна, не ведаў такой колькасці творчых асоб, аб’яднаных агульнасцю жыццёвага лёсу, прагай творчасці. То было пакаленне дзяцей вайны, пакаленне, пазбаўленае сонечных дзён дзяцінства і юнацтва, пакаленне, няздзейсненых мар, надзей, памкненняў. І вось гэтая неспатоленая прага светлых памкненняў, прыгажосці, душэўнай дабрыні знаходзіла сваю крыніцу ў кнізе, у мастацкім слове. Сваё адчуванне паўнаты жыцця, захапленне навакольным светам, як і боль пражытага і перажытага, зноў жа выяўлялі ў родным слове, слове, якое яны неслі ў сабе. Прага выказацца, сказаць сваё была выключная. Большасць з тых, хто названы вышэй, ужо ў час вучобы актыўна друкаваліся ў газетах і часопісах абласных і рэспубліканскіх, не кажучы ўжо пра насценны друк. Помніцца, І. Чыгрынаў у факультэцкай насценнай газеце друкаваў паэму з працягам. Дзе тая паэма? Не вядома. У год заканчэння ўніверсітэта выдалі свае першыя кнігі Р. Барадулін і Б. Сачанка, у часопісе «Полымя» надрукаваў першую аповесць «Чачык» І. Пташнікаў. З нашага аддзялення ў тыя часы ніхто асабліва сябе ў мастацкім слове не праявіў, калі не лічыць Міхася Шушкевіча, які якраз у тыя гады напісаў верш, які ў хуткім часе стаў усенародна вядомы як песня Ю. Семянякі «Ты мне вясною прыснілася». На жаль, дзесьці на першых курсах захварэў, і творчасці больш не чуваць. А такі хлопец — чысты, светлы, рамантычны. Значна пазней таленавіта праявілі сябе Аляксей Рагуля (літаратуразнаўца, культуролаг), Святлана Кліменцэнка (журналіст), Міхась Пратасевіч (музейны работнік),

Клара Ідэльсон (Кузняцова, тэатразнаўца). У нашай групе пачынаў вучобу (пазней за адзін год скончыў два курсы) вядомы выдавец, мовазнаўца-лексікограф, аўтар шматтомнага слоўніка назваў населеных пунктаў Беларусі па абласцях Яўген Рапановіч. Менавіта ў тыя ўжо далёкія гады склаліся добрыя таварыскія (можна сказаць, і сяброўскія) адносіны з Рагулем (усе пяць гадоў жылі ў адным пакоі), Пташнікавым. З ім два разы разам былі на вайсковых зборах. І сёння ён прыгадвае, як аднойчы ў час пераходу палкоўнік Мухаеў загадаў яму забраць у мяне і несці якісьці вайсковы досыць нялёгкі прыбор — маўляў, як мацнейшаму. Я, праўда, нічога такога не помню.

А ўвогуле мноства знаёмстваў, добрых таварыскіх адносін дазволілі мне, калі я праз пяць гадоў паступіў у аспірантуру, лягчэй неяк увайсці ў гэтае нязвыклае асяроддзе — літаратурны свет. За гэты час многія ўжо добра прыжыліся ў гэтым свеце, актыўна ў ім дзейнічалі, у чымсьці вызначалі яго характар. У час вучобы ва ўніверсітэце на працягу ўсіх гадоў удзельнічаў у хоры. Цудоўны быў кіраўнік — Ілья Яфімавіч Кліонскі. Проста абагаўляў хор. Здаецца, ён больш нічога і не бачыў, як толькі хор. Шмат выступалі на розных вечарах. Ездзілі ў Вільнюскі ўніверсітэт, а ў 1957 г. прымалі ўдзел і выступалі на Міжнародным фестывалі моладзі і студэнтаў у Маскве.

Так вось і ішло студэнцкае жыццё, працягвалася студэнцкая вучоба. На зімнія і летнія канікулы ездзіў у свае Бербашы. Кожны раз абавязкова цягнуў добрую звязку кніг. З Міра заўсёды пешшу. Лічыў, эгаіст, што, апрача кніг, больш нікому нічога не трэба. Якія тут гасцінцы?! Галоўнае кнігі. У час канікул пастаянна наведваўся ў Мір, у гарадскі Дом культуры. Прыходзіў звычайна позна, пасля поўначы. Аднойчы, было гэта зімою, вяртаўся з Міра. Позна. У нармальным настроі, не было ніякага ўнутранага ўздыму. Пераходзіў мост праз Міранку. З аднаго боку дарогі быў вадзяны млын. З другога возера. Шырокае, не засыпанае снегам, але пакрытае лёдам. Мяне нібы штосьці штурханула. Я спыніўся. Глянуў на лёд. Месяц быў поўны. Знаходзіўся над самым лёдам. Ад яго да лёду спускаліся промні-дарожкі, бліскучыя, розных колераў. Нібы радуга, але святлей і весялей. Нельга было адарвацца ад гэтай прыгажосці. Больш за тое, і лёд, і гэтыя промні -дарожкі, здаецца, выпраменьвалі якуюсьці боскую музыку, незямнога гучання. Я доўга стаяў зачараваны. Ішоў дамоў як сам не свой. Нічога падобнага ні да гэтага, ні пасля мне не даводзілася

ні чуць, ні бачыць, ні перажываць. На доўгі час адбылося як бы ўнутранае ачышчэнне. Што гэта было? Для мяне было і сёння ёсць штосьці незямное, боскае. Што сведчыць пра вышэйшую гармонію ў нашым свеце.

Але вучоба закончылася. У 1957 г. вясною абараніў дыпломную, здаў дзяржаўныя экзамены. Накіраванне атрымаў у Старадарожскі раён. Што гэта? Дзе гэта? Ніякага ўяўлення. Накіраваны туды быў я адзін. Як што там будзе — ніякага ўяўлення. Пабачым. З гэтым адчуваннем паехаў дадому — у свае Бербашы.

На жыццёвай дарозе, напэўна, кожнага з нас бываюць сустрэчы з людзьмі, яны неяк міжвольна моцна ўплываюць на наш лёс. Для мяне такой была сустрэча з Юльянам Сяргеевічам Пшырковым.

Неяк ужо у час дзяржаўных экзаменаў, падышоў ён да нас — гэта былі Аляксей Рагуля, Леанід Яроцкі і я. Пагаварылі трохі. Ён і кажа, маўляў, хлопцы, там доўга не заседжвайцеся. Пару гадоў адпрацуеце і прыязджайце сюды вучыцца далей. Навуцы патрэбны здольныя, працавітыя хлопцы. Ніякага набору ў аспірантуру на філфаку па беларускайй літаратуры ў той год не было. Сам Юльян Сяргеевіч у той час працаваў ужо ў Інстытуце літаратуры АН БССР. Загадваў сектарам дакастрычніцкай літаратуры. Туды ён нас і запрашаў. Тады, здаецца, ніхто з нас не надаў гэтаму ніякага значэння. Але пройдзе час…

Паехаў на канікулы ўвесь нейкі разгублена-задуменны, поўны суцэльнай невядомасці. Не помню: хадзіў у калгас на працу ці не, хутчэй — не. Прайшло лета. У канцы жніўня паехаў у свае (цяпер ужо) Старыя Дарогі. У районе накіравалі ў Крываносаўскую сярэднюю школу. Паехаў туды. Было гэта ад Старых Дарог не менш за 20 кіламетраў. Тут ужо, можна лічыць, пачыналася Палессе — балоты.

У школе паступова ўсё ўладкавалася. Жыў на кватэры ў сям'і маладых палешукоў. Разам з выкладчыкам матэматыкі. Тут мы і карміліся. Нідзе ніякай сталоўкі паблізу не было. Школа была далекавата ад хаты, дзе мы кватаравалі. Восенню ці вясной не прайсці — гразь страшэнная. Абыходзілі недзе гародамі. Электрасвятла на вуліцах не помню. Са школы ідзём вечарам. Жах. Гэта было горш і страшней, чым калісьці з Міра ў Бербашы.

Гадзін на поўную стаўку не хапала. Даводзілася працаваць у самых розных класах: ад 5-га да 10-га. Выкладаць і рускую, і беларускую мовы. Але гадзін да нормы не набіралася. Вёў урок

співаў. Пазней нават кіраваў школьным хорам. Выступалі не толькі ў школе.

Пачалося звычайнае жыццё школьнага настаўніка. Што адчувалася адразу, дык гэта (тут трэба шчыра прызнацца) слабая мая, як настаўніка, практычная падрыхтоўка. Усё элементарнае (правапіс, знакі прыпынку) давялося не проста згадваць, засвойваць нанова. Практычна больш грунтоўна. Даводзілася перажываць і хвіліны непрыемныя.

Дзеці чыталі мала. Школьная бібліятэка была даволі сціплая. Паступова неяк удалося выпрасіць у дырэкцыі выпісаць некалькі тоўстых літаратурных часопісаў: «Новый мир», «Юность», «Полымя»…

Настаўніцкі калектыў быў працавіты, сумленны, адданы сваёй працы. За ўсе 5 гадоў я сёння не магу прыгадаць якіхсьці сур'ёзных звадак, непаразуменняў. Працавалі самааддана. Дадатковыя заняткі па матэматыцы, па рускай мове — то было не выключэн-не, а, хутчэй, правіла. Даводзілася школе супрацоўнічаць і з кал-гасам, адміністрацыяй. Бывала, што вучні старэйшых класаў дапамагалі капаць бульбу. Настаўнікі пастаянна ўдзельнічалі ў розных агітацыйна-прапагандысцкіх мерапрыемствах, чыталі лекцыі. Усё гэта рабілася строга ў межах афіцыйна дазволенага. Якіясьці адхіленні былі недапушчальныя. Ды яны, па праўдзе кажучы, і ў галаву нікому не прыходзілі. Такім было звычайнае тагачаснае школьнае жыццё. Якіхсьці значных больш-менш школьных праблёскаў у памяці не захавалася. У самога настаўніка паступова выхоўвалася самастойнасць, упэўненасць у сабе, паціху знікала скаванасць, няўпэўненасць.

Разам з тым штодзённасць аднастайная, фармальнаабавязковы характар працы, адсутнасць выхадаў у іншыя сферы жыцця дзесьці прытуплялі вастрыню ўспрыняцця жыцця, свету, скоўвалі ўнутраную актыўнасць. Садзейнічала гэтаму, вядома ж, у нейкай ступені ўсюдыісная чарка. Ды не проста чарка, а чарка славутай старадарожскай самагонкі. Што ж… Было трохі і такое.

Уразіла мова тых мясцін. І можа, не так яе лексіка, як своеасаблівы інтанацыйны лад, мелодыка яе. Сёння згадваеш мінулае — а гэта адбываецца пастаянна — і нібы чуеш і мову ранняга дзяцінства (мову Градалёў), і мову юнацтва (мову Бербашоў), і мову гадоў настаўніцтва (мову Крываносаў). Але дзіўная рэч, зусім не чую мовы гадоў універсітэцкай маладосці. А тут жа

яна гучала пастаянна. Больш, чым дзе. Тут іншыя і прыродныя, і цывілізацыйныя ўмовы: пастаянны рух, бесперапынныя змены. Змены, так падаецца, дэканструктыўнага характару.

Мовы Беласточчыны, Міршчыны, Старадарожчыны — усё гэта мова адна, беларуская, але са сваім гучаннем, дзесьці і са сваёй змястоўнай асновай. Цяпер вось згадваеш мінулае, пачынаеш уяўляць той свет і бачыш, адчуваеш, чуеш, нарэшце, разумееш, што ў гэтых мясцінах, у гэтым краі, сярод гэтай прыроды можа натуральна гучаць, арганічна жыць, толькі такая, толькі гэтая мова. Яна народжана, створана гэтай зямлёй, гэтай прыродай — яе людзьмі. Сёння гэты свет, такі свет скрозь, па сутнасці, рушыцца. Для мовы, нацыянальнай мовы, небяспека відавочная, можа, нават галоўная.

У нашай літаратуры, найперш у прозе, асабліва гарманічна, глыбока адзінства свайго кутка, яго прыроды, людзей і яго мовы (і як мовы герояў, і як мовы аўтара) выяўлена, увасоблена ў творчасці Кузьмы Чорнага, Максіма Гарэцкага, Івана Мележа (у яго «Палескай хронікі»), Івана Пташнікава, Вячаслава Адамчыка… У паэзіі — Максім Танк, Ларыса Геніюш. У гэтым сэнсе Старадарожчына, як і Глушчына, Любаншчына, яшчэ ў чаканні свайго летапісца і мовапісца.

Для мяне асабіста Старадарожчына стала месцам незабыўным, светлым, важным ва ўсім маім наступным жыцці. Якраз тут я спаткаў, сустрэў тую, хто прынёс мне сапраўднае шчасце на доўгія гады майго жыцця. Сапраўды, гэта нейкая містыка: яна, васемнаццацігадовая дзяўчынка з берагоў Хапра, з славутага горада Урупінска, і я, дзесьці з Польшчы, старэйшы за яе на 8 гадоў, сустрэліся на ўскрайку Палесся, каб аб’яднацца назаўсёды. Яна, Тамара Клінава, рана засталася без маці. Бацька служыў у міліцыі, увесь час у раз’ездах. Была старэйшая сястра. У 14 гадоў паступіла ў Барысаўскае медвучылішча, якое ўзначальвала якаясьці яе сваячка. Закончыла вучылішча, яе накіравалі ў гэтыя ж, што і мяне, Старыя Дарогі. Адтуль накіравалі зноў жа ў тыя ж Крываносы ўзначальваць медыцынскі пункт. Там працавала яшчэ адна медсястра і санітарка. У сферу абслугоўвання ўваходзілі дзве вялікія вёскі. Хворых было шмат. Выклікалі і днём, і ноччу. Па самых розных прычынах. З якімі толькі захворваннямі не давялося сустракацца і разбірацца. Прыйшлося нават роды прымаць. Яна ішла на ўсё: адказнасць была вышэй за боязнь. Вяскоўцы ну проста ўсе яе палюбілі. Звярталіся пастаянна.

Мы зблізіліся не адразу. Але паступова пачалі сустракацца. І ўсё… Мяне запаланілі яе шчырасць, душэўная адкрытасць, дабрыня, яе жыццярадаснасць, яе юная абаяльнасць. І вось 24 кастрычніка 1959 г. пайшлі мы ў сальсавет і там, як кажуць, юрыдычна замацавалі нашу сувязь. Не было ні рэстарана, ні картэжу машын, ні шматлікіх гасцей. Знешне было, на жаль, усё звычайна. Радасць, узнёсласць, душэўнасць, сонечнасць. Яны былі ў нас, з намі.

Пачалося новае жыццё. Як сёння, з вышыні столькіх пражытых гадоў, падумаеш: Божа ж мой, якім нялёгкім было яно! Але дзіўная рэч: у сэрцы, у памяці засталося, па сутнасці, толькі светлае, прыемнае, добрае. Сапраўды, відаць, усё ў нас, у нашым лёсе вызначае жыццё ўнутранае, жыццё душы.

Жылі на кватэры ў сярэдніх гадоў сям'і Машукоў. Гаспадары былі добрыя, уважлівыя. Не засталося ніводнага цёмнага ўспаміну. Нарадзілася дзіця. Мы на той час ужо пераехалі жыць у Палажэвічы. Тут быў сельскі савет, працаваў спіртзавод, была бальніца, дзіцячыя яслі, садок. Жонка стала працаваць у бальніцы. Жылі спачатку зноў жа на кватэры ў пажылых Казябаў. Прыемныя людзі, добрыя, сардэчныя. Потым нам неяк удалося выпрасіць маленькую аднапакаёвачку ў доме, які належыў спіртзаводу. Самы памятны ўспамін тут — пацукі. Летам спіртзавод не працаваў, есці не было чаго, і яны дружна шукалі пажыву ў суседніх дамах. Не было ад іх ніякага паратунку. Адчуў, убачыў, што такое пацучыны позірк, які проста абязбройваў цябе. У школу ў Крываносы (гэта кіламетраў 5—6) ездзіў на ровары, хадзіў пешшу. Жыццё як бы ўвайшло хоць у нейкую каляіну. З'явіліся новыя знаёмствы, завязваліся сяброўскія адносіны. Тут спрыяла асаблівa жончына адкрытасць, сардэчнасць у адносінах да людзей. Некаторыя сяброўскія сувязі захаваліся па сённяшні дзень.

Але запрашэнне Юльяна Сяргеевіча не-не ды згадвалася. Прымушала думаць, не давала супакоіцца. Не помню ўжо, на першым годзе настаўніцтва ці мо на другім, быў у Мінску. Зноў жа не помню, па якой прычыне зайшоў у Інстытут да Юльяна Сяргеевіча. Было ў яго сектары вакантнае месца малодшага супрацоўніка. Пайшлі з ім да дырэктара В. В. Барысенкі. Пагаварылі. Без прапіскі мінскай не магло быць ніякіх размоў. Дамовіліся з маім настаўнікам, што буду рыхтавацца да паступлення ў аспірантуру.

На жаль, не заўсёды ўсё робіцца так, як ты хочаш і мяркуеш. Зімою выклікаюць у ваенкамат і загадваюць рыхтавацца ў час летніх канікул ісці на вайсковыя зборы. Усё. Я кінуў і думаць пра аспірантуру. Прайшло лета. Ні на якія зборы ніхто не выклікаў, але ж і пра аспірантуру я кінуў думаць.

І вось позняй восенню атрымліваю я ад Ю. С. Пшыркова ліст. Ліст не захаваўся. Але дакладна запомніліся словы: «Не думаў, што ў нашай моладзі такі халопскі дух». Яны закранулі за жывое. Напісаў адказ. Патлумачыў, чаму так здарылася. Зазначыў штосьці такога зместу: адносна халопскага духу пастараюся даказаць, што гэта не так.

Здавалася б, сямейнае жыццё, дзіця нарадзілася — якая тут аспірантура?! Але ж нешта ўнутры турбавала, чагосьці хацелася. Жонка праніклася маімі гэтымі турботамі таксама. Заахвочвала, падштурхоўвала. Стварала ўмовы. У 1960 і 1961 адаслаў два ліс ты, звязаныя з выкладаннем літаратуры ў школе, у газету «Літаратура і мастацтва» — «Каму верыць?» і «У хрэстаматыю — тво ры хрэстаматыйныя». На апошні атрымаў ухвальны невялікі ліст ад Ф. М. Янкоўскага, вядомага, паважанага мовазнаўцы. І вось дзесьці ў канцы 1961 г. я наважыўся паступаць у аспірантуру. У пачатку 1962 г. у «Маладосці» была надрукавана аповесць В. Быкава «Трэцяя ракета». Я напісаў па ёй рэферат. Паслаў у Інстытут літаратуры. Чытаў яго Дз. Я. Бугаёў. Ухваліў. Пачалася падрыхтоўка да экзаменаў. Жонка стварыла ўсе ўмовы. Інстытут набіраў 2 адзінкі. Заяў было 4: У. В. Гніламёдаў, В. А. Чамярыцкі, А. А. Майсейчык і я. Экзамены здалі паспяхова ўсе. Адразу залічылі Гніламёдава і Чамярыцкага. Праз нейкі месяц дадаткова далі яшчэ адну адзінку і залічылі мяне. А пад канец года і Майсейчыка.

Пачалася новая старонка жыццёвага лёсу.

17 студзеня 2013 года
памерла

## Алена Анішэўская
## (1927–2013)

Беларуская пісьменніца

17 лютага 2013 года
памёр

## Сакрат Яновіч
## (1936–2013)

Беларускі пісьменнік, журналіст,
палітычны і грамадскі дзеяч

## Юры Станкевіч

# ПАСЛАНЕЦ НЕМЯЗІДЫ

Напрыканцы лета ў вёсцы заўсёды сумна. Нешматлікія яе абітальнікі – на палявых работах, бо ідзе самы прыпар. Заўжды пустая галоўная вуліца, і толькі на лаўках дзе-нідзе сядзяць ля свайго жытла знямоглыя, знясіленыя працай на Ўтопію, пенсіянеры абоега полу. Побач, у пылу, зрэдку валтузяцца мурзатыя дзеці.

Прыкладна ў такі час, схуднелы з твару, бледны, з пацямненнем на лёгкіх – пачатковай фазай сухотаў – з лагера агульнага рэжыму, адразу пасля так званай перабудовы вярнуўся, ці, як яшчэ кажуць, "адкінуўся" калгаснік Рыгор Баркоў. Свой "траяк" па дзвесце першаму артыкулу яму, тым не менш, давялося адбыць "да званка", гэта значыць амаль да таго часу, пакуль пачалося раздзяленне краіны на асобныя рэспублікі, адмена спробаў сухога закону, пачатак усялякіх паскарэнняў, галоснасцяў і заклікаў да прыватнай ініцыятывы.

Тэрмін Баркову па цяперашнему часу далі нізавошта. Зараз гэта б ўспрымалася як здзек ці кпіны, але па-ранейшаму заставаліся на сваіх месцах і кіравалі той жа самы старшыня сельсавета, начальнік міліцыі і ўчастковы, пракурор і суддзя, актыўнымі намаганнямі якіх Баркоў і трапіў да "кума".

Пачалося ўсё з таго, што колькі гадоў таму Рыгор Баркоў, вясковы жыхар і просты калгаснік, увогуле рахманы, ціхі і ветлівы чалавек, набыў сабе жарабя. Ён выхаваў кволую жывёлу ў моцнага каня, якога назваў Матросам: можа таму, што сам калісьці адслужыў армію на флоце.

Матрос аказаўся незвычайна цягавітым, і з яго дапамогай Баркоў неяк лёгка ўзняў асабістую гаспадарку, стаў дапамагаць з канём і суседзям – араць, сеяць, вазіць лес, дровы. Спачатку ўсё

гэта было быццам як і належыць, але потым чыесьці зайздросныя вочы ўбачылі, а рука напісала ў райцэнтр. У сельсавеце ўзгаднілі становішча з існуючымі законамі, і аказалася, што ў прыватнай уласнасці каня мець нельга. Рыгора Баркова папярэдзілі раз, потым другі, а аднойчы раніцай на падворак з'явіўся ўчастковы з сельсаветчыкамі – забіраць Матроса.

– Каня адправім у суседнюю гаспадарку, па дамове, – суха аб'явіў участковы – малады пыхлівы хлопец з чорным чубам з-пад брыля форменнай фуражкі. – Не паложана, дзядзька.

– Так, так, – заківаў галавой старшыня сельсавета – наліты чырванню, мажны дзядзюк. – Калі кожны пачне займацца прыватным прадпрымальніцтвам, то хто будзе працаваць на дзяржаву? Наша калгасная сістэма – лепшая ў свеце. І менавіта мы, мясцовы сельскі савет, вырашаем, як каму жыць.

– Не хвалюйся, кампенсуем, – паабяцалі два яго памагатыя.

Рыгор Баркоў пабляднеў. І не таму, што аніякай кампенсацыі, як ён ведаў, не дачакаецца, а таму, што давядзецца аддаць Матроса ў чужыя рукі.

На гэта Рыгор Баркоў спытаў:

– Растлумачце, што дрэннага ў тым, што я каня трымаю, ды дапамагаю каму трэба? Старым, напрыклад, нямоглым?

– Ты тут капіталізм развёў, зразумела? – сказаў старшыня сельсавета. – І ты думаеш мы запамяталі, чаму твой бацька – Васіль Баркоў, быў вядомы, як здраднік Радзімы? А ці не ён швэндаўся па лесе з бандай "зялёных", пакуль яго "ястрабкі" са знішчальнага батальёну не завалілі? Хіба не ён перадусім падпаліў сельсавет?

На гэта Рыгор Баркоў маўчаў. Ён не ведаў дакладна, хто сапраўды падпаліў адразу пасля вайны сельсавет, – той паспелі патушыць, але, што бацька быў "бульбашом", ці "зялёным братам" – так, ведаў.

Тым часам Матроса вывелі з хлеву. Конь не даваўся чужынцам, трывожна ўсхрапваў, касавурыў на гаспадара вокам. І тут Рыгор Баркоў не стрываў. Ён ухапіў сякеру, што тырчэла ў калодзе, і кінуўся бараніць жывёлу. Баркова абвалілі на зямлю, звязалі і адвезлі ў райцэнтр, а каня забралі.

***

З той пары прайшло тры гады.

Першыя дні на волі калгаснік Рыгор Баркоў зрэдку глядзеў

тэлевізар, звычайна перадачы пра таямнічае і неапазнанае, шмат спаў, моўчкі еў звараную жонкай бульбу, парыўся ў лазні, а потым спытаў пра Матроса. Жонка расказала, што конь спруцянеў на калгаснай стайні ў галодную зіму ў першы ж год, калі яго гаспадара пасадзілі. Кармоў не хапала каровам, дык хто пра каня думаць будзе? Раён жа надояў патрабаваў.

Знясіленага на восеньскіх працах Матроса нейкі час падтрымлівалі з дапамогай вяровак, прапушчаных праз жывот і зверху за кроквы – каб не паваліўся, эканоміў сілы – так ён саслабеў, але потым скончылася і салома, якую так-сяк яшчэ кідалі ў кармушку…

Калгаснік Рыгор Баркоў даслухаў і нічога на гэта не сказаў: ён увогуле стаў яшчэ больш маўклівы.

Між тым, калгас узначаліў новы старшыня на прозвішча Вішнеўскі. Сам з сялян, ён вясковыя справы збольшага ведаў. Гэта быў, негледзячы на маладыя гады, таўсматы чалавек, з круглым жыватом і бакенбардамі. Вішнеўскі ведаў і гісторыю Рыгора Баркова, і менавіта ён задумаў аднавіць справядлівасць, вярнуць, так бы мовіць, страчаны твар сучаснаму кіраўніцтву.

У калгасе адбыўся сход. На гэты сход запрасілі і Рыгора Баркова. Ён, пасля роздуму, пайшоў.

Народу ў клубе было як заўсёды. Засядаў прэзідыум. Вырашалі будзёныя справы. Апошнім узяў слова старшыня.

– Дарагія таварышы, – сказаў ён. – Мы запрасілі сюды калгасніка Рыгора Васільевіча Баркова. Вы ўсе яго ведаеце. Ён нядаўна вярнуўся да нас адтуль, так сказаць, куды раней трапіў. Вінаваты ён, ці не – не нам рашаць… Але, адабраўшы ў яго каня, думаю, паступілі несправядліва. Зараз зусім іншы час. Таму я і прапаную выдзеліць таварышу Баркову жарабя, і няхай ён яго трымае ў сваёй гаспадарцы. Так. Прагаласуем?

У зале зашумелі, загаманілі, а потым там-сям запляскалі ў далоні.

– Ну што скажаш, Рыгор Васільевіч? – заўсміхаўся малады Вішнеўскі, купаючыся ў промнях папулярнасці, якая абяцала значна вырасці пасля гэтага схода.

У адказ на старшынёву прамову калгаснік Рыгор Баркоў падняўся з месца і падзякаваў усім за клопат. “Канешне, – сказаў ён, – жарабя возьме і выгадуе, дай Бог сілы і здароўя”. І адразу выйшаў з залы, ціха прычыніўшы дзверы.

***

Рыгор Баркоў не пайшоў дахаты, а паволі скіраваў да лесу, уздоўж зарослага аерам, забруджанага ручая, які раней быў невялічкай рэчкай.

На ўскрайку лесу ён спыніўся на пралеску, зняў пінжак, пасцяліў і лёг на зямлю. Ён адчуў, як зямля цягне да сябе, пачуў, як шумяць дрэвы над галавой, але гэты шолах і цішыня былі яму, які правёў гады ў тлуме і гвалце, нязвыклыя, і ён доўга не мог супакоіцца. "Адзінае, – думаў ён, – гэта тое, што аніяк не зразумець, чаму гэты народ з такой насякомаеднай жорсткасцю ставіцца сам да сябе, да здаровага, да таго, што стаіць на нагах, да жывога".

Добра, што яму цяпер далі жарабя, але чаму ніхто не паімкнуўся на яго, Баркова, абарону ў той дзень, калі гвалтам забіралі няшчаснага Матроса? Ніводны сусед, ніводны гаротнік, якім дапамагаў канём? Хіба ён браў з іх якія грошы? Хіба што, каб пракарміць таго ж каня зімой, купляў мех аўса? Якая жаба душыць іх увесь час? Хто, якія прыхадні прышпілілі ім тую зайздрасць, ад чаго яны сталі хцівымі, нячыстымі на вока і душу рабамі? І гэта нават не ў горадзе, а ў вёсках, дзе раней не ведалі замкоў. Пачалі цяпер успамінаць пра трыццаць сёмы год, а хто ўсталяваў яго на гэтай зямлі? Калі б кожны ў той час сустракаў тых жа сельсаветчыкаў стрэльбай ці сякерай – пэўна, было б па-іншаму. Хто яму гарантуе зараз, што праз некалькі год, калі ён, Рыгор Баркоў, выгадуе жарабя, зродніцца з ім, як з сямейнікам, – зноў не з'явяцца на падворку людзі з пустымі вачыма і не абвінавацяць яго ў якіх новых грахах?

"Немязіда", – раптам усплыла ў памяці пачутае днямі па тэлебачанні слова. – "Знакі яе помсты ўжо лунаюць вакол і пагражаюць, але іх амаль ніхто не бачыць".

Нечакана калгаснік Рыгор Баркоў заснуў.

***

Спаў ён нядоўга, і сон яго быў трывожны і неглыбокі. Рыгору Баркову спачатку ўрывіста сніліся дзеці, ужо дарослыя – сын Васіль і дачка Марта. Абодва жылі і працавалі ў горадзе: сын на будоўлях, а дачка швачкай-матарысткай на фабрыцы. На вёсцы яны з'яўляліся рэдка, звычайна пад зіму, калі па дварах пачыналі

забіваць і смаліць парсюкоў.

А потым прысніўся бацька. Калгаснік Рыгор Баркоў бачыў таго разы са два, калі сам быў зусім малым, і таму памятаў слаба. І ў гэтым сне ён таксама адчуваў сябе малым. Бацька таемна прыходзіў ноччу, прыціскаў яго, соннага, да грудзей – ад яго пахла лесам, бруднай вопраткай, порахам, махоркай. Прагна еў, нешта казаў маці, а на досвітку, калі малы Рыгорка яшчэ спаў, знікаў.

І цяпер, у сне бацька быў апрануты ў брудныя вайсковыя нагавіцы, той жа бушлат, але вочы яго па-ранейшаму свяціліся пяшчотай.

– Гэта ты падпаліў сельсавет? – спытаў яго Рыгор Баркоў.

– Я, – згодна схіліў той галаў. – Ды, бач ты, не дапаліў. Так атрымалася. Хацеў потым давесці справу да канца, але…

– Цябе забілі?

– Так.

– І дзе ты зараз?

– Ёсць такая планета ў нашай сонечнай сістэме. Немязіда. Калі-небудзь, праз колькі там год, – ніхто не ведае – яна абрынецца на Зямлю. Там шмат такіх, як я.

– І што тады адбудзецца?

– Тое, чаго не мінаваць. Але… але, мне пара.

– Чакай. Хіба нельга неяк пазбегнуць таго сутыкнення?

Бацька задумаўся на кароткі момант.

– Урэшце, можна, праўда не надоўга, а – ну, скажам, гадоў на дваццаць-трыццаць. Для іх там трыццаць год, як для нас… ну, хіба што секунда. Я мог бы там папрасіць, падаць адпаведную заяву. Але, дзеля гэтага варта… аднавіць справядлівасць. Хоць на кроплю. Не, ты не павінен ведаць…

– Скажы. Я ж твой сын.

– Згода, – пасля паўзы, ужо адыходзячы, вымавіў той. – Трэба… трэба спаліць той сельсавет.

Рыгор Баркоў хацеў затрымаць яго, шмат чаго яшчэ запытацца, але бацька павольна адступіў і знік, нібы растаяў у тумане.

***

Калгаснік Рыгор Баркоў раптоўна ачуняў і скінуў з сябе рэшткі сну. Ён быў нават усхваляваны. І хоць разумеў, што пра планету Немязіду днямі чуў па тэлебачанні – паказвалі нават

астранамічную схему, дзе тая магла знаходзіцца, і казалі пра вялікую небяспеку, якую яна магла спрычыніць у будучыні, калі, магчыма, саскочыць з арбіты і сутыкнецца з Зямлёй – трывожны роздум не прападаў.

“Сельсавет, – думаў ён. – Хіба ў ім справа? Усё ж засталося па-ранейшаму. Нават старшыня сельсавета, які адбіраў у яго Матроса і замарыў таго голадам, – на тым жа месцы, на той жа пасадзе. І рэдкія на цяперашні час коні зімой хістаюцца ад таго, што не хапае кармоў, і каровы стаяць па пуза ў гноі, і вокны на фермах выбітыя. І даяркі, даглядчыкі жывёлы, п’юць. І п’юць, бывае, таму, што невыносна глядзець на ўсё гэта.”

Прычына. У чым яна? І чым больш Рыгор Бркоў думаў пра тое, тым менш спадзяваўся знайсці адказ. У сельсаветах? У людзях? Яшчэ ў чым?

Ён доўга глядзеў, як гайдаюцца пад слабым ветрам і рыпяць вяршаліны дрэваў, слухаў рэдкія крыкі птушак, а потым падняўся з зямлі і пайшоў дахаты.

***

Адвячоркам узняўся вецер, пагнаў пыл на дарозе, з’явіліся хмары, але на дождж чамусьці не збіралася. Таму-сяму з вяскоўцаў паваліла на сотках азяроды з травой, плот, адарвала шыфер з даху. Па тэлебачанні пасля навін, хоць і запознена, нават аб’явілі штармавое папярэджанне, што дагэтуль адбывалася вельмі рэдка.

А ноччу, амаль пад раніцу, жыхары цэнтральнай вёскі пачулі характэрны, падобны на стрэлы, трэтар – полымя ірвала лісты шыферу на драўляным будынку сельсавету. Выклікалі пажарных, міліцыянтаў, але тыя, хоць і хутка прыехалі, рады не далі – было ўжо позна.

Сельсавет згарэў. Да падмурку.

Разбіраліся з тыдзень. Створаная камісія ўрэшце нікога не прызнала вінаватым: на пажарышчы знайшлі аплаўленыя бутэлькі з-пад гарэлкі – перадусім там, пэўна, балявалі – самаробны абагравальнік, выявілі ранейшыя дэфекты праводкі, абгарэлы сейф без грошай і дакументаў.

Старшыню выклікалі ў райцэнтр, але хутка адпусцілі.

***

Калгаснік Рыгор Баркоў так і не атрымаў абяцанага жарабя. Усіх лішніх коняў, у тым ліку і моладзь, нават сегалеткаў, бліжэй да зімы адвезлі на гарадскі мясакамбінат.

Бацька яму больш не сніўся. Але фотаздымак яго, невядома як захаваны, Рыгор Баркоў калі-нікалі разглядаў. На тым здымку бацька быў малады, высокі, з адкрытым, шчырым тварам і ў незнаёмай яму жаўнерскай форме.

Усё на гэтым свеце паступова сыходзіць у мінулае, выпадае з памяці. Тым больш такія простыя гісторыі з жыцця маленькіх людзей, як калгаснік Рыгор Баркоў. Запамятавалі на вёсцы і яго гісторыю. Надыйшла восень, а потым зіма, а потым яччшэ адна восень і яшчэ зіма… Ішоў час, мала што змянялася на вёсцы, як заўсёды ў хлявах, пунях і на падворках “прыціскалі” парсюкоў, паціху гналі “хершу”, а ўвечары глядзелі тэлевізар, у якім напрыканцы кожнага года заводзілі загадкава-інтрыгуючыя размовы пра тое, ці адбудзецца канец свету. Вучоныя, нейкія экстрасэнсы, шматлікія “гуру” знаходзілі ўсё новыя і новыя доказы, што гэты канец вось-вось прыйдзе. Хто-ніхто ад пачутага нават западаў на гэрась, цішком паглыбляў склеп і купляў у сельпо запалкі і соль. Акрамя нашага персанажа Рыгора Баркова. Ён напэўна ведаў, што гадоў дваццаць-трыццаць усё будзе па-ранейшаму.

# РЫТУАЛЬНАЕ СЭППУКУ
## НАБОРШЧЫКА ГУТАРА

У абедзены перапынак машыніст-наборшчык гарадской друкарні Язэп Гутар выйшаў у захламлены рулонамі паперы брудны дворык, каб з’есці на свежым паветры тое, што прынёс з дому, але ў “бяседку”, дзе месціліся дзве лаўкі не пайшоў, а прысеў збоку, у адзіноце. Абед яго, загорнуты ў газету, складалі акрамя хлеба два курыныя яйкі, звараныя ўкрутую, і паўлітра малака ў шклянай бутэльцы.

Было цёпла, нават горача.

Машыніст Гутар пачаў есці, але неўзабаве адчуў, як страўнік супрацiўляецца, і званітаваў, пасля чаго крыху пасядзеў на пустой скрыні і, па сігналу, неўзабаве вярнуўся на месца працы. Спаз-

няцца не выпадала, бо за гэта адразу каралі: пазбаўлялі часткі зарплаты, і тое – у лепшым выпадку, а ўвогуле маглі прышыць палітыку: шкодніцтва, сабатаж ці яшчэ што.

У цеснаватым памяшканні друкарні звыкла гулі і ляпалі механізмы, пыл і пах клею казыталі ноздры. Закрачанае шкло на вокнах было заплямленае брудам, але ўсё роўна за ім прыгадвалася лета.

Машыніст-наборшчык друкарні Язэп Гутар набіраў тэкст. Работа блізілася да завяршэння, але ён ведаў – працоўны дзень для яго звыкла зацягнецца, што апошні час назіралася паўсюдна.

Рэдактар раённай газеты "Камуністычная праца" Берасценка, імкнучыся пазбегнуць памылак друку, па тры-пяць разоў перачытваў гранкі. Вядома, гэта выклікала незадавальненне машыніста друкарні Гутара, таму што друкаванне газеты зацягвалася за поўнач. Але адкрыта пратэставаць было небяспечна.

Язэпу Гутару было каля сарака пяці год. Для свайго веку ён выглядзеў спрацаваным і крайне стомленым чалавекам. Ссівелая вялікая галава, схуднелыя плечы і рукі, зморшчыны на твары надавалі яму выгляд старога. Ён адчуваў, што захварэў. Некалькі тыдняў раней ён з цяжкасцю прабіўся на прыём да лекара ў гарадской паліклініцы – да таго была вялікая чарга, бо не толькі папярэднія лекары, а і часам фельчары, нават ветэрынар знікалі невядома куды. Урэшце, усе ведалі, што іх забіралі па начах, але пра тое маўчалі. Гутара непакоілі болі ў страўніку, і лекар, памацаўшы яму жывот, напісаў паперку — накіраванне ў абласную бальніцу. Язэп Гутар прааналізаваў сімптомы хваробы, а ён шмат чытаў з таго, што набіраў, і зразумеў, што яго справы – дрэнь і нікуды не паехаў, але чамусьці працягваў механічна хадзіць на працу. Ён жыў адзін у барачным пакойчыку. Жонка з год таму раптоўна памёрла ад запалення лёгкіх, а сына забралі служыць у войска, і чуваць ад яго даўно нічога не было. З усяго гэтага наборшчыка Гутара ўжо працяглы час апаноўвалі змрочныя думкі пра самазабойства. Як ён лічыў – жыццё навокал і так не мела аніякага сэнсу, а тут яшчэ і хвароба. У тым, што яна вельмі сур'ёзная, ён чамусьці не сумняваўся, бо шмат выведаў з некалькіх брашур па медыцыне, якія набіраў на працы.

Але ў глыбіні душы Язэп Гутар яшчэ не згубіў рэшткі веры, а продкі яго былі ўніяты, і яго самога бацькі калісьці паспелі ахрысціць ва ўніяцкай царкве, а мясцовая – нядаўна была ўшчэнт разбураная і разабраная па бярвеннях. Знік кудысьціназаўсёды і

уніяцкі святар. Вера забараняла яму самазабойства, і машыніст Гутар з таго быў у цяжкім одуме, а параіцца хоць бы з тым святаром – не выпадала. Сам парадак жыцця выклікаў у яго цьмяны неспакой і трывогу, якія пераходзілі ў страх, чаго ён саромеўся, але навокал так жылі ўсе – нават дырэктар друкарні Гурскі, начальнік райліту Шабун, рэдактар "Камуністычнай працы" Берасценка і яшчэ людзі, нашмат вышэйшыя і, наадварот, прасцейшыя за іх.

Машыніст друкарні Гутар баяўся не столькі смерці, колькі застацца аднаму і бездапаможнаму перад хваробай, ляжаць саслабеламу ў ванітах і брудзе, бо ніхто не прыдзе на дапамогу. Хіба што пасля пахаваюць наспех, каб захапіць пакойчык у бараку, які ён займаў.

Якраз цяпер Язэп Гутар зноў павінен быў затрымацца, бо наступнай раніцай выходзіў нумар з выступленнем генеральнага сакратара ЦК Сталіна на нарадзе камбайнераў, і вычытваць яго рэдактар раённай газеты Берасценка, былы міліцянер, які скончыў курсы лікбезу, уедлівы і зласлівы, — будзе некалькі раз. Урэшце, тэкст выступу быў набраны ўчора, але Гутар ведаў, што гранкі панясуць у рэдакцыю зноў і зноў, а сам ён будзе завіхацца тут усю ноч.

Зараз жа ён набіраў нешта кшталтам уступу да той нарады, што адбылася ў далёкай Маскве.

"… Фанфары ўзняліся ўверх разам са змешчаным ззаду "Прывітаннем" у выглядзе прамянёў, якія разыходзіліся па ўсёй прасторы залы. Наперад выйшаў вядучы і сказаў кароткі ўступ, пасля якога загучэла "Песня пра Сталіна".

Вядзі нас, любімы,
Табой мы з'яднаны.
Ты наша жыццё,
Дарагі павадыр…"

Зноў, як і раней, машыніст Язэп Гутар адчуў, як яго ахоплівае млосць. Рот напоўніўся слінай. Хацелася кінуць усё і пайсці адсюль куды-небудзь да ракі, ці яшчэ далей – у лес, легчы там на траву, глядзець і слухаць, як ціха варушацца і шумяць пад ветрам вершаліны сосnaў. Але ж нешта змушала яго гібець тут, у друкарні. Надзея на лепшае? А раптам хвароба пройдзе сама? Спадзяванне на гэта? Страх? Так, хутчэй за ўсё – менавіта страх, – чамусьці з агідай да сябе падумаў ён.

Ён зноў працягваў набіраць афіцыйны тэкст, дасланы са ста-

лічнага тэлеграфа пра тое, як і ў якім складзе сядзеў у зале Прэзідыум на чале з таварышам Сталіным, як усе ўставалі некалькі раз і віталі таго працяглымі апладысментамі, як на сцэне ззаду Прэзідыума паўстала высокая піраміда, упрыгожаная наверсе імгненна раскрытым сцягам з вялікім партрэтам таварыша Сталіна і пад ім – сцягам Саюзных рэспублік.

***

К вечару рэдактар Берасценка ў трэці раз вычытваў гранкі. Але нумар не падпісваў, рыхтаваўся чытаць зноў, пасля карэктара.

Адчуваючы ўжо знаёмыя прыкметы вялікай стомленасці і незадаволенасці, машыніст друкарні Язэп Гутар па заканчэнні працоўнага дня адважыўся і пайшоў да дырэктара Гурскага.

Сакратарка пусціла.

— Можа, я пайду ўрэшце дадому, — нерашуча спытаў ён у дырэктара, хутчэй прапанаваў.

Дырэктар Гурскі ўзняў голаў з-за стала і кінуў на яго няўцямны позірк. Лысая яго галава блішчэла ад поту.

— Не, братка, – сказаў ён нават прыхільна. – сам бачыш, які важны і адказны матэрыял зараз ідзе ў газеце. Ты ўжо пацярпі. Узгадні ўсё з Берасценкам.

— Дык я схажу да таго?

— Схадзі, – дазволіў дырэктар Гурскі.

Урэшце, Гутар на дырэктара асаблівай крыўды не трымаў, бо апошні паводзіў сябе пад настрой нават прыстойна і падначаленых моцна не шчаміў. Іншым быў Берасценка. Глядзеў заўсёды з-пад ілба чорнымі, мутнымі ад падсвядомай злосці, вочкамі. Буйныя цёмныя валасы часам звісалі яму аж да носу, і тады ён закідваў іх рукастай, растапыранай даланёй уверх, і казаў пры гэтым нешта кшталтам – “правільна!”, альбо – “няправільна!” і пачынаў уядаць залежна ад таго суразмоўцу ці падначаленага, страшыць, кпіць з таго і пагражаць.

Язэп Гутар моўчкі выйшаў з кабінета дырэктара. На падворку раптоўны прыступ слабасці і млосці ў страўніку зноў наваліліся на яго. Пацягнула на ваніты. Сліна была цягучая і з непрыемным пахам. “Вось і скончана ўсё”, – неяк раўнадушна падумаў ён. – Але самае галоўнае чакае яго наперадзе. Бо смерць, як ні круці, – найважнейшая падзея ў жыцці.

Ён раптам успомніў, як днямі, недзе ў нейкай брашуры, калі

набіраў, выпадкова вычытаў пра японскіх самураеў, якія ў момант крайняй небяспекі, у перыяд цяжкай хваробы, альбо перад рытуальным самазабойствам – сэппуку – стваралі кароткі верш, так званы дзісэй. Гэта ў брашуры падавалася ў карыкатурным выглядзе, са здзекам і кпінамі ў бок японцаў, – ужо рыхтаваліся да вайны з імі, але ён ведаў, што смяяцца над такім ганебна. Вядома, меркаваў цяпер наборшчык Гутар, самураі былі іншай веры, якая, як ён з цяжкасцю ўспомніў, называлася “хагакурэ бусіда”, і тое была хутчэй не веравызнанне, а нейкі вышэйшы маральны кодэкс. Але яму, хрысціяніну, веравызнанне ўвогуле забараняе самазабойства. Дык ён вольны ці не? Навошта ён пражыў свае сорак гадоў? Каб зараз пакорліва сыйсці нібы чарвяку ў гной, і ніхто ніколі пра яго не ўспомніць? – тужліва меркаваў ён.

Гадоў каля дваццаці таму Язэп Гутар, сын дробнага рамесніка з Беласточчыны, спакусіўся на заклікі савецкіх агітатараў і падаўся на Ўсход. Бацькі ўсяляк адгаворвалі яго, але хлопец не паслухаўся. У яго, праўда, хапіла розуму перайсці мяжу ноччу і не трапіць на вочы стукачам з памежных вёсак. Далёкі сваяк, канторшчык у горадзе, да якога ён абачліва спачатку з’явіўся, вельмі спалохаўся, аж збялеў, але спехам арганізаваў яму неабходную даведку, папрасіў толькі паклясціся, што ні ў якім разе яго не выдасць, і параіў адразу сыйсці, нават з’ехаць далей і там знайсці якую працу.

Ён і сам хутка зразумеў сваю фатальную памылку, але шляху назад ужо не было. Неяк, пад штодзённым страхам, упісаўся ў жыццё, ажаніўся, скончыў нават паліграфічную вучэльню.

“І гэта ўсё? – думалася цяпер яму. – Пражыць тут больш за два дзесяткі год у суцэльнай хлусні і страху? А неўзабаве спруцянець, і нават некалькі вершаваных радкоў, як у тых самураяў, пасля яго не застанецца?”

***

Рэдакцыя газеты, дзе знаходзіўся кабінет рэдактара Берасценкі і некалькі невялічкіх пакойчыкаў супрацоўнікаў, месцілася побач з друкарняй, амаль у цэнтры старой часткі горада. Раней, яшчэ да рэвалюцыйных падзей, тут, як казалі старыя, знізу быў шынок, а непасрэдна ў верхнім паверсіку – бардэль ці публічны дом, дзе гасцей і падпітых наведвальнікаў адразу сустракалі некалькі дзевак. Ззаду, у глыбіні – друкарня, а вышэй, на пагорку, грузна

стаяў Дом піянераў – былая сінагога.

Машыніст друкарні Гутар пакінуў за сабой прахадную і праз некалькі дзесяткаў крокаў апынуўся перад будынкам рэдакцыі. Боль у страўніку з новай сілай працяў яго, але ён стрываў. Дома вып’е чаго-небудзь: гарачай гарбаты, амаль кіпеню, ці шклянку гарэлкі. Тады яму звычайна станавілася лепей.

Унізе, у былым шынку, гандлявалі і цяпер. На палічках было бедна: слоікі з гуркамі альбо памідорамі, капуста, танны яблычны сідр ды гарэлка.

Язэп Гутар збочыў і падняўся па прыступках у рэдакцыю. Некалькі супрацоўнікаў абоега полу сядзелі за сталамі і нешта пісалі ці званілі па тэлефонах. Злева, у калідоры, за перагародкай чулася ляпанне друкарскай машынкі. Дзверы ў кабінет рэдактара былі зачынены. Гутар асцярожна пагрукаў і адчыніў.

Рэдактар райгазеты Берасценка сядзеў за сталом і чытаў гранкі. Мутныя яго вочкі, у кутках якіх кроплямі запёкся гной, утаропіліся ў наборшчыка. Рука звыкла зграбла пасмы валос і закінула іх назад, ад чаго агаліўся нізкі, на два пальцы, вузенькі лоб.

— Я што – выклікаў цябе? – незалюбіў ён.

— Сам прыйшоў. Ёсць, значыць патрэба.

— І што ты хочаш, Гутар? – незадаволена, і з прыхаванай зласлівасцю пацікавіўся рэдактар.

— Хачу дадому, – сказаў Язэп Гутар. – Мая змена даўно скончылася.

— А ты бачыш, што я зараз чытаю?

— Я дагары нагамі не бачу.

— Гэта як – дагары нагамі? – злавесна ўзняў галаў рэдактар Берасценка.

— Вы чытаеце ўжо ў чацвёрты раз.

— Нарываешся на тэрмін за такія размовы?

— Што так?

— Прамова самога таварыша Сталіна. І чытаць яе я буду і ў пяты, і ў шосты, і нават, калі трэба, у дзесяты раз.

— Я да раніцы сядзець і чакаць не буду. Падпісвайце нумар.

— А вось за такія контррэвалюцыйныя выказванні – дакладна сядзеш. У турму.

— Ня шыйце палітыку, — сказаў наборшчык Гутар. Боль у страўніку раптам адпусціў яго, і ён адчуў, што разам з ім знік і страх

— Няправільна, – з нянавісцю абвесціў Берасценка.

— І вас “закрыць” могуць, – аспрэчыў таго Гутар. – Ад турмы не заракаюцца.

Запанавала пагрозлівая паўза.

— Разбярэмся з табой. Але пасля. А цяпер пайшоў прэч. На сваё працоўнае месца.

І раптам роблена знарок:

— Лінію скажаць?! Партыі? Не дазволім!

К ночы, як на неба выплыла ярка акрэсленая поўня, рэдактар Берасценка прачытаў газету ў сёмы раз і, урэшце, падпісаў нумар.

Друкарня працавала. Наборшчыка Гутара зноў званітавала. Але моцнай слабасці, як апоўдні, ён чамусьці не адчуваў. Да гэтага часу ён ужо ведаў, што яму рабіць.

Ён пачаў лічыць. Імя Сталіна паўтаралася ў газеце трыццаць сем разоў. Язэп Гутар акуратна, імкнучыся не прапусціць, старанна перабраў кожнае. Ён спяшаўся. Змяняў літару “т” на “р”. Усяго адну літару. Трыццаць сем правак. Не так ужо і шмат.

... Машыны і механізмы між тым працавалі. Падвозіліся рулоны з паперай. Як ён ведаў, раніцай, а зверху, пачынаючы ад “самога”, патрабавалі, каб у падпісчыкаў да восьмай гадзіны ўжо ляжаў у паштовай скрыні свежы нумар, усе атрымаюць газету.

Язэп Гутар пайшоў дамоў. У сваім барачным пакойчыку наборшчык Гутар сабраў тыя-сія паперы, пісьмы і дакументы і ўсё спаліў. Потым прама наверх прылёг на свой жалезны жаўнерскі ложак, засцелены трафейнай нямецкай коўдрай і на нейкі час знерухомеў.

Ён думаў пра смерць. Пра тое, што бадай анічога ў свеце не вартае яе па значнасці. Успомніў, як памірала жонка. Лекара ён, калі б і хацеў выклікаць, то не здолеў, бо таго перадусім забралі прама з бальнічкі. Казалі потым звычайнае – быццам той аказаўся законспіраваным ворагам народа, агентам дэфензівы.

Жонцы станавілася горш з кожнай хвілінай, а ён не мог ёй дапамагчы. Фельчар толькі развёў рукамі. Позна. Дый у самога фельчара ў сумцы амаль не было ніякіх лекаў. Жонка працавала да апошняга. На фабрыцы за нявыхад заводзілі справу, і так усё і атрымалася.

Наборшчык Гутар успомніў, як трымаў яе за руку, дыханне ў яе станавілася ўсё больш цяжкім, з хрыпамі, а сэрца білася часта-часта, нібы стракатала швейная машынка. А потым яна глыбока ўздыхнула некалькі раз і – сцішылася назаўсёды.

Пачынала світаць. Праз акно ўжо віднелася шэрае неба без зорак. Кудысьці ў бок споўз месяц.

Наборшчык Язэп Гутар ведаў, што адбудзецца раніцай. Ужо хутка. Вельмі хутка. Калі пачнуць чытаць газету. Спачатку забегаюць шматлікія стукачы, пачнуць паведамляць у мясцовае ўпраўленне НКУС, альбо непасрэдна сваім куратарам. Стукачоў, на яго погляд, паўсюдна было як блох у бадзячай сучкі. Ніхто не давяраў нікому. Такі настаў час. У кожным квартале квартком з'яўляўся сакрэтным інфарматарам. Інфарматар, але ніжэйшага рангу, пражываў у кожным пад'ездзе, сачыў за жыльцамі. Любыя фабрыка, завод, калгас, налічвалі іх дзесяткамі. Былі інфарматарамі шматлікія вадзіцелі, паштавік, лазеншчык у гарадской лазні, дырэктары школ і некаторыя настаўнікі, святар у царкве, які абавязаны захоўваць таямніцу споведзі, але не захоўваў, і піянеры ў летнім піянерскім лагеры. Здаралася, брат даносіў на брата, а сват на кума. Асабліва іншым разам шчыравалі жонкі, абгаворваючы сваіх мужоў.

Вербавалі, вядома, і яго. У сувязі з характарам яго працы. Запрасілі ў кабінет да Шабуна. Начальнік райліту адразу выйшаў, а ён застаўся сам-насам з невысокім жукаватым чалавечкам у цывільным. Нягледзячы на знешнюю несамавітасць, ад нкусаўца, тым не менш, як ад атрутнага насякомага, дзьмула нялюдскім холадам і пагрозай.

Ён тады здолеў адхрысціцца. Нёс абы што, уключыў дурня, казаў, што як вып'е гарэлкі, то становіцца балбатлівым, а не піць не можа. Нкусавец, магчыма, і не паверыў, але адступіўся, ды ён ведаў – гэта не надоўга, будзе правяраць, капне раптам глыбей, і тады…

Хутка за ім прыдуць. Вядома, сёння ж забяруць і рэдактара Берасценку, магчыма начальніка райліту Шабуна і дырэктара друкарні Гурскага. Бадай што прыедуць дзесьці а восьмай, і ён пачуе. Невядома толькі, каго будуць увязніваць першым. Але ж для яго гэта не так ужо і важна. "Пара", – неўзабаве падумаў ён.

Наборшчык Язэп Гутар падхапіўся з ложка, дастаў з-пад яго сякеру, якой звычайна сёк на зіму дровы, і за грубкай на падлозе прыўзняў адну з дошак. Адтуль ён выцягнуў курковае паляўнічае ружжо шастнаццатага калібру, набытае раней у адзінокай старой, якая перыядычна ўпадала ў маразм, і нават не помніла, ад каго ёй тое ружжо засталося, і якое ён трымаў на ўсялякі выпадак. Цяпер такі выпадак надыйшоў. Але патронаў не знайшоў, як ні шукаў.

Ніколі ён не шкадаваў, як зараз.

Усё свядомае жыццё ён іх ненавідзеў. Прыгінаўся, хлусіў, хаваў свае думкі, рабіў памылкі і цяпер расплачваўся за іх. Але заўжды ненавідзеў. Ненавідзеў іх партыйныя і беспартыйныя кніжкі, ідыёцкія фільмы, сцяг, гімн і герб, песні і скокі дураплясаў, з'езды і канцэрты мастацкай самадзейнасці, армейскую службу. Чужынскую мову, якую прынеслі з Усходу. Усё.

Асабліва Вялікага Правадыра.

СРАЛІНА

Ён нават засмяяўся са сваёй прыдумкі, але нервовае напружанне змусіла яго адразу вярнуцца да сваёй галоўнай праблемы.

Як тым старажытным японцам, яму цяпер засталося толькі адно – сваё асабістае рытуальнае сэппуку, – меркаваў ён. Яны хутка прыедуць, выламаюць дзверы, і тады праблема вырашыцца сама сабой.

Ён хутка знайшоў нож і агледзеў яго з усіх бакоў. Лязо было вострае, шырокае і даўгое, прыблізна каля трыццаці сантыметраў, дзяржанне драўлянае, з жалезнымі заклёпкамі.

Наборшчык Гутар хацеў было спаласнуць нож вадой, але падумаў, што гэта ўжо нічога не вырашае.

Ён зняў з сябе кашулю, потым хэбэшную саколку, паклаў нож побач і стаў чакаць. Даўно развіднела, за вокнамі былі чуваць чыісьці галасы. Ён прыслухаўся, але за дзвярыма па-ранейшаму было ціха. "Машына, – падумаў наборшчык Гутар. – Яны павінны прыехаць на сваім улюбёным для такіх спраў "чорным варанку". Так трапна празвалі нкусаўскую легкавушку ў народзе. Іх будзе тры, альбо чацвёра. Звычайна, па чутках, пасылалі траіх.

Ён зноў праверыў ці добра зачынены дзверы. Хоць было даволі цёпла, цела яго, спіна, рукі пакрыліся халоднымі шурпаткамі, а боль у страўніку працяў з нечаканай сілай. Болю ён не жадаў, і таму вынуў з тумбачкі бутэльку, у якой яшчэ было на трэцюю часткі гарэлкі, і выпіў. Праз хвіліну боль адпусціў, але якраз у гэты момант ён быццам пачуў гук матора і насцярожыўся. Але зноў усё пацішэла. "Прыходу" ад гарэлкі ён зусім не адчуў, наадварот у галаве паяснела і думкі пацяклі акрэслена і павольна, толькі ў грудзях дробна дрыжэла, і рукі нервова соўгаліся, як у хворага на прыступ ліхаманкі.

Раптоўны стук у акно змусіў яго ўскочыць з месца, падысці ўсутыч да шкла і крыху адгарнуць край фіранкі. Праз вузкую шчыліну ён убачыў суседскага хлопчыка і адгарнуў больш. Хлоп-

чык нешта казаў, але ён не пачуў. Урэшце сэнс яго слоў дайшоў да свядомасці. Хлопчык паказваў у бок дзвярэй і вымаўляў амаль ужо крычаў адно слова:

— Запалкі! Адчыніце, дзядзька! Маці просіць пазычыць запалак! Так, запалак!

Перад тым, як адчыніць, наборшчык Гутар падышоў да другога акна (а іх у яго пакойчыку было два), і таксама адгарнуў фіранку. Акно выходзіла на падворак, і раптам у самай глыбіні яго, за клёнам і кустоўем акацый ён убачыў ледзь прыкметны “чорны варанок”.

І ён адразу зразумеў: яны прыехалі і, каб заспець яго знянацку, прымусілі суседскага хлопчыка канючыць пад акном. А самі, пэўна, ужо стаіліся за дзвярыма і чакаюць, калі ён адчыніць. “Слугі Сатаны, – успомнілася яму, – вось прыйшлі слугі Сатаны і павялі яго...”

Бязмежная туга нечакана ахапіла наборшчыка Гутара. Але марудзіць не выпадала. Ён адышоў падалей ад дзвярэй, сеў на падлогу з нажом у руках і пачаў думаць пра смерць жонкі і некаторых іншых людзей, адыход якіх з жыцця назіраў сам-насам. Ды часу ў яго ўжо не было – і думаць не выпадала.

У дзверы пастукалі. Але стук быў настойлівы і гучны – так не стаў бы грукаць хлопчык. Ён чакаў. На якую секунду-другую пашкадаваў, што не мае якой іншай агнястрэльнай зброі. Патроны! Куды ён дзяваў патроны? Іх, слугаў Сатаны, варта было сустракаць толькі так. Але чамусці ніхто навокал не сустракаў – ва ўсялякім разе такіх выпадкаў ён не ведаў, хоць і прыходзілі яны ўсё часцей і часцей.

Стук у дзверы перайшоў у грукат. Дзверы захісталіся, з трэскам паехалі ўбок, і у святле дня ён убачыў цёмныя постаці служак Сатаны: яны былі ў цывільным і з “наганамі” у руках.

І тады наборшчык Гутар аберуч узняў нож, і з сілай апусціў яго ў правы бок жывата, і адразу павярнуў, рассякаючы жыццёва важныя органы. Так, як рабілі гэта далёкія старажытныя ваяры.

# Алесь Емяльянаў

***

Чорна-бела-туманная кінастужка з гадоў трыццатых
у маім варыянце – нямая.
Клясычны трылер а ля Носфэрату.
Поўнач. Блукаю
па адным са сталічных заспаных мікрараёнаў
сярод дамоў, дамоў, дамоў,
дамоў, дамоў, дамоў!
Дамоў, дамоў, дамоў!!!
Дамоў зь якімі не заключыш.
Якія тут дамовы?!
Да мовы яны глухія…
Дамоў, як хочацца дамоў!
А дзе ён? Дзе твой дом?
У гаманцы худым–
няма ісьці куды.
Дамы, дамы…Суздром
дамы, дамы, дамы!!!
Праз трынаццаць узроўняў тыповага шматпавярховіка
не дакрычацца да Мы.
Як вусьцішна ў гэтай турме аднаму!..
Ты ня любіш хорару,
цяпер зразумела чаму.

## Мядзьведзікі

пытаеш як пішуцца вершы… а ў мяне замест тлумачэньняў суздром выклічнікі бо ня ведаю сушаных словаў якімі б можна было патлумачыць

чаму цвыркуны ў тваім пакоі цішыню цярэбяць бесперапынку і не бачаць што зьнізу на іх з прачуваньнем смачнай вячэры пазірае Урсула Ангелес Гансалес Туньён – павучок з паэтычным прозьвішчам

чаму на дасьвецьці стрымана-бледны месяц выводзіць на шпацыр малую мядзьведзіцу

варта зазначыць што зь мядзьведзямі ў цябе асабліва пяшчотныя стасункі

на квадратным мэтры тваёй канапы прапісаныя тры мішкі Гаммі і яшчэ адзін займае пачэсны пасад пасярод пакою суседзячы з цвыркунамі

увогуле – палова тваіх улюбёных мужчынаў – зь сямейства мядзьведзепадобных

мядзьведзянею

у час адзначаць камаедзіцу

***

Кастрычнік дыктуе сюжэты баляд,
журавы разьвітальна ўверсе картаваяць.
Паветра асьветлены п'ю дыстылят,
і адплёўваю жоўць тужлівых сьвітаньняў;

а цела гібее ў халоднай турме,
пад восеньскім сонцам, нібы пад прасам.
разьвітаньне на хвілю – маленькая сьмерць,
паміраю штодня безь цябе, а тымчасам…

кастрычнік дыктуе сюжэты баляд…

## Галіна Сеўрук

# З дзённіка студэнткі

4 верасня 1972

Доўгачаканае, выпакутаванае – студэнтка! Ды ці змагу вучыцца ва ўніверсітэце, ці хопіць здольнасцей, ці здолею арганізавацца... Зараз пачынаецца лекцыя – уводзіны ў мовазнаўства.

5 верасня

Падымаюся а палове сёмай. З Партызанскага праспекту ад дзядзі Андрэя – трамваем, да якога яшчэ дабегчы трэба, а пасля – тралейбусам. Філфак размешчаны ў цудоўным месцы. На Чырвонаармейскую з Ленінскага праспекта выводзіць клянова-каштанавы сквер і кожную раніцу я нібы заглядаю ў маё Дараганава. Пасярод сквера – незвычайнай прыгажосці фантан: залацістыя хлопчык і лебедзь нібы вось-вось вымкнуцца ўвысь праз густыя вершаліны... Амаль насупраць філфаку – Ленінская бібліятэка, самая галоўная ў Беларусі і ў якую запісваюць толькі на трэцім курсе....

І як пераадолець унутраную неразбярыху, хаос, які правакуецца, мабыць, і тым, што дзве гадзіны ў дзень забірае дарога – Заводскі раён, які ўсё ж чамусьці так не мілы мне – урэшце і тым (ці найперш?!!), што страшэнна цягне дадому... Студзіць няўпэўненасць у свае сілы. Можа, каб чароўным чынам магла адначасова заставацца ў дараганаўскай хаце і быць у Мінску, дык паспявала б значна болей. З Надзяй аказаліся ў адной чацвёртай групе!

9 верасня

Буду на кватэры ў Шушкевічаў! Дарагія Станіслаў Пятровіч і Кацярына Аляксееўна прапанавалі самі. І няёмка мне, але ж радарада. Цяпер я сапраўды змагу больш чытаць і грунтоўней

рыхтавацца да семінарскіх. Даезд за паўгадзіны без перасадак, буду сядзець увечары, колькі трэба, не хвалючыся за святло. І адчуваю сябе на Якуба Коласа вольна, амаль як дома, што найгалоўнае. Шчаслівыя Надзя, Ружа і ўсе дзеці, маючы **такога** бацьку, як Станіслаў Пятровіч. Вось і на мяне яго добразычлівасць, інтэлігентнасць распаўсюдзіліся. Як здорава, што падышла да яго тады, пасля школьнай сустрэчы з пісьменнікамі!..

12 верасня

Цяпер цяжэй сыходжуся з людзьмі. І мучаюць занядбаныя абавязкі, не выконваю належнае! Па сутнасці ж гэты тыдзень амаль не займалася і дарма спяшаюся апраўдаць сябе пераездам, уладкаваннем. Абсурд: раптам даходжу да таго, што “зайздрошчу” свабодзе тых, хто не паступіў! І якая туга па дому! Першыя дні вірам укруцілі ў сябе, а сёння душа проста дрыжыць, трымціць. Крылы б мне!.. Густая чалавечая плынь, у якой гублююся, адчуваю сябе адзінокай, чужой гораду. Ужо восень – спланіраваў пад ногі ў скверы мой першы жоўты кляновы лісток. У гэтых веліканаў такія ж далікатныя далоні, як і ў майго клёна над дараганаўскай вуліцай.

14 верасня

Учора, вярнуўшыся з заняткаў, застала старэйшага сына Станіслава Пятровіча – Станіслава Станіслававіча, вучонага фізіка, гонар усёй сям’і. Мне ўпершыню пацалавалі руку! Здаецца, больш з усіх пяцёх дзяцей ён падобны на бацьку.

16 верасня

Заўтра нядзеля – дадому б! Але не еду ні ў Дараганава, ні ў Мікалаеўшчыну на радзіму Якуба Коласа, бо не маю права, не заслужыла свята. Мушу ўвайсці ў адпаведны вучэбны рытм, а таму пакуль укладаць час не ў тое, што хочацца, а найперш – у неабходнае. Не апраўдвацца, не выскакваць наперад. Думаць найперш! Берагчы час, напаўняючы яго ведамі.

20 верасня

Божа мой, хоць бы адна жывая душа зразумела! Зноў у панцыры. Цяпер бы Эдварда Грыга, песню Сольвейг пару гадзін, як дома, паслухаць. Адчуваю сябе знішчанай дарэшты. Здаецца, што нічога-нічагусенькі добрага не змагу зрабіць у жыцці, што закон-

чаная дурніца. І так хочацца дадому! Але ж трэба неяк пераадольваць сябе. Толькі ці застануся я ва ўніверсітэце па першай сесіі? Адна латынь забівае. Проста жах. Як было сорамна сёння! Не хапае часу, каб вывучыць, вызубрыць. На семінары па гісторыі, праўда, “5” атрымала, але ж гэта адзнака ліпавая, хаця і адзіная ў групе. Не ведаю я па-сапраўднаму “Маніфеста”. І пара назусім усвядоміць тое, што вучыш не для адзнакі, а для сябе.

Нейкая зябрыстая паласатасць у душы. Няма жалезнай упэўненасці ў тым, што сапраўды трэба кожную раніцу ехаць на заняткі. І ўвогуле адчуванне, нібы выштурхнутая з каляіны сваёй, а цяпер як б’юся галавой у сценку, шукаючы яе, сваю адзіную сцяжыну.

Была ў Мастацкім музеі. Успомнілася, што ўпершыню гадоў сем таму, зусім дзіцём, з мамай і Васілём сюды патрапіла, калі яго, тады студэнта, пры нагодзе праведвалі. Шчаслівыя гараджане! Якія цуды чакаюць кожнага ў гэтым палацы. Пастараюся штотыдзень сюды заходзіць. Добра, што блізка ад філфаку. У гулкіх залах музея прасякаешся асаблівай свежасцю і нібы душа вызваляецца ад нечага чужога... Зараз бачу, што недарэмнымі былі мае намаганні ўвайсці ў гэты асаблівы свет праз рэпрадукцыі, кнігі. А чаго варты пераход-калідор з вучэбнага ў жылы корпус у Дараганаўскай школе-інтэрнат – сапраўдная галерэя, апынуўшыся ў якой першы раз, аб усім і аб самой сабе забылася. І якой ашаломлена шчасліваю знайшлася! Пазнаю ў музеі некаторыя творы. Асабліва крануў Максімаў з яго “Усё ў мінулым” – старая пані ў фатэлі пры ганку не маладзейшага дому, на століку пры ёй – філіжанкі з розных сервізаў, а побач светлыя фіялеты бэзу, які ўжо таксама старэча і цвіце з апошніх сіл... Добра было б асвоіць усю музейную экспазіцыю.

22 верасня

Знаёмства з Сцяпанам Іванавічам Ліхадзіеўскім, сябрам Станіслава Пятровіча яшчэ па даваенных гадах. Вяртаўся з адпачынку са сваёй роднай Случчыны ў Ташкент, дзе жыве даўным-даўно. Беларускі паэт, закінуты лёсам ва Узбекістан, вучоны-філолаг. Чаму даваенны час аказаўся такім нялітасцівым да цудоўных, інтэлігентных людзей?! І трэба маўчаць аб гэтым, не распаўсюджвацца, паабяцала.

25 верасня

Уразіў святочнасцю, нават велічнасцю Оперны тэатр. Купіла два білеты на "Пікавую даму" Пятра Чайкоўскага, каб смялей было, удвух з Ігарам пайшлі. Першакурснікі, студэнт-перакладчык Інстытута замежных моў і студэнтка філфака БДУ, ідучы на спектакль, разважалі, як патрапіць на свае месцы, бо што ж гэта за бенуар, як пазначана ў білетах. Ведалі, дзе партэр, бельэтаж, балкон, а вось бенуар... Доўга шукаць не прыйшлося! І аказаліся ў зусім іншай прасторы, вытанчанай, святочнай, так аддаленай ад асабіста маёй рэчаіснасці. Вельмі дарэчы было, што якраз з бенуара, адкуль увесь партэр і сцэна ахопліваюцца, і адбылася першая сустрэча з гэтым дзівосным светам. У нішы перад сцэнай – аркестр, паслухмяны рухам дырыжора (жанчыны!), цёмна-бардовая цяжкая аксамітная заслона, за якой – таемнае таемных... Колькі ж мне расці яшчэ душою, каб хоць наблізіцца да адпаведнага ўспрыняцця оперы! Рада, што хочацца ў гэты Храм Мастацтва. Хай сабе Папялушкай сярод элегантнай публікі і дрымучым неафітам у оперы. Знаёмства з балетам яшчэ наперадзе!

4 кастрычніка

Учора, дзякуючы Станіславу Пятровічу, патрапіла ў Драматычны тэатр імя Янкі Купалы на вечарыну, прысвечаную 60-годдзю з дня нараджэння Максіма Танка. Сам ён такі магутны, прыгожы. Жывы класік. Выступалі "Песняры"! Раптам як азарыла: мне кепска найперш таму, што я жыву цяпер толькі для сябе, ніякай грамадскай працы. Усё ў чалавеку павінна быць падпарадкавана галоўнай мэце, якая заключаецца ў служэнні іншым людзям дзеля агульнага шчасця, пераадолення ўласных хібаў, умацавання дабрыні.

8 кастрычніка

Як хочацца дадому!!! Па плану мелася паехаць, а сяджу ў бібліятэцы на бульвары Талбухіна. Мама расхвалявалася і бацька адразу раніцай патэлефанаваў. А ў мяне ком у горле, што і гаварыць цяжка. Так суха-суха адказвала, а на вочы слёзы навярнуліся.

*А.М. Горький*: Говори только о том, о чём не имеешь права молчать.

*К.Д. Ушинский*: Воспитание не только должно развивать разум человека, но должно зажечь в нём жажду серьёзного труда, без которого жизнь его не может быть ни достойной, ни счастливой.

*А.М. Горький*: Если я не за себя, то кто же за меня, но если я только для себя, так зачем я?

*В.Г. Белинский*: Кто не идет вперед, тот идет назад, стоячего положения нет.

*А.К. Толстой*: У кого большой ум, тому надо ещё больше ума, чтобы управлять этим умом.

11 кастрычніка

Мастацкі музей. Перасоўнікі-партрэцісты. Як навучыцца адрозніваць пэндзаль Крамскога і Рэпіна, Пярова?! Ледзь-ледзь мільгаціць штосьці, але пакуль што вельмі невыразна... Ад мамы ліст і тужліва-тужліва светлым сумам...

17 кастрычніка

Як сорамна! Як можна выкарыстоўваць добрыя адносіны да цябе людзей! Ганьба! Вучыць deutsch!

Зноў кепска, баліць сэрца. Жыццё здаецца недарэчным, непатрэбным і згасіць яго нібы так проста, лёгка. Бязглуздыя думкі, пэўна ж, але, што надакучлівыя мухі, лезуць у галаву. Я цяпер не чалавек, а штосьці брыдкае, ліпкае. Час коціцца надарэмна. Паўсюль фармалізм. Як жыць без веры ў сапраўды светлую будучыню?

18 кастрычніка

Восень скінула на зямлю амаль усё лісце. Ляжыць бездапаможнае, уздрыгвае, час ад часу ўзнімаецца, падлятае, адзываючыся на парывы ветру і, здаецца, іstава просіцца-просіцца ўгору, каб надалей шапацець густой кронай. Вечная змена, да якой не прывыкнуць!

Як сіратліва, адзінока! Хочацца да моцнага, добрага чалавека, які ведае, калі не ўсё, дык хоць бы шмат пра жыццё, каб дапамог зразумець, чаго ж я ўрэшце хачу, што мне трэба?! Сяджу над цудоўным Паўстоўскім. Выкладчыца філасофіі ўзрадавалася, калі пачула пра маё ім захапленне і дала заданне напісаць рэферат пра аўтабіяграфічныя аповесці Канстанціна Георгіевіча. І як жа мала я ведаю і магу...

31 кастрычніка

І лейтматывам з дня ў дзень маё **кепска**, проста фізічна. Чаму??? Не вучыцца, а ў чацвер залік па ўводзінах у літаратуразнаўства. Дадому б!

Такое адчуванне, нібы жыць застаецца зусім мала... Аказацца б на бязлюдным востраве, чытаць, думаць і каб не білі па душы. Днём прылегла і ў кароткім сне нечакана давялося скакаць са скалы. Хочацца чагосьці незвычайнага, а можа і звычайнага, чаго мне не хапае?! Завалю залік!

8 лістапада

Другі дзень дома. Заўтра ў Мінск. Сентыментальнай я стала, а папракаюць у "ідэйнасці". Не пайшла на складчыну. Трэба было б насілу ўсміхацца, засланяючы сваю маркоту. Размовамі пра махеравыя шапачкі і лакавыя боцікі запаўняць пустоты часу. Няўжо і я сыйду на ўзбочыну і буду проста спаглядаць халоднымі патухлымі вачыма як сапраўднае жыццё імчыць наперад... Стан, у якім ні холадна, ні горача – тленне, жыццё ж даецца толькі аднойчы!

12 лістапада

За вакном колькі гадзін ужо ліе дождж. Крышталёвыя пасмы сцякаюць юрлівым срэбрам, як спяшаюцца некуды, такія дапытлівыя, пяшчотныя. І здаецца, нібы хтосьці лашчыць тваё сэрца. Музыка непагоднага і такога святочнага дня ахоплівае душу. Як жа гэта здорава – жыць! Вось яно, шчасце! Дождж ручаямі сплывае па асфальту. Хочацца кінуць зубрыць і рынуцца на вуліцу. Невядома куды, блукаць, вымакнуць пад гэтым срэбрам, намерзнуцца, а ўсё адно любіць насупленае хмарамі неба над галавой.

14 лістапада

Зноў цягне штосьці горкае, бунтарнае знутры. Хочацца так шмат сказаць, а слоў няма... Адбываецца самае кепскае зараз – не хочацца жыць. Нейкія нядобрыя прадчуванні, што і так душы ўжо нядоўга хвалявацца. Перакананне, што мала засталося жыць і або гэта адбудзецца ў прамым сэнсе, або маё цяперашняе існаванне цалкам зменіцца... У суботу была ў Мастацкім музеі. Не хапае музыкі. Сесію, відавочна, толькі на траякі здам. Сціснуўшы зубы, можна хіба з горам папалам заглушыць, прытаптаць парыванні душы. І адчуваю няпраўду ў такім насіллі над сабой жа. Цалкам зразумела, што дзейнічае разбуральна адсутнасць род-

нага, свайго. Чалавек павінен кахаць. Ці хоць бы ўявіць сабе, што кахае. Тады лягчэй рабіць належнае.

20 лістапада

Адразу ўлюбілася ў цырк! Учора з Ірай і Васем былі. Сядзелі паблізу ад арэны. Якія на ёй смелыя людзі, валявыя, аддадзеныя справе і гэта захапіла не менш, чым само такое разнастайнае відовішча. Захацелася ўвайсці ў псіхалогію, пабачыць у штодзённым жыцці гэтыя цудоўныя твары. Так што ў цырка з'явіўся яшчэ адзін верны прыхільнік. Увогуле пайсці б папрацаваць у цырк, хоць бы прыбіральшчыцай. Цырк нібы асобная дзяржава. У ёй, відаць, свае законы, свае каштоўнасці.

4 снежня

Ужо пасля дзевятай увечары пехатою прыйшла з Асіповіч. Спазнілася на электрычку, каб паспець на дызель слуцкі, а так хацелася дахаты, да мамы! Дваццаць кіламетраў за чатыры гадзіны. Нацерла страшэнныя мазалі. Не ведаю як абую заўтра боты. І магу сказаць, што слабачка я. Колькі разоў хацелася сесці, закрычаць невядома на каго і на дробнае каменне, што проста цiснулася ў боты. І толькі імёны Людзей штурхалі мяне наперад. Я хіба не змагла б так, як Зоя Касмадзем'янская, Валерый Banівур, Улляна Громава. Не вытрымала б годна болю. Ведаю, што не выдала б нікога, але крычала б, плакала.

І якая радасць — быць дома! Магу з'яўляцца да бацькоў толькі з добрымі настроем і навінамі. Яны, а дакладней мама, толькі і жывуць тым, што патрэбныя нам з Васілём. Бедная мая мілая мама... Прыходзіць час, збірае ў сумку ўсяго патроху, шые які кабацік, нешта з бялізны, каб праведаць бабку Насту, якая зусім адна засталася па трыццатых гадах і вайне, а раней, як жыла, і да бабкі Нінушкі са Смаленшчыны хадзіла, на жаль, так, каб толькі бацька не ведаў... Застаецца чыстай, вернай дабрыні ў сабе насуперак усім бядотам, болю. Мне прыкладам і надзеяй, што і ўва мне перамогуць менавіта яе гены...

6 снежня

Хочацца вялікага, чыстага пачуцця, хочацца ласкі, ды такой, каб адтаяла захаладзелае сэрца. Хочацца кахаць! Якое шчасце – кахаць! А калі кахаюць цябе, а ты не можаш адказаць узаемнасцю, вельмі ж горычна. Так цяжка цяпер з Х. Мушу пры су-

стрэчы кожную хвіліну стрымлівацца, каб якое маё сяброўскае слова, жэст не былі ўспрыняты неадпаведна іх зместу. Калі на кімсьці даўжэй магу затрымаць пазірк, узяць за руку, то тут зусім іначай, а добры ж, вельмі разумны, здольны ён хлопец і заслугоўвае, каб яго пакахала найлепшая дзяўчына. Будзе так!

12 снежня

Мой час працякае скрозь пальцы. Не паспяваю! Атрымала ліст ад С. Мілыя памылкі, мазня, закрэсленыя словы, якія так хочацца разабраць. І накаціла хваля пяшчоты. Не ведаю, кім ён мне пакуль, але баюся яго страціць. Дзіцё дзіцём я.

15 снежня

Тэлефонная размова. Лепш бы ён хутчэй прыехаў! Навошта гаварыў такія запаветныя словы? Не трэба па тэлефону, гучна. Стараюся ўбачыць твар і не магу. Мільгануць агульныя абрысы, касцюм, плашч, а твару няма. Дзесьці далей фота. Як я экзамены буду здаваць?! Пытаннейка.

16 снежня

Цяпер бачу твар С. Ледзь не ўпала, калі прынеслі ад яго тэлеграму. І ўсё адно кепска, але не так, каб лезці на сценку...

19 снежня

Аляксандр Грын – адзін з рэдкіх людзей – да глыбіні душы рамантык. Асоль, пунсовыя ветразі. Хочацца верыць у трыумф цудоўнага, сапраўднага. Добра, што С. ёсць, але сёння дзіўны настрой. Быццам бы наступае новая фаза ў адносінах да свету ўвогуле. Трэба крытычней адносіцца да сябе.

20 снежня

Гультайнічаю. Была адна пара з 12 гадзін. Потым заканспектавала артыкул па фальклору. Потым а 16-ай – кансультацыя па зарубежнай літаратуры. Напалохаў нас шаноўны Лапідус. Кіламетр пісьменнікаў – і кожнага гады жыцця трэба ведаць, а імёны багоў і міфы! Зарубежную здаём 30 снежня. Жах! Атрымаеш незалік і ў новы год з ім пойдзеш. Яшчэ і да сесіі не дапусцяць. 29-га ўсе нармальныя людзі заканчваюць заняткі, а мы, чацьвёртая група, перад самым Новым годам, зубры антычную зарубежку. Як

хочацца дахаты! Адчуваю, што зноў пехатою дваццаць кіламетраў давядзецца прайсціся. 1973-ці хачу сустрэць толькі дома!

24 снежня

Ці кахаю я С.? Ды і ці здольная я кахаць?! Ува мне нібы жыве каханне і я пераношу яго з аднаго чалавека на другога. Баюся, што калі прыедзе С., ужо (ці раптам) буду іншай... Увогуле як раскідаюся – то бачу сябе за настаўніцкім сталом, то ў рэдакцыі, то яшчэ немаведама дзе. Адно, другое мне патрабуецца, а ў выніку падманваю сабой іншых. Ніякага пастаянства, ніякай сістэмы. Як жа цяжка жыць так. Вечнае імкненне да нечага. Да чаго?! Часам адчуваю сябе дзіцём, а пасля імкліва дараслею. Прага адкрыцця нечага незвычайнага.

25 снежня

Здаецца, што горш ужо быць не можа. Прысутнасць Н. прыгнятае. На ўводзінах у літаратуразнаўства добранька пачырванець давялося. І вечнае маё: штосьці не так сказала, не так паглядзела, кепска падумала ды паказалася, што яшчэ нехта коса паглядзеў... Але што гэта значыць для шчаслівага чалавека! Дробязі. А калі кепска, дык і яны раз'ядаюць. Якая бездапаможнасць, так хочацца схавацца за шырокія плечы, адагрэцца, адплакацца, аджаліцца. Ды такіх плячэй няма. Як добра было марыць аб высокіх матэрыях, быць чыстым чалавекам... Не магу адказваць на дзёрзкасць дзёрзкасцю. Толькі з вялікай напругай. Як кепска! Не хочацца жыць. Толькі мама нібы трымае за руку. Баюся скрыўдзіць яе, і так скрыўджаную ўжо абставінамі. Хіба дадзена шэраму чалавеку, накшталт мяне, штосьці ў плыні жыцця выправіць? Навесці парадак хоць бы ў сабе... Не хочацца жыць! Колькі яшчэ можа вынесці мая душа?!

С. мяне не разумее. Хоць нават і зараз ведаю, што наплыве іншы настрой і буду ўсміхацца, радавацца, але ж пасля зноў пакуты...

29 снежня

Заўтра – зарубежка. Прастуда, якой даўно не было. Побач Новы год. Утульнае, мілае свята, але цяпер як бы не ўспрымаю яго. Заледзянелая. Вось ужо год як проста існую. Я не жыву цяпер. Бясконцыя трывогі, гэтае вызначэнне месца, а пасля барацьба за яго – далося мне ў знакі паступленне ва Універсітэт. Новыя людзі,

туга па дому, уласная бездапаможнасць, азмрочваюць праблемы ў Н.П., Л.У., Мілы, Галі. Ці здам залік?!

31 снежня, 22.20

Апошнія гадзіны старога 72-га года. Як бы і не паспела прывыкнуць да яго. І доўгі ж адначасова. Колькі працы, сіл пакінута на яго сцежках! Вось зараз здаецца, што паласа няўдач прамінула, але ж я не ўяўляю сабе, што чакае мяне ў 73-ым. Невыразныя абрысы і толькі. Божа мой, няўжо будзе сустрэча з С.?! І няўжо ўсё будзе добра? Першая сесія. Трэба шмат паспець. Не губляць дарэмна час. Паболей чытаць, думаць. Быць сумленнай. Вынікі 72-га – асноваю 73-га...

## 1973 год

1 студзеня

Было пачуццё незвычайнай лёгкасці. Упершыню, здаецца, колькі сябе памятаю, такі настрой на сустрэчу Новага года. Дома. Пахкая зялёная прыгажуня ў гістарычных ужо шарах, ліхтарыках, чайнічках... І пачуццё адзіноты, шчыміць у грудзях. Сяджу над канспектам, уводзіны ў літаратуразнаўства. 6-га – першы экзамен. Мы адказныя за тых, каго прыручаем. Цудоўны Экзюперы. Дык навошта прыручаць, калі ведаеш, што кінеш...

6 студзеня

Як ні дзіўна, але ў залікоўцы – “выдатна”. Мовазнаўства хоць бы на “4” здаць, на стыпендыю выцягнуць. І незадаволенасць сабой. Нейкія спажывецкія тэндэнцыі, зашмат чакаю ад людзей і недастаткова патрабую ад сябе. Толькі охаю і ахаю. Супярэчнасці распінаюць. Страшна, што раптам падманваю С.

7 студзеня

Не ведаю, куды сябе падзець. Спустошанасць пасля экзамена. Вылажылася. У бібліятэцы сёння не было месца. Іры, Тані не аказалася дома, а адной у кіно ісці не хацелася. Паездзіла трамваем, а вярнуўшыся, запала ў Ясеніна. Надзя з Ружай паміж сабой размаўляюць. На сцяне — незвычайныя зменлівыя выявы, маляваныя сонцам кароткага зімовага дня. У Васіля сёння дзень нараджэння. Добра мець старэйшага брата!

8 студзеня

Намаганнем волі займаюся. І чаму мне так кепска? Проста мутарна. Чытаю зусім няўважліва. Трачу дарэмна гэтулькі часу. Дурное дзіця! Рака выходзіць з берагоў вясною. Пачакай хоць да салаўёў! Як няўтульна мне зараз на белым свеце...

11 студзеня

Тэлефонная размова з Оляй, дакладней, яна, студэнтка- першакурсніца фізфаку, карэнная мінчанка, пераважна гаварыла і вельмі разумна, зразумела. А я адчувала сябе дзіцёнкам, бездапаможным і наіўным. Няўжо яна нада мной смяялася? Мая нявызначанасць, стыхійнайсць і гэта амаль у васемнаццаць год! Хоць і здольная ж разважаць, а такая раптам бездапаможнасць.

12 студзеня

"Добра" па мовазнаўству і кепска ў душы. Дома. Раздражняюся па дробязях. І разам з тым не рэагую на добрае. Вярцелася ў новым касцюме перад люстэркам, а потым стала прыкра. Анучніца! Хоць, хіба ў прынцыпе кепска, калі чалавек хоча быць элегантным, прыгожа апранутым і г.д.! Але ўсё адно прыкра за сябе. Нібы гэта і не я. Хутчэй бы здаць экзамены, прабегчы канікулы і зажыць па жалезным распарадку, не выхіляючыся ў розныя там унутраныя рэфлексіі. Пісаць і атрымліваць лісты, верыць у каханне. Цяпер жа – чытай канспект па гісторыі!!!

21 студзеня

Так хочацца ўбачыць С.! І што гэта сёння са мной? Вялікая, светлая туга. Палажыць бы галаву на роднае плячо... Страшна страціць яго, не сустрэўшыся ўжо ў гэтым дарослым свеце. І ўсё адно пакідаю сабе масты для адступлення. Хочацца быць прыгожай – для яго, разумнай – для яго. І сорамна, і балюча за сваю тупасць. С., прыязджай хутчэй! Твайму Вугальку цяжка.

26 студзеня

Першы дзень канікул. Вынік сесіі: тры "выдатна" і адно "добра". Нашмат лепш, чым я чакала. Будзе стыпендыя! Бацькам таксама радасць. Ды туга даймае. Цяпер так трэба было б пабачыць С., паглядзець яму ў вочы. Як холадна, сумна сярод знаёмых. Пакуль што я не ўвайшла ў новы гарадскі свет з яго адкрытасцю ў свет мастацтва, ведаў, але адарвалася ад свайго

ранейшага, прыроднага і, здаецца, больш натуральнага. Чужая яшчэ гораду і не свая ўжо тутэйшаму. Целяпаюся як паміж небам і зямлёй. Ці некалі згарманізуюся?!!

1 лютага

"Свежей прохладой веет в лицо мне февраль/ Новых желаний не надо, прошлого счастья не жаль" – Валерыем Брусавым распачынаю свой месяц. Сёння хацелася пісаць вершы. Нават паспрабавала. Паплылі вобразы. Сапраўды, чаму сніцца пасярод зімы квітнеючы, духмяны травень? Каб жа мне быў дадзены голас, каб магла спяваць! Фальклорная практыка ўвогуле сябе апраўдвае. Адчула, як шмат значыць для маіх халькоўскіх цётухн песня. Вочы загарэліся, а цёця Маня ледзь не расплакалася. Сапраўды, з песняй у іх звязана ўсё жыццё. Такія дарагія яны, натомленыя жыццём, адны вузлістыя рукі чаго вартыя, а з душой вялікай, святлістай.

На каньках навучылася-такі катацца! Перамога. Нават здорава бегаю. Толькі вось сіл малавата. Рака заледзянелая. Дзе-нідзе праз празрысты лёд прасвечвае жаўтлявае дно, застылыя цёмныя водарасці. Хочацца з пяшчотай гладзіць замураваную марозам плынь пцічанскую. І кліча ўжо Мінск.. За вучобу. І ў тэатр. Оперны!

4 лютага

На вечары сустрэчы з выпускнікамі ў мяне папыталіся, ці не выпіла я чаго моцнага. Сапраўды, была як навесяле, але ж увогуле ніколі яшчэ не спрабавала нечага градуснага! Не ведала пра сябе, што магу так дурэць. І, мабыць, учора я магла альбо сядзець і плакаць, альбо вось так свавольнічаць. Сноўдаюся без справы. І не знайшла нічога лепшага, як заняцца самааналізам. Такое пачуццё, нібы дзяруся на горную вяршыню. Пакуль ёсць сілы, а магу сарвацца ўніз. Не спіцца начамі. Чаму? Туга па С.? Не ведаю. І хочацца то рагатаць, то румзаць. Так, наплакацца б, а не атрымліваецца. Цяжка...

6 лютага

Быццам бы аціхаю. Ад бурнай узбуджанасці вяртаюся да раўнавагі. Чаму быў такі стан? Але ж не дай бог яму паўтарыцца. Праўда, месяц таму таксама штосьці падобнае было. Ды цішэй і гадзін восем працягвалася, не болей, а тут трое сутак. Уласна

пакуль яшчэ не зусім цішына і спакой. І калі гэты стан уздумае вярнуцца, магу звар'яцець!

9 лютага

Раптам пацягнула напісаць апавяданне. Не заметку ў газету, а штосьці сапраўднае. Хіба першы за паўгода выразны творчы настрой. Дзесьці ў душы затаілася чаканне свята. Даўно не адчувала сябе такой унутрана чыстай. Шмат трэба паспець за гэты семестр. Зарубежная літаратура, жывапіс, музыка, а культура паводзін! За класікаў вазьмуся, калі пацягне. Стала часцей давяраць унутранаму голасу, а не розуму, галаве. Нібы стыхійнасць, але іншага характару, чым раней, адчуваю пэўную ўпарадкаванасць. У газеты пісаць не хочацца, бо за паверхневым глыбіня губляецца, штампамі абрасла. Хутка, праз восем дзён, васемнаццаць гадоў! Як шмат! Жыву цяпер нібы ў сне. І дзіўна, што за мінскі час дурнот нейкіх не зрабіла, абышлося. Не хапае ведаў! Баюся на ўсё жыццё застацца дылетантам.

16 лютага

Сёння апошні дзень маіх **сямнаццаці!** І нічога асаблівага не адбываецца, хоць ніколі не паўторыцца ж гэты год. Як можа проста так прабегчы гэты дзень?! Ды сыходзіць. Тужліва-радасны сум. Мае мілыя бядовыя 17... Не, іншы быў настрой перад 17-годдзем. Прыцціхла я, ураўнаважваюся.

17 лютага

І вось сталася – з сённяшняга дня я паўналетняя. Значыць, мушу адказваць менавіта сама за ўсё ў сваім жыцці. Радасці ўсепаглынальнай няма. Не хапае С.

18 лютага

Не, духоўна я да васемнаццаці яшчэ не дарасла. Чаму не адзначаюць, як свята, нараджэнне ў чалавеку здольнасці разумець сябе і свет? Гэта ж значна важней, чым знешняе дасягненне паўналецця. Падумаеш, падзея, што я нарадзілася! Проста смешна. Можа, нехта іншы на маім месцы жыў бы значна правільней, разумеў патрэбы людзей.

23 лютага

Прачытала “Русский лес” Леаніда Лявонава. Моцнае ўражанне.

Ад С. няма лістоў. Раптам хварэе?! Больш нічога не хвалюе. Нават не страшна, калі раптам, ды і не раптам, расчаруецца ўва мне. Галоўнае, што кахаю. Ідэал? Ну і што. Мілы мой хлапчук. Трэба з галавой увайсці ў вучобу, у самаадукацыю. Вучыць deutsch! Праясняецца штосьці вялікае, значнае. І так ёсць, што іншым многае даецца без намаганняў, а мне каштуе нерваў, трывогі і трэба гэта ўлічваць...

У Оперны проста цягне. "Лебядзінае возера" – ад гэтага балету Чайкоўскага не адарвацца і слыхам, і зрокам. Музыка, танец, стаяць перад вачыма цудоўныя лебедзі...

На маральныя тэмы на сходзе лепш не выступаць. Словы здаюцца прыгожасцямі і не больш. Патрэбна штосьці іншае. Што там дома? Усім здаецца, што я вельмі шчаслівая: жыву ў чыстаце і спакоі. Пераконваць у адваротным не мае сэнсу. Нырнуць цалкам у свет цудоўнага – вось мае выратаванне.

26 лютага

Вось так, выскачка. Па-дзіцячы, пэўна ж. І не можа быць так, каб не мелі рацыі ўсе апроч мяне. Ды я хачу як мага болей ведаць. Дзяўчатам жа абы толькі дзень пражыць. Шкада, што не разумеюць. Ну, у гэтым мала іхняй віны. Не кожнаму ж шанцуе быць здзіўленым светам ад нараджэння. "О, я хочу безумно жить! Всё сущее увековечить..." – любімы Блок так хораша перадае і маё высокае імгненне. Увесь свет, здаецца, абняла б!

Адчуванне, нібы хтосьці за мной назірае. Давяраюся пачуццям. Штурханула выйсці з тралейбуса, не даехаўшы да свайго прыпынку, калі ласка. На семінары па рускай мове думалася, што лепш, каб ад С. і не было сёння ліста. Аказваецца, што калі-нікалі і нешчаслівай сябе адчуваць прыемна. Такога яшчэ за сабой не ведала.

3 сакавіка

Вясна, сонца, усё ззяе, а я мучаю свой час. Сорамна. С. не піша, не буду і я. Хвалююся і губляю сілы. Пакірую ў аэрапорт да самалётаў. Калі б грынаўская Асоль жыла не на беразе мора, а ў вялікім горадзе, яна чакала б свайго капітана ў аэрапорце...

12 сакавіка

Выдыхаюся. Разам з С. сыдзе лепшая частка душы. Мы ж яшчэ дзеці, і ён, і я. Боль, туга, нібы ён ужо не са мной. Пісаць яму не

магу, пакуль не атрымаю ліста. Можа ён сустрэў сапраўды свайго чалавека. Не хачу замінаць яму. Няўжо праклятая адлегласць валодае такой разбуральнай для пачуццяў сілай? Пуста без яго. Ды буду працаваць над сабой, хоць дзіўна, як удаецца хадзіць з такой ранай. Усміхаюся, бянтэжуся і ненавіджу сябе, залятаю ў нябёсы дзякуючы Баху і Моцарту. Арган – цуд! Набыла абанемент на вечары арганнай музыкі ў Філармоніі.

14 сакавіка

Дзеці – неалагізмы жыцця. Ёсць людзі, якія застаюцца імі на ўсё жыццё. Гэта людзі асаблівыя, геніі – вядомыя і прыхаваныя. З імі лёгка дыхаецца... Жыву як заведзеная, ад раніцы да вечара. Баліць.

15 сакавіка

С. напісаў: “Бывай”. Сустрэў Ірынку. Мне ж раптам палягчэла. Перарвалася пакутлівае чаканне лістоў. Больш за ўсё хачу, каб ён быў шчаслівым. Хоць і дрэнна мне сёння. Найгорш, што не магу плакаць. Але трэба жыць. Прадчувала. Як кепска ўсё ж ён мяне ведае. Маўчаў аб новым пачуцці, спадзеючыся, што я забуду яго. Мілая наіўнасць – за тры тыдні! Чаму адразу не напісаў? І хіба можна ненавідзець тую, з якой ён шчаслівы... Паспяшаўся гаварыць мне ласкавыя словы. Пясчынкай адчуваю сябе зараз. Спачуваю яго няёмкасці перада мной. Сэрца ўсё ж разбалелася. Не, шчасця мне не бачыць. Шчасце, узаемнае каханне не для мяне. Страшна разуверыцца. Людзі самі ствараюць свае замкі, паветраныя або на пяску, іншыя – на ўстойлівым грунце. Я будую на пяску. Жыць далей. Добра было б радаваць людзей, але для гэтага трэба быць асаблівым чалавекам, а я... Хлапчук яшчэ С. Такім чынам, я ля разбітага карыта. Цікава ўсё ж, якая яна, гэтая Ірынка... Навошта ён тады напісаў у снежні, пасля такога перапынку? “Не тянитесь к прошлому, не стоит./ Всё иным покажется сейчас/ Пусть навеки самое святое неизменным остаётся в нас”, – памятаю заўсёды гэтыя радкі Юліі Друнінай, а цягнуся, перакідаю масты. І што мае развагі, я ж кахаю яго. Ды паштовы раман закончаны.

19 сакавіка

Боль неяк прыгас. Вызваленне, лёгкасць. Чытала пра Кромвеля. Сёння ўзнікла прадчуванне, што абавязкова напішу нешта,

быццам ёсць што сказаць. Вісарыён Бялінскі расшыфраваў мае адносіны з дзяўчатамі. Ёсць штосьці няўлоўнае, што незразумелае для іх, а большасць людзей не церпіць перавагі ў сабе падобных. Чытаю з асалодай, канспектую Бялінскага, хачу па чарзе ўсе яго тамы асвоіць. І вяртаю сябе сабе...

20 сакавіка

Прагуляла дзень. У стаматалагічным кабінеце на крэсле расплакалася. У мяне заўсёды так: моцны боль с усмешкай, а па дробязі... Даўно не плакала і здавалася, што развучылася. Выпадкова сфатаграфавалася. Раптам думка пра тое, што з С. сапраўдныя адносіны могуць адрадзіцца толькі праз працяглы час, што яго будзе абцяжарваць гэтая “чысціня” мая...

22 сакавіка

Вымакнуць да нітачкі пад залевай. Маланкі, грамы. Чыстыя-чыстыя ручаіны. Стаць бы маленькім караблікам...

25 сакавіка

Учора глядзела фільм “Зямля да запатрабавання”. Божа мой, якая мужнасць! Чаго вартыя ўсе мае мітуслівыя хваляванні, трывогі ў параўнанні з такім жыццём.

Хочацца быць адной. Быццам страціла штосьці. Страціла. Ведала, што ўсё закончыцца нулём. Раздзьмухаў вугалькі вецер і паляцеў далей, а касцёр шугае.

29 сакавіка

С. нібы мроя. Воблака на даляглядзе... Гэта цудоўна, калі каханне ўзаемнае, але мой стан таксама мае свае перавагі. Свабода. Калі чалавек шчаслівы, ён не разважае аб незалежнасці. Трэба вучыцца знаходзіць станоўчыя моманты ва ўсім. Каб жыць. Крайнасці патрэбны, як берагі, каб было ад чаго адштурхнуцца на працяг руху.

Дні нацягнуты, што струны. Ледзь адпусціш і зафальшывіць гук...

6 красавіка

Як кепска гэтыя дні! Не хочацца жыць. Нягеглая, слабая. Застой. Дэпрэсія. Няма чалавека, якому сапраўды была б патрэбная. Няма для каго станавіцца лепшай. Як лёгка мяне зараз пакрыў-

дзіць... Былі групай у Хатыні. Бярозы здаля ў бэзавай аздобе. Хатынь – рэквіем. Хацелася пагладзіць зямлю Кургана Славы. І туга, горш, чым туга. Толькі думка аб тым, што мой сыход успрымецца занадта балюча, ненатуральна, стрымлівае ад непапраўнага кроку.

12 красавіка

Ён сказаў: “Галка, я болей не магу. Чуеш? Цалую...”. Недзе а 12 -ай уночы Станіслаў Пятровіч паклікаў мяне да тэлефона. Слё-зы. Наіўная, кахаю. Яшчэ думаю, ці не прыснілася мне гэта размова... Уласна нічога ж не змянілася. Проста стала весялей і трывожней. Як добра, што ён пазваніў! Ад адзіноты можна кінуц-ца ў чужыя грубыя абдымкі, а пасля шкадаваць аб непапраўным.

14 красавіка

Вінаватая. С. дрэнна, а я міжволі не даю яму апраўдацца, пакаяцца... Вольга хоча выходзіць замуж, бо нібы сумна жыць. Вядома, крыху перабольшвае. Ёй так не да твару меланхолія, адмаўленне ад жыцця. Адкуль такая падатлівасць, паслухмянасць імгненнаму настрою? У яе ёсць любімая справа, якой яна можа аддацца ўсёй душой. Яна шмат ведае, умее – чалавек з рукамі і галавой. Колькі карысці можа прынесці. Туга – абавязковы спадарожнік чалавека, які разважае над жыццём. Але ж гэта і пошук, які змушае да адкрыцця, самастварэння...

20 красавіка

Мне гавораць: “Дурное дзіця чалавечае, навошта табе крылы бусліныя. З крыламі цесна на зямлі”. А я крычу: “Не трымайце мяне тут. Не рвіце пёркі-мары. Я хачу лятаць. Каб сонейка лашчыла сэрца разам з каханнем. Каб дождж-пявун граў на гуслях душы. Каб русалачнае дзяцінства з кніжкаю ў руках заўжды вяло наперад”. Кахаю!

23 красавіка

Учора ў Асіповічах перад электрычкай пазнаёмілася з Яўгеніяй Рыгораўнай Данской, журналісткай з “Літаратуры і мастацтва”. Яна вярталася з камандзіроўкі ў Старыя Дарогі. Радасць размовы з цікавым, інтэлігентным чалавекам, а сёння сябе ўжо папракаю, што мусіла быць больш стрыманай, не гаварыць так шмат, а больш слухаць.

Пабачыць бы С.!.. І як зразумелы Фёдар Цютчаў: “Мысль, изреченная, есть ложь”. Не хапае слоў, каб выказаць тое, што ў душы, а за вымаўленае так сорамна бывае!

Чытаю “Дневники современников” (“Молодая гвардия”, № 4) часам з адчуваннем, што гэта пра мяне, маё, як у Святланы Бельчанка: “Почему все говорят, что я ребёнок! Все как сговорились. Почему? Сегодня сказала это Лида на работе. Я спросила: ”Почему?” – “Потому что ты слишком веришь людям”.

Боже, как страшно! Ну да, верю! Верю! Да как же можно жить на свете, если не верить людям? Что за ерунда! Сейчас буду плакать. До чего же я омерзительная плакса”. Не магу чытаць, нават Шэкспіра. Як шмат агульнага са Святланай. Безумоўна, яна таленавітая. Але якія супадзенні! Значыць, я ўсё ж не адзінокая, не такая ўжо дзівачка. Наіўнасць, цяга да разнастайных ведаў, вера ў людзей. І разам з гэтым – крайнасці. Трэба працаваць над сабой. Смешна. І таксама планы. Ну чаму, чаму яна загінула?!! Так недарэчна. Гэтулькі людзей сагравалася б толькі ад таго, што яна недзе блізка. Ды Света была сапраўднай. А я?!! Уздых шкадавання. Света – талент. А я?!! Смешна – ты шэранькая пташка. Нібы і мяняюся, але якімі чарапашымі крокамі. Сорамна заглядаць у свой дзённік.

24 красавіка

Пачуцці наплываюць хвалямі. Як трэба было б нам сустрэцца! Баюся я сябе, а раптам мімалётнае захапленне? І ваза выслізне з рук, а пырскі-аскепкі зробяць вачам балюча на ўсё жыццё...

Зараз патэлефанавала Яўгенія Рыгораўна. І як жа захацелася пісаць. Проста рукі чэшуцца, а трэба вучыць старaславянскую мову.

26 красавіка

Гаварыла з С. Люблю гэты голас... Гара з плячэй. Кахаю. Родны, мой чалавек. Трэцяга мая яму ў армію. Мотастралковае аддзяленне, пяхота. Папытаўся, ці буду чакаць...

Была ў “Літаратуры і мастацтве”. Прадыктавала з такой цяжкасцю напісаны свой матэрыял “У краіне майго маленства”, хоць першы абзац мяне самую задавальняе, няхай сабе гэта і досыць банальнае прызнанне ў любові малой Радзіме: “Зялёнай птушкай разгарнула крылы карта. А на скрыжаванні лініі чыгункі і шнурочка ракі – вясёлая чародка літар. Чытаеш: “Дараганава”. І

ён знайшоў тут сабе месца, твой маленькі пасёлак. Лялечнаму дзяцінству не абысці яго і за дзень. Асабліва, калі вітацца з кожнай знаёмай бярозай. А летуценнае юнацтва тапаліныя прысады, празрыстыя крыніцы і сонечныя пяскі ўмясціла ў адно чалавечае сэрца. Каб несці гэты бясцэнны скарб праз усё жыццё".

28 красавіка

А гэтыя дні мы маглі б быць разам – да трэцяга мая звар'яцець можна. У Беларусь ён, зразумела, не патрапіць – толькі б у СССР застаўся, толькі б у еўрапейскай частцы. Ці змагу я два гады чакаць? Мабыць, змагу. Толькі як трэба ўбачыцца! Відаць, гэтыя два гады будуць найдаўжэйшымі ў маім жыцці. Узмоцнена займацца, чытаць. Замест сустрэч – лісты і сны. Калі так саграе голас, дык як жа цёпла павінна быць побач...

"Рамэо і Джульета" – цудоўны Шэкспір. Здаецца, што ўсе людзі, якіх сустракаеш, добрыя, ласкавыя. І ўсім хочацца ўсміхацца. Можа таму апускаеш вочы... Колькі разоў апякалася, але даверлівасць ува мне, як вішняк, колькі яго ні выкарчоўвай, усё імкне ўгору.

Думаецца пра С. Я люблю выбудоўваць планы. Вось адслужыць ён армію. Паступіць у Літаратурны інстытут. А дзе буду я? Не бачу жыцця побач з ім і без яго таксама. Хіба я і шчасце могуць сумясціцца?!!

7 мая

Хлопцы ідуць у армію. Жоўтаротыя птушаняты з мяккім пушком над губамі, з бліскучымі вачыма, п'яныя і цвярозыя, ацішэлыя і буйныя – такія розныя ў агульны для ўсіх іх момант, але і падобныя. Быццам асабовасць упала на падлогу разам з шорсткімі і мяккімі, прамымі і курчавымі валасамі. Саромеюцца сваіх дагала абстрыжаных галоў, прыкрываюць іх шапкамі. Нейкі спалох у вачах. Толькі пара вясёлых, бесшабашных твараў выгадна выдзяляецца на агульным, увогуле нярадасным і нярвовым фоне. Рушыла валюхастая калона. Быць ім два гады адной сям'ёй. Павінны. Сцяна дысцыпліны адгародзіць ад вольных сонца і неба. Эх, хлопцы, гэта ж і шчасце – няхай гавораць, што высокія матэрыі – Радзіму абараняць, як маці, каханую.

І С. ужо недзе ў такой калоне прайшоў, таму так уважліва і ўглядаюся ў твары стрыжаных хлопцаў. Раптам хтосьці з іх будзе разам з ім дзень за днём!

9 мая

Сёння вялікі дзень. Пунсовыя цюльпаны ў Вечнага Агню. Дваццаць восем гадоў Перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне. Душа хвалюецца. Плошча Перамогі ў гаманлівай чалавечай плыні.

Чаму так дзеецца? Я люблю Ірку. Яна блізкі мне чалавек, але я люблю і Таццяну, і Галку, і Мілу... Яны мне ўсе патрэбныя. Ды прыходзіць момант, калі асабліва хочацца бачыць менавіта некага з іх. А ўвогуле – адзінота. Вось мой найвялікшы сябар і вораг. “Одиночество любят от боли, но от радости никогда” – мае рацыю Яўгеній Еўтушэнка. Цалкам, здаецца, шчырая ў размове, а глыбей у душы паралельна ідзе ацэнка. Бывае, што заўважаю ўсе дробязі, а здараецца, што не бачу нічога. Я – вясёлая, гарэзлівая, капрызная, наіўная, разважлівая, ветраная, труслівая, смелая, злая, добрая... Не ведаю сябе! Што ж мне ўласціва найперш? Хочацца рабіць добрае, хай сабе нават коштам жыцця. Застацца невядомай, але памерці са свядомасцю, што жыццё пражыта надарэмна, што хоць некаму памагла. Часам жа цягне на агідныя ўчынкі і як горычна ад ліпкіх думак, і ненавідзіш сябе.

Зноў камянею. Ну і добра, прынамсі, буду зубрыць. Злосная і нешчаслівая, ратуючыся, я з найбольшым азартам накідаюся на кнігі...

10 мая

Здаецца, мы ніколі не сустрэнемся. Жыццё кіруе намі, а не мы ім. Мы слабыя. І я, і С. Няўжо я ніколі ўжо не вазьму ў рукі канверт з дарагімі каракулямі, не заб’ецца трывожна і радасна сэрца... Пачуццё няўпэўненасці, агіда да сябе. Паддаюся часовай слабасці – нельга! Ёсць Грыг, Цютчаў, Блок.

12 мая

Зноў хаджу абыякавай да знешняга выгляду. Перыядычны працэс накаплення ўнутранага. Эвалюцыяніру ю? Не стараюся зараз разабрацца ў сабе. Трэба, каб усё само сабой уклалася, знайшло сваё месца ў душы. Няма ліста ад С. Можа, тая ж Ірынка або іншае захапленне. Ён яшчэ хлапчук. Яму зараз кепска. Дысцыпліна не для яго і колькі ж яшчэ ён мяне будзе мучыць...

15 мая

Усё ж я выціскаю з сябе раба. Як стратна і небяспечна для чалавека, калі ён уступае ў жыццё спалоханым, прыгнечаным

самымі роднымі людзьмі...

Кахаю і адной амаль невыносна балюча, тужліва, а сярод людзей усміхаюся, жартую, бянтэжуся, чырванею... Сістэматычная ўжо думка аб тым, што павінна пісаць, што маё цяперашняе жыццё – падрыхтоўкаю таму. У сне сёння гучала музыка і вабілі фарбы. Шчасце ў радасці людзей. Зноў адчуванне, што самы вялікі сэнс – жыць у імя людзей. Такое даўняе гэта маё пачуццё і рада, што жыве ўва мне. Бо адна справа, калі ў цішыні нібы бачыш і разумееш увесь свет, і зусім іншае, калі прабіваецца гэта свежае парыванне праз маю цяперашнюю мітуслівасць. Здавалася ўжо, што болей ніколі не адчую ў сабе гэтай жыццядайнасці, што абарваны і растаптаны пунсовыя ветразі, але светлая любоў да чалавека, людзей зноў ахапіла душу...

Раптам дайшло, што пачала баяцца гадоў. Не таго, што змаршчынею, пасівею, аслабну фізічна: страшна, што сталасць можа застаць з пустой ношкай розуму і сэрца...

19 мая

С. у Харкаўскай вобласці. Адлегла ад сэрца. Як добра на вуліцы! Бэз цвіце, пах стаіць над цэлым раёнам. А трэба вучыць, чытаць.

23 мая

Штосьці няпэўнае. Момантамі проста звонкая, шчаслівая, а пасля невыносна кепска. Цягне ўпасці пад калёсы або ластачкай з пятага паверху спланіраваць на зямлю ў нікуды...

Дэбют у "Літаратуры і мастацтве", на апошняй старонцы ў рубрыцы "З пошты ЛіМа". Дзякуючы Яўгеніі Рыгораўне. А ці прыйдзе час, калі недзе паперадзе буду друкавацца... І сёння два гады, як мы пазнаёміліся з С. у Магілёве на Злёце пачынаючых паэтаў і празаікаў. Назва, зразумела, навыраст. Ён, гэты цяперашні салдацік, чытаў прыгожыя вершы...

27 мая

У людзях у першую чаргу трэба цаніць душэўную чысціню, дзіцячую даверлівасць, дабрыню (Не будьте умом детьми, но будьте добры как дети, "Жытие Бориса и Глеба"). Паэзія, музыка, жывапіс, тэатр – цудоўна. Ды можна быць абсалютным прафанам у мастацтве і мець пяшчотнейшую душу, чуйную і спагадлівую. Зразумела, мастацтва перадае душэўныя станы чалавека, яго ўс-

прынящце любых прадмета і з'явы. Той жа, хто ігнаруе мастацтва, сябе збядняе. Божа мой! Думкі ёсць, а не магу запісаць. І вядома, што можна знаць, вычуваць дасканала Вагнера, Рэмбранта і быць садыстам. Веды даюць уладу чалавеку і ўзмацняюць яго, але цяпер я не схіляюся перад эрудыцыяй, дасціпнасцю. Душа. Пяшчота да чалавека. Веды жывяцца душэўнымі магчымасцямі, у чым перакананая даўно, але за час у Мінску як забылася аб гэтым. Нібы гэтыя перакананні засталіся ў вясковым мінулым, але цяпер яны зноў уладна нагадалі пра сябе, умацаваўшыся ў сутыкненні з прозай жыцця. Увогуле ж, здаецца, што ў горадзе чалавек менш думае.

28 мая

Шчаслівая-шчаслівая! Ад С. ліст. Заўтра залік. Не трэба скакаць да нябёсаў, а я лётаю. Так, летам мусім абавязкова ўбачыцца. Здаць сесію на стыпендыю. Напісаў: “Першы ліст у нашай роце“.

1 чэрвеня

Дзіўна, але баюся С., што не кахае мяне! Не верыцца, што яго можна ўзяць за руку. Мілы мой хлопчык. Мітусяцца пачуцці адносна нашай сустрэчы. Мушу падмануць маму, нічога ёй не гаварыць пра свой намер выбрацца ў такую дарогу, бо яе не пераканаць, што я за сябе адказваю. Шкада, але ж маё жыццё... Адна праблема – грошы, 30 рублёў неяк знайсці. Білет да Харкава каштуе 7.50 руб. Сесія!

3 чэрвеня

Хоць бы хто адлупіў, ці што! Адзінока, тужліва. Мабыць, маю зашмат вольнага часу. Трэба было б папрацаваць фізічна, каб выбіць гэтай ківейнічанне. Нікога не хачу бачыць. Раздражнёнасць несумяшчальная з любоўю. Баюся, што я не люблю нікога. І атрымала ганарар – 15 руб.!

4 чэрвеня

Кахаю С. Жаданне пабачыць яго, але я вырасла з таго часу, калі С. мог замяніць увесь свет. І страшна, калі ён адчувае тое ж самае. Раптам ацаніла каштоўнасць незалежнасці. Жыве ўва мне побач з пяшчотным дзіцёнкам жанчына. Можа я крывадушнічаю, што дасюль хаджу нецалованай. Усё ж у душы мне лаўно хочацца, каб хтосьці добры і моцны мілаваў... Часам уздрыгнеш

ад выпадковага дотыку чыёйсьці гарачай рукі. Жарснасць у душы, а знешне спакойная дзяўчынка. Дзяўчаты жывуць, як ім хочацца. Хоць, зразумела, ёсць жа элементарная прыстойнасць.

Пчаліныя вуллі – краіны. Матрыярхат. Жыццё і праца для чалавека. Пчала толькі аднойчы ў сваім жыцці можа быць злой і развітацца з сонцам. Высакародна. Вось каб людзі ведалі, чым пагражаюць ім гнеў, злосць.

9 чэрвеня

Наступным летам паеду з будаўнічым атрадам. Абавязкова! Трэба жыццё пазнаваць не з назірання, а самой папрацаваць разам з іншымі.

Уласна я толькі назіраю за жыццём, не болей. Адсутнасць дзеяння, пасіўнасць. Ясна, што раней было найважнейшым чытаць, пакутаваць над лістом паперы. Пошук сябе ў цішыні – вельмі важны этап, але як вынік – імкненне праверыць сябе ў справе. Чатыры гады ў школе я гарэла грамадскай працай, нібы раллю ўрабляла, цалкам аддана і шчыра. Ды зноў прыйшоў час паглыблення ў сябе. Колькі гэта будзе працягвацца? Пакуль знайду сябе! Працягваю выціскаць з сябе раба...

17 чэрвеня

Дзень выбараў. Так будзённа, а гэта ж першыя мае выбары! І знутры хваляванне, як заўсёды, калі нешта адбываецца ў першы раз. Самастойнасць, адказнасць за свае ўчынкі. Добра, калі чырванею, калі балюча, сорамна пакрыўдзіць некага. Значыць, не проста назіральнік. Няхай хваляванне, самапрыніжэнне – толькі не застой, не пустата. Калі думаю аб С., прасвятляецца ў душы. У чым сэнс жыцця? Чалавек датуль чалавек, пакуль ён сярод людзей. Дабрыня. Не ілгаць. Паболей працаваць над сабой. І адна з найбалючых дылем. Мая родная мова: “З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,/ З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў, / З грымучага ззяння бурлівых крыніц”. Сорамна, нібы здрадаю рускае аддзяленне, але адчуваю, што мусіць быць так, як ёсць...

27 чэрвеня

Лунінец, а перад гэтым амаль цэлую ноч аўтобусная трасяніна. Жанчыны з пустымі кашамі, а свежым клубнічным пахам – вярталіся з рынкаў мінскіх. Як яно ўсё складзецца? Каб да пятага ліпеня запісаць патрэбнае. Цягнік “Брэст – Харкаў”, па няцотных

днях. Прыбывае ў Лунінец а 16.30, стаянка 10 хвілін. Нічога ў мяне не атрымліваецца з пісаннем ды і занятая душа іншым. Хутчэй бы ў Харкаў!

28 чэрвеня

Вось мы і ў Лобчы. Прыгожая вёска. Шаша, чыгунка. Вельмі сардэчныя людзі. Пачуццё гонару за іх, простых працаўнікоў, якія захавалі прыгажосць, моц, што перадаюцца са старадаўніх часоў ад пакалення да пакалення і якія так хораша праяўляюцца ў песні. Быццам гэта яны самі прыйшлі ў палескія балоты і асвоілі іх. З намі ўсе вітаюцца. Вялікая падзея мясцовага маштабу – студэнты з Мінска. І здзіўляюць сіла, несапсаванасць, якія так шмат непасрэднаму чалавеку адкрываюць на ўзроўні інтуіцыі. Не хапае слоў, каб выказаць маё імі захапленне. Дзяўчаты падсмейваюцца, не разумеюць маёй зацікаўленасці, захаплення тутэйшым ладам жыцця. Дзівачка, дурнічка. Ну і няхай!

30 чэрвеня

Навальніца. Залева. І цудоўная ўсхваляванасць. Душа ў чаканні незвычайнага. Мне здаецца, што я памру ў навальніцу. Бо аж празмерна радасна сэрцу. І хочацца ўзляцець...

3 ліпеня

Ганю ўсе дні думкі аб сустрэчы. Дзіўны стан. Я і не чакаю. Не. Проста жыву... Н.Ц., нечаканая сяброўка па кватэры ў бабулі Надзі, гаворыць, што я ўвесь час прыніжаюся. Ну так, я чалавек не з “іхняга” асяроддзя, “ім” мяне не зразумець, хоць вось жа Вольга таксама карэнная мінчанка, а без прэтэнзій. Верую ў вышыню і чысціню чалавечую.

7 ліпеня

Харкаў, Мярэфа, Дзесятка. Дапяла. Кахаю, але, здаецца, ён прымае мяне за некага іншага. Дзіцячасць і дарослацсць. Мне б сядзець побач – рука ў руку, вочы ў вочы, а ён цалуе мяне разгубленую... Я не халодная, але сапраўды ў нечым дзіцё, якое баіцца, што вось-вось хтосьці з нас скажа, зробіць штосьці непапраўнае. Разгубілася. Наплываюць радкі Цютчава: “О как убийственно мы любим, /как в буйной слепоте страстей/ Мы то всего вернее губим,/ что сердцу нашему милей”. Мусіць прайсці яшчэ нейкі час, каб мы сапраўды зрасліся... Шкада, што трэба з’язджаць...

9 ліпеня

“Адлер–Рыга”. Пацалаваў у шчаку і пайшоў... Пазаўчора ў гэты ж час мы блукалі па лесе з С. І не верыцца, што дома ўжо. Адчуванне, нібы ён побач. Расказвала Галцы аб сваім падарожжы, а здавалася, што ён сядзіць побач і з дакорам на мяне паглядае. З ім я іншая. Кахаю.

15 ліпеня

Трэба напісаць аб практыцы, а цяжка. Н.Ц. “атруціла” ўвесь тыдзень. Ах, манеры, манеры. Знешні лоск і ніякай аднак унутранай культуры. “Я ўзяла, вось паглядзі”. Украла, сказала б проста.

“Воспитанные люди снисходительны, мягки, уступчивы”. Якая мяккасць?! Тут соль, якая раз’ядае рану. Дзяўчаты смяюцца нада мной: “Якая дурніца прастадушная!” Сапраўды, дурніца, калі дабрыня, пашана да чалавека – прыкметаю глупства. Мушу напрацаваць незалежны выгляд і прыстойныя манеры. Нейкія элементарныя рэчы спасцігаеш паступова, калі не дадзены былі ў дзяцінстве. Ладна, не ўсё адразу, а знешне я сябе вышкалю, каб розныя Н.Ц. і І.Т. не забаўляліся “нікчэмнасцю дурнічак”. А чаго, трэба рытарычна папытацца, вартыя яны самі...

18 ліпеня

Сёння ў сне нагадалася пра што трэба напісаць: вайна, абеліск пры дарозе, васілёк на пліце. Ад С. няма ліста. Страшна і за міны, і за лёгкія, і за галаву. Так звар’яцець можна!

20 ліпеня

Атрымала ліст, але нейкі нядобры. Усё так ды вельмі ж прахладна. Як доўга лісты ідуць – чатыры дні, а з часу, як напісаны, тыдзень. Ну, дурнічка, як не разумець, што я не магла іначай. Цяпер за два тыдні і то падарослела. Не змагла б я жыць. Усё яшчэ наперадзе, як ён можа не давяраць мне.

24 ліпеня

Кніга, пакуль не разгорнеш яе, як дзіця. Наіўнае, даверлівае. Прыціскаеш яе да шчакі. Толькі дзеці пахнуць малаком, а кніга нечым зусім сваім, набытым пры нараджэнні ў друкарні, ад паху гэтага замірае сэрца – адкрыецца зараз новы свет. Як жа здорава – дарыць сабе кнігі! Вось бы мне ўсё жыццё дарылі кнігі і кветкі... Кахаю С.

26 ліпеня

Хаджу, лодырнічаю. Апошнім часам накаціла дзіўная "страсць". Амаль манія парадку ў хаце.Усё нагэтулькі на сваім месцы, што самой непрыемна і сумна. Не магла ўявіць сабе, што некалі абудзіцца гэткі імпэт, асабліва на кухні. Жаночае. Сталею. І ўсё адно сплю з Таніным – атрыманым на васемнаццацігоддзе! – Аргусаму абдымках. Гатаваць жа не хочацца!

Пацягнула да Дастаеўскага. Так проста і геніяльна. Сапраўды можна звар'яцець, пабыўшы цэлы дзень сам-насам з яго творам. Добра, што раней сілком не садзілася. Вось і разбярыся, калі трэба сябе змушаць да нечага! Мне шмат чаго не было дадзена ў час. Надрабляць? Ясна, шлях адзін. Толькі страшна глядзець наперад. Даганяць заўсёды цяжка, тым болей цяпер, калі задумваешся над кожным творам. Што чытаць? Ды ўсю класіку – ад "а" да "я".

30 ліпеня

Дастаеўскі. Як сутнасна дакладна. Няхай гэта людзі з хворым уяўленнем, якія будуюць сваё жвыццё на пяску. Але ж колькі ў мяне агульнага з Нетачкай Нязванавай! Па-дзіцячы наіўная і таксама вялікае дзіця. Таксама захапляюся Лідай, Мілай, Вольгай, што ёсць жа пачаткам дружбы. Магчыма, такія парывы ў мінулым, нядаўнім, але ўчарашнім дні. Узбуджанасць, калі ўмомант сыходзіць нібы цалкам усё, а застаюцца згрызоты сумлення, усведамленне сваёй нікчэмнасці. Ну навошта побач з маёй бяздарнасцю гэтае інтуітыўнае вычуванне людзей? Іншым дастаткова штодзённых клопатаў, ажыўленасці свят. Нярвовая ўзбуджанасць не дае паглыбіцца ў кнігу. Усё нечага шукаю, шукаю. Нібы страус, уяўляю сябе птушкай, а ўзляцець не магу.

У Дастаеўскага менавіта свой стыль. Суцэльныя думкі, хваляванне. І вельмі проста піша. Без якіх-небудзь асаблівых параўнанняў, апісанняў прыроды. Прыгожасці сапраўды не да месца. Іх і не заўважыў бы, акунаючыся ў пакуты душы. Быццам я сама Нетачка Незнанава. І ўсе падзеі – само жыццё, выяўлена аб'ёмна.

1 жніўня

Евангелле робіць надзвычайнае ўражанне. Прачытала і адчуваю, як ураўнаважваецца душа. Шмат дакладных думак, але ёсць і моцныя супярэчнасці. Кожны чалавек стварае свой свет у самім сабе. Так, у кожнага мусіць быць вера ў штосьці высокае, найперш дзеля таго, што ён чалавек... Як добра, што мама пазычыла

ў Святой гэты зачытаны томік, пісаны па-старому яшчэ, так што мне з маёй "чацвёркай" па стараславянскай цяжкавата чыталася. Шкада, што трэба вяртаць яго. Вось ніколі б не падумала, што ў яе апроч коз яшчэ і такая каштоўнасць прыхавана. І, відаць, чытаная. Ну, ніколі я над гэтай беднай старой жанчынай не насміхалася. Яна жыве ў хацінцы з застаўленымі фанерай вокнамі, дзіравым дахам. Амаль дзіцячы твар, пяшчотная да людзей, уступлівая. Аднак з тым, каб услед за правай падставіць левую шчаку, яна не згодная.

2 жніўня

Харкаў, вакзал, мітусня, заліты сонцам перон, аўтобус, Мярэфа... Дзіўна, але ўсё гэта вымалёўваецца зараз у падрабязнасцях. Мабыць, на ўсё жыццё запомню і Селекцыйную, і лясную дарогу, і хвіліну, калі анямела, убачыўшы яго, чужога і роднага. Чужога? Не! Думка: "Няўжо гэта ён?! Не сон!"

Лілія тыдзень жыла ў бочцы з вадой, затаючыся чыстай і беласнежнай, а потым пачала незваротна чарнець. А людзі? Вырві некага са звыклага месца, чырванеюць, бялеюць, чарнеюць, а пасля прызвычайваюцца. Зноў расцвітаюць. Нехта ўсё ж чахне з першага імгнення, пазбаўлены роднай глебы. Як цяжка прадбачыць лёс чалавека. Лілія ж проста мусіла пачарнець. Проста і ясна.

Ад С. няма ліста! Восем дзён, што там з ім можа здарыцца, а я хвалююся...

Чмель у белых шорціках і кашульцы ў чорна-жоўтую палоску. Такі важны, дзелавы.

Таты-мурашы і мамы-мурашкі. "Любяцца" – шчыкочуць адно другога вусікамі-лакатарамі. І адкуль у іх такая бязлітаснасць? Таму што не думаюць? Цягнуць жывую божую кароўку невядома куды, хаця, відаць, яшчэ як ведаюць, а яна не мае сіл супрацівіцца ім, выратаваць сябе.

7 жніўня

Поўня. Ліхтары. Сціплыя дрэвы. Хочацца спяваць. Вецер лашчыць твар, рукі, ногі. Нібыта сама пяшчота і каханне. Музыка сэрца. Веласіпед кружляе. Поўня ўглядаецца ў твар. "Тару-рам, трата-там..." Добра! А потым яблычнае храбусценне. Цёмна і зрываюцца недаспелыя, зялёныя. Добра. Кепска адно: ад С. няма ліста.

8 жніўня

Відаць, зусім я дзіця, калі пачынаю жыць і паміраю разам з героем рамана. "Чырвонае і чорнае" Стэндаля – да глыбіні душы ўзрушаная. Жульен – правінцыял, я ў Мінску таксама правінцыялка. Яму цяжка з-за таго, што не можа лёгка, проста глядзець на жыццё. Мяне скрозь прыгнятае ўнутраная цяжкаважнасць, нязграбнасць, што і навонкі распаўсюджваецца. Захопленасць і надумлівасць. Урэшце, гэтая наіўнасць, калі прымяраю на сябе і нетачак, і жульенаў. Ці ўдасцца вызваліцца з гэтай інфантыльнасці... Уяўленне, якое не паддаецца апісанню, толькі вораг, які замінае жыць, атручвае радасць думкамі аб тым, што ўсё мінаецца. Як кепска адчуваць сябе стомленым чалавека, калі ты яшчэ не жыў. Ах, Стэндаль зусім мяне вымучыў.

9 жніўня

Чаму С. не піша? Капрызы ці хвароба? Невядомасць страшней за ўсё. І, відаць, нельга чалавеку **залішне** давяраць або **залішне** кахаць яго. Глупства! Каханне тым і адрозніваецца ад захаплення і дробных страсцей, што без якіх бы там ні было аглядак і падазрэнняў давяраешся пачуццю і чалавеку. Вось маё сэрца. Бяры яго, рабі з ім, што хочаш. Толькі помні, што яно давярае табе болей, чым сабе. Разлік і каханне. Сонца і снег. Магла б не пісаць С., ёсць дзённік. Ды ад такой думкі яшчэ цяжэй. Каханне сляпое. Уключаны, аднак, і цвярозы розум. Калі ў яго ўсё нармальна, дык непрабачальная жорсткасць нішчыць маўчаннем чалавека, які бясконца верыць табе, кахае. Але ж я веру яму. Ён не можа маўчаць проста так, а ад гэтага яшчэ цяжэй, самыя страшныя думкі ў галаву лезуць. Піратэхнік. Мурашкі па целу. Што ж мне рабіць? Пісаць? Чым я магу яму памагчы? Няўжо ён зноў адыходзіць ад мяне?

10 жніўня

У Старажытнай Грэцыі удзел у вялікіх урачыстасцях, якія суправаджаліся тэатральнымі відовішчамі, спектаклямі, быў грамадзянскім абавязкам. Значыць, у тэатр хадзіў і адначасова быў акто-рам кожны грамадзянін.

Хочацца заснуць і не прачнуцца. Чаму ён маўчыць? Хандра беспрасветная, на змену якой, ведаю, яшчэ прыйдзе незразумелая радасць....

Паважаць сябе сілком не змусіш. Так і нада мной у групе

некаторыя будуць далей здзекавацца, проста ў твар гаварыць брыдоты, а я з вінаватай усмешкай буду адводзіць вочы. Што напісана ў крыві, не выкараніш рыдлёўкай. Я не ўмею ілгаць, у мяне няма пачуцця ўласнай годнасці. Першыя дні пасля Харкава было лёгка дыхаць, як на крылах насіла. А цяпер вось няма лістоў і я зусім каша-смятана. У каторы раз пераконваю сябе, што галоўнае самой любіць, кахаць... Так патрэбныя мне цяпер размовы з разумнымі, інтэлігентнымі людзьмі, каб стаць самой сабой. І не пужацца ўласнай неадпаведнасці іншым. Не крывіць душой. Гаварыць, рабіць тое, што сама лічу належным. А на "арыстакратыю" увогуле не звяртаць увагі.

14 жніўня

Нават памідоры можна насіць велічна, а як навучыцца проста па-чалавечы хадзіць... У Магілёве. Крымпленавы касцюм Ліда пашыла. Залатыя рукі! Праспект Міра, Палац піянераў і школьнікаў. Крыху больш за два гады таму тут стаяў, хадзіў і С. Сентыментальнае дзеўчанё...

17 жніўня

Ліст прыйшоў, кароткі, безасабовы, нават без подпісу. Яму кепска, я разумею. І калі трэба будзе сысці, я гатова. Ён жывы, самае галоўнае. Тры лісты за паўтара месяца. Сумная статыстыка. Любіць "як нявесту і як малодшую сястрычку, якая гадоў на пяць маладзейшая за мяне".

У 20-х гадах IV в. да н. э. вылучыўся Агафокл. Быў ганчаром і паходзіў з небагатай сям'і. Узняўся дзякуючы сваім здольнасцям на вышыню стратэга-аўтакрата.

23 жніўня

Праз тыдзень у Мінск. Так мала паспелася! Нямецкая мова — зноў на вучэбны год. Здаецца, і займалася б цяпер, але вось Чэхаў, антычнасць. Доўга ж прыводзіла сябе ў парадак. Апошні яблык з белага наліву. Мама падзяліла яго на дзве часткі. Мне і Васілю...
Вельмі псіхалагічныя аповесці ў Васіля Быкава. Захапіў "Сотнікаў".

30 жніўня

У чарговы раз я сцвярджаю, што ўсе геніі, добрыя геніі, у душы дзеці.

Першае. Што такое дзяцінства? Перыяд адкрыцця свету, назапашвання інфармацыі, ведаў. Напачатку дзіцё падсвядома запамінае маміны твар, голас. Сама прырода змушае яго да гэтага. Пасля яно вучыцца нечаму свядома, таму што яму гэта цікава, хочацца ведаць, умець.

Другое. Што такое даросласць? Устойлівасць поглядаў, дасягненне ідэалаў. У кожнага чалавека першапачаткова закладзена прага пазнання – крыніца духоўнага росту чалавека. І вось настае момант, калі гэтая крынічка вычэрпваецца, рост запавольваецца і нарэшце застаецца сухі пясок. Усё, далей чалавек не ўзрастае. Свет абмяжоўваецца аднойчы ўсвоеным. Ні кроку ўбок. Ён для сябе бог і геній. Дзяцінства гэтага чалавека ў мінулым. Сустракаюцца аднак людзі, якім на працягу ўсяго жыцця ўласціва дзіцячае імкненне да адкрыцця, спазнання свету. Падмацаванае вопытам гэта памкненне набірае сілу і ўплывае на жыццё тых, хто побач. Ладна. Над гэтым трэба яшчэ падумаць.

У Мінску. Студэнтка другога курса.

## Ян Чыквін

# ЧАРНАВІКІ

Таленавіты быў ён ад Прыроды – не ад Духа.
Хоць мірсцілася ўсё ж, што гэта, можа, не так яно,
Не да канца. Насіў затоена ў сабе гэту сваю
Балячку і мучыўся як шэраговы чалавек,
Якому суджана пацець над кожным словам і радком,
Над кожнаю старонкаю – бо сказы й цэлыя абзацы
Амаль заўжды клаліся не так, а няведама чаму
Бесталкова разміналіся з выдатнаю,
Як яму здавалася, задумай, і самі сабой,
Хоць не хацеў, зыходзілі на даўно стаптаную сцяжыну.

Аднак ён зноў і зноў пісаў, услед падманнай славе,
Наперакор, як бы хочучы абмінуць няўмольны й для яго
Закон прыроды. І тут жа ейны творчы імпульс
Вялеў яму перакрэсліваць усё напісанае сёння
І хаваць як найглыбей, у доўгую шуфляду,
Каб і ён не бачыў сваю творчую паразу.

З дня ў дзень раслі перад ім адно чарнавікі.
Перачытваў і здзіўляўся, што гэта ён тварыў.
Злаваў на свет увесь, на асяроддзе, сябрукоў.
Гадзінамі сядзеў, замкнёны, у сабе самім,
Курыў, лавіў сябе на тым, што кепска думае
Пра тых, каму гэтая ралля давалася лягчэй
Або зусім без мусу. О, нябёсы!

“Бываюць жа святлом напоўненыя душы!” – думаў.
Ніяк дагнаць не мог ні тых, хто так высока лётаў,
Ні тых, хто йшоў паперадзе яго. Вяртаўся ў думках
Да крыніц, да першых слоў, давераных паперы,
Да першых, мабыць, лёсаносных загалоўкаў.
І шкадаваў, бывала, што ступіў на гэты стромкі шлях.
Унутрана ён быў гнілы – як даўно яму сказалі,
Нечакана, і сам ён хутка тое зразумеў, калі
Тапіў у сажалцы суседскага ката... Любіў ён зло,

Любіў з самага маленства рабіць жывому боль.
Смакаваць любіў яе, нутраную насалоду,
Калі іграла ў ім сляпая самавольнасць.
Цягнула гэтым грэць сваё хілае нутро.

Як за саломінку схапіўся – запалаліла кволая надзея,
Што само Мастацтва, ад вякоў якому пакланяліся
Усе народы, яго магутнай моцы, векавечнай прыгажосці,
Нібыта ратавальны круг, вынясе яго наверх,
Ачысціць з слабасцяў душы і цела.
О, непадкупная Прырода! Што дадзена
Табой – то ад пачатку свету й да канца.

“Як тое можа быць!? Чаму не ён – абраннік неба?!”
І гэтае пытанне калацілася здаўна ў мазгах
І, як прысуд, вярэдзіла душу, ягоны змрочны свет
Да такой ступені, што ў тыя моманты адчаю
Гатовы быў ён  моцартаў усіх забіць, не толькі словам,
Дый кожнага, хто стане на яго дарозе.
“Няўжо сыплецца з мяне, як з ліпаў і бярозаў
Сухое лісце слоў, марнае насенне?!”

Раз-пораз паўтараў сабе на суцяшэнне,
Што рукапісы ягоныя таксама ж не згараць.
І асцярожна будзе нехта, можа, іх ў цішы гартаць,
Шукаючы жывога тхнення духа.
І з кожным годам рос у ім зламысны геній
І, як магніт, сцягаў нікчэмнікаў
Усіх масцей. І ён быў іх парукай.

***

Калі сонца сыходзіла з дахаў,
Тата сядаў курыць. Паклаўшы
Нагу на нагу, здаецца, тады глядзеў
У свае маладыя гады, нямоўлены свет
І нешта важыў усё на дакладнай вазе.

“Ну што ж, – аднойчы сказаў, – і мы
Яшчэ раз зможам пайсці па вадзе.
Збудуем свой дом. І з вокан сваіх
Будзем на ўвесь гэты дзіўны свет глядзець”.

І ўсім, хто поруч быў з ім,
Салодкім здаўся бацькавы дым.

***

Дарагія мае, бяспраўныя, замучаныя,
пакрыўджаныя лёсам, зняveраныя,
не выслуханыя ля дзвярэй уваходных,
не атуленыя далонямі спагады,
замораныя ціскамі штодзёншчыны,
атручаныя паўсюднай хлуснёю.

Людзі добрыя, пакрыўджаныя, зняверaныя,
пастаўленыя ў сітуацыю без выбару,
змушаныя валачыць бядотнае існаванне,
хадзіць у цярновым вянку змагароў,
быць прыкладам евангельскай змірэннасці,
быць потам і соллю сваёй зямлі
і заўсёды камусьці служыць падсцілкай.

Мае дарагія, бязлікія і безназоўныя –
хто выплакаў усе чалавечыя слёзы,
на кім трымаецца кожная ўлада,
хоць яна пагарджае вамі ў сваіх кабінетах –
вы трымаеце ўсё рыштаванне жыцця
і вам адкрываецца праўда за праўдай.

***

*Аргусу, майму чатырохногаму суразмоўцы.*
*У дзень яго адыходу.*

Жнівень. Над хатай тваёю дзіўная поўня,
А знізу злавесна пучыцца нешта
І сонца, як тое дзіравае рэшата,
Варожа мільгае ў ліпавых кронах,
І жальныя цені стаяць на падворку,
І словы чужыя колюць іголкай,
І цяжка ўжо дыхаць, друг мой ставокі,
І наша жыццё, што пясок у жвіроўні,
Няспынна сыпле Хронас няўтомны.

І мы, жыццюкі, маем тое, што маем:
Неба з зямлёю ва ўсім тут з’ядналыя –
І няма нам ад іх  спагады-ратунку.
І не ўцячы ў несмяротным кірунку
З кароткахвіліннага іхняга раю.

Гэта зямля, мой дружа, і гэтае неба,
Апетае ў песнях вялікіх паэтаў,
Робяць над намі свой дослед нікчэмны шубракі.
У свет паслаўшы з аблiччам сабакі,
Чыняць над намі насмешку ліхую.
І ў сваёй нястрымнай вадаверці
Сваю да нас бяздушнасць тую
Значаць салодкім пацалункам смерці.

І ты адыходзіш, як мы, у Лету,
не мовіўшы ні слова
пра тое апошняе неча,
што ўсё збіраўся паведаць...
Выходзіш з кола нашае мовы,
Ахоўнік мой і паплечнік.

***

Жнівень – душны, балючы
Пад нерухома-бязмежным небам –
Чымсьці нязбыўным мучыць,
Маніць ледзь чутным малебнам.

Носіцца нешта і просіць,
Матчыным голасам кліча...
А побач сцежка лёсу
Айчыны маёй без айчыны.

І гэтыя ластаўкі ўвысі,
Як душы людзей любімых.
Скажы сабе, пакляніся,
Што хочаш быць разам з імі.

***

Не ведаем – стаецца што без нашага ўдзелу,
Без волі нашай. Часта так сабе сказаўшы слоўка,
Здаецца, мімаходзь, у лёгкую хвіліну,
Здзіўляемся, калі і след даўно той думкі згінуў,
Як слова наша раптам стала целам –
І нібыта з вады Гаргона з'явіцца якая ці Афіна.

Хто ж так няўзнак гартае нашага жыцця старонкі?
Няўжо і там, за межамі ўсіх чалавечых лёсаў,
Сядзіць няведамы сусветны гакер,
Зусім празрысты, цалкам невідочны звонку,
І ўсё майструе у праграмах боскіх правакатар,
Змушае летуценіць, жыць без толку
Ды слоў баяцца – тых, пасланых наўздагон нябёсам.

***

Які быў ратунак-шчасце –
На сена ў клуні ўпасці,
Забыцца, што свет існуе ў свеце
І пра сябе нічога не ведаць.

Забегчы ў ціхасць сена –
Нібыта плюхнуцца ў мора,
Дзе ўсе не гавора гавораць
І дзе мяне самога найменей.

І дзе не заходзяцца плачам.
Расквасіўшы нос на каменнях,
Схаваўшыся ў водар таемны,
Каб боль мяне болей не бачыў.

## Сяргей Календа

# RUDA MEITENE NO PLUDMALES[1]

Было гэта даўно, яшчэ ў тыя часы, калі прабабулі нашыя насілі каляровыя сукенкі, лёгкія й празрыстыя, нібыта сатканыя з павуціння, якія вабілі сваім хараствам і прыгажосцю. Здарылася гэта яшчэ тады, калі нашыя прабабулі гутарылі на адзінай мове і насілі доўгія валасы, сплятаючы іх у калоссе, а не хаваючы пад хусткамі. У тыя часы, калі нашыя прадзяды хадзілі роўна, ганарліва, хадзілі пехатою па брукаванцы й сцяжынах, хадзілі ў мора за воблаю і вімбаю, за ветрам і гонарам, прымалі спаборніцтвы, змагаліся з прыродаю, пакаралі караблі.

А пачалося гэта так. Аднойчы маці ўзяла й падняла руку на сваю любую дачку. Любую, але ж не надта. Дарагую, але ж не так, як дорага ёй золата й тое, што пра яе скажуць суседзі. Маці як шалёная накінулася на роднае дзіцё й адлупцавала яе за позняе вяртанне дадому. Што пра гэта скажуць суседзі! Што скажуць яны пра нейкія птушыныя яйкі, якія тая прынесла з сабой! Што скажуць пра парваную сукенку й чаек, накліканых ёй па дарозе! Што скажуць?! Што скажуць?! Што скажуць!?

Збіла маці дачку як мачыха, нягледзячы куды трапляе скураным рамянём. Дзяўчо раўло й енчыла, скуголіла й спрабавала збегчы, прасіла аб міласці й каханні. Рудая дзяўчынка распавядала аб тым, што ратавала птушак, што сама потым не ведала, дзе выхад з хвойнага лесу. Распавядала, што прадзіралася наўздагад, ажно пакуль не выйшла на бераг мора, ажно пакуль чайкі яе не вывелі дамоў… Плакала дзяўчо, але потым прыціхла. З гэтым супакоілася і яе маці. Аслупянелая, яна кінула долу скураны рэмень, а сама на зэдлік цяжка асела, як не жывая й не мёртвая.

[1] *З латвійскай*: Рудое дзяўчо з пляжа

Дзяўчына, валасы ў якой былі празрыста-рудыя, ускочыўшы з падлогі на ногі, выцерла рукавом слёзы, падцёрла кроў з рассечанай шчакі й выскачыла з драўлянага дому на брукаванку й дала дзёру да Рынкавай плошчы. Праз кароткія, вузкія ielām[2] пабегла яна. І толькі вецер уварваўся праз дзверы й марскі суворы скразняк абдаў маці холадам, якая, выпусціўшы з левай рукі два птушыныя яйкі, цяжка дыхаючы, сядзела на зэдліку. Бацькаў ваенны рэмень, варожа й па-змяінаму скруціўшыся, знерухомлены, ляжаў побач.

Рудая дзяўчына пабегла праз цёмныя, сонныя, самотныя думкі, праз абураныя словы, праз усе адценні адчуванняў, праз злосць… Пабегла куды пажадалі ногі. Праз колькі хвілін перад ёй стаялі старыя напаўзгнілыя драўляныя гадзіннікі. Яны пахлі рыбай і вабілі гэтым водарам мясцовых чаек. Праз гэтую нагоду выгляд ў іх быў брудны й даўно ўжо неістотны для ўспрымання. Дзяўчына абмінула іх і, праслізнуўшы пад змрочную лаўку, апынулася пад старым дубовым сталом, які быў неахайна прыкрыты самаробнаю страхою… Тут дзяўчо й засталося, заснуўшы, захутаўшыся ў валасы й сукенку, грэючыся аб котку, якая, гуляючы па сваёй мясцовасці, прытулілася да цёплай спіны… Гадзіннікі кожны час выбівалі звонам гадзіны, але гэта не было перашкодай… Пакуль дзяўчына спала, да яе паспелі прыжыцца не толькі котка, але самотная чайка з адным крылом, якая, звіўшы ў валасах гняздо, цяпер прыносіла з сабою рыбу ды ікру… Такім чынам, вяртацца дамоў дзяўчо не спяшалася й не збіралася.

Яна прыжылася на рынку, ёй падабалася тутэйшая брукаванка, жыхары, гандляры, ёй падабалася каляровае багацце садавіны й гародніны, пахі вэнджанага мяса й рыбы, мяккія ваўняныя тканіны, пледы й швэдары. Яна магла хуценька перасоўвацца праз выкладзеныя гандлярамі тавары, ласуючыся прывабнай ежай, крадучы, што ёй трэба было, выносячы ў кішэньках чайкам рыбу, спутваючы свае валасы ў каўтуны, каб ім было лягчэй выходжваць птушыныя яйкі… І штораз, знайшоўшы кавалачак ежы, яна пакідала крыху ў валасах, дзеля кожнай жывой істоты, якой спатрэбіцца месца для жыцця.

Дзяўчыну ніхто не заўважаў, папросту яе прысутнасьць была відавочнаю й адчувальнаю, але ніхто не мог дакладна сказаць,

---

[2] *З латв.*: вуліцы

што бачыў яе тут ці там. Маці, якая шукала сваю дачку колькі год, нарэшце спынілася на тым, што тая прапала й таму завочна была пахаваная. Сябе яна не вінавацiла. Яна вінавацiла позні час, стомлены стан, няўдалы лёс і брыдкія абставіны. Бо кожны чалавек здатны на тое, каб замест крытыкі ў свой бок, вінавацiць каго заўгодна. Жыццё працягвалася…

Аднойчы рудая дзяўчына закахалася ў аднаго хлопца, што быў сынам гандляра ваўнянымі тапкамі на рынку. Яна дакладна вырашыла, што зробіць з ім сям’ю, што яны разам будуць гадаваць птушак, карміць жывёлак і што ў іх будзе тузін уласных дзяцей. Кожную раніцу яна прыносіла хлопцу хрызантэму, якую скрадала ў гандляра кветкамі, а потым пачала дадаваць да хрызантэмы бутон каляровай капусткі, якая буяла па ўсім партовым горадзе й расла як пустазелле. Хлопец быў зацікаўлены й лічыў, што гэтыя кветкі кахання яму носіць дачка гандляркі рыбаю, якая была ў росквіце гадоў і сваімі формамі распальвала усё наваколле маладых сыноў гандляроў на рынку.

Хлопец пачаў прачынацца неверагодна шчаслівым, аблашчаным сонейкам і сваімі каляровымі снамі. Кожную ноч дзяўчына пачала прыходзіць да яго й спаць побач, а птушкі аддавалі сваё пер’е, каб сны былі мяккімі й бязважкімі.

Аднойчы сын гандляра ваўнянымі тапкамі пракраўся ноччу да дачкі гандляркі рыбаю, прапанаваў ёй збегчы разам з гораду ці краіны. Бегчы на любым грузавым караблі, які раніцою мусіць выправіцца ў порт ЮАР, Шатландыю, Лацінскую Амерыку альбо Сібір. Ці то з каменным вуглём ехаць, ці то яшчэ з чым – не істотна, галоўнае – збегчы, бо ягоны бацька мае дамову са сваім сябрам, гандляром мяса, каб той аддаў за яго дачку, страшэнна непрыгожую, саплівую й скасавокую! Рашэнне аб уцёку было прынята.

Наступнай раніцай рудая дзяўчына не знайшла свайго каханага. Той самай раніцай чайкі распавялі ёй, што ён збег з іншай… Яна кінула на брукаванку хрызантэму й пайшла да пляжа, з якога было бачна, як праз маяк, з бухты выплываюць у адчыненае мора караблі… Яна ступала, і за ёй цягнуліся ўскудлачаныя брудныя валасы, якія сталі прытулкам для птушак й кузюрак, кавалкаў хлеба, рыбы й вэнджаных кіўбас. Следам ляцелі вялікія чайкі, памерам з ад’етых катоў, а сукенка, вытканая з вудзільнай сеткі, вяла за сабой строй катоў й сабак, пацукоў й вожыкаў… Усе яны жудасна крычалі, гаўкалі й шыпелі, звалі хлопца зваротна, звалі

шчасце, якое не ажыццявілася, звалі цьмяную любоў. А дзяўчына ўсё йшла і толькі адрывала па валаску са сваіх доўгіх пасмаў, і кідала іх долу, сплятала з іх ніткі, уплятала павуціннe і траву, мовіла, што хутка накорміць мора … Дайшоўшы да пляжа, яна зірнула ўдалечыню. На хвалях пляскаўся вялізны карабель, але, праплыўшы яшчэ колькі хвілін, ён пачаў крэніцца ўбок… і павольна пайшоў на дно.

З тае пары гэтае самае дзяўчо кожны дзень выходзіць на pludmali[3] і лічыць, колькі нагружаных суднаў выходзіць з порта. Калі за гадзіну назбіраецца дзесяць караблёў, яны спакайнютка плывуць да сваіх месцаў прыбыцця. Але ж тыя судны, якія не ўвашлі ў лік, часта трапляюць у штормы, губляюць сваіх маракоў і прыходзяць не ў тыя порты. Бывае так, што яны апынаюцца парожнімі, а маракі – шалёнымі й прапахлымі не морам, але хрызантэмамі. Таму капітаны сваіх караблёў, як пачуюць жудасныя крыкі шматлікай колькасці чаек і звяр’я на пляжы, адразу пасляшаюцца выйсці з порту, выплываючы й прамаўляючы “Paldies Dievam!”[4]. Але кажуць, што цяпер гэтыя гукі сталі зусім рэдкімі, мо’ яны аслаблі ад крыўды й пустога кахання, а мо’ згубілі на тое веру.

Маці дзяўчыны ўжо даўно памерла ад гора, бо цела ейнай знерухомленай дачкі так і стаяла перад вачыма, так і ляжалі на падлозе расплюшчаныя вакол яйкі, белае й жоўтае, жоўтае й белае.

Толькі рудое дзяўчо нічога пра гэта не ведае, проста ходзіць часам з рынку на пляж дзеля сваёй справы.

Кастрычнік 2012
Вэнтспілс

[3] *З латв.*: пляж
[4] *З латв.*: Дзякуй Богу

# Лідзія Маліноўская

## Мне сніцца вясна

Восень заглядае ў акно,
а мне сніцца вясна,
хоць я адна і не адна.

Не буду плакаць ніцай вярбой,
не буду тужыць пажоўклай ліствою.

Заціхну як птушка,
злучу мары з хмарамі,
можа, ад анёлаў атрымаю крылы.

Буду лунаць над квяцістай зямлёй,
пакуль хопіць мне сілы.

## Пейзаж

Вецер развейвае водар
ранняй свежай расы,
што з’явілася ў квяцістым садзе
і завісла ў паветры,
дзе дрэвы твораць белы палац
у надворнай музыцы пчалінага хору.
Тут гамоняць без слоў.
Толькі сакрэтныя гукі прыроды
і жывы пейзаж
у палымяных промнях сонца.
Тут кожны шэпт
стаецца няўлоўным крыкам
і разганяе цень адзіноты.

## Бар’ер

Я пераскочыла бар’ер вынослівасці,
дзе спазнала тугу і смутак
у забытым спакоі душы
і ў аддаленай радасці.
Я бегла кудысьці з невядомай мэтай,
Як пералётная птушка,
што паляцела ў вырай,
пакінуўшы сваё гняздо,
каб праіснаваць,
не ведаўшы заўтра.
Толькі любоў і паэзія
трымалі светлыню
над маім ценем.



# Кацярына Сянкевіч

## Дух і люстра

чакаеш аж пераапрануся
і надзену скуру
у якой я магла б адчуваць сябе
сабою

не жыву
ты якраз спазнаў
мой найбольшы сакрэт

калі я жыла
насіла сукенкі
ў кветкі
хачу іх табе паказаць
хаця гэта кавалак анучы
я была ў іх прыгожай
кажуць

дай мне толькі некалькі хвілін
таго зямнога
смешнага часу

***

чакаю чагосьці што потым
буду называць успамінам,
доўга пакутую, таму не можа быць
інакш.
Ядвабная надзея высцілае ўжо
маю галаву ўнутры,
ўпэўнівае мяне, што хачу добра,
наіўная.

***

адчуваю вялікую прорву
паміж успамінамі
агромную прорву сну

час ад часу адчуваю гэта
вызіраюць даўнія вочы змроку,
як яго вусны цешацца
маім плачам
маёй крохкай шыяй

ледзь трымаюся цела,
што адлятае туды, дзе
няма болю, кудысьці над луг,
пасярод хмар

***

ці магу быць для цябе
малая так нармальна
маладая так натуральна
сівая на твары ад сівога плачу
звычайна
скажы мне няпраўду
праўду ведаю ўжо добра



## Юры Несцярэнка

# Прывітанне з Лас-Вегасу

Валодзя шукаў мяне так, як не шукаў ніхто іншы. Што здарылася? – пытаўся я ў знаёмых, якім ён перадаваў патрабаванні кшталту “Тэрмінова трэба сустрэцца!.. Абавязкова павінны знайсціся!..”. Ніхто не ведаў, што здарылася.

Можа быць зноў, як калісьці, спатрэбілася “мігалка”, якая ўсталёўваецца на спецтэхніку ў падуладным яму аўтапарку? Некалькі гэтых сігнальных “маячкоў” сінега і жоўтага колераў гадамі валяліся ў мяне па гаражы пасля выкарыстання іх за савецкім часам на мястэчковых мерапрыемствах у якасці светамузычнага абсталявання.

А можа інжынеру-аўтатранспартніку адной з буйнейшых арганізацый раёна спатрэбілася музычнае суправаджэнне? Шмат гадоў таму мы апантана збіралі калекцыі вінілавых дыскаў і трэба адзначыць, што Валодзя меў нядрэнны густ. Але малаверагодна – не да музыкі зараз вядучаму спецыялісту па магутных цягачах, пагрузчыках ды трактарах.

Паездка на канцэрт? Былі калісьці такія справы – ездзілі ў Маскву на “Блэк Сабат” ды “Назарэт”, на “Asia” ды “Пінк Флойд”, каб паглядзець і паслухаць легендарныя гурты ў арыгінальных складах ды класічным гучанні. Але ці здольны ён вырвацца зараз з жалезных лап сваёй тэхнікі? Ды і які такі канцэрт на сённяшні дзень яго можа зацікавіць так моцна?

Нарэшце мы сустрэліся ўвечары. Валодзька крыху агаломшыў: “Ты можаш для мяне тэрмінова знайсці фільм “Страх і нянавісць у Лас-Вегасе”? Я паспяшаўся запэўніць (мой сябра выглядаў вельмі ўсхваляваным), што няма ніякіх праблем – фільм абавязкова знойдзем, хоць ён толькі нядаўна з’явіўся. А Валодзька распавёў, як ён аб’ездзіў увесь абласны цэнтр, абшукаўся па музычных супермаркетах і альтэрнатыўных падвальчыках, па студыях пракату і шапіках прыватных прадпрымальнікаў. Відэакасет з фільмам ці то ўжо не было, ці то яшчэ яны не паступалі ў продаж…

DVD-прадукцыя тады толькі-толькі з’явілася на музычным рынку і Валодзя з сумнай іроніяй распавёў: “Я нават DVD-прайгравальнік набыў. У адной-адзінай краме мне паведамілі, што фільм ёсць у наяўнасці, але не на відэакасеце, а на дыску. Я знайшоў бліжэйшую краму па продажы музычнай апаратуры і купіў прайгравальнік. Пакуль

вярнуўся назад – дыск з фільмам “Страх і нянавісць у Лас-Вегасе” ужо прадалі …”

Я спытаўся, чаму так тэрмінова спатрэбіўся менавіта гэты фільм? Мой таварыш вытрымаў паўзу і, самотна гледзячы мне ў вочы, сказаў: “Зараз пастаўлю машыну на стаянку, вазьму бутэльку чырвонага віна, сядзем, пагаворым…”

Калі высветлілася, што ад мяне патрабуецца знайсці фільм для Валодзевай дзяўчыны – усё стала на свае месцы. З такой энэргіяй штонебудзь шукаць можна толькі дзеля каханага чалавека. Экстранная неабходнасць у набыцці фільма ўзнікла па прыездзе з Аўстрыі, куды яны ўдваіх ездзілі да роднай сястры Валодзевай нявесты.

Разам са сваім шаснаццацігадовым сынам сястра жыла ў цэнтры Вены. Колькі дзён Валодзя знаходзіўся ў іх у гасцях, столькі – бывала што і з раніцы, і ўвечары, – эмігранцкая сям’я пераглядала той самы фільм, у назве якога перапляліся і страх, і нянавісць, і Лас-Вегас.

Проста назваць той працэс “пераглядам” было б недакладна. Сапраўдны культ, магічны рытуал, эйфарыя, транс – усе гэтыя словы нават блізка не адлюстроўваюць таго стану, у які ўпадалі навяўленыя сын-венец і мама-венка беларускага паходжання. Яны забываліся пра ўсё на свеце, як толькі пачыналіся першыя кадры і, як дзеці, глядзелі ў экран, не адрываючыся. Яны каментавалі ўсе падзеі, наперад вымаўлялі фразы герояў, рагаталі і поўзалі па падлозе, скурчаныя напалам.

Валодзя рабіў выгляд, што ў які раз уражаны відэашэрагам. Ягоная сяброўка са штучнай усмешкай на вуснах трымалася з усёй моцы, і, калі гаспадары не маглі адарвацца ад падлогі, трывожна паглядала на свайго мужчыну. Сястра з пляменнікам, у залежнасці ад іхняга настрою, спрабавалі перакладаць некаторыя моманты. Каментуючы той ці іншы фрагмент, дужа не абцяжарвалі сябе тлумачэннем нюансаў. Калі скептычна, калі неяк занадта загадкава яны тлумачылі, што, маўляў, “тут разумець трэба…”, ці, напрыклад, “да прагляду няблага было б падрыхтавацца…”. Гэтыя фанаты Лас-Вегаса і яго нянавісці, сапраўдныя гаспадары страху, выглядалі на той момант крыху неадэкватнымі.

Яшчэ яны, і мама, і сын, былі фанатамі індастрыэла. Валодзя атрымаў у падарунак дыск, своеасаблівую складанку, якая іх моцна “ўстаўляла”. Дыск гэты ён зараз дастаў з кішэні і ўручыў мне: “Паслухай пры выпадку. Можа гэта і цікава, але, напэўна, крыху не маё…”.

Калі вандроўнікі вярнуліся назад у Беларусь, пачаліся тыя самыя, увайшоўшыя ў легенду, пошукі фільма. Валодзева “палавіна” настойвала на тым, каб фільм быў дастаўлены ёй неадкладна. Пад уражаннем ад эфекту, які ўзнікаў у яе сваякоў, яна хацела перагледзець яго з перакладам і разабрацца ва ўсіх “фішках”. Карацей, яна таксама хацела смяяцца і падаць на падлогу. Яна таксама хацела ведаць усе цытаты і прамаўляць іх наперад.

Даволі хутка я знайшоў фільм. Пасля першага хатняга сеансу Валодзя выглядаў змрачней хмары – яго каханая нават ні разу не ўсміхнулася за дзьве гадзіны. Назаўтра яны паспрабавалі парагледзець фільм яшчэ раз. Пасля гэтага Валодзька патэлефанаваў мне і спытаўся, наколькі можна давяраць гэтаму перакладу?

Пазней, парагледзеўшы некалькі варыянтаў незабыўнай экранізацыі твора Хантэра С. Томпсана, я ўпэўніўся, што закадравы пераклад, які патрапіў да Валодзі на той першай відэакасеце, быў самым шыкоўным. Але што я мог адказаць на момант нашай размовы? Што фільм я запісаў у сваіх сталічных сяброў, калекцыя элітнага некамерцыйнага кіно ў якіх налічвала тысяч з пяць карцін? І што сумнявацца тут недарэчы? Я чамусьці ўзгадаў тады, што Валодзя з моцных напояў ужывае толькі чырвонае віно, і то ў выключных выпадках.

Так сталася, што мы не бачыліся з Валодзем некалькі гадоў. Пры сустрэчы, між іншым, я спытаўся, ці не ездзіў ён у Аўстрыю яшчэ калі-небудзь. На што Валодзя мне ў роспачы адказаў: “Няма ўжо да каго туды ехаць… Сын сыйшоў на рэйкі метро перад цягніком. А маці праз некалькі месяцаў знайшлі на хвалях паміж судамі мясцовага порта…”.

“Хай жа будзе вечная памяць нашым землякам, якія шукалі па свеце і не знайшлі свой Лас-Вегас…”, – з сумам думаў я па дарозе дадому. Пераступіўшы парог, я адразу накіраваўся да паліцы з кампакт-дыскамі і хутка знайшоў складанку, якую калісьці прывёз з Вены Валодзя. Жудасны, раздзіраючы вушы гук тут жа паляцеў з калонак. “Страх…”, – падумаў я. Грымнулі поўныя неўтаймаванай агрэсіі барабаны і панеслі вар’яцкі рытм. “А вось і нянавісць… Шкада. Але, можа быць, у іншым свеце яны знойдуць замест страху спакой і замест нянавісці любоў…”.

Замест металічнага скрыгату і магутных удараў па свядомасці гучаў цудоўны саўндтрэк: The Yardbirds, Jefferson Airplane, John Mayall, Jeff Beck, Big brother And The Holding Company, Rolling Stones. Нібыта гэта плынь цудоўнай музыкі, не звяртаючы ўвагі на адлегласці і час, плыла з Вены ў Магілёў, потым з Магілёва, магчыма, праз Каліфорнію, зноў у Вену…

Відаць, спадар Хантэр Томпсан, знаходзячыся ў “гонза-стане”, нейкім таемным чынам запланаваў столькі адмысловых маршрутаў, што людзі яшчэ доўга будуць спрабаваць разабрацца з усёй гэтай спадчынай.

А мы з Валодзем зноў пілі чырвонае віно, мала размаўлялі і слухалі рок-класіку пачатку 70-х…

# Рок-каранацыя пад знакам 223L

Мы дамовіліся аб сустрэчы каля музычнай крамы, дзе я працаваў. У прызначаны час я ўбачыў доўгага, худога чалавека з узлахмачанымі валасамі. Здавалася, яго вопратка выглядала крыху пакамечанай. Рухаўся ён неяк нервова, гаварыў гучна, рэзкімі фразамі, нечакана пачынаў смяяцца, пераскокваючы ў сваёй размове з тэмы на тэму. Але я не надта здзіўляўся. Зразумела, што ў асяроддзі творчых людзей хапае экстравагантных асобаў. А перада мной быў не хто іншы, як Вітаўт Мартыненка, адзін з аўтараў легендарных у гісторыі айчыннай альтэрнатыўнай музыкі кніжак “Праз прызму рок-музыкі” і “222 альбомы беларускага року”. Першая выйшла ў Амерыцы ў канцы 80-х. Кажуць, што польскія студэнты да сённяшняга часу пішуць дыпломныя працы па культуралогіі ўсходняй Еўропы на падставе гэтага выдання, карыстаючыся як першакрыніцай. Другая кніга выйшла амаль праз дваццаць год і ўяўляе сабой сапраўдную энцыклапедыю беларускамоўных груп і выканаўцаў.

Я перадаў Вітаўту свой альбом на рэцэнзію. Ён сказаў, што чуў некаторыя песні, і ўражанні ў яго станоўчыя. А потым нечакана дадаў: “А файна атрымалася, калі вы выйшлі на сцэну “Рок-каранацыі” ў кашулях з надпісам “223”...”

Я адразу не зразумеў пра што гаворка, у тым сэнсе, што мой суразмоўца чагосьці звяртаў увагу на нейкія лічбы на кашулях. Мы сапраўды ўдзельнічалі ў штогадовым мерапрыемстве пад такой назвай. Гэта было адмысловае падвядзенне вынікаў за мінулы год, у якім вылучаліся лепшыя творчыя асобы ў розных намінацыях. Дарэчы, Вітаўт быў таксама там адзначаны, як лепшы рок-журналіст за кнігу “222 альбомы беларускага року”. Але я ўсё ж быў упэўнены, што наша група ў такіх кашулях не выступала.

Праз хвіліну да мяне дайшло, якая выдатная ідэя хавалася за наступнай лічбай, што ідзе за 222. Я па-добраму пазайздросціў нейкім, як я сабе ўявіў, маладым музыкам, якія, напяўшы кашулі з надпісам “223”, прапанавалі такім чынам сваю творчасць на першае месца сярод будучых лепшых беларускіх рок-альбомаў у новым томе гісторыі айчыннай рок-музыкі. І з якімі Вітаўт нас пэўна параблытаў. Але я не паспеў яго перапыніць і адмовіцца ад ганаровай місіі, што ўскладаў на нас тытулаваны журналіст – размова насіла даволі сумбурны характар і тэмы вельмі хутка змяніліся.

Мы абмеркавалі шмат цікавых пытанняў і раптам мой суразмоўца с захапленнем зноў выдаў: “Але ж вы малайцы! Гэта ж трэба так прыдумаць! Прыемна, прыемна...” Я ўжо дакладна вырашыў расставіць усе кропкі над “і”, набраў паветра ў лёгкія, але менавіта ў гэты момант у

Вітаўта зазваніў тэлефон*. Ён пачаў нешта вельмі эмацыйна пад-цвярджаць, потым адсунуў тэлефон ад вуха і прашаптаў: “Плясанаў тэлефануе!”, працягнуў мне руку і хутка падаўся ў напрамку да метро, трымаючы тэлефон каля вуха. Я ў разгубленасці застаўся на месцы. Мне ўсё ж было вельмі цікава, з кім мог пераблытаць нас спадар Вітаўт, але павінен быў прайсці пэўны час, каб высветліліся ўсе акалічнасці гэтага дзіўнага непаразумення.

Мінула шмат месяцаў пасля нашай сустрэчы і аднойчы, шукаючы нейкі відэазапіс з уласных выступленняў, я натыкнуўся на некалькі дыскаў з надпісамі “Грыфаманія”, “Рок-каранацыя”, “Канцэрт у “Ката-комбах” ды нешта яшчэ. На ўсе гэтыя мерапрыемствы мы разам з маімі калегамі-музыкантамі ездзілі з маленькага мястэчка, дзе я жыў у той час. Калі я ўключыў першы дыск, здзіўленню майму не было межаў – наш басіст Сяргей з каменным выразам твару калбасіў з усёй моцы па струнах, а над яго пяцільструнным інструментам, на ўзроўні грудзей горда вызначаліся лічбы 223. Я пераглядзеў астатнія дыскі, вынік быў той жа, на ўсіх канцэртах лічба 223 дамінавала.

Потым на вочы трапіў кадр, дзе Сяргей здымае гітару, і тут я, натуральна, не ўтрымаўся ад смеху. У мяне нават пацяклі слёзы ад дзіўнай метамарфозы, якую я толькі зараз заўважыў. На самой справе наш басіст вельмі часта апранаў кашулі, з тых, на якіх, адпаведна модзе свайго часу, актуальна было пісаць розныя індустрыяльныя надпісы. У яго на грудзях вялікімі трафарэтнымі літарамі, якімі звычайна пазначаюць кантэйнеры ў якім-небудзь порце, было напісана 223L. Калі ён вешаў сабе на шыю свой бас, то таўсты скураны рэмень цалкам закрываў лацінскую літару. На сцэне Сяргей стаяў крыху ззаду і, зразумела, я не мог гэтага бачыць. А калі мы знаходзіліся побач недзе ў грымёрцы, ці толькі выходзілі іграць, трымаючы гітары ў руках, надпіс успрымаўся ўсяго толькі як модны дызайн вопраткі.

Дзякуй табе, Сярожа, што недзе на рэчавым рынку, ці на сваёй працы, у эксперыментальным мэблевым цаху, ці яшчэ ў якім неве-рагодным месцы, ты знайшоў гэту выдатную кашулю! Гэта ж менавіта яна зрабіла цудоўнае пераўтварэнне ў свядомасці знакамітага журналіста, ды падзвігла да ідэі другога тома сваёй грунтоўнай працы!

Чыё імя будзе адкрываць гэты том і адпаведна займаць ганаровае месца, яшчэ невядома. Але цалкам зразумела, што надпіс 223L, які зараз ужо мае права быць культавым, мусіць увогуле стаць сімвалам нашага часу – часу новых імёнаў “Рок-каранацыі” ды эпохі сэканд-хэнда.

**Эпізод з тэлефонам не адпавядае рэальнасці. На той момант Вітаўт меў толькі хатні тэлефон. Да мабільнай сувязі ставіўся прынцыпова – не карыстаўся яе паслугамі. Тлумачэнне робіцца для таго, каб падкрэсліць, што “Рок-каранацыя пад знакам 223L” – празаічны*

*твор і аўтар мае права карыстаціца прыёмамі вольнай інтэрпрэтацыі. А таксама гэтае тлумачэнне для таго, каб пазбегнуць нагоды патрапіць у наступны том "Рок-цкавання" – яшчэ адной кніжкі паважанага аўтара, дзе ён раскрывае і сябе, і беларускую рок-эліту з вельмі нечаканага боку.*

# Апошні шанец выйсці ў людзі

Так час ад часу здараецца – ты едзеш у Ленінград, на провады сябра ў армію. Бывае яшчэ, што былая твая сяброўка, стала яго нявестай. Нічога дзіўнага, што праз яе вы і пазнаёміліся, і цяпер называеце адзін аднаго сябрамі. Сітуацыя складаецца так (звычайна бліжэй да поўначы), што ў інтэрнаце на Васільеўскім востраве прызыўніку трэба пабыць сам - насам з яго каханай прыкладна да раніцы. Усё ж такі апошняя ноч, і дзяўчыне няёмка дзяліць яе на траіх. Ну, у сэнсе сядзець за сталом да світанку і піць утраіх каву. Таму, як сапраўдны джэнтльмен, крыху хістаючыся, ты проста выходзіш у ноч пачатку красавіка з думкамі: "Дзе наша не прападала…" . І трываеш гадзіны дзве. Трэба ведаць, што такое клімат на беразе Фінскага заліва на пачатку вясны. Словы "страшэнны холад" ці "мацнейшы вецер" і блізка не перадаюць незабыўныя ўражанні.

У аграмадным гатэлі побач з пірсам не гарыць ніводнае вакно. Гэта надае месцу выгляд мёртвай планеты. Ты проста "рубішся" на хаду, пакуль ідзеш на другі бок гатэля, туды, дзе плешчуць хвалі. Прысесці ці прылегчы немагчыма, таму што бетон настыў так, што зрабіўшы спробу прымасціцца дзе-небудзь, даводзіцца падскокваць, быццам абліўшыся кіпенем.

Ахоўнік на судне, з аўтаматам і ў кажуху да пят, хавае ўсмешку і крычыць зверху трапа "Не-не, брат, у нас нельга пераначаваць…". Алкаголь ужо амаль выветрыўся, ты сгарбаціўся, брыдзеш, абхапіўшы самога сябе рукамі і ўціснуўшы галаву ў плечы, да паркінгу. Ды бог з імі, хай глядзяць з вакон гатэля ў гадзіны тры-чатыры ночы, як ты хапаешся за ручкі і спрабуеш адкрыць якое-небудзь аўто. І што? А тое, што раптам задняя дзверца трэцяга па ліку аўтамабіля адчыняецца! І ты ўвальваешся ў салон, і ўвогуле не клапоцішся ўжо ні аб чым. Трэба толькі закрыць выратавальную дзверцу і ўсе твае беды застаюцца дзесь-ці далёка. Спаць… Не спаць!.. Толькі хвіліначку… Не, пятнаццаць…

Недзе ўверсе, над галавой, звіняць званочкі трамваяў, сігналяць машыны, шыпяць дзвярыма на прыпынках тралейбусы. Асцярожна прыўзняўшыся, ты разумееш, што зараз прыкладна гадзін шэсць-сем, мяркуючы па ранішняй актыўнасці мясцовага насельніцтва. Трэба

хуценька і незаўважна пакідаць месца выратавання. Дзякуй, машынка, дай бог табе добрага гаспадара! “Будьте добры, не скажете, который час?” Да ваенкамата яшчэ дзве гадзіны. Спаць хочацца неверагодна. Выйсце адно – сесці ў нейкі тралейбус. Піцерскія тралейбусы на той момант падаюцца чамусьці вельмі ўтульнымі. Праспаць у адным з іх да канечнай і тым жа спосабам вярнуцца да месца, дзе заходзіў – ідэя не самая горшая.

Заняўшы адзіночнае месца ля вакна, ты спрабуеш заснуць. Спробы дзеляцца на кавалачкі – першы прыпынак, другі, трэці… Недзе на пятым ты ў паўзабыцці бачыш праз шкло, як у салон заходзіць Ірка Т., твая зямлячка па невялікім беларускім мястэчку. Спрасонку раптам падаецца, што сустракацца з ёй нельга ні ў якім разе. У свядомасці ў адно імгненне праносіцца, што Ірка на восем гадоў старэйшая за цябе, што кожны раз, прыязджаючы дадому, яна цэлымі днямі сядзіць на працы ў сваёй сяброўкі Ленкі, працоўны стол якой стаіць побач са сталом тваёй мамы. Ірка ў захапленні ад Мікалаеўны, так яна заве маму, і ўвогуле Ірка з Ленкай дастаткова дарослыя цёці, каб ім давяраць – ім ажно па дваццаць пяць год.

Сустрэцца з Іркай – гэта значыць рассакрэціць усю нелегальнасць цяперашняй паездкі. А давялося звальваць с заняткаў, неяк дамаўляцца са старастам групы, каб не пісаць заяву дэкану. А гэта ж не блізкі свет – амаль што тысяча кіламетраў. А трэба яшчэ вяртацца… Усё пралятае ў галаве за секунду, і ты асцярожна абыходзіш Ірку ззаду, каб не прыцягнуць яе ўвагі, і хуценька спрабуеш выскачыць з тралейбуса пакуль не зачыніліся дзверы. Але ж дзверы такія нахабныя – зачыняюцца, калі ты апынуўся як раз на апошняй прыступцы! Ты ўсё ж выскокваеш, з ляскатам і грукатам, амаль што на хаду. Нехта з культурных піцерскіх пасажыраў, каб дапамагчы табе, крычыць “Водитель!..” Кіроўца тармозіць, увесь тралейбус паварочвае галовы ў твой бок. Зразумела, Ірка таксама! Не пазнаць цябе, нават са спіны, немагчыма. Доўгія русыя валасы ўжо гады два матляюцца на тваёй галаве. Джынсы з’яўляюцца афіцыйным брэндам твайго жыццёвага стылю. Амаль што ўвесь год не здымаецца з плячэй скураная лётная куртка карычневага колеру – падарунак бацьку ад знаёмага афіцэра Ваенна-Паветраных Сілаў, – вельмі эксклюзіўная рэч. Фігура ў рэшце рэшт, паходка, асанка якая-небудзь, ці што там яшчэ, па чым прадстаўнікі аднаго полу беспамылкова ідэнтыфікуюць прадстаўнікоў супрацьлеглага …

У ваенкамат ты паспяваеш і сябра праводзіш як належыць. Пазней высветліцца, што ён патрапіў на афганскую мяжу (пасля войска, дарэчы, яны ажэняцца, з той самай сяброўкай з інтэрната ў яго атрымаецца выдатная сям’я).

А ты праз пару месяцаў развітваешся са сваёй змрочнай шэрай правінцыйнай навучальнай установай і падаеш дакументы на падрых-

тоўчыя курсы ў светлую сталічную ВНУ. Такое час ад часу таксама адбываецца.

Калі-некалі яшчэ здараецца, быццам бы нешта надыходзіць, – і ты цэлы месяц займаешся, не адрываючы галавы ад падручнікаў. Напрыклад, перачытваеш палову школьнай праграмы па літаратуры, да якой не датыкаўся апошніх гадоў пяць-шэсць. Трэба адзначыць у гэтым ланцугу выпадковасцяў, што заняткі на курсах вядуць найцікавейшыя людзі, і ты проста заўсёды знаходзішся ў стане лёгкага шоку – ад таго, як яны нечакана і нестандартна падаюць вучэбны матэрыял. Усё, што адбываецца, проста непараўнальна з тваім папярэднім студэнцкім досьведам! Гэта будзе гучаць пафасна, але ты ніколі ў жыцці не хацеў так вучыцца (скажам шчыра, што ў школе ты не напісаў ніводнага сачынення – няма чым ганарыцца, але так ёсць – першае ў жыцці было напісана на ўступным іспыце пасля вышэйузгаданых курсаў).

І вось ты прыязджаеш дадому на пару дзён, што пасля заканчэння курсаў даюцца на падрыхтоўку да іспытаў. І нечакана на цябе абрынаецца моцны бацькоўскі гнеў. Ты ўвогуле не разумееш пра што гаворка, калі мама пачынае трагічным голасам прычытаць: “Мы яму дапамагаем, мы яго на вучобу накіравалі, а ён, такі-растакі, усе грошы траціць, каб па піцерах раз’язджаць…” Ты, стаміўшыся шукаць логіку – а старыя не хочаць слухаць ні тваіх пытанняў, ні тваіх адказаў – выстаўляеш бацькоў вар’ятамі (ды прабачаць яны за тое непаразуменне), і з нялёгкім сэрцам едзеш назад да Менску.

Такое здараецца – ты проста не можаш ведаць (таму што сапраўды быў вельмі заняты сваімі новымі справамі), што ў самы адказны, можна сказаць пераломны момант твайго лёсу, з Піцера, у чарговы адпачынак прыехала Ірка Т. Зразумела, яна днямі сядзіць на працы ў сваёй сяброўкі Ленкі і распавядае байкі з севернай сталіцы імперыіі. Яны з Ленкай увесь час хіхікаюць, і між іншым Ірка раптам аднойчы узгадвае: “Ой, Мікалаеўна, я і забылася Вам сказаць, я ж сына Вашага нядаўна ў Піцеры бачыла…” Тут у Іркі бразнулася на падлогу сумачка, і яны з Ленкай пачынаюць рагатаць і збіраць рэчы па падлозе. А мама, з пабялелым тварам выходзіць на калідор. На вачах у яе слёзы. І дату, халера, калі ты на самой справе быў у тым Піцеры, на жаль, Ірка ўжо не ўдакладніць. Бо пакуль вернецца мама, хаваючы заплаканыя вочы, Ленка з Іркай ужо збягуць на абед…

Дык вось, калі-небудзь так здараецца – ты выходзіш ноччу пагуляць па Ленінграду (увогуле не з-за сяброўкі – проста самому захацелася прайсціся па набярэжнай), у стане блізкім да абмаражэння (амаль што не заўважыў – так сабе крышку прахалодна) ты спіш у чужой машыне на заднім сядзенні, замест утульнага інтэрнатаўскага ложку. Потым едзеш у тралейбусе, нумар якога не ведаеш, выпадкова сустракаеш знаёмую (іх у любым горадзе, на адлегласці ў тысячу кіламетраў, колькі

заўгодна), але гаварыць з ёй не дужа хочацца і ты выходзіш на невядомым прыпынку. Нейкім цудам ты ўчасна трапляеш да ваенкамату, каб выканаць сваю місію і праводзіць у рэшце рэшт прызыўніка да войска.

Толькі мама пра гэта не ведае, і амаль што праз паўгады вецер прыносіць ёй няпэўную інфармацыю. А ў мамы такая праца –перажываць за дзяцей і плакаць. Ну і пры чым тут апошні шанец? – пытаецца хтосьці з мамінай работы. Ды амаль што ні пры чым, – адказваеш ты. – Так, былая сяброўка пазнаёміла са сваім жаніхом, які прыехаў да яе ў госці з Піцера пад Новы год, менавіта на выступленні гурта "Апошні шанец".

# Квіткі да апошняга шанца

Лёха быў маім лепшым сябрам на першым курсе. З першых дзён знаёмства мы фанатычна абрывалі струны на гітарах, пісалі паэмы і ўвогуле не дужа разумелі – навошта нам здаўся гэты дыплом інжынера. Напрыканцы гэтага самага курса трэба было вызначацца – ці працягваць далей навучанне. Вырашана было паехаць на праслухоўванне ў музычную вучэльню – Лёха выпадкова знайшоў абвестку ў газеце і прынёс мне.

Здаецца, мы трэсліся ў нейкіх электрычках усю ноч і ранкам патрапілі на сталічны чыгуначны вакзал. Пабадзяліся па залах чакання, якія на пачатку 80-х мелі дастаткова правінцыйны выгляд, папілі нейкіх сумнёўных напояў у брудным вакзальным буфеце, распыталіся, як даехаць да месца праслухоўвання.

За гадзіну да мерапрыемства на лесвічнай пляцоўцы перад лёсавызначальнымі дзвярыма назбіралася даволі шмат народу. У асноўным – выхаваныя дзяўчынкі разам з татамі і мамамі. Апошнія дапамагалі трымаць скрыпічны футарал ці тэчку з нотамі. Трапляліся акуратна стрыжаныя хлапчукі ў белых кашулях і ў пінжаках з троечкай. Адзін патэнцыяльны абітурыент, які выглядаў намнога старэйшым за ўсіх, бесперапынна ганяў гаммы на сваёй электрагітары. Пераблытаць ягоны інструмент было немагчыма ні з якім іншым – гэта быў сапраўдны чэхаславацкі "Diamant". Мара ўсіх саўковых рэстаранных лабухаў.

Дакладна можна сказаць, што мы ў сваіх пакамечаных джынсах, у скураных пашарпаных куртках, з доўгімі нямытымі валасамі моцна выдзяляліся з шэрагу рэспектабельных прэтэндэнтаў.

У пэўны момант вызначыліся – я іду на праслухоўванне, а Лёха працягвае навучанне ў тэхнічнай ВНУ. Лёхава неўтаймаваная душа прыбівалася то да аднаго берага, то да другога ў акіяне сваіх магчымасцяў і інтарэсаў. Але ў сваёй жыццёвай пазіцыі ён застаўся

рачулкай Віранкай. У самой Малой Багацькаўцы, калі мы ўпершыню з Татам і маім братам Усяславам прыехалі сюды, Канава была яшчэ з вадой, а цяпер зусім высахла. Калі ў 1936 г. Максім Гарэцкі быў апошні раз у Малой Багацькаўцы, ён апісаў усе хаты вёскі і іх жыхароў – хат было 35. Пазней будаваліся яшчэ і новыя. Цяпер засталося толькі некалькі жылых хат як у Малой, так і ў Вялікай Багацькаўцы. Большасць хат стаяць з забітымі вокнамі, а то і пахіленымі, закінутымі. Самыя маладыя яе жыхары – Віктар, які ўжо пенсіянер, і Таццяна, якая будзе пенсіянеркай на наступны год. Сумна, вельмі сумна глядзець на паміраючую вёску, жыццё і лёс жыхароў якой з пачатку яе існавання так выдатна апісаў Максім Гарэцкі ў "Камароўскай хроніцы". Здавалася, неўміручыя жыццёвыя падзеі ніколі не пакінуць гэтую мілую прыгожую вёску. Ці адродзіцца яна? Хочацца стаць на калені і прасіць прабачэння ў той зямелькі, у той вёскі, у той хаты, якія былі сапраўдным родным кутом маім дзеду і бабулі, Тату і дзядзьку і якія маё пакаленне ўжо амаль згубіла і не захавала. Але калодзеж з лепшай ў акрузе крынічнай вадой ды музей-сядзіба ўсяляюць думку-надзею, што не можа загінуць такое цудоўнае месца.



***

У Мінск рушылі праз Горкі. Заехалі ў Горацкую раённую цэнтральную бібліятэку імя Максіма Гарэцкага, дзе нас вельмі ветліва сустрэлі беларускамоўныя супрацоўнікі бібліятэкі на чале з загадчыцай Наталляй Міхайлаўнай Ермалаевай. З удзячнасцю яны прынялі ад нас кнігі, якія мы прывезлі ў бібліятэку. Паказалі нам новую залу, якая будзе прысвечана М. Гарэцкаму, і дзе будзе размешчаны бюст пісьменніка работы З. Азгура, партрэт, шэраг фота і іншыя экспанаты пра яго жыццё і творчасць. Мне падаравалі даведнік “Горацкі Гарэцкі”, які мае наступныя раздзелы: Горкі ў жыцці і творчасці Максіма Гарэцкага; Вершы, прысвечаныя М. Гарэцкаму; Выданні аб жыцці і творчасці М. Гарэцкага; Кнігі твораў М. Гарэцкага.

Наведалі месца, дзе стаяў да “Дажынак” дом, у якім жыў М. Гарэцкі з сям’ёю. Роўнае месца з густой зялёнай травой нават зусім не нагадвае, што тут зусім нядаўна стаяў досыць вялікі будынак.

## Галава адміністрацыі – чалавек слова

У пачатку лютага 2013 г. я атрымаў ад галавы Кіраўскай раённай адміністрацыі Н.Ф. Сакалова ліст, у якім адзначалася, што *Администрация муниципального района «Город Киров и Кировский район» в мае 2013 года увековечит место, связанное с трудовой деятельностью М.И. Горецкого установлением мемориальной доски на здание бывшей школы.*

У канцы мая я праглядаў сайт “Хартыя” і з некаторым здзіўленнем ад такой рэдкай для нашага часу акуратнасці і з вялікай удзячнасцю Кіраўскай адміністрацыі і яе кіраўніку Н. Сакалову прачытаў:

*24 мая в Кирове Калужской области открыта мемориальная доска в честь классика белорусской литературы Максима Горецкого. Писатель жил в этом городе два последних года своей жизни.*

*Доска открыта на здании бывшей Песоченской средней школы № 1. В ней **Максим Горецкий** работал два учебных года: преподавал русский язык и литературу. Здесь в ноябре 1937 года был арестован органами НКВД, и 10 февраля 1938 года расстрелян в Вяземской тюрьме.*

*В нынешнем году отмечается 120-летний юбилей белорусского просветителя, чье имя и труды на его исторической родине пользуются огромным уважением и любовью. Ведь Максим Горецкий – один из создателей белорусского литературного языка, стоял у истоков*

*национальной литературы, создал немало прекрасных произведений, прожил короткую, но весьма насыщенную добрыми созидательными делами жизнь. Он знакомил белорусов с достижени-ями русской литературы: перевел на родной язык «Слово о полку Иго-реве», ряд произведений Горького, Фадеева и других писателей. Со-ставил и издал русско-белорусский и белорусско-русский словари. В ис-тории культуры оставил свой след как литературовед, лингвист, фольклорист, литературный критик, журналист, редактор. Кроме этого, Максим Горецкий постоянно преподавал в вузах и техникумах, стоял у истоков создания национальной академии наук.*

*Травень 2012 – травень 2013 г.*

## АНТОНІ ЛЯНГЭ (1861–1929)

# Ідыліі (Plein-air)

I.
За густой сцяной паркану
Гнуць сланечнікі галовы.
Бляскам золата прыбраны
Маякі садоў вясковых.

І за сонцам, ясным сонцам,
Быццам нехта кінуў чары,
Кружыць цэлы дзень і сочыць
Жар іх светлых, круглых твараў.

На пасцель з травы зялёнай
Я між сном і летуценнем
Пад старым, шырокім клёнам,
Лёг – кружу – шукаю ценю.

Ўсё кружу за ценем цёмным,
Нібы сонца – злы мой вораг.
Кпяць сланечнікі нястомна
З вынаходніцтва такога.

II.
Летам літасці не мае
Сонца: сыпле стрэлы-промні,
Распаліўшыся, палае,
Як сталёвы брус у домне.

Бляск яго настолькі моцны,
Што калі заплюшчыш вочы,
Бачыш вогненныя кольцы,
З фіялету дзіўны дожджык.

А адкрыеш ты павекі –
Дыск з-пад купала нябёсаў
Белым бляскам ззяе гэткім,
Быццам бы алмазаў россып.

Ён загорнуты ў празрысты
Німб – уласны свой адбітак,
Што сатканы з тонкіх, чыстых,
Нібы кроплі, срэбных нітак.

А праз неба ў шлях далёкі,
Праз блакіт плывуць вясёлы
Беласнежныя аблокі,
Як лябёдкі, ці анёлы.

Зноў хаваюся пад клёнам,
Зноў кладуся ў той жа позе,
І блукае па бяздонным
Небе мой паўсонны позірк.

III.
Хопіць неба, ды сінечы!
Сузіраць бясконцасць кіну.
Болей дробных прагну рэчаў –
Ах, тут зелень, зеляніна ...

І кірую зрок дадолу,
Зёлкі тут квітнеюць спрытна –
Кветам рознакаляровым
Наваколле ўсё пакрыта.

На мураўцы ў цень лягаю.
Тут, пад дрэвам – як у ложку.
А вакол – трава буяе –
Вось асцюг, а вось цімошка.

Сярод лопухаў, палыну,
Нібы белыя сурвэткі,
Альбо снежная пярына,
Дзікай морквы ззяюць кветкі.

Жоўтым – люцікі, ліловым
Узышоў чабор духмяны,
Меней макаў пурпуровых:
Рві ў вянок іх для каханай.

Па-над шумам, тлумам траваў
Над высокай – над дзіваннай –
Грае крыльцам залатая
Страказа, завуць што паннай.

Хіліць кветкі ціхі ветрык,
Песціць іх, цалуе ў шчокі.
Роем кружацца ў паветры
Матылькі нібы аблокі.

І, нябачныя для вока,
Адзываюцца казюлькі,
Што жывуць тут, чыняць бойкі,
Разнастайныя танцулькі.

Грамадой вялікай шпарацъ
Ладзіць гульні, бітвы, шэсці:
Гэтак цешаць нас і бавяць
Дзеці лугу – нашы дзеці!

У лістоце дрэў зялёных
Пахаваліся аркестры,
І даносіцца натхнёны
Птушак спеў – лугоў маэстра.

IV.
Сціхні, сціхні, хор птушыны!
Ладзіць свой губны гармонік
Лепшы майстар у лагчыне,
Першы голас лета – конік.

У густых схаваўся травах
Ад назойлівага тлуму,
Бы прарок-шукальнік праўды,
І заводзіць песню-думу.

Ах, спявае, нібы плача
Над жыццём сваім сірочым,
Б'юцца крыльцы ў такт. Няйначай
Тужыць ён і днём і ноччу!

Працінае наваколле,
Палымяна, звар'яцела,
Апантана песня волі
Дрыгаціць нябачным целам.

Гукі дзіўнай той балады
То звіняць амаль нячутна,
То імклівым вадаспадам,
Разліваюцца магутна.

І душу перапаўняюць,
Ап'яняюць, рвуць на часткі,
І журбой адвечнай раняць,
І ў краіну клічуць казкі!

І здзіўляюць, і люляюць,
То паўторацца, як рэха.
Раптам – ціш. Артыст змаўкае,
П'е пяшчотаў сок і ўцехаў.

Клён стары мой, дружа мілы,
Колькі ты ўдыхнуў натхнення!
Песням даў маім ты крылы,
Іх збудзіўшы патаемна!

Калі даш мне, добры клён мой,
Голас коніка і грудзі,
Жар гармоніі ягонай,
Цуд – якая песня будзе!

Клён стары, цябе прашу я,
Тога рэха дай, той жарсці!
Песню я спяю такую,
Што ў любой пачуюць хаце!

V.
Ах, як ціха! Безгалосы
Поўдзень жне лугоў маўчанне.
Зрэдку чуецца за вёскай
Брэх сабак, кароў рыканне.

Сонца паліць, сонца смаліць,
Што зямля ажно слабее.
Спёка. Дыхаць чым не маюць
Дрэваў сонныя алеі.

Промні палка, палымяна
Песцяць зелень іх лістоты,
Пацалункам срэбным раняць:
Не трымціць лісток ніводны.

Змоўкла ўсё наўкол у сонным,
Нерухомым асляпленні,
У агністым, прамяністым,
Аднастайным асвятленні.

VI.
Шчыльны шчыт зялёных сценаў
Акружыць мяне імкнецца,
А зялёнага адценняў
Тут за сотню набярэцца.

Ліст пад золата, пад срэбра,
Папялісты, белаваты,
Ёсць сіроткі ў чорным зрэб'і,
Ёсць паны ў блакітных шатах.

Колькі ж тут, у зеляніне,
Белі, срэбра і блакіту!
Вось смарагды на галіне,
Вось сапфіры, малахіты!

Аўдавелы бэз на полі,
Бель бяроз і вольхаў хмары,
Рад сівых дубоў, тапаляў,
Маладыя ясакары.

Ясных ясеняў фантаны,
І рабіны, і каліны,
Вось акацыі, каштаны,
Дзе-нідзе растуць яліны.

Сталі ўсе, маўчаць тужліва,
Знерухомелі ад спёкі.
І, як сонца, паміж імі
Дрэмле клён мой адзінокі.

VII.
Сонца дыск схаваўся спрытна
Па-за колам дрэваў-вежаў,
Ценем іх накрыў блакітным.
Дзьмухнуў ветру подых свежы.

Дзьмухнуў вецер – знішчыў цішу,
Зашумеў над кожнай кронай.
Ён галіны дрэў калыша,
Пах разносіць іх чароўны.

З шумных, шумных, шумных дрэўцаў
Сум сплывае адмысловы.
То бяроз цурчанне льецца
У тапаляў стогн сталёвы.

Знікла золата з акацый,
Скінуў клён лістоты частку,
Дуб апошні жолуд страціў.
Восень ставіць сеткі-пасткі.

З шумных, шумных, шумных дрэўцаў
Спеў на ўсе лады злятае.
Кожны ліст, сваю, здаецца,
Песню ўласную спявае.

Слухай дзіўную кантату!
Тут adagia, pianta, larga,
Dolorosa і irata:
Гул і шэпт, сляза і скарга!

З шумных, шумных, шумных дрэўцаў
Шум ва ўсе бакі шугае,
Зліцца ў песню ён імкнецца
Без пачатку і без краю.

І зліліся ўрэшце спевы
У сімфонію маркоты.
Дык аб чым спяваюць дрэвы?
Адкажы мне, клён мой родны!

VIII.
Мовіць клён стары мне ціха:
"Выйшаў, выйшаў час дзівосаў.
Сеў туман, лістота знікла.
Крочыць восень! Крочыць восень! "

– Восень тут? Ды не ў прыродзе!
Гэта сэрца проста згасла!
Па нябёсах лета ходзіць,
Па лугах, дзе поўна красак! ...

Клён стары на гэта кажа:
“Восень, восень недалёка.
Хоць няўмольна сонца смажыць,
Дрэвы чуюць смерці крокі”.

Кажа клён стары на гэта
Зелянявым шматгалоссем:
– У табе, магчыма, лета,
На зямлі ж пануе восень.

Ты між гэтых дзвюх тапаляў,
Бы ў вакно, пачні ўзірацца.
Глянь, стаіць пустое поле,
Каласы не залацяцца.

Нібы белых тры анёлы
Па-над полем тым шырокім,
Распасцёршы крылы вольна,
Тры буслы лятуць высока.

Бусел-бацька разам з дзецьмі
Гоніць хмарак срэбны россып,
Кажа ўсё вышэй ляцець ім:
“Гэй жа, дзеці, на нябёсы!”

Вучыць дзетак ён палёту –
Плыць, знікаць у небе сінім,
Бо нядоўга дзень адлёту –
Час растання з селянінам.

Глянь – ралля адпачывае.
Леглі ўсе снапы ў стадоле.
Новых, шчодрых ураджаяў
І сяўбы чакае поле!

Новых зернейкаў чакае –
Хай жа спраўдзіцца надзея!
Чарада ж буслоў растае,
Знікне ў дзень Барталамея!

Хоць і сонца сыпле іскры,
Чутны дрэваў шум самотны.
Сумна ім, бо восень блізка,
Бо вятрыска рве лістоту.

Клён замоўк, а дрэў лістота
Песняй восень кліча ветла,
Урачыста і свабодна...
Ці жыве ўва мне шчэ лета?

Стаў, верасень 1892 г.

З польскай мовы
пераклаў Анатоль Брусэвіч

# Віктар Стахвюк

# МАЯ КАМЧАТКА

**Мінск, ліпень 1993**

Усё пачалося раней. Было цудоўнае надвор'е 1990 года. У Белавежскай пушчы адбывалася першая сустрэча дзеячаў Беларускага народнага фронту і ягонага старшыні Зянона Пазняка з віднымі прадстаўнікамі замежнай беларускай дыяспары, сярод якіх былі Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Вячка Станкевіч і іншыя. Гаспадаром сустрэчы было Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне (БДА) у Польшчы. З нашага боку прысутнічалі – Сакрат Яновіч, Алег Латышонак, браты Міpiановічы, Ваня Максімюк, Валік Сельвясюк, Пётр Юшчук, студэнцкія дзеячы і іншыя. Большасць арганізацыйных абавязкаў была даручана мне, як каардынатару Краёвай управы Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання, таму ў мяне не было шмат магчымасцей спакойна прысутнічаць на пасяджэннях.

Маскоўскі І канал тэлебачання адрэагаваў на гэту сустрэчу беларусаў свету інфармацыяй, што беларускія нацыяналісты сабраліся ў Белавежскай пушчы падзяліць Савецкі Саюз.

І збылося. Два гады пасля Барыс Ельцын, Станіслаў Шушкевіч і Леанід Краўчук у той жа пушчы, толькі з другога боку мяжы, у Віскулях, развязалі Савецкі Саюз. Выхінулі з яго пастсавецкія краіны, уключна з Беларуссю, свабодна згуртаваныя ў Саюзе Незалежных Дзяржаў.

Дык вось, у вольнай і незалежнай Беларусі трываў легальны І З'езд Беларусаў Свету. Быў сонечны ліпень 1993 года. Было мнагалюдна і радасна. Адчуваўся, немагчымы раней, подых волі, з увагі на папушчаныя вузы дэмакратычна настроеным Станіславам Шушкевічам.

Ці гэта ён сам, ці ягоны «двор» тайком рыхтаваў планы вуніі з Польшчаю, не ведаю, не скажу. Валютай у аб'яднанай дзяржаве быў бы польскі злоты. «Княства Стася», калі хто яшчэ лічыўся б з такой патрэбай, атрымала б доступ да Балтыкі праз Гданьск. Вяліся закулісныя перамовы, аднак Лех Валенса або чагосьці не даразумеў, або яму не так параілі, але сон «князя Стася» пра рэцыдыў адзінай Рэчыпаспалітай не збыўся.

Дзякуй Богу! Інакш беларусы зніклі б назаўжды як нацыя, што наглядна даказала першая Рэчпаспалітая, у якой палякі і лацціннікі

спярша ганебна, не цураючыся шантажу, пагроз і гвалту, даканалі праваслаўе, а нарэшце нашу спрадвечную рускасць з яе кірылічным пісьмом і моваю, бесцыромонна мяняючы яе на пальшчызну, як быццам іхняя пісьмовасць была ў чым-колечы лепшай ад нашай. У выніку зніклі беспаваротна нацыянальныя эліты, папаўняючы польскі арэол славы – Хадкевічы, Радзівілы, Пацы, Сапегі, Чартарыйскія, Тышкевічы і мора іншых. Знікла ў пражэрлівым горле чужынцаў наша ратная слава і культура.

Нам сёння, беларусам, ганарыцца імі, тымі асабліва, хто па сваёй волі перабег за вялы букет міражоў у рады чужынцаў, гэта тое самае, што ўхваліць самы ганебны ўчынак чалавека – здраду. А яны, якраз князі і баяры (шляхцічы) нашы, наследнікі знатных рускіх родаў, не цырымоніліся з тым, што пра іх скажуць у далёкай і непрадбачлівай будучыні суродзічы, ці сам народ, здраджаны імі. Здавалася ім, магчыма, што без іх народ загіне, знікне з рэальнага жыцця, застаючыся за туманным занавесам гісторыі. На іх няшчасце беларусы выжылі. Таму мы можам назваць рэчы сваім імем.

Мы – народ, у асноўнай сваёй масе, не спракуджаны ідэалогіяй езуіцкай нянавісці да саміх сябе, да сваіх канфесійных і родавых карэнняў, добры і справядлівы, чужы для нас рэваншызм. У нас няма хворага жадання захопу нават найменшай пядзі чужой зямлі, грабяжу маёмасці суседа, ягонай гісторыі і культуры і ганебнага пераўтварэння іншапляменнага люду ў манкуртаў – каб, нарэшце, асіміляваць яго ў свой этнас, вырваць у яго душу і праз нягодны хрысціяніна празелітызм падпарадкаваць свайму касцёлу.

Мы, беларусы, сумелі, аднак, зберагчы памяць. Толькі абсалютны дурань, у якога трудна шукаць слядоў розуму і памяці, два разы лезе ў той самы капкан. А Трэцяй Польскай Рэчпаспалітай зноўку марыцца ўжо «Чарговая РП», ад мора да мора, у якой для Белай Русі адводзіцца месца асіміляцыйнага палігону. На жаль, сярод нас ёсць шмат такіх, здэправаваных чужой ідэалогіяй русафобаў, нават з шырокавядомым імем, якія, як некалі Ягайла, за «прывілей» сядзець сярод еўрапейскіх «калег-каралёў» прададуць сваю бацькаўшчыну паводле сцэнарыя, праверанага на практыцы на нашым народзе езуітамі падваршаўскага паляка Пятра Скаргі. А калі на дарозе да шчасця стаяць будзе гісторыя, то нічога прасцейшага, як перапісаць яе, спасылаючыся на дапрацаваныя, пранізаныя нևераггодным ілгунствам, ці звычайнай ментальнай інфантыльнасцю, ды абражаючыя нашу нацыянальную годнасць, апрацаванні польскіх гісторыкаў.

Адсюль ідуць стымулы па ажыццяўленні мёртвага праекту ліцьвінства, ці нават паляка-ліцьвінства, узброенага агрэсіўнай ідэалогіяй русаедства.

На самой справе, можа, на гэты раз сам Бог змілаваўся над толькі

што ўваскрэслай Беларуссю, таму двор Леха не ўцяміў, які дар хоча аддаць ім проста "за так" закамплексаваны "князь Стась". І слава Госпаду!

Беларусы свету пра гэты закалот нічога не ведалі і снілі мары пра ўстаўшую з калень вольную і незалежную, ад ніякіх братоў ці сястрычак, Бацькаўшчыну, якая акрамя лунаўшага над домам ураду бел-чырвона-белага сцягу і старажытнага гербу, пачала сарамліва прыпамінаць сваю мову. Нават міністры Франца Кебіча стараліся хутка яе вывучыць, таму што гэта гарантавала ім пасады. Але ж не толькі яны... Аднак па чарзе.

*

Як заўсёды, Лідзія Міхайлаўна, *заведующая* адміністрацыяй гасцініц горада Мінска, дзякуючы даўняй рэкамендацыі "Бацькаўшчыны", закватэравала мяне на сёмым паверсе гасцініцы "Беларусь", па-суседску з ізраільскім пасольствам. Ахоўнікі пасольства мяне ўжо ведалі і не звярталі асаблівай ўвагі на маіх госцей. Я бываў тут па некалькі дзён раз на два тыдні – ад часу, калі справы маёй фірмы пайшлі ў добрым накірунку.

У гэты вечар на балкончыку буфета на дзевятым паверсе гасцініцы сядзелі за бутэлькай шампанскага чатыры прыгожыя, асмеленыя подыхам волі паненкі і спявалі "Касіў Ясь канюшыну" пад патрыятычна настроеных багатых землякоў з Амерыкі, удзельнікаў з'езду. *Business is business!* Быў з імі і мой знаёмы сябар з незалежных кругоў, які, пабачыўшы мяне, паклікаў у кампанію. Мой рэйтынг у паненак тут жа вырас, калі сябра прадставіў мяне як крутога бізнесмена з Польшчы, дый шчырага беларуса. Я заказаў шампанскае і паміж строфамі песні пачуў прапанову на амаль беларускай мове, што, моў, з увагі на яе патрыятычныя пачуцці, яна гатова што-нешта *пожертвовать*, аднак толькі, як другі акт інтымнага спектаклю.

– Першы стоіць сто баксаў, спадар! – пачуў я ад гожанькай зямлячкі.

– На жаль, – кажу, – я закватэраваўся з жонкай, якая цяпер недзе на сустрэчы Фонду беларускага слова. Але ж можа зараз вярнуцца.

Мой сябар глянуў на мяне і ніяк не мог уцяміць, што ж гэта за фонд, пра які ён ані дуду! Зразумела, што такога фонду і ў прыродзе пакуль што не было, а мая жонка, мабыць, спакойна сядзела перад тэлевізарам у нашай кватэры ў Беластоку. Калі я расказаў Сакрату, на якой мове атрымаў учора сэкс-прапанову, ён пракаментаваў гэта на поўным сур'ёзе: што калі так, то Беларусі наканавана быць незалежнай! Гэты бізнэс першы адчувае подых часу і рэагуе на змены найхутчэй.

Там жа ад майго сябра я пачуў, што шчыры камчацкі беларус шукае польскіх беларусаў, каб наладзіць супольную лоўлю ахоцкай рыбы і крабаў.

*

На другі дзень у гасцінічным круглым рэстаране мой учарашні сябра пазнаёміў мяне з Мікалаем Мікалаевічам Санаевым. Высокі, вярзілісты даўгатвары Мікалай Мікалаевіч быў зоркай кампаніі, якую, пад абеднюю пляшачку, частаваў арыгінальным камчацкім крабам.

Ён здорава паціснуў маю руку і распавёў пра о*билие камчатских морей* у рыбу, ласося і крабы.

– Мы, – кажа, – забросаем Польшу и всю Европу рыбой, красной икрой и крабами. Ты только дай пару суднов, поговори с поляками и они тебе всё отдадут, ибо их с Камчатки выбросят! Понял!? А мы всё это от них купим, но когда заработаем. Ты будеш у нас адмиралом!

– Хорошо, Мікалай Мікалаевич, я згодны, толькі тут патрэбна яшчэ згода польскага міністра.

– Я это уже знаю. Ты её получишь! Я людей хорошю вижу и ты это сделаешь. Понял!?

– Понял!

І мы ў добрым настроі доўга зарысоўвалі планы паходу па залатое руно, няспешна выпівалі і прыкусвалі камчацкімі крабамі і мясцовымі спецыямі.

**Варшава, 1993**

**Беларускае пасольства**

Банкет, на які мяне як каардынатара Краёвай управы Беларускага демакратычнага аб’яднання, а яшчэ нядаўна і як сакратара ГП БГКТ, рэгулярна запрашалі, быў у поўным разгары. На гэты раз свята праводзілася ў Каралеўскім замку ў Варшаве багата і з шыкам. Было многа гасцей, дыпламатычны корпус, чыны польскага ўраду і вядомыя асабістасці. Як заўсёды, было шырокае прадстаўніцтва беларусаў Падляшша.

Я пабачыў Марка Навакоўскага, які стаяў са Стэфанам Браткоўскім, і падышоў да іх. Хвілін пару вялі *tete-a-tete*, і я, глянуўшы на Браткоўскага, згадаў Мікалая Мікалаевіча, прадоўжасты твар якога крыху мне яго напамінаў. Аднёсшыся да мінскай сустрэчы з ММ, я коратка выклаў камчацкую ідэю Санаева і спытаў, ці выпадкам ёсць сярод гасцей міністр Транспарту і Марской Гаспадаркі.

– Ёсць, – кажа Стэфан. – Падыдзем, пазнаёмлю цябе з ім.

Пару хвілін пасля ён прадставіў мяне міністру Збышку Сулятыцкаму:

– Збышку, вось лідэр беларусаў у Польшчы. Мае для цябе цікавую прапанову.

– Так? Тады слухаю.

– Пан міністр, прапаную квоту на Далёкім Усходзе.

– Квоту на што, менавіта!?

– Напраклад, на мінтая.

– Дзе канкрэтна?

– Ахоцкае мора.

– Прашу ў сувязі з гэтым заўтра ў 9.00 прыйсці да мяне ў кабінет, – сказаў міністр, даючы мне сваю візітку.

– Дзякую, пан міністр. Буду пунктуальна.

**Міністэрства транспарту і гаспадаркі мора**
**Кабінет міністра. 9.00**

Уваходжу. За пісьмовым сталом сакратарка як быццам з казкі Клінтана. Гм! Хоць цыгару аблізвай. Я прадставіўся, даў сваю візітку. Паненка праз інтэрком заявіла аб маім прыбыцці і хвіліну пасля выйшла з-за стала і адкрыла дзверы кабінета. Высокі Сулятыцкі ступіў насупраць, па-матроску сціснуў руку, папрасіў сесці і заказаў дзве моцныя кавы, што было пасля ўчарашняга банкету, лепш не прыдумаеш.

– Заінтрыгавалі вы мяне ўчора нештодзённай прапановай, – пачаў міністр без лішніх канвенансаў. – Мужык быў мараком і, відаць, міністэрыяльнае крэсла не надта змяніла ягоныя прывычкі. – Гэта не я буду з вамі размаўляць пра дэталі, а дэпартамент глыбіннай рыбалоўлі. Гэта пазней. Сам хацеў бы, аднак, пакуль вас завядуць туды, запытаць, адкуль такая ідэя квоты?

– Пан міністр. Дазволю сабе спачатку ў некалькіх словах сказаць аб сабе. У мяне, як каардынатара Краёвай управы Беларускага дэмакратычнага аб’яднання, ёсць цесныя кантакты з Беларуссю і беларускай дыяспарай. Пасля апошніх дэмакратычных перамен у Беларусі супрацоўніцтва дыяспар замацавалася, і якраз адбыўся Першы Кангрэс беларусаў свету. З’явіліся на кангрэсе таксама беларусы з Камчаткі. Хачу вас запэўніць, што ў мяне ёсць падставы цвердзіць, што яны многа там значаць і маюць салідныя магчымасці ў адміністрацыі губернатара.

Пасля дзесяці хвілін гутаркі міністр быў перакананы, што пытанне квоты не пазбаўлена шансаў і выклікаў шэфа *Sea Fisheries Department*, Кшыштафа Яворскага, каб абавязкова ён пагаварыў са мною. Калі я развітваўся з міністрам, ён, моцна сціскаючы руку, сказаў:

– Не дайцеся тым ваўкам з дэпартаменту. Яны захочуць вас пераэкзаменаваць.

– Пастараюся апраўдаць ваш давер, пан міністр.

У дэпартаменце мы канкрэтна пагаварылі пра магчымасць афармлення квоты. Я паўтарыў большасць з таго, што перад выездам выдубіў ад М.М. Санаева, а пры нагодзе прыдалося дасведчанне з бізнэсавых перамоў. Праз трыццаць хвілін я ведаў, што экзамен здаў. Калі шэф дэпартаменту, Кшыштаф Яворскі запрапанаваў супрацоўніцтва са шчэцінскай кампаніяй “Грыф” або гданскім “Дальморам”, я спытаў:

– У якой фірме маладзейшы прэзідэнт?
– У “Грыфе”. Пётр Ясноўскі.
Тады еду ў Шчэцін.

**Шчэцін. „Gryf”**

Жоўтым мерседэсам -“бочкаю” ехалі мы з Пятром Крукам па лёгка абледзянелай дарозе праз Познань, Стржэльцы Краенскія (раней “Украінскія”), Гожув Велькапольскі, Старгард да самога Шчэціна. Нас чакалі шэфы гіганцкай рыбалоўнай кампаніі „Gryf”. У той час па сусветных марах і акіянах плавалі трыццаць два іхнія рыбалоўныя траўлеры, па амаль тры тысячы BRT кожны. Гэта была адна з найбольшых у свеце флатыліяў.

Шчэцін таяў ад ранішніх прымаразкаў і агаляў рады шэрака-рычневых камяніц, уздоўж якіх струменіліся заклапочаныя гараджане і прыезджыя. Шустра мітусіліся на прыпынках гаманлівыя групкі школьнай моладзі. На вуліцах шмат было ўжо лепшых машын, лімузінаў, ажывіліся вітрыны крамаў.

І ўсё ж такі гэты партовы горад здаваўся прыгашаным першымі выплескамі беспрацоўных і як быццам здзіўленым імкліва растучым расколам паміж багаццем і галыцьбою. Сярэдні клас, які меўся хутка вырасці з прыватызаваных спешна соцгігантаў, стаў растварацца ў ніякасці, нікнуць разам са сваімі марамі і планамі ў чорнай дзіры паміж з’явіўшымся знікуль манструальным бізнесам “сябрукоў сямейкі”, пад якіх Левандоўскі з Бальцэровічам праклалі непадкантрольную сцежку, і растучаю, быццам на дражджах, галечаю.

Хутка прарвецца адтуль шэрая зона, арганізаваная з удзелам былых спецслужбаў, з арміяй бязлітасных ваўкоў, з бейсболевымі палкамі ў руках. Незадоўга арганізуюцца і вырастуць з яе *gangi*, спалучаючыя крыміналітэт з мафіозамі прыхватызацыі і баронамі палітыкі.

Мне, якраз, таксама трэба было вырвацца з маразму немагчымасці.

Нічога, што я застаўся без граша ў кішэні пасля таго, як бэгэкатоўскія таварышы згуртаваліся, каб з чужога спецпадшэпту вышыбнуць мяне з сакратарскай пасады, а пасля *step by step* з беларускага руху. Рух таварышаў я апярэдзіў і сам склаў рэзігнацыю ды абнародаваў яе на пленуме ГП БГКТ з салідным абгрунтаваннем. А розыгрыш сябрукоў з незалежных структур, з той самай спецпадачы, я прыняў ужо спакойна, як прыгавор на ссылку ў арганізацыйнае небыццё. Што ж, дзяржава ўваскрэсла пасля рэвалюцыйнага хаосу, акрэпла і стала парадкаваць грамадскую ды палітычную прастору, накіроўваць яе ў прадбачлівае рэчышча. Тым болей у нацменаў.

Ад дапамогі для беспрацоўных я адмовіўся. Узяў справы ў свае рукі. Купіў скураны “дыпламат”, мадэрную вопратку бізнесмена і неўзабаве праз зарэгістраваную на сябе суполку “Эльвімэкс” павёз людзей

у санаторыі Беларусі. Бізнес у Беларусі быў у зародышы. Тады і там былі наладжаны мае першыя гаспадарчыя кантакты. Паявіліся новыя магчымасці бізнесу і я, не маючы спачатку ўяўлення, чым ёсць міжнародны гандаль, стаў імпартаваць з Беларусі шкло, шклоблокі, гіпсакартон, а нават шыфер з Краснасельска. Фірма мужнела. Офіс са сваёй кватэры я перанёс на вуліцу М. Кюры-Складоўскай ў Беластоку, у дом прафсаюзаў, у памяшканні з абшырным балконам, на якім падчас першамайскіх дэманстрацыяў стаялі пээрэляўскія тузы.

Цяпер еду на перамовы з самім прэзідэнтам кампаніі „Gryf". Першы паверх камяніцы-офісніка, сляды постнароднага інтэр'еру, скураныя крэслы, дыван. Малады, высокі Пётр Ясноўскі падняўся з-за цёмнакарычневага саліднага стала, сціснуў руку і жэстам гаспадара запрасіў сесці. Заказаў у сакратаркі каву і ў настроі добразычлівасці распытаў пра дарогу. У атмасферы прыхільнасці і даверлівасці мы без непатрэбнай балбатні перайшлі да справы. Па загаду Ясноўскага сакратарка паклікала ягонага намесніка Францішка Кужымскага і шэфа каманды дарадчыкаў Яна Спруса. Абгаварылі ідэю суполкі. Мы павінны закласці суполку *joint venture* польска-беларускую, у якой свае ўдзелы будуць мець „Gryf", беларуска-камчацкі бок і мой *"Elvimex"*. Фірму зарэгіструем у Мінску, у міністэрстве транспарту. Я меў падрыхтаваць плацдарм для іх прыезду. Паколькі Пятро Крук, не апошні раз, выступаў у ролі майго шафёра, я спакойна чокнуўся з будучымі супольнікамі-кампаньёнамі. Вярталіся ў настроі трапэраў, якія напароліся на след залатой жылы.

**Гародня**

Быў студзень 1994 года. Разам з Янам Спрусам і Станіславам Кацпэркам, экспертамі „Gryfa", мы паехалі маім "мерседэсам-бочкаю" праз граніцу ў суседнюю Гародню. Пагранічнікі і мытнікі абодвух бакоў ведалі мяне ўжо добра, таму мы гладка прайшлі граніцу, асабліва з беларускага боку. Іх ужо не здзіўляла тое, што з польскага боку мяжы пражывае кампактна мноства беларусаў. Раней неяк у іх было закадавана, што на Гарадзеншчыне могуць пражываць палякі, а чамусьці этнічныя беларусы ў Польшчы – гэта непраўдападобная гісторыя.

Мы заехалі ў час, закватэраваліся ў гасцініцы "Гродна" і сустрэліся на месцы з Віктарам Сіўчыкам і Мікалаем Мікалаевічам Санаевым. У гасцінічным пакоі Мікалай Мікалаевіч размаляваў карціну Камчаткі, гарачых руднікоў Паратунка, крабаў, ікры, кіжуча, неркі і гарбушы, а таксама, што асабліва цікавіла прадстаўнікоў „Gryfa" , *обилие* мінтая! Нас частавалі крабамі з банкі пад чарку польскай гарэлкі, а закусвалі чырвонай ікрою. Абгаварылі арганізацыю *joint venture*, задачы і хто іх бярэ на сябе. Пазначылі праект статуту, прадыскутавалі рэгістрацыю суполкі і квоту ад губернатара. Апошняе ўзяў на сябе сам Санаеў.

Пасля перамоў – вечар без гальштукаў пры прыстойна скампанаваным рознымі спецыямі стале, на подыюме, у зале рэстарана. Прадстаўнікі „Gryfa” не паскупіліся. Унізе на паркеце тусаваліся гараднянкі, даўганогія і прыгожыя. З кожнай чаркай падымаўся тонус, выкрунтасы прыгажунь цешылі вока.

Мы доўга піравалі ў настроі заўтрашняга паходу па залатое руно.

**Мінск**

**Гасцініца "Беларусь". Змена канцэпцыі**

Прайшло пару месяцаў на дапрацоўку праектаў, тэлефонных размоў, каб штосьці выясніць, дапрэцызаваць, узгодніць. Нарэшце Віктар Сіўчык склаў рэгламент сустрэч у Мінску, у сакавіку.

У Мінск паехалі я і Ян Спрус. Ужо раней мы без лішніх цырымоніяў і без непатрэбных *„ą” і „ę”* перайшлі на непасрэдную формулу і Ян адкрыўся, расказваючы пра марскія прыгоды і партовыя заварухі. Фантастычныя, чысцейшай вады "эксклюзівы" з першай рукі. Быццам бы перадаваў гатовыя сцэнарыі для фільмаў. Во, бяры і запісвай, і раман гатовы. Хоць бы ягоны расказ пра паход польскай флатыліі, калі амерыканцы, у якіх яшчэ ў той час не было рыбалоўнага флоту, аб'явілі двухсотмілявую прыбярэжную паласу сваёй эканамічнай зонай. Трыццаць польскіх траўлераў вымушаны былі пакінуць воды амерыканскага шэльфа Атлантыкі і, блукаючы нейкі час на поўдні Мексіканскага заліва, узялі курс на Фалкланды-Мальвіны. Калі даплывалі да іх тэрытарыяльных вод, успыхнула англа-аргентынская вайна за гэтыя астравы. Трэба было павярнуць флатылію на прыафрыканскі шэльф. Ні ахвярнасці, ні чалавечых стрэсаў, ні коштаў паходу праз нямераныя прасторы акіяну не палічыш. За ноч не перапішаш.

Я зрэдку адгукаўся, распавядаючы пра падводныя «трылеры» са свайго жыцця, якія здараліся падчас пошукаў утопленікаў або экстрэмальных акцыяў.

Час праімкнуў незаўважна і мы, няведама калі, апынуліся ў Мінску. Якраз завяршалася бяскроўная рэвалюцыя, усплеск нацыянальнай ідэі. У дзень нашага прыезду ў парку пры Оперным тэатры, пад вечар, адбываўся мітынг БНФ. Народу нябачанае зборышча, усе на святочным уздыме. На трыбуне, на якую і нас запрасілі, натоўп знаёмых апазіцыйных дэпутатаў, з якімі я сардэчна прывітаўся і знаёміў з маім польскім сябрам.

Выступалі дзеячы-дэпутаты, між іншым Валянцін Голубеў, Мікола Статкевіч і, як памятаю, Людміла Пеціна ад жаночых арганізацыяў і, урэшце, сам Зянон Пазняк, якога па шчырасці шаную па сённяшні дзень, хоць не ва ўсім згодны з ягонымі поглядамі. Гаварыў Зянон палка, задзёрыста і, маючы так адушаўляючую аўдыторыю, не вытрымаў і сеў на любімага каня антырасейскасці. Хай і мінчукі

пераймуць ад яго частку русафобіі, якую вякамі ўшчэплівалі ў падсвядомасць беларусам-католікам ватыканскія эмісары на Беларусь. Сістэмна, спрытна і неверагодна эфектыўна.

Гэта тут, на Усходзе, спрадвечны комтурскі дух Ватыкану шукае сваіх адэптаў, падвяргае вякамі выпрацаваным метадам прамывання мазгоў, а пасля бушуе ў іхніх галовах выплескамі нянавісці да "расейскага" праваслаўя і праяў карэннай рушчыны нашых продкаў.

Успомніў Зянон Станіслававіч і Аршанскую перамогу: Адзін беларус супраць дзесяці расейцаў!

Як ні дзіўна, але палякі, да якіх так падлізваюцца многія закамплексаваныя "найяснейшай" беларускія дзеячы (Зянон тут якраз вынятак, прынамсі, ім быў), у сваіх падручніках гісторыі ні словам не ўспамінаюць пра беларусаў у аршанскай бітве і мностве іншых, як Кірхольм ці Хоцім. Ворша для палякаў – гэта польскі *Blitzkrieg*, а беларусаў там нават ценю не было, ну, можа нейкія недаакрэсленыя „*Litwini*". І гэта, як ні дзіўна, ніякім чынам не перашкаджае некаторым новапамазаным тыграм варшаўскіх салонаў.

Аказваецца, адны суседзі могуць запалоніць неабсяжную частку гісторыі і гонару твайго народа. Або замаўчаць на смерць. І што!? І нічога! Таму што той, хто любым коштам імкнецца прыклеіцца да заходняй цывілізацыі і вывесці свае карані з яе канфесійных недраў, прыплюшчыць вочы і будзе сляпы і глухі на ўсё, што чвэрылася імі. Затое падыме існы віск на праявы даўным-даўнія і сённяшні гвалт усходняй "імперыі зла". І будзе ўзводзіць сябе на п'едэстал змагара за волю народа. Часткова справядліва і слушна, а часткова смешна, калі за вызваленне праваслаўнага люду, ад яго самога, бярэцца беларус-лацiннік, для якога якраз канфесія першарадная справа, а спрадвечны комтурскі дух шалее ў яго падсвядомасці, іграе на ягоных эмоцыях і выбухае гэйзерамі ваяўнічай непрымірымасці. Ажно дзіва бярэ, у якіх формах заядласці гэта непрымірымасць выражае сябе! І не сціхае ні на хвіліну.

Я – з Усходу. Усходні славянін, беларус. І ганаруся гэтым! І не знаходжу ў сабе нават следу дыскамфорту, што не належу да заходняй лацінскай цывілізацыі, у якой процьма грахоў замінулых, як і цалкам свежых у адносінах да нашага народа. А суседзі, *nota bene*, да сёння не перапрасілі нас за празелітызм, гвалт і здзекі над верай і рускасцю продкаў нашых, што жылі ў "супольнай дзяржаве".

Свет не канчаецца. Часу на перапрасіны хопіць.

Ну што ж, бізнес бізнесам, а нацыянальныя эмоцыі за пазуху не схаваеш, ні на біржу не выставіш. Час цяпер знакавы. Сядзець бы, як мыш пад мятлой і маўчаць, гэта ўжо не грэх. Гэта адступніцтва ад прынцыпаў. Гэта здрада сабе самому, сваім перакананням, свайму сумленню, сваёй тоеснасці! Інакш закрычаць нас, прыдушаць чужымі

ідэямі, ды здзьмухнуць з нацыянальнай прасторы разам з заветам продкаў нашых, адчыняючы насцеж дзверы для празелітызму і дэнацыяналізацыі. Падляшша ўжо знікае з нацыянальнай прасторы. *Step by step!* Беспаваротна.

Пасля мітынгу мы апынуліся ў гасцінічных пакоях "Беларусі", узгоднілі рэгламент на заўтра з прыбыўшым Віктарам Сіўчыкам, прыгубілі па стопцы каньячку і зышлі на вячэру. На паркеце тусаваліся хутлівыя сінглі абодвух полаў.

– Віктар, а дзе Мікалай Мікалаевіч? – запытаў я пасля чарговай схаладжанай чаркі смірноўкі.

– Яго не будзе. Пасля растлумачу! – адказаў Віктар.

Падчас вячэры я даведаўся ад Віктара, што "Мікалай Мікалаевіч ўжо не ў нашай камандзе, так як на Камчатцы ён не так ўжо значымы чалавек, але затое ёсць больш важныя людзі, з якімі ў нас будзе сустрэча. Яны могуць усё!" На мае пытанні Віктар адказваў як чалавек, які ўсё прадумаў, знае раскладку сіл, а на мае сумненні глядзіць як на пережытак.

– Зрэшты, у нашай камандзе ёсць адмірал, з якім заўтра ў нас сустрэча, – закончыў ён.

На другі дзень мы зайшлі на дамоўленую сустрэчу ў рэспубліканскую марскую кампанію, якая знаходзілася ў самым цэнтры Мінска, недзе непадалёку ад вуліцы Рэвалюцыйнай. Яе шэф прыняў нас у прасторыстым кабінеце, з фантастычнай картай сусветнага акіяну, пад якой, як быццам на невысокім подыуме, ён сеў за вялікі цяжкі дубовы стол. Гадзіну мы правялі на загадкавых перамовах, як мне здавалася, часам не разумеючы адзін аднаго. Можа быць, гэта я не паспяваў за крутымі паваротамі думкі нашага суразмоўцы, а можа проста ўсё было не так і дагаворана ўжо на самым пачатку, яшчэ да нашага прыходу сюды. Усё выглядала так, як быццам мы размаўлялі на розных мовах. Мы разышліся, на мой погляд, ні з чым, калі не ўлічваць, што пытанне супольнай лоўлі ўсё-такі данеслі да ведама чынавенства.

Увесь пасляабедзенны час мы чакалі адмірала. Віктар гаварыў па сотавым тэлефоне, сувязь рвалася раз за разам. Штосьці ў планах адмірала памянялася і ён так і не змог прыехаць на сустрэчу.

– Сам адмірал – гэта чалавек Кебіча. З ім мы хутка рашым праблемы лоўлі і квоты, – сказаў Віктар. – Трэба толькі па-сапраўднаму зацікавіць яго нашым праектам.

Чаму не!? Аднак, каб чалавека зацікавіць і пераканаць, спачатку трэба з ім спаткацца непасрэдна, а не віртуальна. Час ішоў, Віктар усё кудысьці званіў, гаварыў, пераконваў, абяцаў. Часамі адчувалася, што ў яго хіба шчыміць у глыбіні грудзей нейкая падсвядомая боязь перад гэтай уплывовай асобай, якая магла б стварыць хоць бы канкурэнтны варыянт, выклікаючы зацікаўленасць „Gryfa". Я пачаў задумоўвацца, ці

знакаміта пачатая задума не скончыцца там і тады і ці М.М. Санаеў, мой козыр у першапачатковых перамовах, не будзе банальна страчанай картай. Шкада, што Віктар ні словам не заікнуўся перад нашым выездам у Мінск. Я пэўна не рашыўся б везці прадстаўніка „Gryfa” без прысутнасці ММ на сустрэчах.

Тым не менш, мы прыняліся выконваць прадстаўлены план, адведалі юрыста-натарыуса, які прыняў пад разгляд наш праект дамовы. Ён абавязваўся змясціць яго ў рамкі беларускага права і падрыхтаваць да подпісу. Узгаднілі мы і іншыя фармальнасці, у тым ліку статут і спосаб рэгістрацыі суполкі. З Янам Спрусам, ужо сам-насам, мы ўзгаднілі, што не адпусцім вось так сабе Мікалая Мікалаевіча. Сам адмірал гэта, безумоўна, цікавы варыянт, але мала праўдападобны. На трэці дзень мы рушылі ў зваротную дарогу.

Недзе ўнутры тлеў асадак прыкрасці з-за незразумелых падзей, якія выварочвалі ўверх нагамі празрыстую дасюль ідэю.

**Мінск. Натарыус**

Нейкі час доўжыліся фармальныя справы. З Віктарам Сіўчыкам я быў на тэлефоннай сувязі, арганізаваў адказы на пытанні „Gryfa” і, самае важнае, на спосаб атрымання квоты. Нарэшце, дэлегацыя „Gryfa” ў складзе – Францішак Кужымскі, Ян Спрус і я паехалі маім мерседэсам -бочкаю ў Мінск, па нядрэнных беларускіх дарогах.

Мы, як заўсёды, затрымаліся ў гасцініцы “Беларусь”. Як звычайна, Лідзія Міхайлаўна закватэравала мяне і маіх гасцей на паверсе ізраільскага пасольства. Падчас сустрэчы з Сіўчыкам мы абгаварылі планы і склалі рэгламент назаўтра. Ужо мелася пацвярджэнне, што квоту на мінтая маем з рэсурсаў Беларусі. Наша фірма павінна адудзячыцца, дафінансоўваючы праграмму “Дзяцей Чарнобыля”. Адным словам, важнейшае пытанне было часткова вырашана. Пры нагодзе, падчас адпачынку ў гасцінічным нумары пры чарцы каньячку, я падзяліўся з новымі кампаньёнамі ўспамінам аб арганізаваным мной і маёй жонкай першым прыёме, на месяц у Польшчы, групы са ста трох дзетак з Брагіна і Хойнікаў.

Не верылася ім, калі я расказваў, як гэта адбылося.

А было гэта так. Аднойчы недзе пасля поўначы пазваніў мне на хатні тэлефон Алесь Галькевіч. Я пачуў ад яго, што да мяне едзе сто трое дзетак з чарнобыльскай зоны і восем настаўнікаў-апекуноў. Будуць ў Беластоку паслязаўтра, гэта значыць, у нядзелю.

– Добра, – кажу, – Алесь, у мяне кватэра трохпакаёвая, магчыма, што памесцяцца на падлозе. А што – калі не памесцяцца? Га!?

Я думаў, што Алесь, пэўна, падвыпіў залішне і нясе такую лухту. Але ж не! Пасля чарговых ягоных званкоў я зразумеў, што гэта ніякі не жарт, а чысцейшая праўда, нават не праўда, а чысцейшы шантаж, калі

Алесь заявіў, што моў, добра, я скажу дзеткам, што дзядзя Віця не хоча іх прыняць. Хай вяртаюцца дахаты.

– Алесь, а дзе яны цяпер?

– На вакзале, у Менску.

Кроў ускіпела ў маіх жылах.

– Пазвані праз паўгадзіны!

Я тут жа патэлефанаваў дырэктару беластоцкага дзяржрадыё і кажу:

– Пане Юрку, да цябе едзе сто трое дзетак з чарнобыльскай зоны.

Сон з яго адляцеў, бы здзьмухнуты і пасля ягоных надта эмацыянальных слоў я выклаў план дзеяння. Мы з жонкай зараз жа назавём сябе Камітэтам Дзяцей Чарнобыля, а ён з шасці раніцы, кожную гадзіну, па радыё будзе трансліраваць камунікат, які мы тут жа па тэлефоне склалі.

Жонка Альжбета два дні амаль не адыходзіла ад тэлефону, збіраючы галасы жадаючых дапамагчы. У цэрквах і касцёлах святары звярталіся да вернікаў, заахвочваючы людзей добрага сэрца, каб прынялі на месяц у свае сем'і дзетак.

Калі даехалі з чарнобыльскай зоны перапоўненыя аўтобусы, у зале ГП БГКТ, дзе я тады быў сакратаром, сабраўся натоўп жадаючых прыняць ў сябе дзетак.

У рамках ініцыяванай намі праграмы, толькі на Падляшшы на працягу двух гадоў было прынята звыш дзвюх тысяч дзетак. У той час арганізацыю прыёму дзяцей узяў на сябе айцец Александр Хіліманюк. Пасол, тады яшчэ Савецкага Саюза ў Польшчы, Кашлеў запрасіў нас на ўрачысты прыём. Быў на ім таксама маг Анатоль Кашпіроўскі. Нечакана я апынуўся за паўметра за ягонаю спіною. Ён, аднак, не азірнуўся, нягледзячы на мае ўнутраныя намаганні. Відавочна, не на той хвалі я спрабаваў наладзіць паміж намі кантакт, або мае тэлепатычныя магчымасці нікудышнія.

Гэта было тады. Цяпер дзяржава намякнула вуснамі ўрадавых прадстаўнікоў, што чакае ад нас фінансавай дапамогі на лячэбную праграму. І мы праз кароткі час перадалі ёй паўмільёна даляраў, здаецца, у Фонд Дзетак Чарнобыля.

Па плану Віктара Сіўчыка ў нас быў яшчэ рабочы візіт да натарыуса. Пасля нефармальная сустрэча з сур'ёзнымі бізнесовымі людзьмі. Натарыяльны акт і статут мы планавалі падпісаць праз дзень.

У натарыуса мы правялі гадзіны дзве-тры на чытанні актаў нашай фірмы "Белмора-1", уносілі папраўкі, узгаднялі дэталі. Пасля была кароткая сустрэча пры філіжанцы кавы *с деловыми людьми*, якую наладзіў Віктар. Пэўна, на ўсялякі выпадак, калі б у нас раптам справы прытармазілі. Яны аказаліся надзвычай сур'ёзнымі, *деловыми* і *малоразговорчивыми*. Прыйшлі ўдвух. Іх партнёры на Камчатцы кантра-

люць *кое-што*, і нават тое, што трэба. Гатовы паспрыяць інтарэсам нашай фірмы.

Пераапрануўшыся, без гальштукаў, на таксі мы шуганулі ў ціхае, схаванае недзе за Акадэміяй навук, *частное кафэ*, а дакладней, у маленькі густоўны рэстаранчык. Тут усё было станаванае і ў інтэр'еры, і ў колерах, і ў гучнасці. Нават афіцыянты гаварылі паўшэптам, ненавязліва. Рэагавалі на малейшы жэст гасцей. Ціха ігралі на жывых інструментах маладзенькія музыканты з кансерваторыі. Скрыпач быў нават нядрэнны, на што звярнуў увагу Кужымскі. Гэта не была нейкая забягалаўка. Гэта было кафэ самавітае і на ўзроўні.

Францішак Кужымскі, намеснік прэзідэнта „Gryfa", – даволі малады, высокі і стройны мужчына. З кожнага натоўпу выдзялялася б ягоная чорная, буйная, пакручаная афрачупрына. Даволі цікавы тып чалавека, пры тым ніколі не ведаеш, што на самой справе ён думае. Так і цяпер. Прыглянуўся і падчас вячэры ні словам, ні жэстам не паказаў па сабе нічога, што можна было б адчытаць адназначна. Ні за, ні супраць. Проста замшэфа фірмы-гіганта, расслаблены мужык, пры тым клас! Вячэра была густоўнай, прысутнасць дзелавых людей ненавязлівай.

Ды на маё чуццё, размова была пранізана *излишним* дзелавым халадком. Спрус, ухіляючыся ад канкрэтных заявак, няспешна звёў размову на лаціноскія партовыя прыгоды.

І так з сумеснай размова рассыпалася на паасобныя *tete a tete*. Дзялец, што сядзеў побач са мной, вызначыўшы, што я прыватны прадпрыймальнік, які на самой справе імкнецца зафрахтавацца на карабель, каб супольна плыць па залатое руно, раптам спытаў мяне:

– Виктар, а ты платишь налоги?

– Конечно.

– А сколько, если не секрет?

– Сорок процентов. Ведь моя фирма ООО.

– Да я не об этих налогах!

– Ааа! Ясна. Но этих налогов я не плачу.

– Да ты што!? У нас все платят!

Я ўжо не спытаў, каму і колькі. Заўсёды лічыў, што не прошаны, не павінен распытваць. Лішнія веды могуць быць забойча шкоднымі, а цікавасць не раз вяла праз труну ў пекла.

Ніхто не склаў ніякіх дэкларацыяў. Сустрэча незаўважна пераўтварылася ў звычайны эпізод.

Другі раз мы самі вячэралі ў той дзень, у больш расслабленых ўмовах, на дваццаць трэцім паверсе гасцініцы "Беларусь", дзе патусаваліся нейкі час сярод прыгажунь пры бары, з дрынкамі, час ад часу адмаўляючыся ад недвухзначных іхніх жэстаў.

– Нават не ў кожным людным порце знойдзеш такі кантынгент. Беларусь ўсё больш мне падабаецца, – пракаментаваў Ясь Спрус, надта

прыемна ўражаны. Цяжка з ім было не пагадзіцца.

Ранкам, у натарыуса, яшчэ раз прачыталі і пераглянулі статут *joint venture* „Белмора-1”, зацвердзілі невялікую касметыку ў тэкстах і нарэшце падпісалі ў прысутнасці натарыяльнага чына рэгістрацыйныя дакументы фірмы. Удзелы расклаліся наступным чынам: „Gryf” – 85%; беларускі бок, прэзентаваны В. Сіўчыкам – 10%, мой „Elvimex” – 5%. І гэта ўсё! М.М. Санаеў, сапраўдны першапачынальнік ідэі, па незразумелых мне прычынах, аказаўся па-за фірмай.

У маёмасць суполкі „Gryf” перадаў траўлер „Гайдук”, на якім толькі кошт фабрыкі філетавання мінтая значыўся ў пару дзесяткаў мільёнаў дойчмарак. Гэта азначала, што мае 5% паставілі мяне намінальна ў ролі салі днага бізнесмена як на падляшскія меркі. Фірму трэба было толькі зарэгістраваць ў адпаведным міністэрыяльным ведамстве Беларусі. Задачу гэту прыняў на сябе Віктар Сіўчык. „Gryf” менавіта тады склаў дэкларацыю ўплаціць ад імя нашай суполкі паўмільёна долараў у фонд Дзяцей Чарнобыля. Мы разлічвалі на квоту сем тысяч тон мінтая з сарака тысяч, прызначаных Беларусі, якая і так не змагла б іх злавіць, не маючы сваіх караблёў. Атрымалі на пачатак тры з палавінай тысячы тон.

Наш карабель, натуральна, трэба было яшчэ зарэгістраваць у Беларусі, што Віктар выканаў без збою, пазначыць порт дыслакацыі ў Сеуле ў Паўднёвай Карэі, падняць на ім бел-чырвона-белы сцяг. Дадатковую квоту яшчэ будзем намагацца атрымаць і таксама ад губернатара Камчаткі.

І вось такім чынам наша “Белмора-1” з яе караблём „Гайдук” была зарэгістраваная ў міністэрстве Транспарту ў Мінску. Над караблём у Сеуле залунаў бел-чырвона-белы сцяг незалежнай Беларусі. Рэспубліка Беларусь, з дня ўпісання яе ў міжнародныя рэгістры, стала марской дзяржавай. Гэтага з гісторыі Беларусі ніяк не выкрасліш, не перайначыш!

Такім чынам я, Віктар Стахвюк, а па-родаваму – Віктар Стахіюк стаў у 1994 годзе адным з трох заснавальнікаў беларускага марскога флоту. Наш траўлер пад бел-чырвона-белым сцягам пачаў лоўлю мінтая на Ахоцкім і Берынгавым марах. Петрапаўлаўск-Камчацкі стаў нашым другім портам, за Сеулам, што ў Паўднёвай Карэі.

**Камчатка. Жнівень 1995**

Ужо год, як наш карабель „Гайдук” лавіў мінтая, перш за ўсё на Ахоцкім моры. Гэта ўнутранае мора Расійскай Федэрацыі і не кожны мае права знаходзіцца там, а тым болей лавіць рыбу. Наша беларуская суполка “Белмора-1” выкарыстоўвала квоту тры з палавінай тысячы тон мінтая ў год з беларускага рэсурсу. Гэтага хапала, каб утрымаць карабель, даць зарплату камандзе траўлера, выканаць бягучыя паладкі і,

калі трэба, зрабіць большыя рамонты. Акрамя гэта належыла прадбачыць магчымасць большых рамонтаў, перш за ўсе абсталявання. Да гэтага мус купляць мазут, салодкую ваду, рэалізаваць партовыя аплаты. Мы намагаліся пабольшыць квоту. Гэта была ўмова сапраўдных дывідэндаў, так сказаць, у сотні тысяч.

Аднойчы пазваніў мне Ян Спрус.

– Рыхтуйся, Віктар, на вылет на Камчатку. У цябе на гэта два тыдні, – сказаў Ян.

– Ну добра. Што я павінен зрабіць са свайго боку. Як ведаеш, няма ўжо сярод нас Санаева, а ў мяне няма там ніякіх магчымасцяў, – адказаў я, каб справу паставіць ясна.

– Не забывай, што ты саўласнік суполкі і бегла валодаеш рускай мовай.

– О.К. На колькі часу ляцім?

– Не меней тыдня. А там пабачым.

На лётнішчы Окэнце ў Варшаве сабралася восьмага жніўня сто два маракі новай змены „Гайдука”, трое журналістаў, два фатографы, Часнойц і яго сын, Ян Спрус і я.

Пералёт быў зафрахтаваны чартэрным рускім самалётам ТУ-154. Узлёт адбыўся плаўна і пачаўся палёт над Варшавай, Мазовіяй, Падляшшам з маёю роднай Трысцянкай і Белавежскай пушчай, таму што якраз сюдою пралягаў маршрут паднебных лайнераў у Маскву. Пасля дзвюх гадзін палёту дазапраўка на лётнішчы Дамадзедава, час на пакупкі ў буціках, паспелі нават выпіць па куфалю піва, а хто і дрынка. Крыху мяне занепакоіў выцек бензіна, бачны на крыле самалёта. Механік таксама ўбачыў гэта, падставіў вядро пад струмені бензіну. Вецер парывамі распырскваў яго вакол вядра, так што з часам бліскучая пляма вырасла на многа квадратных метраў. Нікога з каманды абслугі самалёту гэта не занепакоіла, значыць, “нармалёва” і я стараўся больш не звяртаць на гэта ўвагі.

Стартанулі пасля поўдня і неяк так хутка змеркла, а гэта таму, што мы ляцелі супраць часу. Напаўзла дзіўна кароткая ноч. Світанак быў неверагодна прыгожы сярод вырастаўшых воблачных гор, якія незаўважна святлелі, набіраючы насычанага ружова-бела-шэрага колеру на фоне незямной прыгажосці цёмна-сіняга неба. Час ляцеў незаўважна.

Прайшло дваццаць гадзін ад старту, як мы сярод белага дня, прабіваючыся праз парукіламетровай таўшчыні хмары, над якімі высіўся манументальны пік Ключэўскай сопкі, апынуліся над лётнішчам Елізава, што непадалёку ад Петрапаўлаўска-Камчацкага. Уздоўж паласы, перад ангарамі, стаялі вайсковыя самалёты, ад стратэгічных ТУ-22М, да Мігаў-29, штурмавікоў СУ-25, верталётаў МІ-8 і ўсялякай ваеншчыны, якой яшчэ не даканалі рэформы “пампэрсаў” Барыса Ельцына. Нездарма Камчатку называюць незатапляемым

авіяносцам.

Двор вечна п'янага Барыса з Чубайсавымі алігархамі прыхватызацыі ледзь не патапіў не толькі Камчатку, але і ўсю неабсяжную краіну. Гусінскі меў нават столькі нахальнай смеласці, каб публічна заявіць па тэліку, што *всяческие попытки пересмотра частной собственности в новой России чреваты третьей мировой войной*. Хто ж тыя гаспадары «прыхватызатараў» і, у прыватнасці, Гусінскага, якія натхнялі яго на такую нахальнасць, ды гатовы ўтапіць свет ў хаосе сусветнай вайны, каб толькі не адрэзалі рыла іхнім пратэжэ ад карыта, поўнага невычэрпных рэсурсаў!? Трэба было б спытаць таемнага індывіда Джорджа Сораса, а можа нават братоў Більдэрбэргаў, не менш засакрэчаных, сярод якіх сляды прысутнасці і ў 2012 годзе пакінулі Толя Чубайс і Гары Каспараў.

Ужо шэсць гадоў разрывала эканоміку краіны варожая ёй зграя, апускаючы народ у цьму галоднага хаосу. Цешыліся варажэнькі, балбаталі аб развале "гіганта на гліняных нагах". Казыралі сусветным прахадзімцам пажы цара Барыса і бэкалі нават аб неабходнасці здачы японцам Курыльскіх астравоў. На тэлеканалах ОРТ Беразоўскага і НТВ Гусінскага выступалі ўсялякія цудачныя "эксперты", апрацоўваючы расіян паліттэхналогіямі, народжанымі ў лабараторыях чужых спецслужб і сацыятэхнікамі прамывання мазгоў. Рыхтавалі народ на не такія яшчэ ахвяры і страты. Адпускаўся ім самы лепшы эфір, а "*итоги*" псіхаапрацоўкі закадоўваў у даверлівых мазгах сам маг Кашпіроўскі.

І здалі б. Спачатку Курылы. Камчатка сталася б праблемай, з прычыны, напрыклад, дэмілітарызацыі. Ахоцкае мора было б адкрытым, а яго сёння ўнутраныя воды – міжнароднымі. І хлынулі б туды браканьерскія японa-карэя-кітайскія траўлеры, кацеры і ўсё, што магло ўтрымацца на плыву і глуміць безашчадна мінтая, нерку, кіжуча, гарбушу, крабаў, пакуль іх не стала б зусім, як незадоўга траскі, на той прыклад, у Балтыцы.

Той час, час вымушанага на народзе варварства і хаосу, сёння стражнікамі паліткарэктнасці, ультралібераламі, неакаланізатарамі, а таксама ўсякай масці пестунчыкамі медыяў і іх "маральнымі аўтарытэтамі", называецца "залатым часам" рэформы Расіі.

*Nota bene*, Аляксандра Салжэніцына, які чацвёртага жніўня 2008 года памёр, цяпер асуджаюць за патрыятызм, за пратэст супраць дзяржаўнага *беспределу* ва ўсіх ліберальных СМІ, называюць "зблудзіўшым патрыярхам змагароў супраць савецкай сістэмы". Аднаму з польскіх публіцыстаў цалкам *крыша* паехала, калі заявіў на поўным сур'ёзе, у галоўным дзённіку TV: *dobrze zaczął, a podle skończył, odwrotnie od Jelcyna, który zaczął podle jako sowiecki aparatczyk, a skończył pięknie jako reformator Rosji*. Вось так! Ну што ж, не ў аднаго яго, *пацану*, ад медыяльнай паліткарэктнасці, спачатку адплыла прыстойнасць, а пасля

ў мазгах усё пабрэнталася.

Але ж не гэтыя, сертыфікаваныя дыспанентамі “стандартаў заходняй цывілізацыі”, клякеры вызначаць месца для Аляксандра Салжэніцына.

Час смуты не мог трываць вечна. І аўтары закалоту разумелі гэта, як ніхто іншы. І вось, выканаўшы брудную працу і сыграўшы да апошняй літары прызначаную яму ролю, каб адхіліць ад сябе пагрозу імпічменту, здаў Ельцын у рукі Пуціна прэзідэнтуру, чым, віртуальна прынамсі, паўстрымаў развал краіны. Некалькіх алігархаў зладзейскай прыватызацыі новы прэзідэнт паслаў у баніцыю, а Мішку Хадаркоўскага пасадзіў у турму, чым пагасіў жаданне рэваншу асядланых і адурманеных расіян. Ніяк не парушыўшы інтарэсы “эліт”, ён замацаваў гэтым самым “*плоды беспредела*”, даючы ўсяму гэтаму прававую аснову і абарону. Гіганцкі, немыслімы ні ў адным вугалку зямлі гешэфтны „przekręt”, пераісточыўся ў паўнакроўны бізнес. Цяпер ужо яго тузы, памазаныя ў алігархат і пацверджаныя аўтарытэтам самога Пуціна, сталі *достойными уважения и восхищения*! І гэта, а не што іншае, асноўная “заслуга”, выцягнутага з рукава, *Владимира Владимировича*. Апошняе дачакаецца яшчэ яснай ацэнкі саміх расіян.

Аднак гэта праблемы саміх расіян сённяшняга дня.

Тады, у 1995 годзе, гуляў ва ўсю *беспредел*, беспакаральны і нахальны, у неўявіма большым маштабе, чым у Польшчы Бальцэровіча і Левандоўскага. Народжанае з закуліснага гешэфту яшчэ ў час гарбачоўшчыны дзецішча Чубайса жырэла, станавілася ўсё больш пражорлівым і, пазбываючыся страху, выпаўзла навонкі. Яно магло ўжо ўсё купіць, завербаваць, а апанентаў задавіць, разарваць на кускі. Улада, якая ляжала на вуліцы, была ўжо схоплена, а зоны «*беспредела*» падзелены. Алігархі, памазаныя закуліснымі крэатарамі новай, чужой славяншчыне рэальнасці, акружыліся ордамі ахоўнікаў з радоў марнеючых спецназаўцаў, што страцілі нацыянальны інстынкт. Узяліся дзяліць на кускі нязмераныя рэсурсы Расіі. У глыбінцы круціліся брутальныя мясцовыя вярзілы. Гэта быў добры час для севу гангаў і мафій, каб звычайны чалавек, дурманены парнухаю, тандэтаю і ілгунствам вольных і незалежных ад сумлення медыяў, заняўся самім сабою, пошукам скібкі хлеба і думкамі, як запэўніць спакой і ўтрыманне сям'і, каб на яго ніхто не напаў, не аграбіў, не зарэзаў, ці не абдзёр са шкуры. Каб гэты чалавек не пасмеў падумаць, што ўладзе можна і трэба глядзець на рукі.

Тады, у 1995 годзе на Камчатцы, хто толькі мог, браканьерыў і раскрадаў ласосевыя і крабавыя найперш рыбныя рэсурсы.

І якраз у той час наш самалёт прызямліўся на Елізаўскім лётнішчы, пакрытым лішаямі аблезлага тынку. Аўтобусамі, бачыўшымі хрушчоўскую адлігу, везлі нас па неверагодна запушчаных дарогах у Петрапаўлаўск-Камчацкі. На ўскраіне, побач з развалінамі нейкага

цэментна-бетоннага завода, які нават самым галодным вярзілам не быў бы ні на што непатрэбны, высіўся на заржавелых трубах пастаменту, раней горды, сёння абліняны сімвал горада – бляшаныя профілі пакеботаў святога Пятра і Паўла.

**Петрапаўлаўск-Камчацкі**

Горад быў закладзены не так даўно, падчас другой камчацкай экспедыцыі В.І. Берынга і А.І. Чырыкава (1772-1743). Бот "Святы Гаўрыіл" пад камандай штурмана Івана Елагіна прычаліў каля вусця ракі Авачы ў Авачынскай губе 10 чэрвеня 1740 года.

Разведчыкі Берынга пабудавалі порт з цвёрдай, быццам граб, камчацкай бярозы і таполі, карыстаючы з дапамогі мясцовых умельцаў. Дзесятага кастрычніка 1740 года сюды ўвайшлі пакеботы "Святы апостол Пётр" Берынга і "Святы апостал Павел" Чырыкава. Пабудова порта працягвалася ўвесь час, а між тым была пабудавана царква імя святых апосталаў Пятра і Паўла.

У хуткім часе, 4 чэрвеня 1741 года, адсюль да берагоў Амерыкі адправіліся абодва пакеботы. Гэта была неверагодна драматычная эпапея, якая закончылася адкрыццём Аляскі. Асвоеную расіянамі Аляску, праз сто дваццаць гадоў цар прадаў амерыканцам, за смехатворную цану.

Пакебот Чырыкава вярнуўся ў кастрычніку, а наступным летам, на гукары, пабудаваным з абломкаў пакебота, вярнуліся нямногія маракі Берынга. Зімавалі яны на адным з Камандорскіх астравоў.

З палавіны XIX стагоддзя, пры губернатары Васілii Завойка, абвастраецца міжнародная сітуацыя. Англічане распачалі экспансію ў Кітаі, а амерыканскія кітабоі масава парушалі рускія тэрытарыяльныя воды. Замежныя караблі самавольна заходзілі ў Авачынскую губу, а ў 1854 годзе прыбывае ў Японію з місіяй, накіраванай супраць Расіі, амерыканскі камандар М.К. Пэрры.

Порт будуе абарончыя рубяжы. Тым часам, у жніўні 1854 года, урываецца на воды Авачынскай губы англа-французская эскадра і высаджвае дэсант у колькасці васемсот чалавек. Штыкавая атака трохсот рускіх апалчэнцаў скідае іх у воды Авачынскай губы. Берагавая артылерыя дае адпор бартавым гарматам эскадры. Слава камчацкай бітвы, асабліва пасля нядаўняга крымскага паражэння, абягае свет і падымае дух народу.

Горад тады налічваў ўсяго паўтары тысячы чалавек.

У 1905 годзе японцы займаюць Курыльскія астравы і высаджваюць дэсант на Камчатцы. Курылы былі занава вернуты Расіі ў 1945 годзе.

Гэта гісторыя ў пілюлі. Без яе ведання мая камчацкая прыгода была б плыткая і размытая. Без апоры і фундаменту.

На Камчатцы 29 дзейных вулканаў. Самы высокі – Ключэўская

сопка, 4750 метраў у вышыню. У наваколлі Петрапаўлаўска тры вулканы: прыгажун Карыякскі – 3456, Авачынскі – 2741 і Казельскі – 2118 метраў.

На Камчатцы сто дзве тысячы азёр. Амаль сем тысяч бурых мядзведзяў, з якіх кожны займае тэрыторыю ў дзвесце гектараў. Ёсць безліч рэк, у якія заплываюць ласосі: нерка, кіжуч, гарбуша, кета. Тут мноства тэрмальных заток-азёрцаў, з найбольш слаўнымі Паратунка і Галубая лагуна. Горысты ландшафт дапаўняюць частыя выплескі гейзераў. І чорныя, быццам аксідаваныя, вулканічныя пляжы Ціхага акіяна.

І вось, з лётнішча пасля нескладанага мытнага афармлення забралі нас ўспомненыя кругленькія аўтобусы. Прадстаўнік „Gryfa", упісаны доўгатэрміновым побытам у тутэйшы каларыт, штосьці тлумачыў, аднак мала што з ягоных слоў трапляла ў нашыя мазгі, заблытаныя пераадоленай прасторай, роўнай трэці зямнога шара.

Аўтобусы трэсліся на глыбокіх выбоінах сярод парослых высокім шчавухом палёў былых калгасаў, непатрэбных ужо нікому рамонтных заводаў сельгастэхнікі, разваленых фабрык, апусцелых завадскіх будынкаў, пакрытых лішаямі аблезлых тынкаў. Уражвалі дзікунствам сляды новай ультраліберальнай эканамічнай палітыкі ў глыбінным варыянце, паводле мясцовага разумення рэкамендацыі Сусветнага банка. Джын хаосу быў выпушчаны з бутэлькі. Кампрадары ап'янелі ад удачы, а сляды іхняга творчага пахмелля даходзілі ажно сюды, за трыдзевяць зямель. Глядзіш і не можаш дзіву надзівіцца.

Ускраіны Петрапаўлаўска з пастарэлымі пяціпавярховікавымі глыбамі хрушчовак жылых мікрараёнаў, абрыдлівых, як эпоха, якая іх парадзіла, сотні машын з рулём з правага боку, пранізаныя саветчынай пенсіянеры і маладыя адэпты заходняй культуры ў япона-карэйскім выданні, навадняючыя тратуары цэнтру – усё гэта складала стракатую мазаіку горада на канцы свету.

Аўтобусы затрымаліся на мініпаркінгу гасцініцы "Авача". Сама гасцініца выглядала сучасна і была даволі цікава задумана ў інтэр'еры. Рэстаран унізе, два-тры бары на паверхах, гожыя пакаёўкі, гатовыя запарыць чай пасярод ночы, прыстойныя пакоі, усё разам спрыяла добраму самаадчуванню. Мяне і Яна Спруса закватэравалі разам. Наш пакой незадоўга стаў месцам кампаньёнскіх і бізнес сустрэч. Насупраць гасцініцы – рынак з невычарпальным багаццем рыбы і ікры, японскай электронікі і карэйскіх шмотак. Закватэраваўшыся, мы рушылі туды за ікрой, ласосямі, камчацкім півам і знакамітай водкай, варанай на крынічнай мінеральнай вадзе. Праз гадзіну сядзелі мы за казачна багатым сталом, закусваючы "Белага мядзведзя" лыжкамі чырвонай ікры і пластырамі ласосяў. А ўсё гэта за капейку. Літровая банка ікры каштавала ажно два долары! Скупляй, расфасоўвай і гані чартарнымі

самалётамі ў Еўропу. І ўсё гэта браканьерскае.

“Белы мядзведзь” ніяк не ішоў у галаву, а ікра сваім салёным прысмакам знакаміта танізавала ягоныя сорак пяць градусаў. З мінуты на мінуту падымаўся настрой нашай кампаніі, размова лілася лёгкім струменем, мужнелі галасы, а ўсплёскі смеху, запоўніўшы прастору пакоя, сталі прасочвацца навонкі. Тым не менш ніхто не калаціў у дзверы, не наракаў і не насылаў на нас пакаёўкі.

Былі эксклюзіўныя расказы пра цікавінкі з гісторыі польскага рыбалоўнага флоту. Тады яшчэ ў Польшчы быў адзін з найбольшых у свеце рыбалоўны флот, пакуль *памперсы* Мазавецкага не спляжылі ўсяго па рэкамендацыі братоў Сусветнага банку, Сораса, ад імя якога раіў Бальцэровічу мацней пільнаваць засакрэчаныя інтарэсы Джэфрэй Сач. Гэты ж Сач пасля “дараджваў” і братве цара Барыса.

Дыскутавалі мы, як заўседы, калі мужчыны расслабяцца пры бутэльцы, і пра палітыку, і пра гаспадарку, і пра распачатую пару гадоў назад прыватызацыю, паводле якой, усе мы, за чые грошы ўсё было пабудавана, павінны былі стаць саўласнікамі сацгігантаў. Не паспелі. Прыхватызатары Левандоўскага і яго хеўры, з закуліснай падачы, апярэдзілі нас, астаўляючы народ проста з мордай лася.

Нікому з нас тады яшчэ і ў галаву не магло прыйсці, што гэты флот, пакінуты наступным пакаленням эпохай Эдварда Герэка, як і ўся прамысловая гіганцкая, як на меркі таго часу, інфраструктура краіны, з верфямі, тэкстыльнымі фабрыкамі, цэментнымі заводамі, мясакамбінатамі, металургіяй, машынаапрацовачнай прамысловасцю, расплывецца ў тумане гешэфтных інтарэсаў. А дзяржаўны доўг будзе расці ўсё больш “ударнымі” тэмпамі. Сёння, 2013-02-04, у 10.00, толькі публічныя даўгі складаюць суму 1 055 393 510 826 zł + адсоткі і растуць па тысячы злотых у секунду. Справядліва было б адзначыць, што з новага бюджэту дзяржава скіне нейкую сотню мільярдаў злотых на пагашэнне часткі задоўжанасці, пасля чаго доўг зноўку рване галопам уверх.

Герак пакінуў па сабе даўгі ў памеры 14 млд долараў (пасля рэдукцыі), пабудаваўшы два мільёны пяцьсот тысяч кватэр, звыш 500 заводаў і камбінатаў, правёў мадэрнізацыю старых фабрык, пабудаваў тысячы кіламетраў дарог, не меней тысячы школ і многае іншае. Пасля рэструктурызацыі гэтага доўгу Польшча сплаціла ўсяго 8 млд. долараў. І ўсё. У 1970 годзе, калі ён прыйшоў да ўлады, каса была пустая. Усё гэта збудаваў ён за 10 гадоў.

Кашмар! Падумаць толькі, у 80-ым годзе я змагаўся на рэгіянальным узроўні з герэкавай сістэмай, будучы віцэкаардынатарам рэгіянальнай Камісіі працаўнікоў асветы і вышэйшых устаноў NSZZ „Solidarność” у Чэнстахове, а цяпер, праз трыццаць тры гады, яго, Герэка, стаўлю на п’едэстал будаўнічага Краіны!

Сённяшняя незалежная прапаганда пускае дым у вочы грамадству,

гарлапанячы пра Герэкавыя даўгі. Народ глынае дурман і маўчыць у абсалютнай несвядомасці, што замежны валютны доўг сённяшняй улады, якая прадала за бясцэнак сусветным прахадзімцам і іхнім ТНК, пражэрла і пазамятала ў афшорах усё: практычна ўсе медыі, банкі, усю прамысловасць, дзяржпрадпрыемствы (іншых не было), а нават страховачныя кампаніі, якія з нічога выпрацоўваюць гіганцкі прыбытак у год – паказаў планку ў 263,83 мільярды еўра на канец ІІ кварталу 2011 года, як заявіў Нацыянальны Банк Польшы. Для цікавасці, на канец ІІІ квартала 2009 года замежны доўг Польшы – гэта 189,48 млд еўра. Ну і тэмп, праўда!? Адсоткі імкнуць у рытме факстрота. Незадоўга кожны паляк, ягоныя дзеткі і ўнукі будуць вінаваты сусветным бангстэрам па 10 000 еўра і кожныя суткі тыкае ім па два з палавінай еўрыкі, а ў год – гэта 912,5 еўра з кожнага з нас. Вазьмі і аддай! І гэта пры сённяшнім тэмпе, які расце з кожнай секундай. І ўсё гэта пры ўмове, што цэнтральны банк Польшчы дыспануе ўласнай валютай і, параўнальна, у разы меней залежны ад еўрапейскага ЦБ, чым банкі краін, якія ўжо апынуліся ў еўразоне. Таму паставіць Польшчу на грань дэфолту, як Кіпр, пакуль немагчыма. Хіба, што яна апынецца ў еўразоне. Тады прасцей простага.

Тады яшчэ гэтага мы не ведалі, усё бачылі ў ружовых акулярах, піравалі, дыскутавалі пра будучыню, зарысаваную ў “вольных” медыях нахальнай і хлуслівай прапагандай рыначнай эканомікі, займаліся пошукам свайго месца ў цягніку перамен, цешыліся як дзеці, там, на канцы свету.

Ніхто з нас не ведаў, куды коціцца польская марская гаспадарка, як і ўся яе, дробленая на смакавітыя кускі, ды нікнуўшая ў прыхватызатарска-афшорнай дзіры, эканоміка. Гэта былі веды, засакрэчаныя грыфам супер тайнасці, якія не маглі пранікнуць найменшым праменьчыкам на вітрыны медыяў. Веды не для нашага ўзроўня. Важныя. Ад іх залежыць наша жыццё і наша будучыня, а мы былі і ёсць толькі людскім фонам, як пра палестынцаў сказаў ангельскі гісторык, нейкі Браўн. Нас у медыях кармілі ўсялякім дурманам, а перш за ўсё віртуальнымі правамі чалавека. А гэта нічога не каштуе і да нічога не заабавязвае іхніх дыспанентаў.

Вось мы, простыя беларусы Падляшша і, перш за ўсё, браты-славяне-палякі, былі якраз такімі палестынцамі ў сваёй краіне, не ведаючы, насамрэч, пра гэта. Таму й не дзіўна, што радасць напаўняла нашы сэрцы, а мары цвілі ў агародах фантазіі выключна.

Леглі мы далёка за поўнач. Засынаў я з марамі аб неабсяжных акіянах, на якія выплывуць караблі пад бел-чырвона-белымі сцягамі.

Раніцай журналісты з камандай паплылі на карабель, а Спрус і я з Часнойцамі засталіся на месцы. Нас чакалі перамовы ў губернатара і з афіцыйнымі асобамі, а Часнойцы склалі план фатаграфавання ўні-

кальнай прыроды Камчаткі. Не разлічваючы надта на вольную ды бясплатную квоту, тым не менш, мы загадзя не пазбаўляліся надзеі. Яна, як заўжды, памірае апошняй.

**У віцэгубернатара Болтенко Владимира Васильевича. Плошча Леніна, Дом Саветаў**

Гэта частка горада нагадвае ягоную гісторыю. Сецэсійна-барокавыя мураванкі і дарэвалюцыйныя двухпавярховыя дамы з камчацкага дрэва. Рака Авача, акаваная бетоннымі берагамі ў межах горада, шпарка коціць свае пенлівыя воды па камяністым дне. Над дахамі будынкаў высіцца парастаючае рэдкай драўнінай прадгор'е акаляючых Петрапаўлаўск-Камчацкі вулканаў. Дваццаціградуснае надвор'е, сонца, што зрэдку хаваецца за белыя воблакі, ціхі, не навязлівы гул горада, усё гэта схіляе да няспешнай хадзьбы. Недзе там, з таго боку планеты, твае блізкія спяць, укутаныя ў сны жнівеньскай ночы.

У прасторным кабінеце віцэ-губернатара, над яго галавою, вісіць велізарная карта. На ёй відавочны кожны пакрыты снегам горны хрыбет, або зялёна-бурая даліна. Усё бачыцца, як быццам з паднебнага лайнера, у натуральна танізаваных мастацкіх колерах. Карта міжвольна прыцягвала зрок.

Віцэ-губернатар прыняў нас добразычліва, сакратарка ўнесла гарачы чай. Загаварылі мы пра лоўлю мінтая і пра тое, як падвоіць квоту да сямі тысяч тон, якую, на жаль, як мы і спадзяваліся, *господин* губернатар не хацеў аддаць за так, але з увагі на тое, што мы, беларуская фірма, можам купіць *за деньги* па эсэнгэшным цэнам. *Пожалуйста* – без лішніх адміністрацыйных працэдур.

– *К сожалению, соцлагер завершил своё существование,* – сказаў губернатар – *и кроме того, что мы уже дали белорусской стороне, подбросить больше не в состоянии. Хотите, покупайте, без навязчивых процедур.*

Міжвольна мне ўспомніўся М.М. Санаеў. Цікава... Але гэтага ўжо ніколі ведаць не будзеш....

Губернатар штосьці яшчэ гаварыў, а нават патлумачыў. І слушна, і шкада, канешне. Цэны сталі рыначнымі, а часы складанымі для фірм, якія апынуліся на грані выжывання. Трэба пакуль што цешыцца тым, што ёсць. Ён добразычліва аднёсся да планаваных намі зон лову на Берынгавым і Ахоцкім марах і да абслугоўвання карабля, які можа заходзіць у Авачынскую губу і ставаць на якары пры ўваходзе ў порт, каб загрузіць прэсную ваду і мазут. На ўсё гэта мы атрымалі дабро, а дэталі маем абгаварыць з Дзяменцьевым Міхаілам Уладзіміравічам, начальнікам дэпартаменту па рыбалоўлі, а пасля ў капітанаце порту.

Размова пры чаі і чарцы каньячку праводзілася ў сяброўскай атмасферы. Глянуўшы на карту, я раптам запытаў:

*– Господин губернатор, карта, которая висит над вами, это, кажется, не Камчатка?*

*– Нет, конечно. Это Аляска.*

*– Но ведь Аляска амерыканская!?*

*– Пока. Это исконно русская земля и мы её вернём родине,* – упэўнена сказаў губернатар. Падняў чарку і сказаў тост:

*– За русскую Аляску! Чтобы поскорее вернулась к родине!*

Губернатар, Спрус, прадстаўнік „Gryfa” і я, чокнуўшыся, выпілі стоячы.

**Паратунка**

Чарговая раніца была сонечная і па-камчацкі цудоўная. Прыгарадскім аўтобусам, з перасадкай паехалі мы да слаўнага тэрмальнага купалішча Паратунка. Больш за дзесяць кіламетраў ад яго знаходзіцца другое – Галубая Лагуна, абудаваная цвёрдым камчацкім нятлеючым дрэвам. Шкада, што з-за нястачы часу мы туды не даехалі.

Прыхапіўшы з сабой сухі паёк з ласосяў і крабаў, з бутэлькай схалоджанага беластоцкага “Абсальвента” і, купіўшы па дарозе “на ўсялякі пажарны” камчацкае піва, дабраліся мы нарэшце пасля двухкіламетровага маршу сярод цудоўнай дзявочай прыроды да тэрмальных вод. Абудаваныя безгустоўна сучасным кафелем, што ніяк не падыходзіць да гэтага ўнікальнага месца, трохярусныя крыніцы напаміналі звычайныя басейны. Можа ў недалёкай будучыні хтосьці сарве тут пліткавы дакумент сацрэалю і аформіць уражлівыя тэрмальнікі вульканічнымі базальтам і дрэвам. Упіша іх у клімат акаляючых гор і парослых пакручанымі дрэвамі берагоў возера, што побач. Можа.

Аплаціўшы ўваход, мы расклаліся на драўляным памосце, дзе кайфавалі ўжо мясцовыя сваімі кампаніямі і сем’ямі. У дваццаціпяціградусным тэрмальніку аддаваліся купальнаму шаленству дзеці і моладзь. Вада была мяккая, прыемная і цяплейшая за паветра. Насычаная глыбіннымі тэрмальнымі солямі хутка здымала стому. Метрпаўтара вышэй, у абшырнай скальнай яме, разліўся саракаградусны тэрмальнік, з якога сюды сплывала карытам нагрэтая вада. Над ім метрдва вышэй аказаўся найцяплейшы тэрмальнік, у які з недраў зямлі наплывала вада гарачая, шасцідзесяціградусная. Там адчуваеш сябе быццам у гарачай ванне, калі прамерзлы зімой прыходзіш з марознага надвор’я. Калі перабіраешся знізу ўверх, то ў гарачым тэрмальніку ледзь не ўскіпаеш, а калі сплываеш ўніз, то ў двадцаціпяціградусным робіцца проста холадна.

Праз пару гадзін тэрмальнага шаленства мы зашыліся на беразе возера пад камчацкія бярозы, каб падсілкавацца крабамі і ласосем. Я выняў з сумкі беластоцкага “Абсальвента”. У гэтай атмасферы цалкам “кстати”! Наваколле было казачнай прыгажосці, з незвычайна высокімі

травамі, кантрастуючымі з нізенькімі, камічна пакручанымі дрэвамі на фоне недалёкіх вулканічных гор, якія ярка адбіваліся ў гладкім люстры возера, што ачароўвала нас і падымала высокі радасны тонус.

Кайф над кайфам на гэтым канцы свету!

Каб тут маглі быць самыя блізкія, – падумаў я, – якія дзесьці там, з таго боку планеты, спяць закутаныя ў сны летняй ночы. Бачанае можаш пераказаць, але адчутага ўсімі клеткамі цела і душы не перадасі.

**Ціхі акіян**

Ад пачатку сваёй любові да плавання пад вадой я марыў нырнуць хоць раз у воды кожнага акіяну. Былі падводныя экспедыцыі са студэнцкім клубам AKNS „Manta” Вышэйшай педагагічнай школы ў Чэнстахове, у якім многія гады я быў інструктарам. Месяцамі мы бадзяліся, яшчэ ў часы нябожчыцы камуны, па Міжземным моры навокал Грэцыі і Італіі. Спалі пад зорным небам на матрацах, елі прывезеныя з сабой ма-кароны і кашу, змешаную з кансервамі, пілі польскі спірт для дэз-інфекцыі элементаў аквалангістаў, абмывалі цела прэснай вадой тайком у туалетах тавэрнаў, ды плылі ў струмені жыцця, дараванага нам Усявышнім, смакуючы кожную мінуту, натхнёную парывамі душы. Ныралі на пабярэжжы Далмацыі ў Югаславіі. Была прыватная сяброўская экспедыцыя на падводнае плаванне ў Гішпанію, калі ўжо беластоцкае эсбэцкае пашпартнае бюро не дало згоды на выезд з намі шасцігадовага майго сына Паўла, каб мы не папрасілі палітычнага азылю.

Апускаўся я і ў Чорнае мора пры берагах Абхазіі, бачыў марское дно пры Ялце, Адэсе, Бургасе і Прыморску. Школіў вадалазаў для арміі ў Ястарні, у Пуцкім заліве Балтыкі. Школіў, нырaў – і браканьерыў у дзесятках азёр Польшчы. І гэта ўсё.

А воды міравых акіянаў ніяк не наблізіліся. Заманьвалі з яшчэ большай сілай. Раз толькі, вяртаючыся з Гішпаніі ў 1986 годзе, нырaў я з сынам Пятром і Важышынскімі ў адным АБЦ у Біскайскім заліве Атлантычнага акіяну, пры пляжы горада Баёнь у Францыі. Сходзіць уніз без аквалангаў на адным толькі ўдыху маглі мы звыш дваццаці пяці метраў. Там, на жаль, такой глыбіні не было. Усяго метраў пятнаццаць, мо крыху болей, на адлегласці кіламетра-двух ад берага. Пясчанае лагоднае дно, усялякія ракушкі, круглае шкарлупінне ежавікоў, рыбы, добрая празрыстаць і цеплыня вады. Для аматараў пляжнага адпачынку, плюхання ў прыбярэжных неглыбокіх і чыстых водах акіяна, проста супер. Таму на пляжы было мнагалюдна і галасна. А для нас, тэрмінатараў глыбіні, проста няёмка, як не раз гаварыў сябра-вадалаз, Яцэк Важышынскі.

І гэта ўсё. Акрамя высокай хвалі, якая на працягу гадзіны-паўтары нашага прабывання ў вадзе вырасла пагрозліва і ратаўнікі паднялі на мачту сцяг, які азначаў небяспеку, выганяючы людзей з вады, хоць

нічога там незвычайнага не адбывалася.

Пасля Камчацкай прыгоды і доўгага перапынку, ужо за Трэцяй Рэчыпаспалітай, сходзілі мы ў аквалангах дзень у дзень два тыдні пад ваду пры берагах італьянскага Гаргано і цудоўных астравах Трэміці. Годам пазней рушылі мы на Корсіку, дзе на ўскраінах заліва Порто каля падножжа казачнага Калянш па два разы ў дзень на працягу двух тыдняў, нуралі мы пад ваду з сынам Паўлам, для якога ўжо на гэты раз не была патрэбная згода эсбэцыі, якой ужо самой і не было, і Важышынскімі – Яцкам і Кубаю, якія многія годы былі кампаньёнамі падводных экспедыцый. Нашыя жанкі плюхаліся ў цёплых хвалях, не рызыкуючы сыходзіць уніз. Ездзілі мы семямі.

А пасля былі толькі нашы сямейныя выезды ў Харватыю на востраў Гвар, дзе я з сынамі Пятром і Паўлам плавалі пад вадой навокал Пэклёвых Отокаў і пры адлеглым самотным востраве Стамбэдар. Быў таксама тыдзень пенетрацыі берагоў скальнага вострава Паг і ныранне пры вертыкальных сценах вострава Ман у архіпелагу Корнаці. Яшчэ тыдзень на Істрыі, дзе без аквалангу, на адным удыху, я сходзіў уніз да дваццаці метраў пры Рабац і востраве Крк.

У маі 2008 года я з жонкай Альжбетай і сынам Паўлам лёталі на Сінай, у Шарм аль Шэйк, на Чырвонае мора. Тыдзень пад вадой з сынам і егіпецкім інструктарам Шэнудай, які быў неабходны перш за ўсё для таго, каб мы не ламалі каралавых галінак на падводных рыфах Рас Могаммад і вострава Ціран. Інакш, як гаварыў ён, праз пару дзесяткаў гадоў падводнага варварства не асталося б нічога, а ён не ўяўляе сабе іншай працы. І слушна. Тут было ўсё, што патрэбна вадалазу-турысту. Асабліва пры востраве Ціран, калі падводнае цячэнне нясе цябе, у позе сядзячага Буды, на глыбіні трыццаці метраў уздоўж рыфавых сцен, а ты глядзіш, фатаграфуеш і – захапляешся!

Але гэта – было пазней.

А вось цяпер я ўпершыню апынуўся каля берагоў Ціхага акіяна. Недзе там, на ўсходзе, ён дудніў, разбіваючыся пенлівымі хвалямі аб горыстыя берагі Камчаткі. І маніў і прызываў з магічнай сілай.

Аднойчы вечарам адведалі нас два рускія капітаны рыбалоўнага флоту. Адзін з іх меў апухлае кулачыска, якім прыгамоліў камусьці ў кабачнай разборцы. Шчодрая вячэра пад чаркі ў гасцінічным нумары, аповеды пра партовыя прыгоды і мужчынскія анекдоты ўздымалі кампанійны настрой. Час мінаў незаўважна. Я падхапіў чыюсьці думку і накіраваў размову на Ціхі акіян. Хмель спрыяў кожнай авантуры і ўсе захапіліся думкай выхаду на ягоны бераг. Капітаны расказалі як лепш дабрацца да пляжа. Я пазначыў на карце маршрут.

Да Заазёрнага, на другі дзень, мы ехалі аўтобусам. Прыглядаліся да непаўторнага камчацкага пейзажу, загароджанага на краях гарызонту грэбнямі гор. Непаўторны каларыт – ад квяцістых лугоў і аліўкавай

зелені прадгор'я да сіне-фіялетавых горных хрыбтоў. У Заазёрным пагаварылі мы з мясцовымі, распыталі, як дабрацца да акіяну. Пацвердзілася, што адсюль трэба ісці пяшком не менш дзесяці кіламетраў па камчацкім бездарожжы. Зараз жа за пасёлкам нас абскочыла зграя сабак. Найменшыя з іх, раз'юшаныя, амаль хапалі нас за ногі. Вялікія трымаліся далей, гаўкалі злосна і ашчэрвалі зубы. Прыйшлося каменнем адбівацца ад гэтых надакучлівых спадарожнікаў.

Ішлі мы грунтовай дарогай сярод запушчаных, парослых высокім дзікім шчавухом, урадлівых калгасных палёў. Перабудова і закулісная «рыначная» гаспадарка паводле хмельнай волі «цара Барыса» палажылі канец калгаснаму быту, не даючы нічога ўзамен. Цяпер нікому нічога не аплочвалася ў сельскай гаспадарцы. Усе шукалі шчасця – хто ў браканьерстве, хто ў кантрабандзе. Таму базар кіпеў, а ў таргашоў былі выпасеныя кашалькі. Тым не менш, тут, на паслякалгасных палях, мог бы быць рай. Урадлівая зямля, з дамешкай вулканічнага пылу, гейзеры, з якіх трубамі можна давесці гарачую ваду і абагрэць цяплушкі. Расло б усё, што хочаш, круглы год. Праўда, расло і без цяплушак, пра што з ноткай жалю гаварылі старыя жыхары, якія і сёння на свае патрэбы садзяць агародніну без усялякіх, непатрэбных тут, удабрэнняў.

На гарызонце вырысоўваліся невысокія арыентальныя формы гор, зубастыя, вышчарбленыя хрыбты якіх зеляніліся пакручанымі нізенькімі дрэвамі, што формамі напамінала бонзаі. За імі сінеў чуб вулкану, пакрыты снежнай шапкай. Пару гадзін пасля мы апынуліся пры порыстых, нагадваючых кітайскія акварэлі, мініяцюрных горных хрыбтах. Недзе тут канчалася пясчаная дарога, утрамбаваная калёсамі армейскіх бэтээраў. Нядаўна тут быў палігон. На голых плахтах скал салдаты пакінулі свае графіці.

Мінуўшы зараслымі берагамі маляўнічае вадзяное вочка, мы выйшлі на квітнеючыя лугі. Часнойцы фатаграфавалі, няведамае ў нас, каляровае быллё. Гэта было іхняе жніво. Старэйшы працаваў на энцыклапедычныя выданні. Яшчэ пару сот метраў і за схілам гары вачам адкрыўся бурлівы, шэра-сіні акіян. Шырокі, чорны, быццам аксідаваны, пясчаны пляж. Босыя ногі пакідалі ў ім неглыбокія ўмяціны металічнага бляску. Направа глуха гудзелі хвалі, разбіваючыся аб парогі стромкага кліфу. Валадарыў шумлівы гул пены.

Босымі нагамі я ўвайшоў на мокры аксідаваны жвір, на якім шыпела пена адбойнай хвалі. Глыбіннай вібрацыяй разгараўся і шчымеў у грудзях кліч акіяну. І калі чарговая хваля ўварвалася і разлілася па пляжы студзёнай вадой, марозячы ногі, я прысеў і, змачыўшы далоні, прывітаўся з Акіянам. Імпульс радасці, які пранікнуў у маё цела і разліўся цеплынёю ў глыбіні душы, у адну хвіліну вышугнуў навонкі, апускаючыся ў яго недры.

Адмахваючыся ад пратэстаў сяброў, я няспешна распрануўся і, не

звяртаючы ўвагі на пранізлівую сцюжу, пайшоў у бурлівы Акіян. Прабегшы некалькі метраў за адбойнай хваляй, я кінуўся ў шыпучую пену. Цела сціснуў абруч ледавітага холаду. Хваля схапіла мяне і шуганула два-тры дзесяткі метраў у адкрыты акіян. Холад сціснуў грудзі і сплыціў удыхі. Напружыўшыся, я кролем усплыў на высокі хрыбет хвалі. Бераг, здавалася, быў ужо далекавата. Я зразумеў, што адбойныя хвалі імкліва адцягваюць мяне ад пляжа, павярнуў назад і моцным брасам рвануў да берагу. Нягледзячы на моцныя ўзмахі рук, я нічуць не набліжаўся да берагу. О-го! – мільганула ў галаве. Здалося мне, што Акіян гуляе са мною, адпускаючы на метраў пяць-дзесяць да берагу і тут жа адкідае назад. А холад сціскае абручом, плыціць ўдыхі. Нейкім інтуітыўным чуццём я зразумеў, што так мне не выбрацца з пасткі. Зрабіўшы салідны ўдых, я нырнуў углыб цёмна-сіняй тоні, амаль да самага дна. Я перастаў адчуваць пранізлівы холад, а прыдонная плынь піхнула мяне ў бок берага. Яшчэ пару дзесяткаў такіх нырцоў і я, немагчыма прамёрзлы, выплыў на плыцізну і шарнуў жыватом аб жвір пляжа. Акіян, хвілін дзесяць, мо пятнаццаць пазабаўляўшыся мною, адпусціў на сушу.

Фіялетавы ад сцюжы, затое распалены эмоцыямі, якія прымусілі арганізм выкрасаць рэштку энергіі, я выбраўся на бераг. Хвілін некалькі пасля, прабегшыся ўздоўж пенлівых плыняў туды і назад, каб сагрэцца, я апрануўся і далучыўся да кампаніі. Усе былі ўзбудараджаныя, а Спрус папракнуў мяне за рызыканства. Як марак, ён добра ведаў, чым ёсць ціхаакеанская хваля з яе ледавітым холадам. Чалавек на працягу дзесятка-двух хвілін у гэтай тэмпературы траціць прытомнасць, а пасля... А потым – ужо вядома.

Тут жа на пляжы, пад крабаў у сваім соусе, чырвоную ікру і душастройны подых Акіяну мы няспешна раскалолі бутыль белай. Што ж тут скажаш!? Ці ж можна чакаць большага ад жыцця!?

Вось я, просты хлопец з падляшскай Трысцянкі, што на заходніх Беларускіх Крэсах, прыбыў на бераг Вялікага Ціхага акіяна пакланіцца яго магутнай Велічы. Я стаяў моўчкі, углядаючыся ў нязмераную прастору, якая недзе там непадзельна злівалася з гарызонтам неба, за якім з мора выраcталі Камандорскія астравы, а за Алеўцкаю губою – неймаверна прыгожая горыстая Аляска.

Бязгучным шэптам я перадаваў Акіяну прывітанні ад блізкіх і сардэчных маіх сяброў. Часноцы рабілі здымкі, якія, як самі казалі, прададуць у энцыклапедычныя выдавецтвы. Старэйшы быў прафесійным фатографам, а яго дваццацігадовы сын, Міхал, прывучаўся да гэтай прафесіі. Сівы бацька і яго высокі сын хадзілі сярод буйных квяцістых лугоў і здымалі Гасэрблядам гатункі зелля і былля, якіх у нас няма. А вось на Камчатцы, напрыклад, няма ні жаб, ні вераб’ёў.

Назад мы вярталіся той самай дарогай. Сустрэлі дзяўчат з кошы-

камі дзіўных камчацкіх грыбоў. Яны былі падобныя на арыентальных “бачнякоў”, якія былі завезены нядаўна ў Польшчу з Карэйскага паўвострава. На самым канцы пешай дарогі, на аўтобусным прыпынку, мы пагаварылі з пажылым мужчынам. Ён расказаў пра вылазкі мядзведзяў, якія і ў хату ахвотна заглянуць, каб выцягнуць што-нешта з каморы. Аднаго баба выгнала мятлою з сенцаў, не бачачы ў прыцемках, што гэта мядзведзь. Здалося ёй, што гэта напорысты сусед заглянуў пад непрысутнасць гаспадара. Што ж, неяк мусяць уладкоўваць свае узаемаадносіны ў гэтым жорсткім клімаце звяры і людзі. Мядзведзі двухсотгектаравымі плошчамі займаюць і значаць тэрыторыю на паўтара мільёнах гектараў і толькі яе лічаць сваёй. А чалавек не шануе нічыіх межаў.

Вяртаючыся назад, у аўтобусе мы пафліртавалі з мясцовымі прыгажунямі. *Девушки были вполне достойны вниминия.*

**Капітанат порта, перамовы**

Дзень быў запланаваны на справы нашай фірмы „Белмора-1” і „Gryf”, які ў рэгіёне Ахоцкага і Берынгава мораў меў некалькі караблёў. Нам трэба было запэўніць для нашага траўлера „Гайдук” прэсную ваду і харчы, мазут і іншае. Натуральна, што і згоду на ўваход “Гайдука” ў порт.

Мы абгаварылі дэтальна ў капітанаце дамову, спосабы аплаты тавараў і паслуг, а бягучыя працоўныя кантакты пакінулі за прадстаўніком „Gryfa”, які, акрамя сваіх караблёў, меў абслугоўваць і нашага “Гайдука”. Праз пару гадзін мы вярнуліся ў цэнтр горада.

Ішлі мы пехам па беразе Авачынскай Губы, а пасля ўздоўж самой ракі Авачы ў нашу гасцёўню. Абкупіліся ікрой, крабамі, і ласосем, прызапасілі “Белага мядзведзя” і ўсе гэта склалі ў халадзільнік, на вечар. Самі паабедалі ў бары, а пасля са знаёмым тутэйшым капітанам паехалі ў мікрараён пяціпавярховых хрушчовак агледзець кватэру-офіс для прадстаўніка кампаніі. На мой густ надта сціпла, бо нават мой офіс у Беластоку быў непамерна больш прэстыжны, а „Gryf” – гэта не мой “Эльвімэкс”. Напрыканцы капітан падкінуў нас сваім японскім бусікам з рулём з правага боку ў супермаркет. Купілі мы там усялякай усячыны, проста рознага барахла і вярнуліся на базу. Спрус і Часнойцы прылеглі здрамнуць, а я выбраўся самотна пакруціцца па вуліцах горада.

Вечарэла і вуліцы запоўніліся людзьмі. Шмат моладзі, апранутай у модную японскую і кітайскую вопратку, джынсы, фірмовы абутак. Дзяўчаты напалавіну арыентальнай і славянскай прываблівасці. Маладзенькія карыячкі, ці эвенкі ніякрыху не ўступалі прыгажосцю ні расіянкам, ні дзяўчатам іншых этнасаў. Каб паставіць побач адну з другой, немагчыма было б адрозніць іх ад маладых кітаянак, ці карэянак.

У карэйскай кафэйцы, у якой я знайшоў вольны двухмесны столік,

было многа маладзенькіх мясцовых прыгажунь і дзелавой братвы. Карэяначкі, філігранава стройненькія, з прыгожымі арыентальнымі тварыкамі, гаманлівыя і жыццярадасныя, мітусіліся пры бары і напаўнялі прастору кафэйкі звонкім гулам размоў і дзявочага смеху. Плыла ад іх энергія добразычлівасці, а не паўсюдна прыкідлівага ў нашай прасторы зазнайства. Гэта настройвала на непасрэднасць. Рэагавалі яны ўсмешкай на пушчанае ім ненахальнае вочка.

Некалькі гадзін баравай атмасферы, свабоднай балбатні з дзяўчатамі пры буфеце, дзе я заняў зволльнены стульчык, пару дрынкаў, куфаль схалоджанага піва і карэйскіх закусак, вока, парадаванае прываблівымі фігуркамі, інстыкт самалюбства, прыемна паказытаны абяцанкай удачы – ніяк не скажаш, што час быў патрачаны мною марна на самым канцы свету.

**Порт**

Світала. На рэйдзе порту ў Авачынскай губе на кацер сыходзіла першая змена з палубы "Гайдука", контур якога высіўся ў лёгкіх парах заружавелай імглы з паднятым на мачце бел-чырвона-белым сцягам незалежнай Рэспублікі Беларусь. Вось першы ў гісторыі Беларусі яе зарэгістраваны ў міжнародных рэестрах карабель, горда стаяў пад старажытным сцягам, на якім светлымі блікамі зайгралі промні ўзыходзячага сонца. Ён ужо другі год славіў на неабдымных прасторах акіянаў імя далёкай і няведамай дасюль на марскіх шляхах Беларусі.

Я адчуў прыліў глыбокай ціхай радасці і гонару.

Апошні зыходзіў з палубы капітан Яўген Гнацюк, родам з Бельска Падляшскага. Падляш-беларус, з якім я гаварыў па-свойму на гэтым канцы свету. Першы афіцэр Здзіслаў Князюк родам з Белай Падляшскай. Неверагоднае супадзенне: два з трох саўладальнікаў карабля – Віктар Сіўчык і Віктар Стахвюк – беларусы, капітан Яўген Гнацюк і Першы афіцэр Здзіслаў Князюк – таксама беларусы. І сцяг Беларусі. І назоў карабля – "Гайдук"! Гэта як быццам сам Дэміург нашага многапакутнага народа пісаў сцэнар выхаду Бацькаўшчыны на неабсяжныя прасторы Акіяну. І не важна, што станецца пасля. Наш "Гайдук" упісаў Беларусь ў рэестры марскіх дзяржаў! І нішто не вывядзе яе адтуль!

Успомнілася, як ужо пры камандзе А. Лукашэнкі, я быў запрошаны на банкет беларускага консульства ў Беластоку. Прысутны там быў і віцэ-прэм’ер Беларусі Русак. Хтосьці, прадстаўляючы яму мяне, сказаў:

– Гэта сазаснавальнік беларускага акіянскага флоту.

– *Знаем*!, – сказаў Русак і звярнуўся да мяне: – *А под каким флагом плавает ваш карабль?*

– Беларускім. Бел-чырвона-белым.

– *Значит, это не белорусский флаг.*

І я ўсё *понял.*

**Вылет**

Аўтобусамі з порту вывезлі нас на лётнішча Елізава. Было тры гадзіны да старту самалёта. Маракі-рыбаловы разышліся па крамах, барах, аблеглі рэстаран. І палілося піва ўперамешку з “Белым мядзведзем” і “Сталічнай”, ромам і каньякамі.

Я прайшоўся па крамах, патраціў рублі на сувенірчыкі, купіў кніжку пра Петрапаўлаўск-Камчацкі і саму Камчатку. Прадаўшчыца запытала – адкуль я? Я адказаў ёй, што з Беластока і здорава быў здзіўлены, калі аказалася, што яна з Камчаткі лётала ў наш горад на рынак, што на Кавалерыйскай вуліцы.

За гадзіну перад вылетам маракі пачалі збірацца на пліце лётнішча. Былі хмельныя, перасвараныя, а некалькі з іх ахопленыя імпульсам агрэсіі. Мужыкі ўхапіліся за грудкі, нарэшце пусцілі ў ход кулакі. Усё адбывалася побач з намі і Спрус выступіў паперад мяне. Зусім непатрэбна. З другога боку, адкуль яму ведаць пра спрадвечныя традыцыі кулачных баёў у маёй вёсцы, на якіх выхоўваліся цэлыя пакаленні хлапцоў.

Праз кароткі час камчацкія праваахоўнікі прыбралі найболей задзёрыстых. Адпусцілі іх, калі мы былі ўжо ў самалёце. Як толькі авантурнікі ўвайшлі ў самалёт, адзін з іх тут жа накінуўся на саперніка. Капітан лайнера выклікаў ахову. Хмельнага “разбойніка” забралі з борта лайнера, а на бочным сядзенні прысеў спецназавец без усялякй зброі. Як толькі лайнер стартануў, зараз жа ўспыхнула бойка, аднак спезназавец за пару секунд супакоіў ахвотных. Адназначна.

Над воблакамі Камчаткі, амаль ля самых вокан, высіўся снежны пік Карыякскай сопкі, а далей направа – высачэрызны зуб Ключэўскага вулкана – 15 584 футаў. Развярнуўшыся над цёмна-сінім акіянам, на дне якога пры берагах Камчаткі пралягае Курыльскі роў глыбінёю ў 26 200 футаў, самалёт у хуткім часе пераваліў па-над горным хрыбтом, захапляючым сваёй прыгажосцю, з якога сплываюць многімі перапленымі косамі сотні бурлівых рэк і ручаёў з незлічонымі вадападамі. Зялёна-бура-аліўкавы каларыт, з плямамі сіне-белых шапак, заняў бы любому мастаку дух у грудзях нябачнай больш нідзе, акрамя Аляскі, незвычайнай жывапіснасцю, энергетычныя хвалі якой напаўнялі сэрца і падсвядомасць радасным узвышаным блажэнствам. Вазьмі і паспрабуй здрамні!

Мы апынуліся над Ахоцкім морам. Была трэцяя гадзіна дня. Рэдкія воблакі ніяк не перашкаджалі агляданню гладзі мора. Нейкі самотны карабель пакідаў доўгі белы след і плыў у напрамку кантыненту. Яго берагавая лінія з высокім кліфам незадоўга заяснела паўкруглай касою. Сонца ўвесь час асвятляла, паміж рэдкімі воблакамі, Магаданскі край ды нераздзельныя копны невысокіх гор, сярод якіх blішчэлі сотні тысяч безымянных азёр і нітачак рэк. Нідзе ні адной жывой душы. Часамі

паяўляліся нейкія баракі, дзесяткі кіламетраў дарог да адкрытых руднікоў і зноўку ніводнага следу чалавечай прысутнасці.

Бачыць усё гэта – чысцейшы водар для душы.

Адначасова, гэта сумная задума над лёсам мільёнаў бальшавіцкіх ахвяр, загінуўшых у нечалавечых умовах, створаных халоднай, хворай нянавісцю кагановічаў, троцкіх, зіноўевых, свярдловых, дзяржынскіх, ягодаў, берыяў, цанаваў, бэрманаў і процьмай іхніх апрычнікаў.

Гэта тут, прывезеная Леніным з Вены ў салонках праз франты Першай Сусветнай вайны, касмапалітычная навалач спадзявалася пахаваць цвет Русі. Калі абдурманілі неверагоднымі ілгунствамі стомленыя вайною народы ды, выконваючы загадзя прадуманы план загавору, схапілі ўладу – крутанулі жорны дэманічнага тэрору. Пахавалі дзесяткі мільёнаў расіян, украінцаў, беларусаў, дзесяткі тысяч палякаў і сыноў іншых народаў. У іх рады ўліліся табуны звыраднелых, пранізаных звярынай нянавісцю, *местечковых* апрычнікаў. Знайшлі яны тысячы тупых мясцовых памагатаяў. У недрах кожнага народа ёсць каналіі і праведнікі.

Калі, пралятаючы, глядзіш уніз на бязлюдныя неабсяжныя прасторы, дзе гінулі мільёны ахвяр тэрору бальшавіцкай рэвалюцыі, міжволі ўспамінаеш цёмнаэфірны час, калі прапаганда "чырвонага поспеху" дурманіла на дзесяцігоддзі розум сыноў даверлівых народаў і толькі дзякуючы такім светлым асобам, як Аляксандр Салжэніцын, свет даведаўся хоць пра крышынкі праўды. Пачынаеш тады ўсведамляць сабе, што вось упершыню сваімі вачыма датыкаешся да ран, якія шчымяць і ў тваіх грудзях. У 1940 годзе НКВД замардавала майго дзеда Міхаіла Максімавіча Стахіюка, па загаду чырвонага апрычніка Фірагі.

Сашка, родны брат маёй бабы Марыі Феліксаўны Стахіюк з дому Якубоўскіх, загінуў, быць можа, недзе тут, калі яго схапілі энкавудысты ў 1940-вым годзе, пасля таго як ён пайшоў пешшу ў Беласток, на вуліцу Кілінскага і павыбіваў каменнем вокны, як яму здавалася, у кабінеце таго ж Фірагі. Трысцяне бачылі Сашку яшчэ непадалёку ад Мінска, калі пад зоркім вокам камісараў-апрычнікаў, звычайныя, простыя, найчасцей сялянскія хлопцы, якіх пераапранулі ў форму энкавудыстаў, гналі калонну "врагоў народа" на Усход.

Аднак генаў геніяльнасці ўсходніх славян не ўдалося зніштожыць датла. Яны засталіся ў народах. Яны ўжо адтвараюць ядры сваіх этнасаў, выводзяць іх з калгасных запаведнікаў і незадоўга акрэсляць прыналежнае ім месца ў свеце.

Тым часам пад намі круцілася рака Лена, бы пераплеценая незлічонымі паваротамі дзявочая каса, сярод дзявочай, неспракуджанай людзьмі прыроды.

Па нейкім возеры плыў караблік. Колькі ж тут азёр і гор зусім не названых!? Колькі рэк праплывае сярод непралазных урочышчаў тайгі і

тундры! Ці заселяцца калі-колечы людзьмі гэтыя неабсяжныя прасторы?

Дзівата! Што за краіна!? Тое, што на картах былога Саюза пазначана было як балоты, аказалася мільёнамі рознай велічыні азёр, сярод незлічоных горных узвышшаў і хрыбтоў. Гэта поўнач Расіі.

Спачатку мы ляцелі над тайгою, пасля над тундрай. Над паўночным хрыбтом Уралу паказаліся простыні хмар. Усё часцей сталі паяўляцца пасёлкі, гарадкі і гарады. Нарэшце самалёт праляцеў над ускраінамі Масквы і плаўна прызямліўся пад апладысменты пасажыраў.

Дваццаць гадзін бязвоблачнага палёту сярод белага дня!

Незабыўныя вобразы тайгі і тундры – дзявочая чысціня часткі нашай планеты. Гэты след, след бачанага, застанецца ўва мне назаўсёды.

Нарэшце, двухгадзінны пералёт над еўрапейскай часткай Расіі, блакітныя азёры Беларусі, Падляшша, густанаселеная надвіслянская Польшча і лётнішча Акэнце.

А познім вечарам – сярод сваіх блізкіх. Ласосі, крабы, ікра, сувенірчыкі.

І радасць, радасць сустрэчы.

**Эпілог**

Прадпрыемства дальнамарской лоўлі „Gryf” ўзнікла ў 1957 годзе. На працягу нядоўгіх гадоў яно агарнула сваёй дзейнасцю ўсе акваторыі сусветных акіянаў, а разам з гэтым стала важным звяном гаспадаркі Польшчы. Сумесна з гданскім “Дальморам” і свінауйскай “Одрай” яна налічвала звыш 120 траўлераў. У самога “Грыфа” было амаль 70 караблёў у сямідзесятыя гады. Гэта быў адзін з найбольшых рыбалоўных флатоў свету. На пачатку дзевяностых гадоў у Германіі было ўсяго тры траўлеры і імперскія амбіцыі ў адносінах прысутнасці на сусветных акіянах. Не лепш было і з амерыканскім рыбалоўным флотам. Аднак, каб іншыя маглі вырасці, хтосьці павінен быў уступіць ім сваё месца. Калі ў Польшчы перамагла “Салідарнасць”, некампетэнтны ўрад не справіўся з гаспадарчымі выклікамі краіны. Хіба што ад самага пачатку ён вёў палітыку дэфолту і распродажы гаспадарчых гігантаў за бясцэнак, а ўсё гэта з закуліснай падачы розных індывідаў і дарадцаў, тыпу Джэфрэя Сача, які, раіўшы Лешэку Бальцэровічу, пільнаваў інтарэсы самога Джорджа Сороса (Шороша).

Таму на пачатку дзевяностых гадоў у трох дальнаморскіх прадпрыемствах асталося усяго каля 70 траўлераў, а колькасць іх стала змяншацца з увагі на ўстрыманне ўрадам якой-колечы ім дапамогі. Ужо ў 1995 годзе засталося ў Польшчы ўсяго 36 караблёў. Сітуацыя пачала рабіцца яшчэ больш складанай, калі ў Ванкувэры былі арыштаваны за недахоп партовых аплат і іншыя кошты 3 траўлеры, а ў Монтэвідэо – чарговыя тры кампаніі „Gryf”. Рыбалоўныя салідарнікі пішуць пісьмо прэм’еру Ежы Бузэку, моў *свет з нас смяецца, што дзяржава не ў*

*змозе заплаціць 250 тысяч, каб ратаваць дзесяткі мільёнаў!* Эфэкт пісьма нулявы.

Пазней урад Польшчы у асобах віцэ-прэм'ера Камалоўскага, а таксама міністра Артура Балязса быў глухі на просьбы і петыцыі фірм, ды сляпы на просты эканамічны рахунак, што, даючы ўрадавыя гарантыі на крэдыт у 5 мільёнаў даляраў, ён жа выігрываў 23 мільёны, а апрача гэтага не быў бы прымушаны прымаць на сябе даўгі прадпрыемстваў.

Што ж. Не аказалася палітычнай волі. Польшча ўступала ў Еўрапейскі саюз, а там рыбалоўная гаспадарка дафінансоўвалася дзяржавамі квотамі нават да 600 даляраў за тону. Акрамя гэтага немцы перш за ўсё вырашылі разбудаваць свой флот і канкурэнцыя з боку рыбалоўнага, яшчэ ўчора, гіганта, ніяк не была ім патрэбнай. Пры тым, як даказваў Павел Камінскі, шэф "Салідарнасці" рыбалоўных прадпрыемстваў, дэфолт фірм выкідаў на рынак мноства траўлераў, што зводзіла іх цану да ўзроўню "хто што дасць!" Учарашнія салідарнікі, а тады ўжо паны міністры і гэтага не былі ў змозе пабачыць, зразумець і ацаніць страту краіны.

Гэтая сітуацыя не абмінула і нашага "Гайдука", якога большасным (85% акцыяў) уласнікам быў „Gryf". Гэтая кампанія, пачынаючы з 1995 года, была пастаўлена ў цяжкае эканамічнае становішча. Арышты караблёў і абыякавасць ураду краіны не толькі да іх, а да лёсу ўсёй гіганцкай (10-ая ў свеце пры Гераку) гаспадаркі краіны, прымусіла шэфаў „Gryfa" да рэзкіх рашэнняў для ратавання рэштак фірмы.

Пачынаючы ад падпісанай дамовы паміж Польшчаю (міністр транспарту і марской гаспадаркі Лібэрадзкі) і Расіяй аб лоўлі рыбы ў акваторыі Ахоцкага і Берынгавага мора, магчымасці бясквотавай лоўлі рыбы польскімі траўлерамі зводзяцца да нуля. Узнікае ў хуткім часе канцэпцыя супольнай лоўлі рыбы з расійскім партнёрам, які гарантуе доступ да рыбных акваторыяў. Наш "Гайдук", які на практыцы прайшоў сумесную лоўлю пад беларускім сцягам, быў для Польшчы, а хутчэй для самога „Gryfa", не толькі ўдалым праектам, а падараванай намі дарожнай картай, таму кампанія падпісвае неўзабаве дамовы аб сумеснай лоўлі з расіянамі, пачынаючы з 1997 года. Хутка пад расійскім флагам плаваюць "Гайдук", а ў наступным годзе "Отоль" і хутка іншыя.

На траўлерах было па два капітаны. Расіянін камандаваў караблём, а працэсам лоўлі – паляк. На караблі працавала 50 палякаў і 20 рускіх. Пасля чатырох гадоў супольнай лоўлі карабель пераходзіў ва ўласнасць расіян.

Сёння кампанія „Gryf" не існуе. Яна была ліквідавана ў верасні 2001 года. Са 120 траўлераў, якія плавалі пад сцягам Польшчы, сёння кампаніі "Дальмор" і "Одра" захавалі па 5 траўлераў, якія ловяць розныя віды рыб, а не толькі белую – мінтая і моршчука.

Як прадбачваецца, у 2015 годзе з акваторыяў сусветных акіянаў знікне апошні карабель пад польскай бандэрай.



# Андрэй Сцепанюк

## Вечны сон

*не стала Юрыя Гуменюка*

адкрываюцца дзверы за якімі нічога няма

нямыя сцены глядзяць беласцю фарбы
падрапанай воўчымі кіпцюрамі

усё паўтараецца як у сне маці
яна расказвала яго
пасля нараджэння дзіцяці

ад замазанага сонца
якое б'е з закрытых вакон
нікуды ніякага ўцёку

сонечныя праменні падаюць
на закрытую кніжку вершаў
якіх ніхто ніколі не напісаў
і ніхто ніколі не напіша

не плачу
вершы гэта толькі словы

не плачу
вершы гэта толькі сон
з якога ніколі не абуджуся

*20 студзеня 2012*

## Героі

А пад лесам за дубамі вырастуць грыбы
І нікому мы не скажам
Будзем ведаць мы
Што зямля абліта сокам слаўнае крыві
А пад лесам за дубамі вырастуць грыбы

А ў полі там над рэчкай вырасце авёс
І ніхто не памятае
Зерне хто прынёс
І ніхто ўжо не скажа што ў час жніва
Там у полі там над рэчкай
Нікога няма

А ў ветры над зямлёю цішыня гудзе
І нікому мы не скажам
Хто да нас ідзе
Ляжам толькі мы на лузе
Грэх свой кінем удаль
І ў ветры над зямлёю застанецца жаль

А на вуснах будзе песня мінулых гадоў
І нікому мы не скажам
Пра хвалу дзядоў
Бо ў думках і ў сэрцы слоў ужо няма
І ніхто нам не скажа ў чым наша віна

А пад лесам за дубамі нічога няма
А ў полі там над рэчкай вырасла трава

## Малітва злодзея

Ніколі больш Ты да мяне не падыходзь
Ніколі больш не гавары мне
што я добры і справядлівы
Так не было і не будзе
Жыве ува мне патрэба неакрэсленага блукання
Ты не першы і не апошні які ніколі таго не зразумее
Калі можаш затрымайся толькі
ля кватэры маёй матулі і паслухай
ці яна яшчэ плача
Потым перадай мне паведамленне
што Ты яе супакоіў і што яна паверыла Табе
Тады мабыць і я паверу ў Цябе

# Лісты Масея Сяднёва

Яну Чыквіну

Сьнежня 7, 1990 г.

Вельміпаважаны Спадар Чыквін,

Спадар Запруднік пераслаў мне копію Вашага ліста да яго. З гэтага ліста я даведаўся, што рыхтуецца Энцыклапедыя Поўшэхна і што Вы дамагліся, каб у ёй знайшлі месца і тры беларускія паэты-эмігранты, у тым ліку і я, раб Божы. Гэта вельмі прыемна, гэта Ваша асабістая перамога і я вітаю Вас з гэтай перамогай, выказваючы Вам як найшчэрэйшую падзяку. У сваім лісьце Вы пішаце, што ў Вас не хапае дадзеных пра мяне, як аўтара. Хацеў бы прапанаваць Вам свае паслугі ў гэтай справе, падаць пра сябе дадзеныя ў адпаведнасьці з схемай, накрэсленай Вамі ў лісьце. Значыцца, тады я выглядаў бы гэтак:

Масей Сяднёў, год нараджэньня 1913, месца нараджэньня вёска Мокрае, Магілеўскай губерні, паэт, празаік, перакладчык. Важнейшае становішча: выкладчык. Выкладаў у універсітэце Індыяна (ЗША) у гадох – ад 1959 да 1983. Выданьні: "У акіяне ночы" (Рэгенсбург, 1946), "Спадзяваньні" (Рэгенсбург, 1947), "Ля ціхай брамы" (Нью Ёрк, 1956), "Патушаныя зоры" (Мюнхен–Нью Ёрк, 1975), "Ачышчэньне агнём" (Глен Коў–Нью Ёрк, 1985), "Раман Корзюк" (Нью Ёрк–Мюнхен, 1985), "І той дзень надыйшоў" (Глен Коў–Нью Ёрк, 1987), "А часу больш, чым вечнасьць" (Глен Коў–Нью Ёрк, 1987), "Очищение огнем" (у перакладзе на рускай мове, год выданьня – 1989).

Ёсьць пераклады на расейскую, украінскую, польскую ("Культура", Парыж; "Глос конфэдэрацыі", Лондан).

Што тычыцца кароткай характарыстыкі творчасьці, дык адзінае, што я магу зрабіць – гэта прапанаваць Вам сваю кніжку "А часу больш, чым вечнасьць" з артыкулам у ёй пра маю паэзію аўтарства Тамары Казевіч, а таксама выказваньне прафэсара доктара Бойкі-Блохіна, зьмешчанае ў гэтай жа кніжцы на вокладцы (па-нямецку). Канешне, я быў бы рады, каб такую характарыстыку напісалі Вы, і прапаную Вам артыкул Казевіч толькі дзеля таго, што Вы моцна занятыя і хіба ня зможаце

ўзяцца за гэтую справу. А калі б маглі, я толькі вітаў бы.

Удзячны Вам за падборку ў "Ніве". Быў рады. Чытаў у "Ніве" рэцэнзію на Вашую кнігу. Хацеў бы яе мець, хацеў бы бліжэй пазнаёміцца з Вашай надзвычайна цікавай творчасьцяй. Гатовы даслаць Вам свой даробак, калі б Вы ўжо ня мелі яго.

Выбачайце, што турбую Вас. Я даўно Вас ведаю і колькі разоў зьбіраўся напісаць Вам, зачапіць Вас. Неяк у сваім лісьце да мяне Надсан пісаў пра Вашае добрае слова пра мае вершы, гаварыў, што Вы зьбіраецеся напісаць працу пра творчасьць беларускіх паэтаўэмігрантаў. Гэта ўзьнімала наш тут дух.

З павагай і найлепшымі прывітаньнямі.

Ваш

М. Сяднёў

П. С. Кніжку высылаю Вам асобна.

***

Сакавіка 29, 1991 г.

Вельмішаноўны Спадар Ян Чыквін,

Моцна абрадаваў мяне Ваш ліст. Прызнацца, чакаў яго. Ішоў ліст болей за месяц. У сваім прыгожым лісьце Вы шмат сказалі прыемнага пра маю сціплую асобу – гэта, канешне, падтрымлівае на духу, асабліва такога зьняверанага чалавека, як я, бо ж часта, ня раз пытаесься ў сябе самога, а ці мае нейкую вартасьць тое, чым ты займаесься, тое, на што ты сябе прыгаварыў. І добрае слова, як Вашае, як Ваша кампетэнтная думка, ратуе мяне ад песімізму. Вы ж самі паэт, скажу тут шчыра – большы за мяне, Ваш зборнік "Светлы міг" – гэта надзвычайная з'ява ў беларускай паэзіі. Надзвычайная, бо Вашая паэзія касуе, запярэчвае вершаваную прадукцыю сацыялагічнага зьместу, гэта выклік, паварот да паэзіі, як гэткай, паварот, сказаць бы, да Багдановіча, якога мы зракліся былі, а цяпер плачам па ім і ўжо нязд0льныя пайсьці ягоным следам, карацей – Вашая паэзія якасна новая з'ява, прынцыпова новая. Хацелася б напісаць пра Вашую кнігу, дарэчы густоўна выдадзеную, Ваш "Светлы міг" быў светлым мігам і для мяне, быў адкрыццём новай планеты ў нашай паэзіі. Гавару расцягнута, бо не знайшоў яшчэ дакладнага азначэньня той з'явы, якую становіць сабой Вашая паэзія.

Дзякую за адваяванае Вамі для нас месца ў польскай "Энцыклапедыі паўшэхнай". Думаецца, што гэта ня лёгка было Вам прапхнуць нас туды.

Нарадзіўся я ўсё-такі 1.9. 1913, але паводля афіцыйных папераў – 1.9.1915. Як гэта сталася, я расказаў, між іншым, у сваёй гутарцы з

Барысам Сачанкам, зьмешчанай у “Маладосьці” (9, 90). Вас я не буду тут мучыць пераказам той гісторыі. Выправіў я дату свайго нараджэньня і для даведніка “Пісьменьнікі Беларусі”. Разбежнасьць гэтая неяк мучыць мяне, але ж і не магу не ўказаць на сапраўдную дату.

Рады, што Вам падабаліся мае дробныя рэчы ў “ЛіМе”, шкада толькі, што ў гэтым годзе я не атрымаў яшчэ ніводнага нумару гэтай газеты і дакладна не ведаю, што там пайшло ў ёй – я даслаў туды каля двух дзесяткаў такіх мініяцюр.

Пішаце пра творчыя здабыткі беларусаў замежжа. Слушна – усё гэта расцярушана, ня вывучана, патрабуе, як пішаце, навуковага аналізу. Ня шмат хто і мог бы зрабіць гэта – няма адпаведных кадраў. Такіх, як Вы дасьведчаных, кваліфікаваных, як Вы, літаратуразнаўцаў у нас, на жаль, мала. Дарэчы, быў бы рады пазнаёміцца з Вашымі навуковымі працамі, з Вашымі іншымі творамі наогул. Дапушчаю, Вы надта заняты чалавек, заняты выкладчыцкай, навуковай і грамадскай працай, але ж – дзіўлюся – усё гэта не заглушыла у Вашай асобе выдатнага паэта, паэта з вялікай літары.

Як Вы ўладкаваныя ў Беластоку? Вялікая сям’я ў Вас? Што я кажу – вялікая: цяпер няма вялікіх сем’яў.

Атрымаў я ад Спадара Лубы ліст з просьбай напісаць нешта пра свой, як ён піша, “беластоцкі перыяд”. Паабяцаў яму па нейкім часе нешта прыслаць, я прыхільнік Вашай газеты, палюбіў Беласточчыну, жартам называў яе сваёй другой малой Бацькаўшчынай, але вяртацца да таго “беластоцкага перыяду” ня лёгка мне і я пытаюся ў сябе, ці гэта трэба. Што Вы думаеце? Вы ж таксама просіце мяне нешта напісаць у “Ніву”. Дзякую тут Вам за прапанову. Трэба падумаць. Парадзьце мне.

Адначасна з гэтым лістом выслаў Вам дзьве свае празаічныя кніжкі. Ісьці яны будуць хіба доўга. Як выглядае, Вы не атрымалі мае маленькай кніжыцы “А часу больш, чым вечнасьць”, якую я пасылаў Вам адначасна з лістом ранейшым.

Яшчэ раз шчыра дзякую за Ваш нязвычайны ліст, рады ад Вас мець усё, што толькі магчыма, а найперш – хоць пару радкоў ліста.

З найлепшымі прывітаннямі і пажаданнямі,

Закаханы ў Вас М. Сяднёў

P.S. (рукою) Пішу на машынцы, каб Вы ня бачылі маіх крывулляў. Літары ў мяне скачуць. Тут во якраз няблага, значыцца – спакойны.

***

9.4.91

Спадар Чыквін,

Кагадзе паслаў Вам ліст, дзьве сваіх кніжкі. Спадзяюся, што ўсё гэта Вы атрымалі. Дасылаю Вам цяпер тут сваю нібы рэцэнзію на Вашую кніжку "Светлы міг". Дасылаю і баюся – а ці ўхваліце Вы яе. Стараўся, а ці ўсё так яно, не магу сказаць. Калі б Вы ўхвалілі яе, я хацеў бы, каб яна была і ў "Ніве", Вы маглі б перадаць яе Сп. Лубу. Адважуся паслаць свой гэты опус і ў "ЛіМ" – Вы вартыя таго, каб Вашая паэзія сталася як найбольш вядомай. Буду рады, калі адгукнецеся.

МСяднёў

***

Масей Сяднёў

"Светлы міг" Яна Чыквіна

з новай кнігі "Масеева кніга"

Кагадзе я атрымаў ад паэта Яна Чыквіна з Беластоку ягоную кніжку вершаў "Светлы міг", што выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1989 годзе. "Светлы міг" быў для мяне нечаканым адкрыццём цудоўнай, гаворачы вобразна, балонкі ў вакне нашай сучаснай паэзіі. Як кажа паэт, Муза "прадыктавала яму на вуха словы", што ўрэшце і склалі кніжку "Светлы міг". "Светлы міг" – гэта і для мяне светлы міг адкрыцця паэтавага сьвету. Паэт выхоплівае з суцемкаў глыбінныя пласты нашага быцьця, імкнецца "паспрабаваць бяздонне часу", зазірнуць у вечнасць. Паэт гаворыць: "...пад неба ўюся зорнае І вечнасьць п'ю глыткамі невялікімі". Ці не адсюль і тая дружба з Музай, што дыктуе паэту на вуха свае словы? Ня кожны можа заслужыць такую даверлівасьць высокай Музы.

Паэзія Яна Чыквіна па сутнасці філасофская паэзія. Яна вяртае нашую паэзію ў лона еўрапейскай паэзіі, да вопыту Максіма Багдановіча. Экзістэнцыяльна яна адрозная ад нашай сённяшняй паэзіі, калі хочаце – нават запярэчвае яе матэрыялістычную аснову, яна ў нашай паэзіі – як бы новая планета, хоць яшчэ і не адкрытая. Паэзія Чыквіна сімвалічная, метафарычная, як і належыцца быць сапраўднай паэзіі. Затрымаемся ж крышку на вобразнай сістэме кніжкі "Светлы міг", загляньма ў паэтычную гаспадарку Чыквіна. У вершы "Май", напрыклад, дадзены цікавы вобраз вясны. Вясна ў Чыквіна "налівае цяпло ў пасудзіну раслін, Спаўняе таямніцу маяхрышчэння". Як гэта добра сказана! Гэта нібыта паганскае дзейства прыроды. Нязвычайны вобраз: "Вясна налівае цяпло ў пасудзіну раслін". Гэтую нязвычнасьць

надае яму зматэрыялізаванае, нібыта грубое “пасудзіна раслін”. Такая “вульгарызацыя” вобразу прадметнасцю – ці не адна з характэрных рысаў паэзіі Чыквіна. Вось яшчэ адзін падобны прыклад: “Так калісьці пераліваліся ў вядро юнацтва гадзіны з возера дзяцінства”. Але гэтая на першы пагляд нязвычайнасьць, зматэрыялізаванасьць, “вульгарызацыя” вобразу прадметнасьцю: пасудзіна раслін, вядро юнацтва, толькі яшчэ больш падкрэслівае, гіпербалізуе вобраз, робіць яго больш наглядным, больш даступным. Гэта не зніжае аднак ягонай эстэтычнай вартасьці

(ад рукі)        В. П. Спадар Чыквін,
выслаў Вам гэты артыкул, а цяпер – дзьве ў ім папраўкі. Зрабіце іх, калі ласка.

З прывітаньнем                                        МСяднёў

P.S. Думаю, што варта іх зрабіць..?

***

15.6.91

Дарагі Ян Чыквін,

Разумею Вашыя цяжкасьці, шкадую Вас і спачуваю, але ж шануйце сябе, вызваляйце сябе ад лішніх абавязкаў. Зрэшты, лішніх абавязкаў, здаецца, і няма – усе яны ня лішнія, патрэбныя, усё жыцьцё наша складаецца, урэшце, з “лішніх” абавязкаў, бяз іх жыцьцё было б, відавочна, няпоўным. Вы жывяце, уласна, поўным жыцьцём, і гэта добра. Можа трохі перапоўненым. Але галоўнае хіба – душэўная зраўнаважанасьць патрэбная, а яе ў Вас, як я падслухаў, якраз і няма. Дарагі Ян, а ў каго яна ёсьць? Жанчынам цяжка жыць з паэтамі, як і наадварот. Так што ня журыцеся надта. Усё, як той казаў, абразуміцца. Не адны Вы такія, магу Вас пацешыць. Можа ў Вашым Бельску і добра было б Вам, а ці ўседзеце Вы там: душа Вашая ўсё роўна застанецца ў Беластоку. Але я гэта толькі гадаю. Выбачайце, што я нібыта ўлажу ў Вашае жыцьцё. Барані Божа. Чамусьці падаецца мне, што Вашая дачка вучыцца ў англійскім каледжы.

Як Вы нагружаны ў універсітэце? Колькі гадзін выкладаў Вы маеце там? Але ж, як кажаце, язда забірае шмат часу. Усе мы круцімся ў гэтым жыцьці, і гэта нядобра. Інакш, відаць, нельга. Захапіла нас тая круцёлка і круціць. Бачаце, застары – кідаюся ў “філасофію”.

Пра Вашу кнігу “Светлы міг” пісаў шчыра (спадабалася яна, мяне захапіла). Нікольки не перабольшваючы ейнага значэньня. Рады, што мая гэтая нібы рэцэнзія будзе ў “Ніве”.

Свой “Беластоцкі сшытак” я скончыў, выйшла сем часьцінак. Выслаў іх на імя Спадара Лубы. Хвалююся – ці яны хоць у нейкай ступені

задаволілі Рэдактара газэты. Баюся – каб мне сорамна не было.

На Кангрэс беларусістаў ня трапіў. Калі выйдзе па восені мая кніжка (вершы і проза), буду ў Менску і тады папрашуся ў Беласток, у Польшчу, балазе цяпер Польшча не вымагае, здаецца, болей візаў. Быў бы рады спаткацца з Вамі. Прыслала мне Лідзія Савік (ст. кандыдат філ. навук) артыкул "Штрыхі да творчага партрэту Масея Сяднёва" і хацела б, каб ён быў надрукаваны і за межамі Беларусі. Аб гэтым я пісаў і Сп. Лубу, пытаючыся ў яго, ці не магла б зацікавіцца ім "Ніва". Вычуваю, пытаньне маё ня сьціплае і яню аніяк не забавязвае рэдактара і Вас адказваць на яго дадатна. Артыкул хіба будзе зьмешчаны ў "ЛіМе". Але гэта ня пэўна. Дазвольце скончыць на гэтым. Дзякую шчыра за ліст. Буду рады чуць Вас. З найлепшымі прывітаньнямі і пажаданьнямі Ваш М. Сяднёў.

Я хацеў бы ўважаць, што мы ўжо з Вамі добра знаёмыя і дзеля гэтага асьмеліўся пісаць да Вас менавіта, як да знаёмага, дарагога мне чалавека.

М. С.

***

Даражэнькі Ян, (дазвольце мне гэтак зьвяртацца да Вас) Ваш ліст і Белавежскую старонку з Вашымі, зноў жа цікавымі, арыгінальнымі вершамі, і маёй рэцэнзіяй, атрымаў. Цяпер і я, можна сказаць, ужо Белавежац. Ганаруся. Старонка прыгожа скампанавана, прыгожа аформлена. Гэта ўжо належыць да выдавецкага мастацтва. Наогул "Ніва" і зьместам, і тэхнічна сіганула, здаецца мне, наперад, канкуруе з "ЛіМам" як беларуская газета. (На жаль "ЛіМ" той ня йдзе мне, падпісчыку).

Атрымаў ліст і ад Спадара Лубы, піша, што мой "беластоцкі сшытак" выклікаў у рэдакцыі цікавасьць і што ягоная апошняя частка будзе зьмешчана ў "Ніве" першага верасьня, на дзень майго нараджэньня. Я надта ўсьцешаны гэтым. У гэтай "афэры", пэўна і Вы замешаны. Цікава, які водгук чытачоў, калі які ёсьць наогул.

Вы на новым месцы. Як там Вам жывецца? Ня сумуеце? З даездам у унівэрсытэт цяпер лягчэй Вам? Што пішаце? Мо рыхтуеце новую кнігу? Ня бойцеся "цяжкой ношы", якую я, кажаце, узваліў на Вас сваёй рэцэнзіяй. Ноша тая лёгкая, і пад ёй Вы ня мусіце сьцішаць свайго паэтычнага бегу.

Сам цяпер заняты пераважна хатнімі справамі – ня надта добра чуецца жонка і мушу браць на сябе ношу яшчэ цяжэйшую.

Рады буду чуць Вас.

З найлепшымі прывітаньнямі

4.8.91 Ваш Мсяднёў

***

Даражэнькі Ян, (дазвольце мне так назваць Вас) найперш вітаю Вас з Раством Хрыстовым і Новым Годам, жадаю Вам самага ўсяго найлепшага – посьпеху ў Вашай працы, усякай удачы, суцяшэньня і заспакаяньня, хай Новы Год будзе асабіста для Вас і ўсіх нас больш шчасьлівым годам, як з найменшымі згрызотамі, а найбольш радаснымі днямі сваімі.

Пацяплела на сэрцы, чытаючы Ваш элегійны верш "Восень", зьмешчаны ў "Ніве". Цудоўны твор. Чакаю Вашага новага зборніка. Мая кніга яшчэ ня вышла, падпісана ў друк, але цяжкасьці з паперай. "Ніву" атрымліваю, сардэчна дзякую за віншаваньне мяне з днём нарадзінаў – душа адтаяла.

Як Вам жывецца на новым месцы – у Бельску? Як ідуць у Вас выклады ў унівэрсітэце, колькі ў Вас студэнтаў? Вы, напэўна, ведаеце студэнтку Анну Шэшка, яна зьбіралася пісаць сваю магістэрскую на аснове мае прозы, пад кіраўніцтвам Баршчэўскага, прасіла прыслаць ёй кнігі, я выслаў, але ад яе ўжо больш нічога не атрымаў. Але гэта між іншым. Як з выбарамі ў сэнат – Вы прайшлі? Вы страшэнна заняты чалавек, але ж гэта часам і ратуе. Прашу выбачыць мне за спозьнены адказ на Ваш ліст – у жонкі была цяжкая апэрацыя і я заходаўся дашчэнту. Дзякую за запросіны прыслаць штосьці сваё ў "Ніву". Калі буду ў Менску, зазірну ў Беласток, буду рады сустрэцца з Вамі. А тымчасам – яшчэ раз з Новым Годам! Прывітаньні Белавежцам!

12.XII. 91 Белавежац М. Сяднёў

***

Даражэнькі Ян, 26.2.92

Вялікі дзякуй за цёплы, нат спавядальны ліст – бачу Вас і чую, і такі Вы блізкі, зразумелы мне чалавек "З душой сіняй агню", што крочыць "Па нітцы жыцьця, дрыготкай і кволай". Канешне, ня лёгка на такой нітцы жыцьця крочыць. Але Вашыя крокі па ёй такія дзівосныя, яны кранаюць душу, узбагачваюць чытача эмацыянальна (гэта я пра Вашую кнігу). Дык хай Вас не гняце смутак, Вы патрэбны нам, людзям, чалавек, а ў нашай паэзіі бяз Вас было б сумна. Трошкі замітусіліся Вы, але гэтую душэўную няўстойлівасьць Вы пераможаце, хоць не – яна заўсёды будзе. У такога чулага паэта, як Вы, яна, калі хочаце – крыніца натхненьня. Вашая кніга "Кругавая чара" ў нейкім сэньсе сугучная Вашаму апошняму лісту. Вы ўсюды той самы – Вашая постаць выразна высьвечваецца там і там. Ах, якая добрая Вашая "Чара" – я п'ю зь яе і п'янею! Думаецца, гэтая кніга ("Кругавая чара") яшчэ болей у глыбіню і

артызм, калі параўнаць з “Светлым мігам”, хоць там і там выразна адно – перад намі – тонкай арганізаці Паэт. Вашая кніжка адкрылася мне сваім апошнім вершам “Трывожная альба” і ведаеце – няма ў нашай паэзіі больш дасканалага твору. Прыгадваецца, нейкі нямецкі крытык, гаворачы пра адзін верш Мёрыке (ня памятаю, які), зазначыў – пасьля такога вершу нельга ўжо пісаць рытарычныя вершы. А нашая ж паэзія ўся – рытарычная і ў ёй, рытарычнай, магчыма адзіным паэтам – Вы. У Вас ёсьць таксама рыторыка, але яна ўсё-такі – не рыторыка. Ну што можа быць лепш за Вашую “Смугу вячэрнюю”: “Чаго ніяк нельга выказаць разумным словам, Бо тое ўсё перадаецца дотыкам, у жэсьце, пацалунку”. Сапраўды, у паэзіі нельга нічога выказаць разумным словам. Або: “І харашынь твая – агонь сьвяты ў лампадзе”. Або: “Шэры час па валасах бяжыць”, “Хрушч у траве агонь зялёны крэша”. Кніжка прыгожа выдадзеная, куды лепш, чым Вашая менская. Хацелася б пра Вашую кнігу нешта напісаць, хацелася б з Вамі сустрэцца і абавязкова таксама – у Вашым Бельску, пабачыць Вашую маці.

Дык дзякую за цудоўны падарунак – за Вашую “Кругавую чару” – гэта як студня нявычэрпная. Дзякую за добрыя, прачулыя зычэньні. Усяго таго ад душы жадаю і Вам, Чалавеку Божаму. Прашу прабачыць за спозьнены адказ на Ваш ліст, але Вы заўсёды былі ў мяне на памяці. Вы ж калі не сэнаце, дык у сэйме, га? Беражэце сябе – Ваш МСяднёў.

P.S. Пахваліў С. Чыгрын “Беластоцкі сшытак”: ён “Вялікі і станоўчы рэзананс выклікаў”, ён – “гістарычная каштоўнасьць”. Бачыце! І не падумаў бы!

Дык будзьце здаровы і шчасьлівы – М. С.

***

Даражэнькі Ян, 24.10.93

Сардэчна дзякую за Вашае прыгожае, паэтычнае, поўнае глыбокага зьместу, вітаньне. У ім адбілася і Вашае разуменьне паэтычнага мастацтва, самага чыстага, паводля нямецкага рамантыка, самага высокага з усіх мастацтваў. У сваім вітаньні Вы далі бліскучае азначэньне і сваёй уласнай паэзіі. Дзякую яшчэ раз за добрае слова, за памяць аба мне.

Што ж, Сакрат можа нас ня любіць. Як не Сакрат – ён улюбёны хіба ў сябе самога. І ані я застаўся вінаватым за “Ніву”, і газэта мне цяпер ня йдзе. Думаў праз Вас пераслаць колькі даляраў на “Ніву”, але не ўдалося – Вы ўжо былі ад’ехаўшы. Рады быў сустрэчы з Вамі, такой даўно жаданай і шкадую, што яна была такой кароткай, а я ж прыняў Вас за аднадумца і хацелася мне пабыць з Вамі даўжэй, пагаварыць пра

ўсё ўсенькае, адрадзіцца, набрацца ад Вас, калі хочаце, натхненьня, напіцца з Вашай “Чары”. Мне ўсё-ткі трэба прыехаць да Вас – у Беласток, у Бельск, у Варшаву. Цікава было б пачуць Вашую гутарку ў радыё – шчыра дзякую: Вы ж выводзіце мяне ў людзі, каторы ўжо раз і ўсюды. Тое ж робіць і Савік. Я ў даўгу перад Вамі. Да новай сустрэчы!

Заўсёды Ваш МСяднёў

***

Дарагі, паважаны Ян,

Крый Божа, каб я завошта пакрыўдзіўся на Вас, проста, як некалі ў маім Мокрым казалі, “ахляў”, прытупаўся, стаміўся, прыпяшэў, зрабіўся яшчэ больш старым, апусьціў крыльле і ня лопаю, наўзьверх яшчэ й расчараваўся ня толькі ўва ўсім, але і ў сабе самім. Але з маёй памяці Вы ня зьнікалі, дармо, што ня пісаў Вам, і што ня пісаў – дакараў сябе. Аж во – ліст ад Вас! І ўзьнялося трохі маё крыльле і вось бачаце – лопаю, пішу, абрадаваны. Вялікі дзякуй, Ян!

Думаючы пра Вас, пра Вашую таленавітую “Чару”, зьбіраўся напісаць пра яе – Вы сягаеце ў сваёй вобразнасьці ў неадкрыты яшчэ нашай паэзіяй цудоўны сьвет, і сягаеце на такую глыбіню, што дух займае, спраўляйся толькіісьці за Вамі – але рукі так і не дайшлі, хоць ужо была і склалася ідэя артыкулу пра гэты Ваш зборнік.

Шкадаваў тады, падчас Зьезду, што сустрэча з Вамі была такой кароткай, а яшчэ больш – што не ўдалося, як сьлед, разьвітацца з Вамі. Адчуваньне было такое, быццам страціў дарагога табе чалавека. Але дзякаваць Богу, Вы зноў знайшліся, я Вас ня страціў.

Запрасіла мяне “Бацькаўшчына” на г. зв. Навук. Канферэнцыю, прысьвечаную культуры бел. зарубежжа (12—13 чэрвеня), зьбіраюся, ці лепей – мяркую прыехаць на яе. Мо і Вы будзеце на гэтай канферэнцыі? От паехаў бы тады з Вамі да Вас, у Беласточчыну, што так лягла на сэрца мне! А як жа, пабывалі б і ў Вашым Бельску і ў Вашай Варшаве. Мо й здароўе б паслужыла.

“Масеева кніга” усё ня выходзіць. У ёй жа і Вы ёсьць.

Вы (упэўнены) падрыхтавалі новую кнігу, а я – нічога. Як у Багдановіча – “нудзьгую”.

Буду рады Вашаму лісту. Чакаю Вашага слова, навінаў.

Рады,

Ваш МСяднёў

11.5.94

P.S. Забыў: у № 1 часопісу “Тэатральная Беларусь” (1994) надрукавана мая п’еса “Ускрослыя ці цуд на плошчы Свабоды ў Менску”.

М. С.

***

Дарагі Ян,

Пры нашай сустрэчы ў Менску дамаўляліся мы (праўда, ня цьвёрда), што я гэтай восеняй споўню Вашае (ужо не першае) запрашэньне, прыеду да Вас у Бельск і такім парадкам мы зможам шмат дзе пабываць, здружыцца яшчэ больш, набрацца ад восені здароўя, пабагацець унутрана ў тым восеньскім спакоі. Але на жаль і гэтым разам ня ўдасца мне споўніць сваё вялікае хаценьне пабачыцца з Вамі і ўцешыцца Вашай гасьціннасьцяй. Адкладзем гэта да наступнага разу.

Замест цяперашняй планаванай сустрэчы пасылаю Вам сваю кніжку, “Масееву кнігу”, гэта й будзе тымчасам нейкай сустрэчай са мною. Баюся толькі, ці Вы будзеце задаволены такой сустрэчай. Кніжку высылаю асобным пакетам (думаю, Вы яе ня маеце). Буду рады атрымаць ад Вас (у Вас жа выклады ўжо хіба пачаліся) хоць некалькі радкоў.

З найлепшымі пажаданьнямі

9.9.94 Ваш М. Сяднёў

***

Даражэнькі Ян,

Як гэта Вы ўмееце пісаць – і прыгожа (каліграфічна), і зьмястоўна! У мяне во і алавік скача, і думка ня йдзе. Бяда. А Ваш жа ліст – колькі думак у ім, значных, глыбокіх, колькі смутку, жалю, скаргі, зьнябытнасьці!

Але ж усьведамляючы ўсё гэта і пішачы пра ўсё гэта, Вы фактычна стаіцё <u>над</u> усім гэтым і, дзякаваць Богу, няма небясьпекі паддацца <u>ўсяму гэтаму</u>. Гэта, Ян, я намагаўся сказаць нешта філасафічнае і калі яно й ня вышла, дык усё-такі праўда ў гэтым ёсьць. Якая? Што Вы стаіцё <u>над</u>. Як разумная лічнасьць. І тады ўжо “адкос” ня больш, як рэльеф. А што жыцьця нельга паўтарыць, дык гэта й добра, дый той паўтор усё роўна Вам не спадабаўся б, гэта было б застоем і зь яго Вы выбраліся б зноў, паддаўшыся, як творчая асоба, РУХУ.

У “Масеевай кнізе”, як Вы хіба заўважылі, ёсьць опус “Філасофія дамарослага філосафа”, дык і тут я ўдарыўся ў тую ж дамаросласьць. Што зробіш.

Чакайце – і Муза загаворыць, яна Вас лёгка так не адпусьціць. Дый зьвязаўшыся з ёю, самі не пакінеце Яе, усё ж спакусьлівую. Аддаўшыся ёй, ужо няма жыцьця без яе. А раззлаваўшыся на яе, пакінуць яе – адпомсьціць за здраду.

Выдавайце Вашую кніжыцу-эсэ пра нашага брата. Яго ж у нас ня

надта шануюць.

Спадабаўся Вам мой Надсан? Рад. Рад. Дзякую.

Пра Галіну Тварановіч ня лёгка нешта сказаць – яна ўся ў адчуваньнях і дзеля гэтага цяжкасьці ў яе ў афармленьні гэтых адчуваньняў, ды яна патрапляе, хоць, канешне, і не заўсёды. Так мне здаецца.

Але дазвольце на гэтым тымчасам закончыць (не, я не забыў пра свой намер наведаць Вас у Вашым Бельску).

З Раством Хрыстовым і Новым Годам, Ян!

Шчасьця, будзьця здаровы

12.12.94 Ваш М. Сяднёў

***

Даражэнькі Ян,

Турбаваўся, што гэта я Вам ня пішу, нат думаў, што, магчыма, не адказаў на Ваш ліст (хоць такога я сабе не дараваў бы), ажно, гляджу, Вы ў сваім лісьце, просіце мяне прабачыць, што ня пішаце мне, маўчыцё. Усё ў парадку, Ян. Я турбаваўся яшчэ, і турбуюся, што ўсё ня еду да Вас ў Бельск, а запросіны Вашыя прыемныя для мяне, усё яшчэ застаюцца нерэалізаванымі. Здало здароўе, а канкрэтна – сэрца. Мусіў бы нешта рабіць з ім, але ня люблю <u>нажа</u>. Часта адказваю дзецям, якія змушаюць мяне нешта рабіць (жартам, канешне): “Хачу памерці нярэзаным” (дасюль, дзякаваць Богу, мяне яшчэ ня рэзалі). Баючыся таго нажа, прыймаю таблеткі, а найболей налягаю на адпаведныя (сам выдумляю іх) практыкаваньні. Гэтак во і жыву і можа, дасьць Бог, прыеду да Вас у Бельск. (Пра маю хваробу пэўна ж Вы даведаліся ад Галіны). Але ж дзякую, Ян, за добрыя зычэньні і за тое, што “размаўляеце” са мной. Гэта ці не найлепшае з лекаў – пішаце пра мой скромны даробак. Дзякую. Дзякую. Для мяне гэта вялікі гонар. Слушна: тое, што Вы чыталі – гэта пераважна пераказ зьместу. Заслугоўвае ўвагі, на маю думку, праца М. І. Мішчанчука “Чатыры партрэты беларускіх паэтаў-эмігрантаў”, выдадзеная мінскім пединстытутам у 1993 годзе, як вучэбны дапаможнік для студэнтаў гэтага інстытуту ў колькасьці 100 экземпляраў. Спрабаваў нешта сказаць пра паэтаў-эмігрантаў і Гніламёдаў у сваёй рэцэнзіі “Слова, аплачанае лёсам”, зьмешчанай у часопісе “Полацак”, нумары 1—2 за 1994 г. У тым жа часопісе № 7 (1993) артыкул Алеся Мемуса “Мудрасьць таленту” (пра раба Божага).

Можа ўсё гэта Вы чыталі, і я Вам толькі, выбачайце, марочу галаву.

Буду рады чытаць Вашую працу. Упэўнены, яна будзе самай цікавай. Паэты-крытыкі бачаць тое, чаго ня бачаць крытыкі-прафесіяналы.

Няхай Вам часьцей адхінаецца “таямнічая заслона Маі”.

Шчыра дзякую за добры, прыемны для мяне ліст.

З найлепшымі прывітаньнямі
9.8.95 Ваш М. Сяднёў
Выбачайце за крэмзаніну.

***

Даражэнькі Ян,

Мне сорамна за свае некаліграфічныя лісты, дый зьместам яны бедныя, неяк развучыўся я пісаць лісты. Мусіць, вінавата маё сэрца. У сваім лісьце сваёй парадай не сьпяшацца пад нож Вы моцна падтрымалі маё сэрца, а разам з ім і мяне. Адно Ваша пажаданьне майму сэрцу "спакойнага рытму" падзеяла гэтак, што яно адразу паспакайнела.

Але даволі пра сэрца. Пасылаю Вам ксера артыкулаў Гніламёдава і Мемуса, можа што ў іх Вы і знойдзеце. Цешыць жа мяне Вашая хэнць напісаць артыкул пра "сына Ларыёнава", пра яго скромны даробак. "Потомки Вам отомстят". І кажаце, што артыкул набліжаецца... да завяршэньня. Бог на помач, Ян!

Дзякую за ліст і за ўсе Вашыя цалебныя зычэньні. Яны дапамагаюць мне. Вам жа – гарту і "сьветлых мігаў"

Заўсёды Ваш
М. Сяднёў

30.8.95

***

Дарагі Ян,

Доўга ня было ад Вас ліста, адказу на мой ліст-пакет (у яго я ўкладваў некаторыя матэрыялы пра ўласную, даруйце, персону) і я ўсё гадаў, чаму паважаны паэта маўчыць. Аж ліст Ваш, ад Вас, нарэшце ў маіх во руках, і я, чытаючы яго, радуюся Вашымі цёплымі сьвяточнымі вітаньнямі, добрымі навінамі ў ім. Толькі ж у сваім лісьце Вы ня згадваеце пра мой ліст-пакет. Відаць, не атрымалі. Ды не бяда.

Зычу Вам у гэтым новым годзе новых твораў, хоць такое зычэньне ня мае сэнсу: кожны Ваш верш гэта заўсёды нешта новае, гэта заўсёды адкрыцьце, спасьціжэньне яшчэ нікім нязьведанага. Гэта пранікненьне ў хаос. У гэтым сэнсе у нашай паэзіі Вам няма роўных, ці лепш – побач з Вамі нашы паэты – не паэты. У гэтыя "нашы" я ўключаю, канешне, і сябе. Побач паэзіі Вы ж і выкладчык, Вы ж і вучоны, Вы ж і грамадскі дзеяч, а разам з усім гэтым – Чалавек. Дык хай гэты Чалавек пачуваецца як самы шчасьлівы чалавек на нашай планэце, бо Ён можа. Пра гэта сьведчыць яго творства. Гэткія вось навагоднія пажаданьні.

Не саромцеся – прышліце, калі ласка, Ваш артыкул, рады буду пачытаць яго, гэта ж цікава. Калі гэта Вы выступалі ў Брэсцкім унівэрсітэце? Удзячны Вам за адкрыцьцё (студэнтам) “беларускага творцы”. Ці можна выпісаць “Pisarze świata”?

Стаміўся, дарагі Ян, дый картка мая канчаецца. Шчыра дзякую за Ваш прыгожы ліст. Усяго-усяго Вам добрага – Ваш М. Сяднёў
22.01.96

***

Дарагі Ян,

Я захоплены Вашым артыкулам, Вашай працай, творам Вашым (крытыка гэта ж творчасьць таксама) пра даробак раба грэшнага, Масея Сяднёва. Захоплены ўзроўнем Вашай працы, акадэмічным выкладам, узьнятымі ў артыкуле праблемнымі пытаньнямі, а перадусім Вашым талентам крытыка-літаратуразнаўцы. У артыкуле дадзена ацэнка творчасьці з пазіцыі высокага мастацтва і строгай патрабавальнасьці. Магу сьмела сказаць, Ваш артыкул – гэта першая сур'ёзная праца, даследаваньне мае скромнай творчасьці, і я Вам вельмі ўдзячны за гэты Ваш таленавіты труд. У Вашым аглядзе-аналізе я ўпершыню <u>пабачыў сябе</u> з усімі маімі мінусамі і плюсамі. Паўтаруся, дадзена кваліфікаваная ацэнка, і што важна – дадзена ацэнка ня толькі ў кантэксьце беларускай літаратуры, а й літаратуры наогул.

Дык, дарагі Яне, ганаруся! Ніякай нетактоўнасьці ў Вашых выказваньнях не знаходжу, а пра некаторыя недакладнасьці фактычнага парадку (напрыклад, што быў я з Ільляшэвічам і ў Празе) ня хочацца тут цяпер гаварыць, гэтыя “недакладнасьці” няістотныя і на іх можна ня браць увагі наогул. Добра было б надрукаваць Вашую працу ў Рэспубліцы Беларусь. Яна ж бо вучыць – скараціўшы мажа і зьмякчыўшы ўводную часьць, у прыватнасьці, каб яна трапіла і ў выданьне гісторыі беларускай літаратуры, якое нібы падрыхтоўваецца. Але гэта толькі такая мая думка. А тымчасам моцна дзякую за ліст, ну і канечна ж за Ваш выдатны артыкул.

Посьпехаў і ўсякай удачы.

4.3.96 Заўсёды Ваш М. Сяднёў

***

Паважаны, дарагі Ян, 27.3.96

Атрымаў Вашы абодва лісты, у тым ліку той, што Вы пасылалі “наздагон”. Шчыра-шчыра дзякую.

Найпер пра паэта Алеся Салаўя. Гэта быў закаханы ў паэзію чалавек, служыў ёй аддана, жыў ёю, бачыў у творстве мэту свайго жыцьця, трызьніў паэзіяй, аж да нейкага (як мне часам здавалася) нездаровага экстазу, але у сваім творстве Алесь Салавей быў пераважна паэтам мэханістычным, у яго паэзіі няма адкрыцьця, ёсьць тэхніка, форма. Алесь Салавей перш за ўсё версіфікатар, мова застыглая, а часта, як Вы зазначылі, вычурная. Салавей любіў карыстацца слоўнікам Ластоўскага, браў з яго замыславатыя славечкі і ўводзіў іх у свае вершы і тыя, абцяжаныя рэдкаўжыванай лексікай, камянелі, а не жылі. Салавей застыг у сваіх формах і не ўспрыймаецца. Сваімі формамі ён кампэнсуе сваю няздольнасьць успрыймаць рэчаіснасьць непасрэдна, жыва. Парэжце ў Салаўя палец, нат крывінкі вы не заўважыце. Адылі ў яго ёсьць удалыя вершы, напрыклад "На крыльлях вольнага Пегаса". Салаўя прапагандуюць за ягоную патрыятычную рыторыку, але метафізікі ў ягоных вершах ня знойдзеш. Адным словам, Вы добра ўчуліся ў вершатворства А. Салаўя.

Рыгор Крушына граў на бірульках. Паводля Шапэнгаэра, першы прызнак бяздарнасьці – гэта гульня ў мастацкія бразготкі бяз унутранага сэнсу ў іх.

Напісаў я ўсё гэта і мне не па сабе стала, як бы граху якога набраўся – лепш бы нічога ня пісаць пра свайго сабрата, гэта Вы мяне спакусілі. Але быў я ашаломлены Вашай пранікліваcьцю, Вашым паглядам, што якраз супаў з маім. Толькі дасюль я хаваў яго з увагі на нашае эміграцкае жыцьцё-быцьцё.

Каваленку буду пісаць, хоць тэма досыць далікатная.

Ваш М. Сяднёў

***

Дарагі, паважаны Ян,

Ваш ліст і копію ліста Каваленкі атрымаў – шчыра дзякую. Атрымаў і я ліст ад В. А. Каваленкі, у ім ён пісаў прыблізна тое ж, што і ў лісьце да Вас: разьдзел у "Гісторыю..." "павінен стварадь пазнавальнае ўяўленьне пра ўвесь творчы шлях пісьменьніка, прычым у эвалюцыйнай паслядоўнасьці". Паводля Гніламёдава, Вы пагадзіліся на такую "эвалюцыйнасьць", г. зн. напісаць і пра прозу (імярэк), што я асабіста і прывітаў бы. Праўда, у лісьце да Вас Каваленка прапанаваў ужо варыянт Вашага сааўтара ў дадзеным разьдзеле, г. зн. пра прозу і публіцыстыку мог бы напісаць нехта іншы. Ці пагаджаецеся Вы на такі варыянт? І яшчэ: чытаў Вашую працу ("Узыходжанне на вышыню") Каваленка? Дык столькі пра гэта ўсё.

Цяпер пра "развіццё". Канешне, гэта шаблон і ў прыватнасьці –

савецкі. І я добра зарумею Вас: творчаму чалавеку, як Вы, гэтае "развіццё" проста збрыдла. Але ж яно, відавочна, ўсё-такі ёсьць – у сэнсе руху. Нават "заняпад", пра які Вы гаворыце, дыялектычна – гэта таксама "развіццё", рух уніз, ці што. Але Вы не зважайце на маю такую "філасофію" і пішыце свой артыкул, як задумалі. Я майстра зьбіваць чалавека.

Калі мы гаворым пра "заняпад", звычайна мы бярэм пад увагу дульку, што была нейкая вышыня. А ці была яна ў Крушыны ці Кавыля? У іх ня было ні вышыні, ні заняпаду – яны былі і ёсьць роўныя, у іх, калі хочаце, не было "развіцця", у сэнсе нейкага апагея. У іх не было інтэнсіўнага паэтычнага існаваньня. (Гэта я ўжо, каб дабіць іх, бедных).

Але, дарагі Ян, Вы не зважайце на мяне. Такі ў мяне сёньня настрой – негаваць усё.

У сувязі з Крушынай, прыгадаліся мне радкі з Шапэнгаэра (у перакладзе на рускую): "...перезвон рифм в бедных смыслом стихотворениях".

Але сапраўды – досыць, а то Вы можаце падумаць, што я раўную.

Даруйце мне мае "меркаваньні".

Дарагі Яне, стараюся трымаць сваё сэрца, як Вы пішаце, "вольным для жыцьця. Для нічога іншага!". Дзякую за ўсё. Буду спадзявацца на хуткі Ваш ліст.

Усяго Вам добрага

Ваш М. Сяднёў

21.7.96

***

5.04.98 Дарагі Ян,

Са страхам Божым пасылаю Вам гэты свой опус, і калі ён варты хоць якой-колечы Вашай увагі і заслугоўвае таго, каб яго так ці інакш выкарыстаць, калі ласка – буду рады, хоць мне і сорамна, што Вашая выдатная кніга "Свет першы і апошні" не знайшла ў маёй асобе вартага яе рэцэнзента.

У трохі іншай форме пасылаў я гэты опус у "ЛіМ". Разгледзеўшыся, заставаўся незадаволеным ім і паслаў туды іншы варыянт, які і мае быць зьмешчаны ў тым "ЛіМе". А першы варыянт, кажаць, не дайшоў, дык можа й добра – у перапрацаваным, лепшым выглядзе дасылаю Вам яго цяпер. Мне так хацелася адгукнуцца на Вашу выдатную кнігу.

З найлепшымі пажаданьнямі – М. Сяднёў

***

Дарагі Ян,

Хоць некалькі радочкаў, а шчырых, адданых.

Дзякую моцна за Вялікодныя праваслаўныя вітанні, за пажаданні здароўя.

Можа што і прышлю ў Вашую “Белавежу”.

Дасылаю Вам тут на памятку свой артыкул, на жаль, слабы, пра Ваш цудоўны зборнік “Свет першы і апошні”. Вы ўжо гэты артыкул маеце, дасылаю яго цяпер друкаваным, на жаль, не ў “ЛіМе”.

З найлепшымі прывітаннямі–

9.6.98 Ваш М. Сяднёў

***

Дарагі, паважаны Ян,

Ваш ліст ад 1 ліпеня мяне не застаў у хаце – быў 10 дзён у Мюнхэне, уцякаў ад сябе. Таму даруйце, што адказваю із спазьненнем.

Вы напэўна чыталі і другую версію майго (слабога) артыкулу пра Ваш цудоўны зборнік “Свет першы і апошні”. Але калі ён хоць у нечым патрапіў угледзіць хараство Вашай паэзіі, буду рады і горды за Вас.

Добрая ідэя заснаваць літаратурна-крытычны і навуковы часопіс. Можа ёсць ужо і назва задуманага Вамі часопісу? Ад душы вітаю і жадаю поспеху Вашаму пачынанню. Вашая просьба прыслаць што-небудзь у першы нумар заманлівая для мяне, але я збяднеў і асабліва нечым пахваліцца. На Вашую просьбу важуся прапанаваць Вам тры кароценькіх рэчы: “Вечная няпрымірнасць”, “Багаславенне” і “Нямецкі дзённік”. Дасюль яны нідзе не друкаваліся. Буду рады, калі яны падыйдуць для Вашага запланаванага часапісу.

Дзякую за прыемны мне Ваш ліст і за добрыя зычэнні і пажаданні.

22.07.98 Ваш М. Сяднёў

БАГАСЛАВЕННЕ

Кладуся, сплю і шчыра веру,
што заўтра стрэне мяне шчасны дзень,
бо ведаю – надзейнаю аховай
стаіць Ён над усім і нада мной.
Зажмур свае натруджаныя вейкі
і адпачынь і сны ружовыя сасьні:
сон беражэ Ён твой, як сон дзіцяці,
і табе добра з Ім і ты спакойны,

бо ты даверыўся Яму.

А заўтра Ён пакліча цябе, Дбайны,
сваё, што вызначана табе, споўніць:
у поце хлеб насушны свой здабыць
і ўзрадавацца посьпеху свайму і атрымаць
Ягонае за працу тваю рупную багаславенне.
1995

## ВЕЧНАЯ НЯПРЫМІРНАСЦЬ

Перада мною акіян. Дзіўлюся, з якой зацятасьцяй і пасьлядоўнасьцяй наступае ён на зямлю, б'е ў ейныя грудзі. Уздыбленыя хвалі, адна за адной, разьятрана кідаюцца на бераг, быццам хочаць узяць яго прыступам. Ды зьнясіленыя непадатнай зямлёй, пераможаныя, паміраюць на беразе, разьліўшыся ўшырыню празрыстай пенай. Але на гэта не зважае акіян: шле, коціць яшчэ больш магутныя хвалі, яны паўстаюць грознай сьцяной – з берагу на іх страшна глядзець – і ўсё толькі для таго, каб, дасягнуўшы берагу, памерці на ім, як памерлі іхныя папярэднікі.

Зямля спакойна прыймае разьюшанасьць хваль, упэўненая ў сваёй неперможанасці. Абураны такім спакоем зямлі, акіян не можа зьмірыцца з ёй і ўсё больш уськіпае гневам да яе.

А калісьці ж воды акіянаў пакрывалі ўсю паверхню зямлі і яна па сутнасьці была дном акіяна. Памятаеце радкі паэта:

Сьвет белы, як туманам, дождж замгліў,
апошні дзень, нібы тапелец, кануў.
Па ўсёй паверхні пераможанай зямлі
пайшлі разгневаныя акіяны.

Але зямлі хапіла аднаго вызваленчага магутнага ўздыху, каб усе акіяны, стрэсеныя ёю з свайго лону, занялі мейсца, якое яны займаюць сёньня.

Толькі не могуць супакоіцца акіяны, хочаць зноў прарвацца на зямлю: б'юць у ейныя грудзі, лютуюць, дыбяцца, пырскаюць, шумяць, грымяць.

А зямля?

Гэта толькі дзівосная музыка для мяне.

Глен Коў, ЗША

***

Дарагі, паважаны Ян,

Вялікі дзякуй за прысланы мне часапіс "Тэрмапілы". Віншую Вас з заснаваннем "замежнага" саліднага часапісу, патрэба ў якім якраз цяпер наспела. Адным з ягоных заданняў, гэта, як Вы зазначылі ў сваім лісце, -- "...спалучэнне "кантынентаў" беларускай літаратуры". Пра гэта Вы зазначылі нібы жартам, вобразна гаворачы, але ж і на самай справе ужо першы нумар "Тэрмапілаў" стаўся своеасаблівым звяном, лучнікам беларускіх літаратараў, незалежна ад таго, на якім кантыненце той ці іншы з іх пражывае. "Тэрмапілы" – гэта своеасаблівы каментар да літаратуры беларускай і ў першую чаргу – айчыннай, што існавала ва ўмовах савецкай рэчаіснасці, гэта пагляд на тую літаратуру звонку, спроба падысці да яе з новым ацэначным крытэрыем. Мне прыгадаўся тут міжволі польскі парыжскі часапіс "Культура". Дасюль беларуская літаратура, крытыка не мела замежнага арбітра, літаратуразнаўчага часапісу. І от ён цяпер з'явіўся. У першым нумары дамінуе, крытычны, літаратуразнаўчы матэрыял, часта метадалагічнага характару, заходняга кшталту.

Што яшчэ ўражвае – прыемна ўражвае – гэта вялікае зацікаўленне польскіх вучоных беларускай літаратурай, а адсюль – беларускай праблематыкай наогул. Гэта, канешне, тлумачыцца "сувэрэннасцяй" Беларусі. У часапісе ажывае як беларускае, так і польскае пытанне.

Не буду ўдавацца ў ацэнку паасобных артыкулаў у часапісе, скажу толькі, што яны на высокім тэарэтычным узроўні, нат часам ультрамадэрным. Паўтаруся, роля вартавога Вашага часапісу – надзвычайная. Ён жа і – аддушына для аўтараў сьмелых, што не маюць магчымасці быць сабою ў сваёй хаце. Але хацеў бы зазначыць, што часапіс – на маю думку – не павінен быць апазыцыйным, ён мусіць быць вышэй гэтага, ён – ужыву Вашае слоўка – мусіць быць "жыватворчым", созидательным, маючы на ўвазе высокую нацыянальную ідэю.

Во нагарадзіў. Выбачайце за пасьпешнасць суджэнняў, гэта толькі маё першае, пабежнае ўражанне, і магчыма – памылковае.

Віншую Вас як заснавальніка і Рэдактара патрэбнага Беларусі часапісу. Жадаю Вам посьпехаў асабіста і Вашаму часапісу ў прыватнасці.

Шчыра дзякую за ліст, за добрае слова пра мой "Дзённік". Мо штосьці знайду для чарговага нумару "Тэрмапілаў".

Заўсёды Ваш М Сяднёў

26.11.98

Выбачайце, што пішу на машынцы – рука слаба ўпраўляецца.
А яшчэ – прыемна быў уражаны прывітаннем "Тэрмапілаў" у сувязі з маім юбілеем. Шчыра, шчыра дзякую. М. С.

***

Дарагі, паважаны Ян,

Шчыра дзякую за ліст. Нічога не маю супраць апублікавання пэўных мясцін з майго ліста, калі Вы лічыце – яны вартыя таго. Адгукаюся на Вашую просьбу прыслаць штосьці сваё ў Вашыя “Тэрмапілы”. Дык тут Вы і знойдзеце артыкул (не ведаю, як яго ахарактарызаваць) “Клятва перад Тасканам”, калымскі верш “паядынка са сьмерцяй” (верш дзесьці друкаваўся, але тэматычна, кампазіцыйна ён гарманізаваў бы з “Клятвай”, ды, вядома, гэта, як Вы вырашыце) і два фотаздымкі. Адзін з іх (фота А. Кляшчука) – гэта Янка Брыль і Масей Сяднёў на балконе Дому літаратара ў Мінску, 1994 год, другі – гэта Барыс Сачанка, Масей Сяднёў, Лідзія Савік, Святлана Явар, паэтэса, аўтар зборніка “Раніца ў туманах”, “Белы месяц”, на аэрадроме Мінск-2 падчас провадаў мяне ў ЗША, 1993 год. Хацеў бы, каб па выкарыстанні Вы іх вярнулі. Для цікавасьці пасылаю Вам таксама “Вітанне з Новым годам” паэта Міхася Скоблы. Сапраўды для цікавасьці. Калі мае выйсьці наступны нумар “Тэрмапілаў”?

Ды найбольшая нечаканая бяда, пра якую я даведаўся з Вашага ліста – гэта трагічны выпадак з Галінай. Мо ведаеце, як ідзе лячэнне? Ці йдзе яно пасьпяхова. Даведаўшыся пра такое няшчасце з ёй, напісаў ёй ліст з святочнымі вітаннямі. Адказу не атрымаў. А як жа Вы самі? Кажаце – лёгкія, сэрца. От якія мы сардэчнікі! Жыву й я на таблетках. Але ж Вам гэта ранавата. Трымайцеся. Спадзяюся, што Вы акрыялі. Моцна жадаю Вам гэтага. Самому ж... Нічога ўжо не прыдумаеш. А мо, дасьць Бог, Галіна выйдзе, як пішаце, “на сваіх нагах”.

Буду чакаць ад Вас ліста з добрымі весьцямі.

Яшчэ раз з Новым годам. Усяго самага найлепшага

Ваш М. Сяднёў

29.12.98

П.С. Дадаю яшчэ адзін свой опус – “Развітанне з Калымой”. Падумаў, падумаў і дадаў Вам яшчэ больш Калымы.

***

Дарагі, паважаны Ян,

шчыра-шчыра дзякую за Вашае прыгожае вітаньне мяне з днём нараджэньня. Моцна ўзрадаваўся.

Вялікую радасьць узбудзілі ў мяне Вашыя “Тэрмапілы” нумар 2 – паважны часопіс, бярэш яго ў рукі з нейкім асаблівым адчуваньнем: гэта ж ня “Полымя”, не “Мададосьць”, нат не “Крыніца”. Гэта ўпяршыню

адметна іншы, сур'ёзна задуманы і выкананы на высокім зроўні часопіс. Чую Вашую душу ў ім. Я толькі яшчэ пагартаў, прабег вачыма яго, але ўжо ўражаньне: сапраўды "Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс". З Вашым часопісам беларускае літаратуразнаўства ўзыходзіць на новыя вышыні. Хай гэта будзе сказана ў добры час.

Ня мог уцерпіць, каб не заглянуць усё ж ў эсэ Альбіны Сямёнавай, раней яна была, здаецца, Алай, што да яе, Вы ведаеце, я не раўнадушны і што ж: трохі стамляе ейная бясспрэчная вучонасьць, усязнайства, быццам яна шчыгіляе ім, прагалапіравала бадай па ўсёй сусьветнай літаратуры без сваёй нейкай больш выразнай канцэпцыі. Але эсэ на ўзроўні Вашага часопісу. Спадзяюся, Вы з усьмешкай успрымеце маю "крытыку" Адьбіны Сямёнавай.

Пастараюся нешта даслаць Вам сваё. Дзякую за ўжо зьмешчанае. Дык – вітаю Вас з выхадам "Тэрмапілаў". Пачынаю чытаць іх.

Зьбіраўся – толькі коратка, а колькі намахаў. Даруйце, што не ад рукі – ня ходзіць, на жаль, яна гладка, рука тая.

Буду рады чуць Вас. Прызнаюся, доўга чакаў ад Вас слоўца.

Шчыра дзякую яшчэ раз за добрыя пажаданьні здароўя, за "Тэрмапілы".

Посьпехаў. Усяго-усяго добрага

Ваш

10. 9. 99. М. Сяднёў

***

Шаноўны, дарагі Ян,

Прачытаўшы артыкул Вольгі Шынкарэнкі пра Вашу паэзію, не магу ўстрымацца, каб ня выказаць сваёй радасьці і захапленьня: гэтак добра яна ўбачыла Вас, вялікага паэта, раскрыла для чытача ўсё багацьце Вашай творчасьці. Адарваўшыся ад гэтага даследаваньня, пачаў чытаць і іншыя рэчы. Уразіў "Пір на 8-м небе" Пухіра. Найперш – дасканалыя веды Тутэніі, майстэрства, філасафічнасьць, эрудыцыя, трапнасьць характарыстык і яшчэ адно: за дзеючымі асобамі пазнаюцца канкрэтныя, рэальныя асобы. На сёньня – гэта найбольш актуальны твор, унікальны паводля сваёй дасканаласьці. Добра было б пашырыць яго ў метраполіі. Але досыць. Ня благі з гледзішча палітычнага і "Арышт" Яновіча. У яго ўжо сталыя "анты": антырускасьць, не гаворачы ўжо пра антысавецкасьць, антыправаслаўе, нат антыбеларускасьць. На высокім узроўні артыкул Дудзінскай "Вакцына супраць хлусні" (пра творчасьць Карамазава, сур'ёзнае дасьледаваньне). Нельга, канешне, абмінуць Сямёнавай з ейным "Спосабам існаваньня свядомасьці"; Арнульда Макміліна, Зарэмбы. Часопіс багаты на

акадэмізм. Багаты зьместам наогул. “Бацька” Кудраўца неяк слабаваты. На гэту тэму надзвычайны твор у Распуціна. Ну, а сам Сяднёў – канешне, цаца. Тут і паэзія, тут і паэтычныя пераклады (Мацяш, Тварановіч). Страшна спадабаўся мне “Люгас” Багдановіча Цы (у перакладзе Тварановіч).

Але, пане Яне, не хачу Вас больш стамляць і сваімі тут заўвагамі, грэх браць на сваю душу.

Як гэта было б добра, каб “Тэрмапілы” маглі разыходзіцца як найшырэй.

Прабачце, што патурбаваў Вас.

З найлепшымі прывітаньнямі

12.9.99 М. Сяднёў

P.S. Яшчэ раз дзякую за “Тэрмапілы” – з прыемнасьцяй учытваўся ў іх.

М. С.

***

Дарагі Ян,

Дзякую за зьмястоўны ліст. Пагаджаюся з Вашай ацэнкай становішча, у якім апынулася сёньня беларуская культура, у прыватнасьці літаратура. Беларусь паглынута расейшчынай. Беларускае слова туліцца у некалькіх жалюгодных выданьнях, дый тыя выданьні часта-густа ляжаць нераспрададзенымі, нягледзячы на іх невялікі тыраж, кола іхных чытачоў невялікае, можна нават сьцьвердзіць, што беларус сёньня ня чытае па-беларуску, яго паглынула масавая культура, а то й парнаграфія на расейскай мове, творчых людзей, як Вы пішаце, запалоніў бізнес. Канешне, трэба сказаць, што і ў умовах перабудоўчых беларуская культура не квітнела, але ж сёньня яна апынулася яшчэ ў горшых умовах: зьнік спажывец.

Ну, дык і што мы будзем рабіць, дарагі Яне? Ня складваць жа лапкі. Вось Вы цісьніце “Тэрмапілы” і хвала Вам! Яны як рэакцыя на той стан, у якім апынулася наша літаратура. Спроба зазірнуць на яе з новай вышыні, патрабаваньняў часу, Вашыя “Тэрмапілы” нагадваюць мне ў нейкім сэньсе “Узвышша”, калі ўзяць пад увагу такі аспект “Тэрмапілаў”, як літаратуразнаўчы. Тут “Тэрмапілы” могуць пахваліцца нат перад сваімі пасёстрамі ў метраполіі.

Але я хацеў бы закончыць гэты абзац аптымістычнай нотай – жывучымі каранямі нашай літаратуры.

Цяпер адносна таго “вялікага паэта Чыквіна”, пра якога я пісаў у папярэднім лісьце. Дык ён і ёсьць “вялікі”, хоць сам Чыквін запярэчвае гэта, гаворыць, што калі ў яго прысутнасьці пачынаюць гаворку пра

ягоную творчасьць, ён сароміцца, лічыць, што ён піша толькі “вершыкі”, і крый Божа, каб нехта там называў яго “вялікім паэтам”, як гэта я пасьмеў. Ян залічвае сябе да “радавых паэтаў” і толькі адзіную мае да іх засьцярогу – каб “яны не паводзілі сябе ў жыцці як генералы”. Прыгадваецца тут Маякоўскі:

Пускай за гениями безутешною вдовой
плетется слава в похоронном марше.
Умри мой стих, умри – как рядовой,
как безыменные на штурме мерли наши.

“Рядовой то рядовой”, а радавым Маякоўскага не назавеш. Так яно тут і з Чыквіным Янам. Я дык во не саромеўся пра сябе сказаць такое:

І мне б магло нясьціся “Брава!”
І мне маглі б зайграць музыкі,
ды што мне гэтакая слава –
я сам сабе адзін вялікі.

(турэмны верш)

Дык паэты яны вялікія і адначасна малыя. У таго ж Чыквіна мы чытаем:

Няма ні славы, ні багацця –
Адно скрыпучае пяро
Тырчыць з чарнільніцы рабром
І крыж для новага распяцця.

Вольга Шынкарэнка ў сваім артыкуле “Песня даспелага сонца” намалявала па сутнасьці постаць вялікага паэта, Яна Чыквіна – “рухомая творчая прастора якога прыцягвае адначасова вогненна-пякучай і пяшчотна-цёплай энергіяй слова”.

Апошнім часам займаўся Эйхендорфам і Брэнтано. Пераклаў больш двух дзесяткаў іхных вершаў. Падбяру з гэтых пераклад некалькі іхных твораў для “Тэрмапілаў”, калі на гэта будзе Вашая згода.

Атрымаў Галінін ліст, у якім яна пісала толькі яшчэ пра свае першыя прафэсарскія крокі. Спадзяюся, што ўсё йдзе ў яе належным чынам і што яна радая свайму новаму прызначэньню. Шлю Вам абодвым як найлепшыя свае прывітаньні і пажаданьні посьпехаў, радасьці жыцьцёвай – Ваш Масей

П.С. За запросіны дзякую. Было б надзвычайна

25. 10. 99 Глен Коў, ЗША

***

Дарагі, паважаны Ян,

Заўчора атрымаў Ваш ліст ад 4.12.99, а сёньня ваш артыкул – дасьледаваньне пра маю прозу – выдатна, пранікліва, высока, гэта ўсё прынесла мне вялікую радасьць. У гэтым дасьледаваньні я ўбачыў сябе найбольш выразна, Вы быццам адкрылі мяне для мяне. Але ж, канешне, ня толькі для мяне, а й для чытача, ён, той чытач, хто б ён ні быў, абагаціцца Вашым досьведам у галіне літаратуразнаўства, Вашым таленавітым аналізам мастацкага твору, у дадзеным выпадку аналізам маёй скромнай дылогіі – "Раман Корзюк" і "І той дзень надыйшоў". Скажу адкрыта, любому айчыннаму літаратуразнаўцу было б не пад сілу Вашае раскрыццё дылогіі, Ваш узровень інтэрпрэтацыі дадзенага твору. На невялікай плошчы, на дзесяці старонках, якія Вам былі адведзены рэдкалегіяй "Гісторыі..." Вы здолелі бліскуча абгрунтаваць сваё прачытаньне дылогіі.

Ніякіх заўваг да тэксту ў мяне няма. Дзіўлюся Вашай пільнасьці, з якой Вы паставіліся да майго даробку. Спадзяюся, што рэдактары "Гісторыі..." ацэняць належным чынам Вашае таленавітае дасьледаваньне дылогіі, як трэба, зразумеюць часам палемічны тон дасьледаваньня. Хоць гэта не палеміка, а страсны выклад літаратурнага аналізу – рыса, якой якраз не хапае нашым літаратуразнаўцам.

Пасылайце, калі не паслалі, Вашу цэнную працу Гніламёдаву – рэдактару "Гісторыі..." ці каму там, наколькі я ведаю, ён прыхільна ставіцца да мае прозы, а ўвогуле хочацца спадзявацца, што, калі гаворка йдзе пра "Гісторыю...", мяне не напаткае там памсьлівае выключэньне мяне з школьнай праграмы.

Разам бяручы, у Вашым дасьледаваньні і мае паэзіі, і мае прозы я выглядаю салідна, мяне Вы ўводзіце ў кантэкст еўрапейскай літаратуры, я ганаруся і шчыра дзякую Вам за теленавітую працу на тэму літаратурнага даробку М. С.

Было б надзвычайна, калі б Ваш намер зьмясьцьціць дасьледаваньне ў "Тэрмапілах" мог ажыцьцявіцца. Прымеце мае найлепшыя прывітаньні і пажаданьні. Прывітаньні таксама Вашаму "знакамітаму кансультанту" Галіне Паўлаўне.

М. Сяднёў 10.12.99, Глен Коў, ЗША

***

Дарагі Яне,

Было маё жаданне першым –
Вас прывітаць прыгожым вершам.
Ды Муза ад мяне пайшла ўпрочкі,
Сказала, больш не слугую табе і точка!
Няхай, няхай з далёкага Гленкова
Імчыць да Вас дэпеша ад Сяднёва:

З Днём Нараджэння Вас
У гэты добры, шчасны час!
Жаданне: каб натхнення Вашага
Агонь не гас!
У добры, шчасны, Яне, час!

Масей

11. 5. 2000

Glen Cove, ЗША

***

Паважаныя Спадар і Спадарыня Чыквін,

Спачатку хачу перапрасіць за доўгае маўчанне, я не магла доўга прыйсці да раўнавагі. Сталася ўсё у кароткі час, 16 г. 30 м. Як для яго, так і для мяне было цяжка перанесці, прыняць гэты крыж. Зараз я памаленьку прыходжу да сябе. Памагалі дзеці […]

Што датычыць пытання Масеевай Запісі, астаўленай ім, то я нічога не знаходжу. Калі б хтось цікавіўся і мог прыехаць сюды, то я дала б магчымасць прагледзець яго папкі. Можа штось знайшлося б тут. У яго ёсць усе артыкулы, якія з’яўляліся у прэсе. Яго заўвагі. Сама я не магу рашыць.

Мы не былі гатовы да таго, што сталася. Ён не збіраўся паміраць, а тое, што страціў мову – мы не маглі пагаварыць, як далей мае быць. Зараз я і дзеці стараемся якась уладзіць далейшае маё існаванне.

Масей вельмі чакаў ад Вас лістоў, хоць сам ня мог ужо пісаць. Аб тым, каб што тварыць, не было мовы.

26. 04. 01

З пашанай да Вас – Ольга Сяднёва

***

09. 05. 01

Паважаны Спадар Чыквін

Вельмі мне ўзрушыла картачка, а таксама вестка, што ў наступным нумары часапісу "Тэрмапілы" будзе матэрыял пра Масея, а яго арыгінальнага матэрыялу ня будзе. Ён у апошнія дні свайго жыцця дужа перажываў, што нічога ня можа напісаць, хоць я бачыла – ён садзіўся пісаць Вам на машынцы (рукой пісаць ён даўно перастаў) і ўсё ж нічога не атрымоўвалася.

У апошні час ён больш чытаў і сваю і іншых пісьменнікаў паэзію, дзівіўся, як ён мог так добра пісаць, а зараз зусім ня можа пісаць. Перажываў. Усё чакаў ад Вас ліста, часопіса. Шаснаццаць дзён, калі ён быў у шпіталі, ён нічога не гаварыў, яму паралізавала мову. З гэтым мне было цяжка пагадзіцца. Я хацела б пагаварыць з ім у апошнія хвіліны, але сталася так, што гэтага нам не было ўжо дадзена. Засталася я сама. Дзеці па магчымасці наведваюць, але ў іх свае сем'і, свае клопаты, ды і далёка жывуць.Я засталася на старой кватэры, хоць яна і дарагая, але танней пакуль не знайшла.

Сардэчныя прывітанні

Ольга С.

***

Паважаны Сп. Чыквін

Выбачайце, што затрымалася з адказам. Часопіс "Тэрмапілы" атрымала даўно. Я Вам вельмі ўдзячная за гэта. Чытала з захапленнем.

Вельмі ўдзячная Вам, што ўспомнілі Масея. Псіхалагічна настрой адлюстраваны вельмі блізка да настрою яго ў апошнія дні.

Вельмі рада, што беларусы маюць часопіс, які дае месца як краёвым літаратурным сілам, так і эмігрантам. Калісь я завідавала палякам, што маюць такі часопіс як „Kultura". Яна адлюстроўвала інтэлектуальнае жыццё як дзяржавы, так і эміграцыі. У той час у нас аб гэтым было немагчыма падумаць. Вось я і дачакалася, што мы маем такі часопіс. Дай Божа, каб ён існаваў доўга.

Дзякую вельмі Вам, што прыслалі яго мне.

З прывітаннем

Ольга С.

28 кастрычніка 2001 г.

адкладваючы і занатоўваючы на сваіх гадавых кольцах трыумфы, канфлікты і супярэчнасці, злучаючы ў жывой пераемнасці пакаленняў людзей, эпохі, традыцыі, ёсць жывое сведчанне руху гісторыі, ключ да разумення гістарычнага лёсу ўсяго народа. У тым ліку – тых культурна-цывілізацыйных, палітычна-прававых ідэалаў, мадэляў, якія закладваліся элітамі ў падглеб'е нацыянальнай памяці, ствараючы тым самым фундамент, гістарычныя і культурна-ідэалагічныя перадумовы для фарміравання ў будучым беларускай нацыянальнай ідэі.

Сапегі, якія карысталіся гербам Ліс[3], выводзілі свой радавод ад вялікіх літоўскіх князёў. Паводле легендарнай генеалогіі роду, якая дзякуючы старанням канцлера Яна Фрыдэрыка Сапегі, які ў 1744 г. упісаў яе ў Метрыку ВКЛ, набыла значэнне афіцыйнага дакумента, Сапегі вядуць свой пачатак ад пінскага князя Нарымонта, сына Гедзіміна[4]. Прычым для замацавання княжацкай легенды Сапегі публічна і ў сямейным побыце нярэдка падаўжалі гэты свой радавод ажно да Віценя, «роданачальніка князёў літоўскіх», аб чым сведчаць надпіс на пахавальным помніку Івана Сямёнавіча Сапегі[5], а таксама партрэтная галерэя роду ў касцёле св. Ганны ў Кодані[6].

Вучоныя, аднак, лічаць велікакняжацкую легенду сапяжанскага роду сфальсіфікаванай. Для скептыкаў найбольш слабым звяном у радаводным ланцугу Сапегаў з'яўляецца постаць бяздзетнага троцкага кашталяна Сунігайлы Пунігайлавіча (у хрышчэнні Сямёна), празванага за мудрасць Sophia (Сафія), ад назыўнога імя якога, паводле версіі Яна Фрыдэрыка, падтрыманай К. Кагнавіцкім, нібы і пайшло новае прозвішча роду Сапегі[7].

Праўдзівая, рэальная генеалогія Сапегаў, гісторыя іх імклівага ўзвышэння і ўваходжання ў вышэйшыя арыстакратычныя колы ВКЛ не менш цікавая і захапляльная. Паводле генеалагічных росшукаў і даследаванняў вучоных, усе Сапегі вядуць свой пачатак ад велікакняжацкага пісара ў 1440–1449-х гг. Сямёна Сапігі (Сапегі) з полацкіх баяраў, якія першапачаткова мелі свае ўладанні на Смаленшчыне, затым на Полаччыне і Віцебшчыне[8]. У тагачасных пісьмовых крыніцах фігуравалі пад прозвішчамі Сапіга, Сапежыч, Сапега, Сапежына альбо Сапежанка[9].

З чатырох сыноў Сямёна Сапегі, два – Багдан і Іван Сямёнавічы – прадоўжылі справу бацькі, папераменна выконваючы абавязкі гаспадарскіх пісараў і сакратароў пры двары Казіміра Ягелончыка, уздымаючыся пры Аляксандру і Жыгімонце І Старым да ваяводаў. Ім даручаліся таксама важныя пасольскія місіі, дыпламатычныя даручэнні начале некалькіх пасольстваў у Масковію і ў Рым.

Аснову эканамічнай і палітычнай магутнасці роду заклалі старэйшы сын Багдан, які стаў заснавальнікам чарэйска-ружанскай лініі, і Іван (Івашка Сапежыч), які паклаў пачатак коданскай лініі знакамітага

сапяжанскага роду. Багдан узяў шлюб з князёўнай Фядорай, дачкой князя Фёдара Друцкага-Сакалінскага, а Іван – з баярскай дачкой Эльжбетай Глебавічаўнай. Выгадныя шлюбы і жончыны пасагі, якія прынеслі немалыя маёнткі, сямейна-дынастычныя сувязі ў вышэйшых колах грамадства і дзяржавы, істотна ўмацавалі маёмаснае і палітычнае становішча роду. Ядром сапяжанскіх уладанняў і найбольш вядомымі родавымі гнёздамі Сапегаў сталі Чарэя і рэзідэнцыі ў Кодані, Ружанах, а з XVIII ст. – у Дзярэчыне.

Генеалагічнаму дрэву Сапегаў, калі весці яго сімвалічны адлік ад заснавальніка роду Сямёна Сапегі, – без малога 600 гадоў. І хоць род Сапегаў надзвычай блізкі сёння да поўнага вычарпання (у ім засталося крытычна мала перспектыўных прадаўжальнікаў па мужчынскай лініі), яго даўгавечнасці, пладавітасці і жыццёвай сіле можна толькі падзівіцца. Паводле генеалагічнай табліцы на 1995 г., складзенай Яўстахам Сапегам, да гэтай «Сям'і» належыць 714 вядомых па імёнах асобаў мужчынскага і жаночага полу, з іх паводле прамой кроўна-генетычнай повязі – 601[10].

Сярод іх значны след у гісторыі і культуры Беларусі і ВКЛ пакінулі такія выдатныя дзяржаўныя дзеячы, вучоныя, асветнікі, палітыкі, як канцлер ВКЛ, вялікі гетман і ваявода віленскі Леў Сапега, канцлер, літаратар і мецэнат Ян Фрыдэрык Сапега, палкаводцы ваявода віленскі і вялікі гетман літоўскі Павел Сапега і ўсвяцкі староста і гетман войска Дзімітрыя ІІ Самазванца Ян Пётр Сапега, гаспадарніца-рэфарматарка і асветніца Ганна Паўліна Яблаunion з Сапегаў, вучоны, асветнік і падарожнік Аляксандр Антоні Сапега і інш.

Пра Сапегаў слушна пішуць, што «калі які-небудзь род, дзеі якога засведчаны крыніцамі, трывае і дзейнічае цягам пяцісот гадоў, то становіцца відавочным, што немагчыма даць яму адназначную характарыстыку, якая цалкам ахапіла б усе яго дзеі»[11].

Тым не менш, у працах некаторых польскіх і літоўскіх даследчыкаў адчуваецца відавочная тэндэнцыя агулам, без уліку складаных і зменлівых унутраных працэсаў, якія адбываліся ў грамадстве і палітычным жыцці дзяржавы, асвятляць і трактаваць гісторыю роду і яго асобных прадстаўнікоў, зыходзячы з уласных нацыянальных ідэалаў, прыярытэтаў і мэтаў, вельмі часта ігнаруючы ці разглядаючы як неістотны, другасны фактар іх этнічнае паходжанне, рэлігію, мову, культурныя традыцыі.

У выніку здараецца сустракацца са спрэчнымі, а то і тэндэнцыйнымі ацэнкамі і падыходамі аўтараў, якія сарамліва ўхіляюцца, напрыклад, ад таго, каб прызнаваць мову велікакняжацкай канцылярыі і ўсіх дзяржаўных устаноў у ВКЛ старабеларускай, як тое было заканадаўча замацавана ў прэамбуле і адпаведных артыкулах Літоўскага Статута рэдакцый 1529, 1566 і 1588 гг.[12] Ці выказваюць ў дачыненні да такой

выразнай постаці беларускай гісторыі і культуры, як канцлер ВКЛ Леў Сапега, такія парадаксальныя меркаванні, што «ў сапраўднасці Леў Сапега быў славутым палітычным дзеячам Літоўскай дзяржавы канца XVI – першай трэці XVII ст., яе грамадзянінам і патрыётам, не літоўскім, не польскім, не беларускім (падкрэслена намі – *Г.П.*), а менавіта патрыётам ВКЛ». І што, маўляў, «з гэтых пазіцый і трэба разглядаць гісторыю яго жыцця, дзяржаўнай і палітычнай дзейнасці»[13].

Не лепшай бачыцца і тэндэнцыя агулам залічаць Сапегаў у шэрагі той польскай магнатэрыі, якая «шмат расходавала на сябе, больш, зрэшты, на прадстаўленні, чым з думкай пра развіццё культуры… а калі выдаткоўвала на справы літаратуры і мастацтва, дык найперш з думкамі пра славу ўласнага роду»[14]. Альбо банальна смакаваць пад прымаўку пра магнатаў, у якіх «у стайнях коней больш…, чым кніжак у бібліятэках», эпізод з сямейнай перапіскі, пра тое, як «адзін з Сапегаў у XVIII стагоддзі пісаў з Францыі да сям'і, каб даўнюю спадчынную бібліятэку прадала “на вагу старых папер”, паколькі ён сабе новую збірае ў Парыжы»[15].

І ўсё гэта пра Сапегаў, якія стаялі ля калыскі беларускай і ўсходнеславянскай друкаванай кнігі, унеслі ці ні найбольшы ўклад у справу асветы і культуры ў краі, фундавалі будаўніцтва шматлікіх цэркваў, касцёлаў і пратэстанцкіх збораў, збіралі бібліятэкі, апекаваліся развіццём кнігадрукавання, тэатру і жывапісу, захаваннем і ўпарадкаваннем архіваў.

Зрэшты, справа зусім не ў «дзяльбе» гістарычнай і духоўна-культурнай спадчыны Сапегаў. А ў тым, што постаці і ўчынкі многіх Сапегаў яшчэ доўга будуць заставацца для даследчыкаў праблематычнымі і загадкавымі, пакуль матывы і прынцыпы іх паводзін і дзейнасці, вартасці, недахопы і пралікі прадстаўнікоў гэтага роду не будуць па-сапраўднаму асэнсаваны, ацэнены і зразуметы, зыходзячы з базісных, зыходных для гэтага арыстакратычнага роду традыцый і філасофіі жыцця, якія бяруць пачатак у беларускай рэчаіснасці, у гісторыі і культуры Беларусі і ВКЛ XV–XVII стагоддзяў.

У сучаснай беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі і гуманітарнай навуцы склаўся погляд на Сапегаў як на беларускі магнацкі род. Падставай для такога падыходу і трактоўкі з'явіліся працы і ацэнкі В. Ластоўскага, М. Гарэцкага, М. Шкялёнка, І. Саверчанкі, А. Грыцкевіча і іншых даследчыкаў[16].

Іншая справа, што сама метадалогія падобных даследаванняў павінна мець комплексны характар і паслядоўна абапірацца на прынцыпы гістарызму, цэласнасці і дыялектычнай зменлівасці ў развіцці і ўспрыняцці грамадскіх працэсаў і з'яў.

З гэтага пункту гледжання ў гісторыі сапяжанскага роду можна вылучыць, як мінімум, два перыяды: першы – нацыянальна-дзяржаўны,

беларуска-ліцвінскі, які сімвалізуе магутная постаць канцлера ВКЛ Льва Сапегі. І другі – рэчпаспалітаўскі, які характарызуецца пераходам часткі прадстаўнікоў роду ў каталіцызм і інтэнсіўнай паланізацыяй, прышчапленнем польскай культуры і мовы, асабліва праз шлюбы і пародненасць з польскай арыстакратыяй.

Па-першае, пачнём з таго, што фізічна і духоўна, усімі асновамі свайго жыцця – паводле паходжання, сацыяльнага і духоўна-культурнага вопыту – радзімай Сапегаў, айчынным мацерыком іх уладанняў, аб’ектам і полем палітычнай і духоўнай дзейнасці на працягу стагоддзяў была Беларусь у яе этнічных, культурна-этнаграфічных і тэрытарыяльных абшарах: ад Смаленска і Полацка на паўночным усходзе да Берасця, Ружан і Коданя на захадзе.

Той жа Л. Сапега знаходзіў і набываў сабе маёнткі, двары, зямельную ўласнасць амаль выключна на Беларусі, у тым этнічным арэале, які і сёння застаецца асновай тэрыторыі краіны. Так, напрыклад, з 155 устаноўленых С. Лазуткам уладанняў, дзяржаў, маёнткаў і двароў, якія ў розныя гады належалі Льву Сапегу, 149 (96%) адносіліся да карэнных беларускіх тэрыторый[17]. Ды і астатнія 4% уладанняў знаходзіліся на сумежных, прылеглых да Беларусі тэрыторыях.

Паказальна, што ў XVII–XIX стст. ядро гэтых уладанняў па-ранейшаму заставалася за Сапегамі, хоць іх геаграфія ўжо значна пашырылася за межы ВКЛ на землі Кароны, пакольні шлюбы з польскай арыстакратыяй і мацнеючы магнацка-арыстакратычны касмапалітызм іх уладальнікаў ужо не меў тых строгіх патрыятычных абмежаванняў і прыхільнасцяў, якімі кіраваліся іх папярэднікі.

Па дадзеных, якія прыводзіць Яўстах Сапега, лёгка падлічыць, што з 72 гарадоў, мястэчак, фальваркаў, належачых Сапегам у XVII–XIX-стст., 21 (каля 30%) ужо знаходзіўся за межамі Беларусі – у Жмудзі, на Украіне, і Польшчы[18]. 36% складае гэтая лічба для двароў, палацаў, замкаў, рэзідэнцый, якімі валодалі ў гэты перыяд Сапегі[19].

Тым не менш, маючы на ўвазе гэтую апошнюю тэндэнцыю, нельга пагадзіцца з тым, што ўсе Сапегі, як гэта сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, у XVII–XVIII стст. цалкам спаланізаваліся. Завешчаны продкамі і ўзведзены Л. Сапегам у культ прынцып дзяржаўнага суверэнітэту і культурна-этнічнай тоеснасці працягваў захоўвацца і ва ўмовах паланізацыі і парушэння балансу культурна-моўных і рэлігійных прыярытэтаў на карысць каталіцтва і польскай мовы.

Пры гэтым як магнаты «рускага кораню», першапачаткова выхаваныя ў традыцыях усходнеславянскай культуры і праваслаўнай веры, многія прадстаўнікі роду, незалежна ад сваёй канфесійнай прыналежнасці, і ў XVI, і ў XVII–XVIII стст., і значна пазней захоўвалі сваю прыхільнасць да праваслаўя, старабеларускай культуры і мовы. І нават дастасоўваючыся да палітычных рэалій часу, арыстакратычнага

этыкету і г. д., у карэнных пытаннях палітыкі і дзяржаўнага жыцця вельмі часта дзейнічалі і паводзілі сябе па-ранейшаму, у адпаведнасці з уласнай ментальнасцю, гістарычнымі і культурнымі традыцыямі свайго роду, зыходзячы з інтарэсаў і гістарычнай перспектывы сваёй дзяржавы – ВКЛ.

Напрыклад, пра Дзмітрыя Сапегу, каралеўскага рэвізора на Падляшшы (1562 г.), берасцейскага падстарасту (1565 г.), вядома, што ён быў выхаваны ў праваслаўнай веры і «толькі зрэдку падпісваўся лацінкай, звычайна ж, штодзённа, пісаў па-руску, ужываючы кірыліцу»[20].

Леў Сапега, народжаны ў праваслаўі, пабыўшы колькі часу кальвіністам і стаўшы ўрэшце католікам (1586 г.), фундаваў храмы ўсіх хрысціянскіх канфесій, а ў сваім перадсмяротным тэстаменце запісаў: «Хачу, каб рускія фундаваныя цэрквы ў маёнтках маіх вечна і непарушна заставаліся і трымаліся пад уладай іх міласцей епіскапаў грэцкіх. А калі хто з маіх нашчадкаў альбо хто іншы адважыцца вышэйзгаданыя фундушы, дадзеныя кляштарам, касцёлам, цэрквам грэцкай веры, будучых ва ўніі, адмяняць, наступаць і мае намеры парушаць, той кожны няхай будзе пракляты»[21].

І, мяркуючы па ўсім, запавет Вялікага Канцлера не застаўся пустым гукам. Нават такі заядлы католік, як Ян Фрыдэрык Сапега, адзін з наступнікаў Льва Сапегі на пасадзе канцлера ВКЛ, якога некаторыя даследчыкі лічаць цалкам спаланізаваным ліцвінам, на соймах Рэчы Паспалітай пастаянна бараніў правы праваслаўных. А староста ўсвяцкі Ян Пётр Сапега (даследчыкі разыходзяцца ў вызначэнні яго веравызнання – *Г.П.*), дык і напрыканцы жыцця захоўваў піетэт да веры сваіх бацькоў і прадзедаў, бо ж нездарма ў сваім перадсмяротным тэстаменце ад 14 кастрычніка 1611 г. прасіў пахаваць сябе ў праваслаўнай царкве ў Лейпунах, каля сваіх продкаў[22].

Ва ўсякім разе, нават становячыся католікамі, Сапегі не былі заўважаны ў пераследаваннях і ўціску праваслаўных, як гэта здарылася з нашчадкамі шанаваных у праваслаўі князёў гетмана Канстанціна Астрожскага і яго сына Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага, апекуна і заступніка праваслаўнай веры ў Рэчы Паспалітай.

Некаторыя з Сапегаў па-ранейшаму захоўвалі сувязь з роднай мовай, не грэбавалі ёю ў гаворцы і карысталіся як пісьмовай. М. Нікалаеў, напрыклад, адзначае, што Канстанцыя Сапега добра ведала мясцовую «простую мову» і карысталася ёю на пісьме, пра што сведчыць запісаная ёю ў свой альбом з любімымі творамі «Песня набожная руская»[23].

Тэндэнцыя захавалася і ў XIX стагоддзі. Аб прыхільнасці Сапегаў да мясцовай культуры і мовы сведчаць успаміны губернатара Менска ў 1844-1850 гг. А.В. Сямёнава, які прыгадваў: «Князь Сапега, стары, не раз сам-насам мне (Сямёнаву – *Г.П.*) прызнаваўся, што толькі з

кіравання Чартарыжскага ў званні папячыцеля Віленскага ўніверсітэта, засна-ванага паводле яго думкі, ніжэйшае дваранства стала там моцна апалячвацца, а да таго яно амаль зусім было незнаёмае з польскай мовай, літаратурай і г.д., гаворачы сваёй народнай мовай»[24].

Усё гэта дае падставы лічыць, што сярод буйных магнацкіх родаў Беларусі якраз Сапегі як ураджэнцы і гаспадары карэнных беларускіх зямель, найбольш трывала звязаныя з культурнымі традыцыямі беларускага этнасу, у найбольшай ступені рэпрэзентуюць гістарычны тып беларускай арыстакратычнай культуры з уласцівымі для яе культам асветніцтва і патрыятычнай абароны айчыны, памкненнямі да рэлігійна-культурнай талерантнасці, захавання традыцыйных духоўных каштоўнасцей і чуласцю да новых гуманістычных павеваў.

Уласна кажучы, па Сапегах, па іх ідэйна-палітычных і культурных арыентацыях, уладаннях і рэзідэнцыях у XV–XVIII стст., як па чуйным барометры, можна вызначаць змену геапалітычных і культуралагічных вектараў у ВКЛ. Напрыклад, калі ў XV ст. іх уладанні і маёнткі былі сканцэнтраваны на Смаленшчыне і Віцебска-Полацкіх землях, дык у XVI ст. дадаўся і яскрава вызначыўся новы, заходні вектар – Слонімшчына, Берасцейшчына, Падляшша, Віленшчына – з нованабытымі ўладаннямі і двума галоўнымі рэзідэнцыямі ў Кодані (1511 г.) і Ружанах (1598 г.).

Канцэнтравана гэты культурна-цывілізацыйны паварот, перамяшчэнне сферы дзейнасці Сапегаў на Захад і Паўночны Захад краіны, тэндэнцыя да сінтэзу ў айчынным Рэнесансе здабыткаў заходняй і традыцыйнай усходнеславянскай культуры ўвасабляе постаць аднаго з самых выдатных прадстаўнікоў роду – Льва Сапегі.

Леў Сапега (1557–1633), канцлер ВКЛ, ваявода віленскі, вялікі гетман літоўскі – генеалагічная і інтэлектуальная вяршыня сапяжанскага роду. Ніколі раней, ні да Льва Сапегі, ні пасля яго, у сапяжанскім родзе больш не сустракалася асоба падобнага маштабу і канцэнтрацыі таленту, волі і розуму, у якой бы ўвасобілася, назапасілася сумарная энергія поступу і духоўнага вопыту ўсіх папярэдніх пакаленняў.

Казімір Кагнавіцкі пісаў пра яго: «Быў Леў Сапега яшчэ дзіцем, а ўжо было яму такое прадказанне, што дасягне, калі не пераўзыдзе славу сваіх продкаў. Бо ўжо з самых яго жывых і быстрых вачэй, з дзіцячага твару праступалі ў ім рысы старэйшых і вялікіх Сапегаў. Любімай забавай малога было слухаць расказы аб знакамітых дзеях сваіх продкаў, гаварыць аб іх і сабе іх за ўзор і прыклад для славы і цноты браць»[25].

Леў Сапега нарадзіўся 4 красавіка 1557 г. у маёнтку Астроўна Віцебскага ваяводства. Продкі і бацькі Сапегі былі праваслаўнай веры. Кальвіністам, а пасля католікам сына драгічынскага старасты Івана Сапегі і Багданы Друцкай-Сакалінскай зрабілі эпоха позняга гуманізму і

Рэфармацыі. Прычыніліся да гэтага таксама складаныя павароты і абставіны дзяржаўнай палітыкі, якой ён самаадданa займаўся на працягу ўсяго свайго жыцця. Вялікі ўплыў на станаўленне асобы будучага дзяржаўнага і палітычнага дзеяча, праўніка і літаратара зрабілі выхаванне і вучоба пры нясвіжскім двары буйнога магната і гуманіста-асветніка, апекуна кальвінізму ў ВКЛ Мікалая Радзівіла Чорнага, куды бацькі аддалі сына ў сямігадовым узросце. Нясвіжскі двор на тую пару быў цэнтрам рэфармацыйна-гуманістычнага руху. Тут жылі і працавалі такія еўрапейскія славутасці, як Ф. Лісманіні, Ф. Станкар, Я. Тэнанд, П. Статорыус, Я. Любельчык, панавалі культ навукі і атмасфера рэлігійна-культурнай талерантнасці.

Маштабнасцю пошукаў, арыгінальнасцю ідэй і здзяйсненняў не саступалі замежнікам мясцовыя беларускія гуманісты. Менавіта ў Нясвіжы намаганнямі С. Буднага і яго памочнікаў Л. Крышкоўскага і М. Кавячынскага адрадзілася скарынаўская традыцыя патрыятычнага асветніцтва і кнігадрукавання на роднай мове. У 1562 г. С. Будны выдаў тут на беларускай мове «Катэхізіс», у прадмове да якога заклікаў маладых князёў Радзівілаў, каб яны «не толькі чужаземнымі мовамі захапляліся, але таксама <…> і тую, здаўна слаўную мову славянскую мілавалі і іншым ёю карыстацца раілі»[26].

Вучоба ў знакамітым Лейпцыгскім універсітэце, знаёмства з палітычным і культурным жыццём Нямеччыны, куды Мікалай Радзівіл Чорны паслаў Л. Сапегу разам са сваімі сынамі Юрыем і Станіславам для паглыблення адукацыі, заклалі надзейны і трывалы падмурак ведаў у галіне філасофіі, гісторыі, юрыспрудэнцыі, мастацтва, выявілі ў ім бліскучыя літаратурныя здольнасці.

Па вяртанні на радзіму па-еўрапейску адукаваны малады арыстакрат неўзабаве трапляе ў поле зроку новаабранага манарха Рэчы Паспалітай Сцяпана Батуры і робіць пры яго двары бліскучую службовую кар’еру, асновай якой сталі выдатныя асабістыя якасці і здольнасці юнака – шматгранныя веды, арыгінальны і дасціпны розум, выхаванасць, стараннасць пры выкананні службовых даручэнняў, уменне дабівацца пастаўленых мэтаў. У дадатак да ўсяго малады Сапега праявіў выключны дзяржаўны патрыятызм і любоў да сваёй Айчыны, калі ў часе ваеннай кампаніі 1579 г. сфармаваў на ўласныя сродкі полк конных гусараў і мужна змагаўся з маскоўцамі ў складзе каралеўскіх войскаў пад Вялікімі Лукамі, Псковам і Завалаччу, дзе на палях Лівонскай вайны тады вырашаўся лёс радзімы.

Усё гэта не засталося па-за увагай манарха. 4 лютага 1580 г. кароль Рэчы Паспалітай прызначае Л. Сапегу на вельмі прэстыжную пасаду сакратара ВКЛ, а ў 1581 г. ён ужо займае пасаду найвышэйшага пісара дзяржаўнай Канцылярыі ВКЛ, што адкрывае яму доступ да важнейшых палітычных і ўрадавых спраў, робіць маладога ўрадоўца надзвычай

папулярнай і перспектыўнай палітычнай постаццю.

І. Саверчанка так малюе партрэт Л. Сапегі гэтай пары: «Ён мог падоўгу, без усялякай мітусні і нават з асалодай займацца адной справай. А напрыканцы надаць ёй такую завершанасць і бляск, што ні ў кога не ўзнікала і думкі, каб штосьці выпраўляць ці перарабляць. Прыемная знешнасць маладога Сапегі без панаднасці і крыклівага пазёрства, унутраны спакой ды заўсёдная ўпэўненасць без долі самалюбавання і ганарыстасці разам з карэктным і ўважлівым стаўленнем да суразмоўцы стваралі вакол яго атмасферу душэўнага камфорту, цеплыні і абаяльнасці»[27].

Адзначаныя якасці, памножаныя на палітычны прагматызм, настойлівасць, уменне дакладна фармуляваць і дабівацца ажыццяўлення пастаўленых мэт, спрыялі поспехам Л. Сапегі і на дыпламатычнай ніве. Асабліва ў часе пасольства 1584 г. да Івана IV, якое ён узначаліў па даручэнні Сцяпана Батуры, каб заключыць вечны мір паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй. Поспех дыпламатычнай місіі азначаў яшчэ адну – чарговую – прыступку ў яго палітычнай кар'еры. На гэты раз кароль Рэчы Паспалітай не толькі ўзнагародзіў Л. Сапегу багатым Слонімскім стараствам, але і прызначыў яго 2 лютага 1585 г. на адну з ключавых у ВКЛ пасад – пасаду падканцлера.

Зрэшты, хроніка паспяховага кар'ернага ўзыходжання Л. Сапегі да вяршынь палітычнай улады ў Рэчы Паспалітай як дзяржаве «абодвух народаў» дае зусім няшмат, каб зразумець унутраныя матывы і логіку яго духоўнага развіцця і ўзвышэння як ідэолага і стваральніка новай юрыдычна-прававой канцэпцыі дзяржаўна-палітычнай незалежнасці ВКЛ. У сувязі з гэтым варта нагадаць, што яго фарміраванне і станаўленне як асобы і дзяржаўна-палітычнага дзеяча мелі яскравае нацыянальна-патрыятычнае вымярэнне, змест і характар якога шмат у чым вызначаліся незадаволенасцю палітычных колаў ВКЛ вынікамі несправядлівай Люблінскай уніі 1569 г., якая дыскрымінавала і пацясняла ліцвінскую магнатэрыю і шляхту ў яе палітычных правах і эканамічных магчымасцях, разбурала самабытныя палітычныя, маральныя і культурныя ўстоі жыцця дзяржавы, на якіх традыцыйна выхоўвалася маладая шляхецкая эліта ВКЛ.

Не дзівіць, што малады дзяржаўны дзеяч становіцца неўзабаве самым гарачым прыхільнікам і ўдзячным спадкаемцам незалежніцкіх настрояў сваіх апекуноў Радзівілаў і канцлера ВКЛ Астафея Валовіча, у канцылярыі якога пачынаў сваю палітычную кар'еру. Як патрыёт дзяржавы сваю асноўную палітычную мэту на пасадзе падканцлера, а затым і канцлера ВКЛ (1589–1623) Леў Сапега звязваў з мэтанакіраванай барацьбой супраць вынікаў гвалтоўна навязанай ВКЛ Люблінскай уніі 1569 г., палажэнні якой аб забароне мець уласны сойм, асобна выбіраць сабе гаспадара, праводзіць самастойную міжнародную

палітыку, або, для прыкладу, тыя, што дазвалялі палякам купляць землі і займаць дзяржаўныя і іншыя пасады ў ВКЛ, – сур'ёзна падрывалі палітычны і эканамічны суверэнітэт дзяржавы, рабілі яе ці не цалкам залежнай ад польскай Кароны і волі манарха.

Узначальваючы соймавую камісію па падрыхтоўцы новага Статута, якая павінна была прывесці ўсё заканадаўства ВКЛ у адпаведнасць з палажэннямі заключанай у Любліне ўніі, Л. Сапега фактычна не толькі праігнараваў рашэнні Люблінскага сойма 1569 г., але стварыў новы юрыдычны Кодэкс, якім не толькі замацоўваўся нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт краіны, але ствараліся юрыдычна-прававыя гарантыі існавання і развіцця ВКЛ як незалежнай дэмакратычнай прававой дзяржавы.

Абапіраючыся на падтрымку Радзівілаў і ўмела выкарыстоўваючы палітычныя цяжкасці Жыгімонта III Вазы, які змагаўся за трон караля Рэчы Паспалітай, Л. Сапега са сваімі аднадумцамі і прыхільнікамі дабіліся ад новага манарха падпісання і фактычнага ўвядзення ў дзеянне новага Літоўскага Статута 1588 г., артыкулы якога юрыдычна легімітызавалі і аднаўлялі працу вышэйшага заканадаўчага органа краіны – Вальнага Сойму, зноў забаранялі іншаземцам валодаць землямі і атрымоўваць дзяржаўныя, духоўныя і свецкія пасады ў ВКЛ, пацвярджалі дзяржаўны статус беларускай мовы і, між іншым, істотна абмяжоўвалі правы самога манарха.

Высокім, зорным часам Льва Сапегі, вяршыняй і вянцом яскравай дзяржаўна-палітычнай і творчай дзейнасці стала падрыхтоўка, публікацыя і ўвядзенне ў дзеянне трэцяй рэдакцыі Літоўскага Статута, якія з'явіліся актам публічнай юрыдычна-прававой абароны патрыятычнымі сіламі ВКЛ незалежнасці краіны. На дасягненне гэтай мэты Л. Сапега паставіў усё – свой аўтарытэт, палітычную кар'еру, літаратурны талент, а па-за гэтым і немалыя грашовыя сродкі, якія выдаткаваў з уласнай кішэні на публікацыю ўсяго тыражу новага Статута.

Гэты выдатны помнік духоўнай культуры беларускага народа, у якім адлюстраваўся багаты вопыт традыцый грамадска-палітычнага і дзяржаўнага жыцця, вынесены народам з гістарычнага мінулага, стаў унікальнай з'явай еўрапейскага заканадаўства, дзякуючы найперш Л. Сапегу, які аздобіў яго глыбокімі ведамі і найноўшымі здабыткамі айчыннай і агульнаеўрапейскай юрыдычна-прававой навукі, а ў сваіх прадмовах «выказаў шмат гэткіх высокіх думак, якія адпавядалі толькі XVIII і XIX стагоддзям»[28].

К. Кагнавіцкі пісаў, што «Статут Літоўскі, праца Льва Сапегі, так мудра да генія народа ім дастасавана, так закранула, прынікла да сэрца грамадзян Літвы, што без яго ўсе іншыя правы і законы, як цела без душы, – мёртвымі здаюцца»[29].

Як рэфарматар дзяржаўнага заканадаўства і права Л. Сапега далёка

апярэджваў свой час, тварыў такі высокі ідэал грамадскага і дзяржаўнага жыцця, які па вялікім рахунку і сёння застаецца недасяжным узорам для нас. Асабліва яскрава глыбіня і гуманістычны пафас сапегаўскай думкі выявіліся ў лістах падканцлера, звернутых да караля, а таксама ў яго звароце да ўсіх станаў і саслоўяў ВКЛ, у якіх важнейшае месца займаюць абгрунтаванне ідэі прававой дзяржавы і вяршэнства закона, а таксама гуманістычнае паводле сваёй сутнасці сцвярджэнне ідэі свабоды як вышэйшай каштоўнасці чалавечага жыцця.

Сапегаў «Зварот да ўсіх саслоўяў Вялікага Княства Літоўскага» – гэта сапраўдны гімн свабодзе і свабоднаму чалавеку: «Мудрыя людзі ўсіх стагоддзяў сыходзіліся на думцы, што ў кожным – калі б яно ні ўтварылася – гаспадарстве дастойнаму чалавеку нічога не можа быць даражэй за вольнасць. Затое няволя яму настолькі агідная мае быць, што не толькі маёмасцю, але і смерцю яе адганяць ад сябе павінен»[30].

Для Л. Сапегі свабода ёсць абсалютная, універсальная каштоўнасць. Аднак у сістэме ўнутраных грамадскіх дачыненняў асобы з дзяржавай і іншымі людзьмі ён трактаваў прынцып свабоды выключна праз прызму пісанага закона, даводзячы грамадзянству, як некалі Цыцэрон, што «каб маглі мы вольнасцю карыстацца, становімся для таго нявольнікамі закону». На думку гуманіста, ведаць законы і ўмець імі карыстацца – абавязак кожнага сапраўднага грамадзяніна, а «ўсякі жыхар, што сваёю вольнасцю ганарыцца, але не хоча ні ўведаць, ні зразумець закону, якім абаронена вольнасць яго, заслугоўвае ганьбавання»[31].

Друкаванне Статута на старабеларускай мове было для Льва Сапегі такім жа прынцыповым пытаннем, як некалькі пазней справа паляка Бернарда Мацяёўскага, на прызначэнні якога на пасаду віленскага біскупа насуперак законам ВКЛ дарэмна і беспаспяхова настойвалі кароль і яго акружэнне. І тут і там размова ішла пра прэстыж дзяржавы і яе суверэнітэт, абарону свабод і вольнасцей шляхецкага стану ў рамках закона як асноўнага прынцыпу і нормы асабістага жыцця грамадзян і функцыянавання ВКЛ як незалежнай дзяржавы.

Сам новаабраны гаспадар Жыгімонт III Ваза – кароль і вялікі князь у адной асобе – павінен быў адчуць сілу і моц шляхецкага народа ВКЛ, які сам сабе, на сваёй мове піша законы і патрабуе ад сваіх уладароў іх паважаць і выконваць.

Гонарам за свой народ і дзяржаву, яго аўтарытэт і вядомасць у свеце прасякнуты Сапегаў «Зварот да усіх станаў Вялікага Княства Літоўскага»: «А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которые не обчым яким языком, а своим власным права списаные маем и каждого часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем». І яшчэ: «И то есть наша вольность, которою се мы межи иншими народы хрестьянскими хвалим се же пана, ижбы водле воли своее, а не водле прав наших панован, над собою не маем, а яко славы

учстивое, так живота и маетности волно уживаем. Бо хто бы кольвек с тых трох речей в чом нас укривдити и подлуг уподобанья своего, а не водле прав нашых над нами паствитися мел, тот бы вжо не паном нашим, але сказителем прав и вольностей наших был, а мы бысмо невольниками его быти мусем»[32].

Чытаючы звароты арыстакрата-літаратара Льва Сапегі да ўладара і грамадзян ВКЛ, прыгадваюцца словы А.С. Пушкіна аб новай рускай літаратуры: «Наша славеснасць, саступаючы другім у раскошы талентаў, тым ад іх адрозніваецца, што не нясе на сабе пячаткі рабскай прыніжанасці. <…> У нас пісьменнікі ўзятыя з вышэйшага класа грамадства. Арыстакратычны гонар зліваецца ў іх з аўтарскім самалюбствам. Мы не жадаем, каб намі апекаваліся роўныя нам. Вось чаго нягоднік Варанцоў не разумее. Ён уяўляе, што рускі паэт з'явіцца ў яго пярэднім пакоі з прысвячэннем або панегірыкам, а той з'яўляецца з патрабаваннем павагі да сябе, як шасцісотлетні дваранін – д'ябальская розніца!»[33]

Чым быў унікальны Леў Сапега, дык гэта тым, што ніводная грань, рыса яго таленту не замінала ў ім развівацца іншым якасцям натуры: паслядоўны, цвёрды дзяржаўнік і вартаўнік законаў ужываўся у ім з ліберальным публіцыстам і філосафам, не пазбаўленым рамантычных ілюзій, прагматычны магнат з шчодрым мецэнатам. Палкі патрыёт, ён не стамляўся шукаць узаемаразуменне і ладзіць добрыя адносіны з людзьмі іншай веры, культуры і нацыянальнасці.

Гэтак жа сама высокі арыстакрат-інтэлектуал мірна сужываўся ў ім з канцылярыстам, службоўцам, няхай і самага высокага гатунку, які, аднак, не цураўся празаічных практычных спраў – бо ўсюды і ва ўсім адчуваў сябе гаспадаром, які шануе і любіць парадак.

Гэтыя якасці як найлепш паслужылі канцлеру, калі паўстала пытанне аб выратаванні ад поўнай гібелі зношаных ад часу і частага выкарыстання папер і дакументаў дзяржаўнага архіва ВКЛ – Літоўскай Метрыкі. З ініцыятывы Льва Сапегі і пад яго шматгадовым наглядам 20 пісараў гаспадарскай канцылярыі на працягу 1594–1607 гг. выканалі грандыёзную па маштабах задачу, нанова перапісаўшы і захаваўшы для дзяржавы і нашчадкаў амаль 600 тамоў разнастайных дакументаў – неацэнны скарб нашай гісторыі перыяду ВКЛ. Пры гэтым канцлер пастаянна клапаціўся аб стварэнні належных умоў для пісараў, занятых цяжкай і адказнай працай, турбаваўся, каб «хлапяты, што метрыкі перапісваюць», атрымалі за сваю працу вопратку і грошы[34].

Вядома таксама, што парадкуючы Метрыку, дбаючы пра яе цэласнасць і захаванасць, Л. Сапега, кіруючыся інтарэсамі дзяржавы, неаднаразова звяртаўся да сваіх папярэднікаў на пасадах канцлераў і падканцлераў або іх нашчадкаў, патрабуючы вяртання ў дзяржаўны архіў прысвоеных імі папер і дакументаў, што асядалі ў прыватных

архівах. Асабліва вольна паводзіў сябе ў гэтых адносінах род Радзівілаў, якія ў сваіх дварах трымалі важныя дзяржаўныя прывілеі, а таксама не спяшаліся перадаваць на захаванне ў канцылярыю гаспадара кнігі Метрыкі, якія вялі яны самі.

Паводле А. Дубоніса, «Леў Сапега ў лісце 1594 г. інфармаваў Мікалая Крыштафа Радзівіла пра выяўленыя кнігі канцылярыі ВКЛ, сшыткі няўпісаных у іх дакументаў. За непарадак папракаў ранейшых канцлераў ВКЛ. Асабліва шмат кніг і важных дзяржаўных прывілеяў не хапала, паводле Л. Сапегі, з часоў канцлерства Мікалая Радзівіла Чорнага і Рудога (1550–1565 і 1566–1579). Пры гэтым ён прасіў вярнуць яму канцылярскія кнігі і дзяржаўныя прывілеі»[35].

Паэт Ян Казімір Пашкевіч, які, відаць, меў нейкае дачыненне да спраў, звязаных з упарадкаваннем Літоўскай Метрыкі, і дзейнасці створанай соймам у 1607 г. сенатарскай камісіі, якая завяршыла ў 1621 г. зверку перапісаных кніг з новымі, натхнёны асобай канцлера і веліччу здзейсненага беларускімі пісарамі подзвігу, нездарма вітаў завяршэнне працы патрыятычным панегірыкам у гонар роднай мовы.

Полска квитнет лациною,
Литва квитнет русчизною;
Без той в Полще не пребудешь,
Без сей в Литве блазном будешь.
Той лацина езык дает,
Та без руси не вытрвает.
Ведзь же юж русь, иж тва хвала
По всем свете юж дойзрала.
Весели ж се ты, русине,
Тва хвала никгды не згине![36]

Невыпадкова, што верш Я.К. Пашкевіча, датаваны 1621 г., па сутнасці, поўніцца тымі ж незалежніцкімі ідэямі і патрыятычнымі пачуццямі гонару за свой народ і яго мову, што і славутая прадмова Льва Сапегі да Літоўскага Статута 1588 г. Ды і аўтограф свайго верша паэт запісаў не абы-дзе, а на старонках рукапіснага экземпляра Статута 1529 г., падкрэсліваючы тым самым дзяржаўны статус старабеларускай мовы і даўнасць традыцый старабеларускага пісьменства ў ВКЛ.

Любоў і павага да роднай мовы, пісанага слова і друкаванай кнігі, цікавасць да збору, упарадкавання і захавання кніжных збораў і бібліятэк, юрыдычна-прававых дакументаў і дзяржаўных архіваў ВКЛ, разуменне важнасці культурных чыннікаў у палітыцы, дыпламатыі і дзяржаўным будаўніцтве вынікалі ў Сапегаў як прадстаўнікоў вышэйшых арыстакратычных колаў грамадства найперш з іх дзяржаўна-палітычных, дыпламатычных і іншых абавязкаў, якія яны выконвалі, будучы велікакняжацкімі пісарамі і сакратарамі-канцылярыстамі вышэйшага гатунку, пасля – пасламі і ваяводамі, канцлерамі і гетманамі, ведучы справы з замежнымі дварамі, маючы непасрэднае дачыненне да вы-

працоўкі знешняй і ўнутранай палітыкі дзяржавы.

Сапегі здаўна вядомыя як апантаныя бібліяфілы, збіральнікі кніг і гаспадары вялікіх бібліятэк. У сувязі з гэтым варта нагадаць, што менавіта Сапегі стаялі ля калыскі друкаванай беларускай кірылічнай кнігі ў ВКЛ. Так, у канцы XV ст. Сапегі былі ў ліку тых магнатаў, якія падтрымлівалі і фінансавалі выданне ў Кракаве немцам Швайпольтам Фіёлем на царкоўнаславянскай мове старабеларускай рэдакцыі чатырох кніг царкоўна-службэбнага характару: «Трыёдзі поснай», «Трыёдзі каляровай», а таксама «Часаслоўца» і «Актоіха». Прычым, як адзначаюць даследчыкі, Фіёль быў звязаны з друкарняй толькі фінансава, а сапраўднымі ініцыятарамі справы былі магнаты з Русі і Літвы, такія як Гаштольды, Солтаны, Сапегі, якія імкнуліся да ўніі ўсходняй царквы з Рымам[37]. Можна меркаваць, што адным з актыўных удзельнікаў гэтага праекта ад Сапегаў быў якраз Іван Сямёнавіч, паколькі менавіта яго вялікі князь Аляксандр накіраваў у 1501 г. паслом у Рым, дзе ён дамогся ад папы зацвярджэння мітрапаліта Іосіфа Балгарыновіча і там далучыўся да Фларэнтыйскай царкоўнай уніі[38].

Відаць, Іван Сямёнавіч паклаў пачатак і прыватным кнігазборам Сапегаў, якія ляглі ў аснову першай вядомай бібліятэкі ў Ружанах. Дакладная лічба кніг, сабраных Львом Сапегам і яго трыма сынамі Янам Станіславам, Крыштафам Мікалаем і Казімірам Львом, невядомая. Мяркуюць, што яна налічвала каля шасці тысяч асобнікаў. Як вядома, тры тысячы кніг з Ружанскай бібліятэкі былі перададзены Казімірам Львом езуіцкай Акадэміі ў Вільні. Па звестках А. Бразюнене, на сёння маюцца дадзеныя аб 290 асобніках гэтай бібліятэкі на лацінскай, грэчаскай, французскай, нямецкай і польскай мовах, якая атрымала ўмоўную назву Bibliotheca Sapiehana. З іх 252 захоўваюцца ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта.

Тэматыка кніг, якая закранае пытанні гісторыі, палітыкі, рэлігіі, эканомікі, юрыспрудэнцыі і ваеннага будаўніцтва і інш., іх шырокая моўная атрыбуцыя сведчаць аб высокім сацыяльным статусе, класічнай еўрапейскай адукацыі і высокай гуманітарнай і філалагічнай культуры іх уладальнікаў. Напрыклад, канцлер Леў Сапега свабодна гаварыў і пісаў на чатырох мовах – старабеларускай, лацінскай, польскай, нямецкай. Восем моў ведаў яго малодшы сын Казімір Леў, на пяці-шасці мовах размаўлялі старэйшы сын Ян Станіслаў і Крыштаф Мікалай.

У каталогу Bibliotheca Sapiehana, падрыхтаваным бібліятэкай Віленскага ўніверсітэта, адзначаны толькі 4 кнігі, пазначаныя ўласным экслібрысам або правененцыямі самога Льва Сапегі, 258 – Казімірам Львом Сапегам; яшчэ на трох выяўлены адзнакі Тамаша і Яна Станіслава Сапегаў. Прыналежнасць астатніх устаноўлена на падставе захаваных рэестраў і актавых вопісаў кніг, што перадаваліся новым уладальнікам.

Літоўская даследчыца А. Бразюнене, якая ўважліва прааналізавала тэматычны склад, мову, характар і змест 252 кніг з кнігазбору Сапегаў і зрабіла спробу рэканструкцыі Bibliotheca Sapiehana, выказала слушнае меркаванне, што акрамя публічнай, агульнадаступнай для сям'і, гасцей і наведвальнікаў бібліятэчнай залы ў ружанскім палацы, у Льва Сапегі была і так званая «падарожная» бібліятэка, якая магла налічваць 200–300 кніг, неабходных канцлеру для працы ў часе падарожжаў, выканання службовых абавязкаў, дыпламатычных візітаў і г.д.[39]

Відаць, перспектыўна весці гаворку і пра тое, што ў канцлера Льва Сапегі і яго сыноў магла быць яшчэ і «бліжняя», падручная бібліятэка, куды ўваходзілі асабліва каштоўныя і патрэбныя кнігі, якія выяўлялі нейкія асабістыя чытацкія схільнасці і прыярытэты іх уладальнікаў. Не выключаючы і такія, што ўваходзілі ў індэксы забароненых кніг ці маглі б нейкім іншым чынам кампраментаваць грамадска-палітычнае ці асабістае рэнамэ іх уладальнікаў.

Невыпадкова, напрыклад, што сярод ахвяраваных Казімірам Львом Віленскай Акадэміі кніг з бібліятэкі Сапегаў у Ружанах, сустракаюцца экземпляры кшталту двухтомніка езуіта П'ера Галуа «Illustrium Ecclesia Orientalis scriptorium… vitae etdocumenta» (Duaci, 1633, 1636), выдадзенага пад эгідай езуітаў, з старанна заштрыхаванымі надпісамі і выявамі на тытульных лістах[40].

Кнігі – не застылыя, нямыя сфінксы мінулых часоў: іх тэматыка, дароўныя надпісы і правененцыі, падкрэсліванні і заўвагі ў тэксце і на палях, ступень захаванасці і нават адсутнасць тых ці іншых кніг, абавязковых для вядомых людзей эпохі, таксама шмат чаго гавораць аб уладальніках бібліятэкі, падзеях, атмасферы і духу часу.

Напрыклад, звяртае на сябе ўвагу і такая акалічнасць, што сярод устаноўленых на сёння 252 кнігах з бібліятэкі ў Ружанах цалкам адсутнічаюць кірылічныя выданні «Бібліі рускай» Францыска Скарыны, твораў Сымона Буднага, Літоўскія Статуты ўсіх трох рэдакцый.

Гэта тым больш дзіўна, што традыцыя кірылічнага пісьменства для многіх Сапегаў, якія пачыналі сваю службовую кар'еру з пасад пісараў у земскіх судах, каралеўскіх і велікакняжацкіх канцылярыях, была не проста абавязковай, але першапачаткова складала адну з важных асноў унутранага адзінства і кансалідаванасці роду.

Амаль не сустракаюцца выданні берасцейскіх друкарняў, творы пратэстанцкай і палемічнай літаратуры ВКЛ і г. д. У той час, як многія з названых выданняў, напрыклад Літоўскія Статуты альбо творы палемічнай літаратуры, датычныя Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г., павінны былі абавязкова прысутнічаць у бібліятэцы канцлера. Веданне ж і знаёмства з іншымі выразна адчуваецца ў публічнай палітычнай пазіцыі і ўчынках канцлера, а таксама ў яго публіцыстыцы і эпісталярнай спадчыне.

Так, вучонымі ўстаноўлена, што пад час сваёй працы над трэцяй рэдакцыяй Статута 1588 г. і ў напісаных да яго прадмовах канцлер шырока звяртаўся да твораў Арыстоцеля і Цыцэрона, такіх гуманістаў і мысліцеляў Літвы і Польшчы, як А. Волан, А. Ратондус, А. Маджэўскі, С. Будны, карыстаўся выданнямі Брэсцкай друкарні Ц. Базыліка і інш.[41]

М. Баўтовіч толькі ў адным лісце Л. Сапегі да полацкага ўніяцкага архібіскупа Іасафата Кунцэвіча ад 12 сакавіка 1622 г. выявіў 50 цытат і спасылак на тэксты Святога Пісьма, а таксама творы айцоў Заходняй Царквы: Хрызастома, Амброза Медылянскага, святога Аўгусціна. Даследчык высветліў, што канцлер чытаў не толькі «Казанні аб Святых» Аўгусціна Гіпонцкага, яго творы «Аб горадзе Божым» і «Аб кнізе Быцця супраць Маніхеяў», але таксама «Суму тэалогіі» Тамаша Аквінскага, «Аб сусвеце» Рабана Маўра. З твораў лацінскіх антычных філосафаў і пісьменнікаў Л. Сапега цытуе «Актавію» і «Траянкі» Люцыя Сенэкі, п’есы «Дзяўчаты з Андросу» і «Эўнух» Публія Тэрэнцыя Афера. З грэкаў – Дэмасфена, Эўрыпіда, Плутарха і інш.[42]

Калі гаварыць аб кнігах тэалагічнай і рэлігійнай тэматыкі ў зборах Bibliotheca Sapiehana, дык асноўны ўнёсак тут належыць не толькі самому Л. Сапегу, але і яго старэйшаму сыну ад першай жонкі Дароты з Фірлеяў – Яну, які меў адпаведную адукацыю і стала цікавіўся тэалагічнай праблематыкай і пытаннямі рэлігійнага жыцця.

Ян Станіслаў Сапега (1589–1635), стараста слонімскі, вялікі маршалак літоўскі, нарадзіўся 25 кастрычніка 1589 г. у Маладзечна. З дзесяці год быў аддадзены на навучанне ў езуіцкую Віленскую Акадэмію. Летам 1603 г. перайшоў вучыцца ў езуіцкі калегіум у Брунсбергу, дзе вывучаў рыторыку і філалогію. Потым разам са стрыечным братам Крыштафам Стэфанам Сапегам адправіўся ў Нямеччыну, да верасня 1607 г. вучыўся ва ўніверсітэце ў Вюрцбургу. З лістапада 1607 г. жыў у Парыжы, быў вучнем бібліятэкара Генрыка IV, прафесара Сарбоны І. Касаўбона, у якога жыў на кватэры і з якім пазней вёў сталую перапіску. У канцы 1611 г. у другі раз выбраўся за граніцу, наведаў іспанскія Нідэрланды, пасля Італію, некаторы час вучыўся ў Падуанскім і Балонскім універсітэтах. У пачатку 1613 г. наведаў Рым, дзе быў прыняты папам Паўлам V.

Ян Станіслаў меў пэўныя літаратурная здольнасці. У 1599 г. пры дапамозе кагосьці са студэнтаў ці прафесараў Віленскага ўніверсітэта стварыў урачыстую «Эпіталаму» («Epithalamium», Вільня, 1599) з нагоды шлюбу бацькі з Альжбетай з Радзівілаў, а ў 1605 г., будучы вучнем езуіцкага калегіума ў Брунсбергу, напісаў прадмову да зборніка вершаў, падараванага студэнтамі біскупу Шыману Рудніцкаму з нагоды прызначэння на вармінскую дыяцэзію.

Праўда, праблемы з псіхічным здароўем моцна ўскладнялі яго асабістае і публічнае жыццё, магчымасці развіваць свой талент,

прыводзілі да частых канфліктаў, а аднойчы нават да чалавечай трагедыі. Вядома, напрыклад, што паводле скаргі Яна Станіслава ў 1631 г. у Навагародку была спалена на кастры пападдзя Раіна Грамычына, абвінавачаная ім у чараўніцтве і прычыненні шкоды здароўю.

Маючы на ўвазе слабое здароўе першай жонкі і двух сыноў Льва Сапегі, якія мелі пастаянную патрэбу ў леках і лекаванні, збольшага становіцца зразумела, чаму ў Bibliotheca Sapiehana адносна мала кніг на медыцынскую тэматыку – пільную патрэбу ў іх мела ўласная сям'я канцлера.

У нейкай ступені гэтую здагадку пацвярджаюць біяграфія і трагічны лёс ці не самага таленавітага з трох сыноў Льва Сапегі – Крыштафа Мікалая, жыццёвая дарога якога праз хваробу на сухоты абарвалася на дваццаць чацвёртым годзе жыцця.

Крыштаф Мікалай Сапега (1607–1631), вялікі пісар літоўскі (1631 г.), нарадзіўся ў Ружанах. Атрымаў спачатку дамашнюю адукацыю, вучыўся ў Віленскай Акадэміі. У 1621 г. разам з малодшым братам Казімірам Львом быў пасланы за мяжу для працягу адукацыі. Вучыўся спачатку ў Мюнхене ў езуіцкім калегіуме, дзе вывучаў гуманітарныя навукі: рыторыку, лаціну, нямецкую мову. У 1624 г. стаў вучыцца ў Інгальштацкім універсітэце, але захварэў на сухоты і быў вымушаны вярнуцца ў Літву. Паправіўшы здароўе, у 1625 г. працягнуў навучанне ў Лювенскім універсітэце. Наведаў Фландрыю, быў у Бруселі, дзе разам з братам Казімірам вывучаў артылерыйскую справу і навуку фартыфікацыі ў Галандыі. У Лювене слухаў лекцыі Е. Путэна, прысвечаныя палітыцы і эстэтыцы Арыстоцеля, у Парыжы быў вучнем І. Касаўбона, вучыўся майстэрству рыторыкі і красамоўства ў П. Кастэляна. Рэшту 1627 г. правёў у Бруселі, дзе практыкаваўся ў коннай яздзе, цікавіўся інжынерыяй і вывучаў замежныя мовы. У чэрвені 1627 г. закончыў вучобу ў Лювене, дзе абараніў сваю працу «Пытанні палітыкі ў кнізе Арыстоцеля «Рэспубліка».

Цікава, што ў Bibliotheca Sapiehana захаваліся кнігі Арыстоцеля «Рэспубліка» і «Палітыка», наскрозь скрэсленыя заўвагамі і нататкамі ў тэксце і на палях, магчыма, зробленымі (што зусім верагодна) рукой дваццацігадовага Крыштафа Мікалая. Здольны юнак захапляўся не толькі палітыкай, гісторыяй, ваеннымі навукамі. Маладому пісару вялікакняжацкай канцылярыі, які атрымаў гэтую першую і апошнюю ў сваім жыцці дзяржаўную пасаду, як і ягоны бацька, у дваццаць чатыры гады, перадаўся яшчэ і бацькоўскі талент літаратара, пачуццё мастацкага слова.

Маючы бліскучыя літаратурныя здольнасці, ён асабліва цікавіўся і захапляўся гісторыяй. Пераклаў «Рымскую гісторыю ад заснавання горада» Ціта Лівія, прычым пачаў гэту працу, маючы ўсяго 11 гадоў. Цікавасць да падзей, што адбываліся на радзіме, у ВКЛ, падштурхнула

яго таксама да апісання гісторыі Дзімітрыя Самазванца пад назвай «Аповеды дзеяў цара Дзімітрыя» («Opowiedzanie zdarzeń Dymitra cara»), рукапіс якой, на жаль, не захаваўся.

Заканамерна, што большасць кніг Bibliotheca Sapiehana пазначаны экслібрысам малодшага сына Льва Сапегі Казіміра Льва, якому пасля смерці бацькі і беспатомных братоў дасталася практычна ўся агромністая спадчына, у тым ліку і ўсе кніжныя зборы сям'і ў Ружанах.

Казімір Леў Сапега (1609–1656), пісар вялікі літоўскі, маршалак надворны, падканцлер ВКЛ, нарадзіўся ў Вільні. Першыя гады правёў пры двары дзядзькі Крыштафа Радзівіла і пры каралеве ў Вільні, якая апекавалася малодшым сынам канцлера. Па заканчэнні вучобы ў Віленскай Акадэміі ў 1621 г. разам з Крыштафам Мікалаем выехаў за мяжу, дзе прайшоў тыя ж самыя навукі і ўніверсітэты, што і старэйшы брат Крыштаф Мікалай.

Багаты магнат і высокаадукаваны арыстакрат, які вучыўся ва ўніверсітэтах Германіі, Італіі, дзе вывучаў палітыку, гісторыю, філасофію, рыторыку, ведаў шэраг замежных моў, карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам у сойме, а таксама даверам у караля. У 1645 г. атрымаў пасаду падканцлера ВКЛ. 8 лютага 1645 г. па просьбе і даручэнні Уладзіслава IV менавіта ён сустракаў і вітаў на італьянскай мове на мяжы Рэчы Паспалітай новую каралеву Людвіку Марыю.

Выказваў сябе як цвёрды вернік і абаронца касцёла. Горача ўдзельнічаў у справах і канфліктах веравызнання ў Вільні. Пры гэтым польскія біёграфы падканцлера адзначаюць, што ён адмовіўся выканаць просьбу паміраючага Крыштафа Радзівіла быць пасрэднікам у заключэнні дамовы паміж дысідэнтамі і віленскім біскупам Абрахам Войнам, а 12 лютага 1642 г. разам з Альбрэхтам Станіславам Радзівілам і 4 біскупамі выступіў з пратэстам супраць рашэнняў сойму ўганараваць уладыку пярэмышльскага Сільвестра Гулевіча-Ваютынскага, а праваслаўным вярнуць спрэчныя манастыры і ўладанні[43].

У той жа час Казімір Леў заўзята адстойваў незалежнасць ВКЛ і правы ліцвінаў у Рэчы Паспалітай, часта ідучы на канфлікты і ўступаючы ў спрэчкі з прадстаўнікамі Польшчы. У 1635 г. прымаў удзел у пасольстве ў Маскву, у часе якога ўступіў у сур'ёзны канфлікт з кіраўніком місіі Пясачынскім, якога абвінавачваў у пыхлівасці, некампетэнтнасці і ўціску ліцвінаў. Абураўся таксама пераследам паслоў і маскоўскімі звычаямі. На сойме 1650 г. падпісаў пратэст ліцвінаў супраць спробы навязаць ім канстытуцыю Кароны аб паспалітым рушэнні. Быў выдатным соймавым прамоўцам, адна з яго класічных прамоў «Oratio ad Reipublicae Poloniae senatores» (1649 г.) была вельмі папулярнай сярод шляхты.

Казімір Леў вядомы як адзін з найвялікшых мецэнатаў сярод Сапегаў ды і ўва ўсім ВКЛ, які чула рэагаваў і адгукаўся на духоўна-

культурныя патрэбы грамадства, свята помніў аб сваіх абавязках грамадзяніна і хрысціяніна. Напрыклад, узрушаны рэлігійным закалотам праваслаўных і ўніятаў у Віцебску, які прывёў да забойства уніяцкага архібіскуба Іасафата Кунцэвіча, выдаткаваў 63 тысячы талераў на срэбную труну для нябожчыка. Фундаваў кляштар картузіянцаў у Бярозе, мураваны касцёл Святой Тройцы і кляштары бернардынцаў у Сапяжыне (1640–1646) і Гродна, касцёл Святога Ісуса ў Берасці, дзесяткі іншых культавых будынкаў, у тым ліку Пакроўскую царкву ў Шчаўрах, таксама шпіталі ў Ружанах і Талачыне.

Цікавіўся і апекаваўся справамі асветы і адукацыі. У 1641 г. на свае сродкі адкрыў у Віленскай Акадэміі кафедру кананічнага і грамадзянскага права і забяспечыў грашовае ўтрыманне чатырох прафесараў гэтай кафедры.

Утрымліваў таксама музычную капэлу і вялікую спадчынную бібліятэку ў Ружанах, якую папаўняў уласнымі кніжнымі набыткамі. Імкнуўся надаць бібліятэцы публічны характар, шчодра адкрываў свае кніжныя скарбы і нават дзяліўся імі з гасцямі і наведвальнікамі. Вядома, што пазычаў кнігі з уласнай бібліятэкі каралю Уладзіславу IV (магчыма, што падчас гасцявання з каралевай Цэцыліяй Рэнатай у Ружанах у студзені 1644 г.). У сваім тэстаменце, як вядома, адпісаў Віленскай Акадэміі бібліятэку, якая была перададзена яе новаму ўладальніку ў 1666 г.

Памёр падканцлер Казімір Леў Сапега 19 студзеня 1656 г. у Берасці, пахаваны у касцёле Святога Крыжа ў Картуз-Бярозе.

Багаты палітычны, духоўны і інтэлектуальны досвед канцлера Льва Сапегі і яго сыноў, іх грунтоўныя веды, апора ў сваёй палітычнай і культуратворчай дзейнасці на здабыткі класічнай антычнай і новай еўрапейскай гуманістычнай культуры станавіліся ўзорам і прыкладам не толькі для членаў яго сям'і, але і іншых прадстаўнікоў сапяжанскага роду.

Пры ўсіх выдатках, якія прыўнеслі ў жыццё і дзейнасць Сапегаў эпоха Контррэфармацыі і палітычныя рэаліі новастворанай Рэчы Паспалітай, сама прырода і няпісаныя законы родавай традыцыі патрабавалі ад нашчадкаў дзейнічаць у адпаведнасці з тым родавым імператывам, шанаваць які заклікаў паэт Андрэй Рымша ў эпіграме на герб Л. Сапегі.

Живете ж, Сапегове, вси в многие лета,
Ваша слава слыть будеть, покуль станеть света.
Подавайте ж потомком, што маете з предков,
Ведь же ваших цных справ весь свет полон светков[44].

У плеядзе выдатных асоб, якія ўспадкаемілі традыцыі, гісторыю і славу роду Сапегаў у XVII–XVIII стст., прыкметна вылучаецца постаць спадчыннага ўладальніка Коданя, старасты брэсцкага, кашталяна менскага і троцкага, канцлера ВКЛ з 1735 г. Яна Фрыдэрыка Сапегі (18.10.-1680 – 6.7.1751).

Ян Фрыдэрык нарадзіўся ў вёсцы Дабрацічы пад Берасцем. З 1691 г. вучыўся ў Брэсцкім езуіцкім калегіуме, затым працягнуў сваё навучанне ў Любліне і Варшаве. У 1700–1702 гг. падарожнічаў па краінах Еўропы, наведаў Прусію, Саксонію, Аўстрыю, Францыю, Галандыю, Англію. Асцярожны і памяркоўны палітык, які выказваўся на соймах за нейтралітэт і неўмяшанне Расіі і Рэчы Паспалітай ва ўнутраныя справы адна адной, праявіў сябе галоўным чынам як мецэнат культуры, літаратар і заўзяты бібліяфіл, апантаны справай захавання і ўшанавання памяці продкаў і ўзвелічэння родавай славы Сапегаў.

Праз усё жыццё займаўся генеалогіяй роду Сапегаў, збіраў звесткі і разнастайныя гістарычныя крыніцы і памяткі. Фактычна яму належыць заслуга канчатковага афармлення генеалагічнай легенды Сапегаў як арыстакратычнага роду, як і стварэнне адпаведнай атрыбутыкі, этыкету і ідэалогіі паводзін, якіх вымагаў новы сацыяльны статус. З гэтай мэтай Ян Фрыдэрык стварыў у Кодані родавы мемарыял з sacrum-усыпальніцай і партрэтную галерэю Сапегаў пры царкве Святога Духа, якая налічвала 70 партрэтаў найбольш значных прадстаўнікоў роду, пачынаючы ад легендарнага літоўскага князя Віценя. Фундаваў таксама пабудову царквы ў вёсцы Страдзічы, выдаткоўваў грошы на пабудову алтара ў брэсцкім касцёле езуітаў і іншых шматлікіх культавых збудаванняў.

А. Рахуба з пэўнай іроніяй пісаў пра Яна Фрыдэрыка, што «ёсць гэта постаць проста неверагодна заслужаная ў справе тварэння легенд і хвалы Дому Сапегаў»[45]. Апантаны бібліяфіл сабраў вялікую бібліятэку ў Кодані, якая ў 1744 г. налічвала больш за 3500 кніг, а ў XIX ст. была перададзена спадкаемцамі Варшаўскаму Таварыству сяброў навукі. Першапачаткова бібліятэка Яна Фрэдырыка складала, відаць, каля чатырох тысяч кніг. Гэта відаць па тым, што ў 1731 г. частку кніг – трыста асобнікаў, сярод якіх былі і старадрукі, – ён падараваў сваёй Alma Mater – бібліятэцы Брэсцкага езуіцкага калегіума[46].

Сярод выяўленых І. Цыбароўскай-Рымаровіч у Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя У.І. Вярнадскага 350 кніг з Берасцейскага калегіума, значная частка паходзіць са збору, падараванага канцлерам Янам Фрыдэрыкам Сапегам. Апроч гэтага сустракаюцца і кнігі, асабіста падараваныя Янам Фрыдэрыкам прыватным асобам – выкладчыкам калегіума ці проста добрым сябрам і знаёмым. Сярод іх даследчыца выявіла некалькі рэдкіх кніг, падараваных ваўкавыскаму чашніку Фёдару Аўсянаму: «Паведамленне аб вялікай Святыні альбо Базіліцы Азізскай… Францішка С.» (Кракаў, 1727), «Гісторыя Маскавіціча» Яна Пятрыцыя (Кракаў, 1641), дапаможнік па рыторыцы і эпісталаграфіі Андрэя Максіміляна Фрэдра «Vir consilium…» (Львоў, 1730)[47].

Літаратурныя творы самога канцлера Я.Ф. Сапегі сведчаць пра яго як пра пісьменніка з жывым уяўленнем, схільнага да мастацкага

вымыслу і легендарна-містычнай інтэрпрэтацыі гістарычнай рэчаіснасці, што, зрэшты, было ўласціва барокавай літаратуры.

Так, у напісанай ім пад імем Якуба Валіцкага кнізе «Historia przeznacnego obrazu kodeńskiego Panny Maryi» (Toruń, 1720) Ян Фрыдэрык апісаў легендарную гісторыю цудадзейнага абраза коданскай святой Дзевы Марыі Гвадэлупскай, нібы ўкрадзенага з Рыму літоўскім харунжым Мікалаем Сапегам у 1634 г. На самай справе, як слушна лічыць А. Рахуба, ніякага крадзяжу не было, абраз быў куплены М. Сапегам у Гвадэлупе ў часе яго побыту ў 1612 г. у Іспаніі. Фантастычная ж легенда з уражлівымі падрабязнасцямі аб цудадзейным выздараўленні Мікалая Сапегі, яго сустрэчы з папам Урбанам VIII, касцельным судзе, якія завяршыўся дараваннем віны і вяртаннем іконы ў Кодань, спатрэбілася Яну Фрыдэрыку дзеля ўзвышэння аўтарытэту і стварэння культу тутэйшага абраза, што ў выніку і здзейснілася праз яго каранацыю ў 1723 г.[48]

Кнігі, выдадзеныя нашчадкамі Л. Сапегі і пры іх падтрымцы ў XVII –XVIII стст., адлюстравалі шырокі спектр асабістых, грамадскіх і палітычных праблем, якімі жыла тагачасная Беларусь і іншыя землі ВКЛ.

Напрыклад, пасля смерці Л. Сапегі памяць пра яго як пра заступніка і «бацьку Айчыны» была ў грамадстве настолькі моцнай і ўсеагульнай, што ў свядомасці наступных пакаленняў ліцвінаў, асабліва пад час крывавай вайны 1654–1667 гг. Рэчы Паспалітай з Масковіяй, празванай «патопам», вобраз канцлера пачынае міфалагізавацца і нават набываць рысы сакральнасці. Невыпадкова, што ў кнізе Андрэя Младзяноўскага «Аб святых патронах Польшчы і Літвы» (1671) выява святога Галікана як аднаго з трох заступнікаў Літвы на гравюры віленчука Тамаша Шнопса максімальна набліжана да вядомага гравіраванага партрэта канцлера работы данцыгскага майстра Хондзія, выкананага ў 1621 г.[49]

Пры гэтым друкаванае слова і друкаваная кніга былі для Сапегаў не толькі рупарам уласнай славы і ўзвелічэння роду, выяўленнем прыватных уражанняў ад падарожжаў, наведвання высокіх гасцей і сталіц, як, напрыклад, «Дыярыуш падарожжа з Вільні да Пецярбурга яго высокай міласці пана Сапегі, бабруйскага старасты» (1725), але і яскравых палітычных памкненняў да стварэння ўласнай дзяржавы і «каралявання» ў ВКЛ, выразна абазначаных у «Маніфесце Богу, свету і Айчыне яснавяльможным ягамосцем панам Казімірам Янам, графам на Быхаве, Заслаўі і Дуброўне Сапегам, ваяводам да ўсеагульнага ведама пададзеным»[50].

Як лічыць М. Нікалаеў, «значэнне культурна-творчай дзейнасці прадстаўнікоў роду Сапегаў у сярэдзіне XVIII ст., у прыватнасці віленскага епіскапа Іосіфа Станіслава, самагіцкага (жмуцкага) епіскапа Паўла Бернарда, падканцлера ВКЛ Яна Фрыдэрыка, можна супаставіць

хіба што з дзейнасцю братоў Залускіх у суседняй Польшчы»[51].

Пры гэтым яскравы след у дзеях славутага роду пакінулі не толькі прадстаўнікі мужчынскай лініі, але і жанчыны. Сярод апошніх называюць імя жонкі канцлера ВКЛ Яна Фрыдэрыка Канстанцыі Сапегі з Радзівілаў, якая жыла з 1731 г. у Кодані і на працягу ўсяго жыцця збірала і памнажала свой кнігазбор, пры гэтым маркіравала яго ўласным экслібрысам, які завяла, відаць, па падказцы мужа. Устаноўлена, што бібліятэка Канстанцыі Сапегі складала 630 назваў. Праўда, у асноўным гэта рэлігійная літаратура і папулярныя творы для непатрабавальнага чытача ў духу першай паловы XVIII ст.[52]

На гэтым фоне асабліва значнай ў культуры Беларусі бачыцца яскравая постаць Ганны Паўліны Ябланоўскай (1728–1800) з Сапегаў, старэйшай дачкі Казіміра Лявона, генерала літоўскай артылерыі, старасты анікштынскага і волпаўскага, і Караліны з Радзівілаў.

Бацька Ганны нечакана памёр, калі ёй было ўсяго 10 гадоў. Сваё новае прозвішча яна атрымала па мужу Яну Каэтану Ябланоўскаму, дваюраднаму брату яе айчыма Юзафа Аляксандра, стваральніка славутай Акадэміі Ябланоўскіх у Лейпцыгу, надзвычай адукаванага чалавека, аўтара шматлікіх навуковых прац, які актыўна спрыяў адукацыі і станаўленню асобы будучай асветніцы і рэфарматаркі.

Дапытлівы розум, моцны валявы характар, зацікаўленасць палітыкай абумовілі яе актыўны ўдзел у справах Барскай канфедэрацыі 1768 г., у падрыхтоўцы патрыятычных паўстанцкіх акцый шляхты, мяшчан і сялян у Львове, на Падляшшы і ў Літве, дзе ўзмацнялася барацьба супраць ваеннай інтэрвенцыі Расіі за аднаўленне незалежнасці краіны.

Важную частку яе жыццёвай і творчай біяграфіі складае гаспадарчая і навукова-асветніцкая дзейнасць, якую яна разгарнула ў сваіх уладаннях. Так, напрыклад, у сваіх маёнтках яна разумна ўрэгулявала адносіны сялян з дваром, памер падаткаў, увяла 50-гадовую арэнду зямлі.

Свой багаты практычны вопыт гаспадарання і назіранні над грамадскім адносінамі на вёсцы яна абагуліла ў падрыхтаваных ва ўласнай друкарні ў Сямяцічах навукова-асветніцкіх працах. Такіх, напрыклад, як «Настаўленні для ўпраўляючых маімі маёнткамі» (1783–1785), «Кніга для Дворніка Скамароўскага фальварку на 1776 год», «Каляндар месячных прац агародніка» (1786), якія ўтрымлівалі розныя карысныя звесткі, парады і настаўленні, датычныя абавязкаў розных адміністрацыйных і гаспадарчых службоўцаў, агранамічныя парады аб утрыманні палёў, сяўбе, жніве, бортніцтве, лясной гаспадарцы, паляваннях і г.д.

Ганна Паўліна сабрала і ўтрымлівала ў Сямяцічах вялікую бібліятэку, стварыла кабінет натуральнай гісторыі, які з'яўляўся адной з найвялікшых калекцый ў Еўропе XVIII стагоддзя[53]. А. Кіркор дадае ў «Жывапіснай Расіі», што ў Сямяцічах, акрамя друкарні і музея

натуральнай прыроды, існавалі яшчэ фізічны і нумізматычны кабінеты, музей старажытнасці і памятных рэдкасцей, якія пасля смерці княгіні ў 1800 г. былі набыты па загаду імператара Аляксандра для пецярбургскіх кабінетаў і музеяў. А таксама паведамляе, што княгіня Ябланоўская клапацілася аб дабрабыце сялян: заводзіла ў сваіх уладаннях вясковыя касы ўзаема дапамогі, хлебныя крамы, заахвочвала развіваць абшчыннае бортніцтва, а каб зменшыць смяротнасць сярод цяжарных жанчын і дзяцей, заснавала школу для павітух[54].

Аднак традыцыйная арыстакратычная культура магнацкіх рэзідэнцый, шляхецкіх фальваркаў і двароў Сапегаў, як і іншых буйных арыстакратычных родаў Літвы і Беларусі, дажывала ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. свае апошнія часы, несла на сабе выразныя сляды ўпадку і адмірання.

Культура Асветніцтва і прагматызм новай буржуазнай эпохі рэзка кантраставалі з усім папярэднім вопытам і традыцыямі жыцця арыстакратычных сем'яў і дынастый. Жыццёвы і культурны злом узмацняўся стратай незалежнай дзяржавы і, адпаведна, стратай старадаўняй арыстакратыяй сваёй эканамічнай і палітычнай вагі, ранейшага прывілеяванага становішча ў дзяржаве і грамадстве. Знайсці сваё месца ў новых умовах, быць карыснымі і патрэбнымі свайму народу і радзіме, паспрабаваць асэнсаваць і спалучыць вопыт папярэдніх пакаленняў з патрэбамі і поступам новага часу і для Сапегаў аказалася справай няпростай.

Дарэчы, згаданы Я. Тазбірам у прадмове да «Дому Сапяжанскага» эпізод з Казімірам Нестарам Сапегам, які пісаў з Парыжа сваёй маці Альжбеце з Браніцкіх, каб прадала старую бібліятэку, паколькі ён збірае сабе новую ў Парыжы, сведчыць не толькі «пра імкненне маладога гаспадара да новых каштоўнасцей праз адмаўленне старога»[55], але і пра пэўны крызіс традыцыйных родава-сямейных сувязей унутры сямейства Браніцкіх, дзе сапяжанская традыцыя ў сувязі з ранняй смерцю бацькі, ваяводы мсціслаўскага Яна Сапегі (бацька памёр, калі Казіміру Нестару споўнілася ўсяго 8 месяцаў), не паспела ўкараніцца.

Зрэшты, нам невядома, як паставілася маці да прапановы сына і ці не быў гэты «выбрык» шаснаццацігадовага маладзёна толькі літаратурным практыкаваннем, яскравай мастацкай гіпербалай юнака, які ў свае маладыя гады ды і пазней быў схільны да эпатажу і моцных выразаў.

Казімір Нестар Сапега (1757–1814), генерал літоўскай артылерыі, маршалак літоўскай канфедэрацыі ў часе Чатырохгадовага сойма, паэт, нарадзіўся 14 лютага 1757 г. у Берасці. Быў ён асобай ва ўсіх адносінах неардынарнай і самабытнай. Вучыўся ў рыцарскай школе ў Варшаве, затым па рэкамендацыі і пратэкцыі караля Станіслава Аўгуста выехаў для працягу адукацыі за мяжу. Вучыўся ў вайсковай акадэміі ў Турыне, пасля ў Парыжы і Страсбургу, дзе навучаўся танцам, фехтаванню,

музыцы, дасканала авалодаў італьянскай і французскай мовамі, спасцігаў фізіку, хімію, архітэктуру, вывучаў гісторыю, ваенную фартыфікацыю, практыкаваўся ў артылерыйскіх стрэльбах.

Захопленасць свецкім Парыжам і яго куртуазнымі забавамі, асветніцкі касмапалітызм і неабачлівая заангажаванасць у дзейнасці масонскіх ложаў Парыжа і Варшавы «Вялікі Усход», відаць, і сапраўды на кароткі час прыглушылі ў маладым арыстакраце пачуццё каштоўнасці ўласнай культуры і родавай духоўна-гістарычнай спадчыны.

Радзіма не адразу астудзіла маладую, гарачую галаву. Па вяртанні ў Літву, дзе ў сваю адсутнасць Казімір Нестар быў намінаваны на генерала літоўскай артылерыі, стаў камандорам Мальтузіянскага Ордэна і нават узнагароджаны 13 студзеня 1774 г. ордэнам святога Станіслава, за свой юны ўзрост для такіх высокіх адзнак і пагулянкі быў высмеяны ў вострым памфлеце паэта Каэтана Венгерскага «Кепскі час, а не я». Езуіт Губерт Ваўтрын, наняты маці для навучання сына праву, характарызаваў свайго вучня як «крыклівага ветрагона, які страціў колькі год маладосці ў дурным парыжскім атачэнні». Ды і пазней, апынуўшыся ў сойме, сябра Пастаяннай рады неаднойчы станавіўся мішэнню для пякучых сатыр і эпіграм з боку паэтаў Г. Калантая, Ф. Язерскага, Ф. Заблоцкага і інш.

Казімір Нестар і сам быў надзелены шматлікімі талентамі, вёў дзённік, спрабаваў перакладаць з французскай мовы. Цікавую рэч уяўляюць яго лісты да маці з Парыжа з яскравымі падрабязнасцямі жыцця, быту, забаў і ўражанняў юнака, якія пазней былі апублікаваны І. Крашэўскім пад назвай «Лісты князя Нестара Сапегі, пісаныя да маці ў 1773, 1774, 1775, 1776 гг. з падарожжа за мяжу» ( Вільня, 1851). Іграў у аматарскім тэатры Магдалены Сапяжыны ролю Арэста ў п'есе «Андрамаха». Як паэт ён стаў вядомы, дзякуючы вершам і ідылічнай сялянцы «Mitryl i Tyrsis» (1782), прысвечанай яго каханай і будучай жонцы Ганне з Сангушкаў. Цікава, што ў гэтым творы паэт, асоба якога прадстаўлена ў вобразе пастушка Тырсіса, выразна сведчыць, што ў ягоных жылах цячэ кроў Палямона, ад якога не толькі Сангушкі і Радзівілы, але і Сапегі стараліся вывесці свой радавод[56].

Казімір Нестар быў асобай незвычайна адоранай, экстравагантнай, часам авантурнай у сваіх дзеяннях, учынках. Разам з тым, у палітычным і грамадскім плане, гэта быў надзвычай актыўны чалавек, патрыёт і грамадзянін Рэчы Паспалітай і ВКЛ, які ў часе Чатырохгадовага сойма 1788–1792 гг. цвёрда стаяў на пазіцыях незалежнасці і абароны Айчыны. Меў выключны талент прамоўцы, за час сваёй працы ў сойме Рэчы Паспалітай 760 разоў выступаў з прамовамі ў пасольскай палаце. Пазіцыю Казіміра Нестара адносна трэццямайскай Канстытуцыі 1791 г. і смелыя выказванні на сойме 24 ліпеня 1792 г. аб арганізатарах і прыхільніках Таргавіцкай канфедэрацыі, што «бунтаўнікі не належаць

да нацыі», вітаў тысячны натоўп варшавян[57].

Ён цвёрда адстойваў таксама прынцып свабодных выбараў, выказваўся за прыняцце пасламі прысягі, што не бралі і не будуць браць грошы ад чужых урадаў, папярэджваючы такім чынам спробы подкупу і палітычнага заангажавання з боку розных палітычных сіл і акупацыйных уладаў. 12 ліпеня 1790 г. насуперак апанентам выказваўся ў сойме за хутчэйшы разгляд праекта аб упарадкаванні ўніяцкага касцёла, звяртаючы ўвагу на значэнне гэтага пытання для бяспекі дзяржавы. Падтрымліваў таксама праект увядзення ўніяцкага мітрапаліта ў сенат.

Сярод сабранай ім на працягу жыцця вялізнай бібліятэкі біёграфы адзначаюць тры з паловай тысячы кніг на замежных мовах. Сярод іх несумненна былі не толькі сабраныя ім у Парыжы кнігі вайсковай тэматыкі, падручнікі па фізіцы, матэматыцы і механіцы, пра што ён пісаў у лістах да маці[58], але і лёгкія французскія бульварныя раманы, да якіх ён меў цікавасць.

Прыватнае, асабістае жыццё Казіміра Нестара Сапегі і сапраўды як бы спісана з авантурных любоўна-прыгодніцкіх раманаў яго «новай» бібліятэкі. Можна сумнявацца, ці былі ў ёй кнігі са спадчынных сямейных збораў, але адно можна сказаць пэўна: сталая палітычная і грамадзянская дзейнасць Казіміра Нестара Сапегі як сябра Пастаяннай рады і маршалка канфедэрацыі ВКЛ, абранага на Чатырохгадовым сойме, падтрымка Канстытуцыі 3 мая 1791 г. і чынны ўдзел у паўстанні Тадэвуша Касцюшкі даюць усе падставы, каб ацэньваць яго жыццё паводле зусім іншага наміналу, а менавіта – вагою «старых папер» з бацькавай бібліятэкі.

Апошнім буйным бібліяфілам і яркім прадстаўніком культуры Асветніцтва на землях Беларусі быў Аляксандр Антоні Сапега (1773–1812), сын літоўскага крайчага Юзафа і Тэафіліі з Ябланоўскіх.

Будучы вучоны, палітык, падарожнік нарадзіўся 3 верасня 1773 г. у Страсбургу, куды бацькі эмігрыравалі пасля ўпадку Барскай канфедэрацыі. Першыя гады жыцця правёў у Францыі. Вярнуўшыся з бацькамі ў 1776 г. на радзіму, рос і выхоўваўся ў маёнтках сваёй знакамітай цёткі Ганны Ябланоўскай з Сапегаў – пераважна ў Сямяцічах і Коцку. Пад уплывам яе асобы і дзякуючы створанаму ёю у Сямяцічах выдатнаму навукова-асветніцкаму і культурнаму асяродку з музеем натуральнай прыроды і навуковымі кабінетамі сфарміраваліся яго навуковыя зацікаўленні і творчыя інтарэсы.

Настаўнікамі, дарадцамі і сябрамі Аляксандра Сапегі былі вядомы вучоны-геолаг Станіслаў Сташыц, Юзаф Асалінскі, дуброўніцкі паэт Марка Бруяровіч. Апошні ўганараваў вучонага панегірыкам «Князю Сапегу» (апублікаваны ў 1855 г. у часопісе «Slavonic»). Асабліва вялікі ўплыў на станаўленне і накірунак яго навуковых пошукаў аказаў Жан Жылібер, прафесар прыродазнаўчых навук у Галоўнай школе ў Вільні, з

якім А. Сапега падтрымліваў сталыя сувязі.

У 1800 г. Аляксандр Антоні па рэкамендацыі Сташыца становіцца сябрам Таварыства сяброў навук у Варшаве, на пасяджэннях якога знаёміў калег з сваімі навуковымі працамі і рабіў справаздачы. Вынікі некаторых яго хімічных доследаў прадстаўлены ў артыкулах «Аб лімонным квасе», «Аб жалезе», надрукаваных у «Новым дзённіку варшаўскім» (1802 г., т. 5).

Выдатны вучоны-натураліст і этнограф меў шырокае кола навуковых інтарэсаў, грамадска-палітычных і культурных захапленняў. Даследаваў геалогію Польшчы, Украіны, Беларусі ў аспекце мінералогіі скалістых утварэнняў і глебаў, цікавіўся этнаграфіяй і фальклорам славян. Прыгатаваў вельмі важную для суайчыннікаў працу «Табліца суадносін паміж новымі французскімі мерамі і вагамі і літоўскімі і польскімі» (Варшава, 1802).

Важным укладам у славяназнаўства з’явілася ягоная кніга «Падарожжы па краях славянскіх, здзейсненыя ў 1801, 1803 г. князем Сапегам» (Вроцлаў, 1811). У гэтых падарожных нататках, пададзеных у форме лістоў да прыяцеля, ім былі выкладзены не толькі навуковыя звесткі аб геалогіі, этнаграфіі, даўніх вераваннях і песнях, але і зроблены замалёўкі штодзённага быту балканскіх славян. Пры гэтым аўтар працы ў духу натуральнай філасофіі Ж.Ж. Русо і новых рамантычных павеваў быў схільны ідэалізаваць натуральнае і простае сялянскае жыццё на ўлонні прыроды.

Спрыяў развіццю навукі і асветы, прызначыў 5000 польскіх злотых на ўтрыманне бібліятэкі Таварыства, якой падараваў у 1804–1805 гг. 4500 кніг, аснову якіх склаў колішні кнігазбор Яна Фрыдэрыка ў Кодані.

Аляксандр Антоні быў прыхільнікам Напалеона І Банапарта, знаходзіўся ў яго бліжэйшым атачэнні і выконваў розныя даручэнні ў якасці ад’ютанта. У 1807 г. арганізаваў яго побыт і знаходжанне ў Варшаве. Звязваў з Напалеонам надзеі на адраджэнне ВКЛ і Рэчы Паспалітай. У 1812 г. увайшоў у склад Часовай літоўскай камісіі, узначаліўшы ў ёй вайсковы аддзел. Быў узнагароджаны вышэйшай узнагародай Францыі – ордэнам Белага Арла Ганаровага Легіёна.

Палюючы ў Белавежскай пушчы, Аляксандр Сапега быў выпадкова паранены дзікім кабаном[59]. Памёр ад скорацечнай гангрэны 8 верасня 1812 г. у Дзярэчыне, у рэзідэнцыі Францішка Сапегі, якая стала апошнім прытулкам выдатнага вучонага і асветніка. І гэтая нечаканая смерць Аляксандра Сапегі ў дзярэчынскім палацы Францішка Сапегі, дзе на момант зноў сышліся, з’ядналіся ў няшчасці прадстаўнікі абедзвюх галін калісьці магутнага сапяжанскага роду, стала для арыстакратычных магнацкіх палацаў і іх насельнікаў як бы сімвалічным знакам бяды, якую несла новая эпоха.

Эпіграфам да характарыстыкі гэтага перыяду могуць паслужыць

словы згаданага ўжо Адама Кіркора аб колішніх рэзідэнцыях Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне: «Гэта былі галоўныя сядзібы. Тут канцэнтравалася маладое і старое шляхецтва, было месца апошнім пробліскам рыцарскай адвагі, высокім хрысціянскім дабрачыннасцям, амаль легендарнай славянскай гасціннасці і адначасна дзікаму, неўтаймаванаму свавольству, самаўпраўству і дэспатызму. <...> Гэтыя княжацкія палацы былі ўвасабленнем свайго веку: ад высокага і прыгожага да самага нізкага і варварскага. Тут спалучаліся паэзія і буйныя оргіі, амаль бяспрыкладныя і самаадданыя праявы сапраўднага патрыятызму і самаўпраўства, прага навукі і мастацтва і побач з імі невуцтва, якое дазваляла катаванне чараўніц і іхняе спальванне. Усё тут было пераблытана, а ацалелыя дзе-нідзе бібліятэкі і архівы, якія, трэба аддаць належнае, утрымліваліся ва ўзорным парадку, наглядна знаёмяць нас з жыццём, норавамі, звычаямі, адукацыяй і забабонамі гэтых канстытуцыйных эміраў, гэтай гордай сваімі вольнасцямі шляхты і беднага, прыніжанага народа»[60].

Час пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, узрушаны паўстаннямі 1794 і 1830–31 гг., аказаўся нелітасцівы да культурнай спадчыны Сапегаў. У канцы XVIII – першай трэці XIX ст. прыйшлі ў заняпад, былі прададзены або секвестраваны колішнія рэзідэнцыі Сапегаў у Ружанах, Кодані і Дзярэчыне. Канфіскаваны і вывезены ў Пецярбург архіў і багатыя кніжныя зборы, мэбля і карцінныя галерэі Сапегаў з дзярэчынскага палаца.

Апошні акт трагедыі і гібелі палацавай культуры Беларусі на прыкладзе рэзідэнцый Сапегаў у Ружанах і Дзярэчыне, а таксама лёсу іх апошніх уладароў – князёў Францішка Сапегі і яго сына Яўстаха падрабязна і па-мастацку яскрава апісаў М. Скобла ў сваёй кнізе «Дзярэчынскі дыярыюш»[61]. Шляхі пакутных вандраванняў культурнай спадчыны Сапегаў, лёс сапяжанскіх бібліятэк і архіваў прасочаны ў навуковых публікацыях А. Мальдзіса, Г. Галенчанкі, М. Нікалаева, А. Грушы, М. Яніцкай і іншых беларускіх даследчыкаў.

Аглядаючы з дыстанцыі часу творчы набытак роду, добра бачна, што далёка не ўсё створанае Сапегамі ў папярэднія вякі прайшло выпрабаванне часам, які адпрэчыў ці паставіў пад сумненне многія ідэалы і каштоўнасці арыстакратычнай культуры пануючага магнацка-шляхецкага класа. Працэсы станаўлення новых еўрапейскіх нацый актуалізавалі цікавасць і ўвагу да каштоўнасцей народнай культуры, прывялі да ўзнікнення новага мастацкага напрамку – рамантызму з яго культам фальклору і цікавасці да гісторыі. Запатрабаванымі засталіся тыя постаці і тыя традыцыі, якія адпавядалі ідэалам сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа, патрэбам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння і духоўна-культурнай эмансіпацыі і самасцвярджэння беларусаў як годнай і самадастатковай нацыі.

Эпоха рамантызму, час рэвалюцый і магутных нацыянальна-вызваленчых рухаў канца XVIII – XIX ст. беспамылкова выбралі сярод Сапегаў свайго героя, вызначыўшы асаблівае, выключнае месца ў пошуках беларусамі-ліцвінамі свайго новага шляху і свайго законнага месца ў гісторыі еўрапейскіх народаў асобы і духоўнай спадчыны канцлера ВКЛ Льва Сапегі.

Чытаючы ў Каледж дэ Франс у Парыжы лекцыі па гісторыі славянскіх літаратур, А. Міцкевіч нездарма згадваў Статут 1588 года ў ліку найбольш выдатных культурных здабыткаў беларускага народа: «… Літоўскі Статут напісаны іхняй мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моваў найменш зmененай <…> У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі»[62].

Як сведчаць сучаснікі, асабліва захапляла і натхняла А. Міцкевіча яскравая постаць самога Льва Сапегі – аднаго са стваральнікаў і аўтараў славутага кодэкса, выдатнага палітыка і дзяржаўнага дзеяча, сапраўднага інтэлектуала сваёй эпохі, які пакінуў глыбокі след у гісторыі і культуры ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Блізкі таварыш і сябра паэта Мікалай Маліноўскі ўспамінаў аб тым, як «24 снежня 1827 г. Міцкевіч святкаваў свой дзень нараджэння і быў папрошаны аб імправізацыі наконт вядомай постаці ВКЛ князя Льва Сапегі. Імправізацыя вылілася тады ў пахвальны гімн у гонар даўняй Літвы. Ліст з уражаннямі аб гэтай імправізацыі дайшоў да ліцвінаў, што жылі ў Варшаве і выклікаў сярод іх надзвычай жывы водгук»[63].

Цікавыя падрабязнасці гэтай святочнай імпрэзы, у якой ўдзельнічаў увесь квет ліцвінскай і польскай моладзі, прысутнай тады ў Пецярбурзе, М. Маліноўскі прыводзіць у сваім дзённіку. Аказваецца, што сярод больш як 30 удзельнікаў святкавання было шмат сяброў і знаёмых А. Міцкевіча па Віленскім універсітэце – Восіп Пшэцлаўскі, Аляксандр Парчэўскі. У тым ліку, колішнія філаматы і філарэты, высланыя ў Расію, як сам М. Маліноўскі, Ф. Малеўскі, Я. Сабалеўскі, А. Ходзька, а таксама К. Залескі, І. Янушэўскі, Я. Хэйдатэль, А.Крушчынскі і інш. Асаблівую пікантнасць святкаванню надавала прысутнасць сярод гасцей маладога князя Лявона Сапегі (1803-1878), які, па словах М. Маліноўскага, «вызначаўся як высакародным паходжаннем, так і вытанчанымі манерамі». Менавіта ён і «папрасіў найвялікшага нашага паэта што-небудзь з'імправізаваць. Той запатрабаваў тэму; у той жа момант усе ў адзін голас закрычалі, каб ушанаваў пахвалою знакамітага мужа, Вялікага Канцлера Літоўскага Льва Сапегу»[64].

Натхнёная імправізацыя паэта, захопленага выдатнай асобай канцлера, велічнай і слаўнай гісторыяй даўнейшай Літвы, «якая з пункту гледжання ваеннай славы нікому не ўступала і адсюль параўнана магла быць з старажытнасцю», літаральна выклікáла ў прысутных стан узнёслай патрыятычнай экзальтацыі, так што «у най-

больш прыгожых месцах усе, узрушаныя і ахопленыя якімсьці дзівосным запалам, міжволі ўскрыквалі і як бы папярэдне змовіўшыся, паўтаралі за ім цэлыя строфы»[65]

Апафеозам імправізацыі стала тое месца ў выкананні паэта, дзе кароль Рэчы Паспалітай Жыгімонт III Ваза аб'явіў аб прысуджэнні вышэйшай узнагароды таму, хто найлепей паслужыў айчыне. І хоць сярод ахвотных засведчыць свае заслугі было шмат вартых узнагароды палітыкаў і ваяроў, усім стала зразумела, хто выйдзе пераможцам, калі «Леў Сапега са Статутам Літоўскім у руцэ, праціснуўшыся праз натоўп, сабраны каля высокага каралеўскага трону, і атрымаўшы слова, адкрыта засведчыў, што заслугоўвае першую ўзнагароду. І калі выказаў яшчэ выдатную пахвалу добрым законам, калі доказна паказаў, колькі дабра і карысці чакае Рэч Паспалітую пад аховаю законаў і колькі няшчасця праз іх занядбанне, тут жа кароль пад адабрэнне усіх прысутных і нават супернікаў Сапегі ўзнагародзіў яго і ўганараваў пячаткай канцлера»[66].

Цікава звярнуць увагу на паводзіны і рэакцыю ключавых дзеючых асобаў імпрэзы на створаны А. Міцкевічам вобраз канцлера Л. Сапегі і даўняй Літвы. У прыватнасці, на рэакцыю маладога князя Лявона Сапегі, які, «па заканчэнні імправізацыі, заключыў паэта ў абдымкі і колькі разоў пацалаваўшы яго, выказаў яму сваю дасконную удзячнасць».

У цэлым адчуванні і перажыванні маладога Сапегі цалкам зразумелыя і прадказальныя: тут спрацавалі найперш асабістыя родавадынастычныя сувязі і дачыненні, пачуццё роднай гісторыі і агульных духоўных каранёў, якія звязваюць двух прадстаўнікоў знакамітага роду.

Бліскучая імправізацыя паэта, экзальтаваная атмасфера ліцвінскага пабрацімства, выкліканая зваротам паэта да гістарычнага вобраза Льва Сапегі і колішняй Літвы, своеасабліва падзейнічалі на А. Арлоўскага: мастак «схапіў пэндзлік і ў адно імгненне намаляваў грознага льва, які нёс шчыт, на якім родавы знак ці герб Сапегі зіхацеў бліскучым святлом. З хмар вока Боскага Промыслу асвятляе шчыт залатымі промнямі, на зямлі ляжыць кінуты шлем, у якім ціўкае малы белы арол. Акрамя таго, меч і кап'ё скрыжаваны»[67].

Як бачым, прыглушаная агульным няшчасцем разабранай айчыны старая ідэя дамінацыі і суперніцтва Літвы і Польшчы, палякаў і ліцвінаў, абароны нацыянальных інтарэсаў ВКЛ, на варце якіх некалі цвёрда стаяў Леў Сапега, сама сабой нікуды не знікла і ў XIX стагоддзі па-ранейшаму складала важны фактар гістарычнай самасвядомасці ліцвінаў.

Зрэшты, малюнак А. Арлоўскага (улічваючы кантамінацыю прозвішча мастака і малога белага арла), падараваны маладому князю, несумненна, быў яшчэ і выявай глыбокай асабістай пашаны мастака да велічнай асобы канцлера і ягоных духоўных нашчадкаў .

Памяць пра Л. Сапегу і знакаміты сапяжанскі род, іх уклад у палі-

тычную гісторыю і культуру Рэчы Паспалітай і ўсёй Еўропы праз стагоддзі захоўвалася, перадавалася вусна і праз пісьмовыя і друкаваныя крыніцы, культавыя пабудовы, кнігі і сямейна-побытавыя рэліквіі, што дайшлі з даўнейшых эпох.

У XIX ст. жывымі носьбітамі духоўных традыцый Льва Сапегі на колішніх землях ВКЛ і ў Польшчы заставаліся яшчэ нашчадкі знакамітага роду, напрыклад, той жа Лявон (Леў), сын Аляксандра Антонія Сапегі, які быў блізкі да кола пецярбургскіх сяброў А. Міцкевіча, спадкаемца дзярэчынска-ружанскіх уладанняў Францішка Сапегі, ягоны сын Яўстах Каэтан, удзельнік паўстання 1830-1831 гг. і інш. Адукаваная шляхецкая эліта беларуска-літоўскага грамадства, часткова ўжо спольшчаная або зрусіфікаваная, тым не менш, пільна зберагала памяць аб мінулым, перахоўвала жывыя сведчанні гісторыі і духоўныя традыцыі продкаў.

Як бачым, для ліцвінскай эліты ў цэлым было характэрна ўсведамленне высокай каштоўнасці спадчыны Л. Сапегі для краю. І гэта нягледзячы на пазнейшыя войны, якія магнацкая групоўка Сапегаў вяла супраць шляхты ў апошняй чвэрці XVII – пачатку XVIII ст.

Асаблівае месца ў пашанотным спісе заслуг канцлера перад айчынай заняла важнейшая праца Льва Сапегі – завершаны пад яго кіраўніцтвам, адрэдагаваны і выдадзены ўласным коштам трэці звод законаў ВКЛ – Літоўскі Статут 1588 г., да якога ён уласнаручна напісаў у Берасці дзве выдатныя публіцыстычныя прадмовы.

Прыклад жыцця Вялікага Канцлера, яго адданае служэнне радзіме і дзяржаве, яркая палітычная і літаратурна-публіцыстычная дзейнасць, звязаная з абаронай незалежнасці і суверэнітэту дзяржавы, наўпрост спрычыніліся да фарміравання ў свядомасці маладога пакалення патрыятычнага культу даўнейшай Літвы, а само імя Льва Сапегі стала ўспрымацца неадлучна ад Статута 1588 г. – як супольны сімвал духоўнай самастойнасці і асобнасці гістарычнага лёсу ліцвінаў, іх адданасці ідэям свабоды і вяршэнства закону, якімі прасякнуты змест знакамітага помніка.

Спадчына Л. Сапегі і ягоны вобраз застаюцца жывым і дзейсным фактарам грамадскай думкі, культуры і літаратуры Беларусі і ў другой палове XIX стагоддзя – напярэдадні і пасля паўстання 1863-64 гг. пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага.

Праўда, калі ў гутарцы У. Сыракомлі «Хадыка» (1847) «Сапега вяльможны… гетман літоўскі», які прыехаў з сынамі ў пушчу паляваць на мядзведзяў, паўстае ў вобразе магутнага ўладарнага феадала і казачнага багацея, дык паўстанцу 1863 г. Ф. Багушэвічу ў прадмове да «Дудкі беларускай» (1891г.) герой бачыўся найперш праз прызму ягоных дачыненняў да «старых папераў па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі, а нашай мовай

чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася»[68].

М. Шкялёнак пісаў, што «эпоха Сапегі астанецца назаўсёды ў гісторыі беларускага народу і яго культуры залатой парой, а магутная постаць Вялікага Канцлера будзе усьцяж яскравым доказам вялікіх творчых сілаў, укрытых у беларускім народзе»[69].

Па-рознаму складваліся лёсы духоўных нашчадкаў, сваякоў і родзічаў Льва Сапегі, неаднолькавымі паводле вынікаў і ўплыву на ход гісторыі былі маштаб і значэнне здзейсненага імі ў XVII і XVIII стст., а таксама ў пазнейшыя часы – пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Аднак было, ёсць і застаецца тое, што робіць гэты род адзіным, цэласным і па-сапраўднаму вялікім у гісторыі і культуры Беларусі і іншых народаў-спадкаемцаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, – гэта патрыятычны дзяржаўніцкі змест і характар іх учынкаў, дзей і памкненняў, нязменная гуманістычная прырода і сутнасць іх духоўна-культурнай спадчыны, адданасць ідэалам свабоды і прававой дзяржавы.

Прайшоўшы праз цяжкія выпрабаванні часу, трагедыю страчанай айчыны і эміграцыі яго прадстаўнікі не заплямілі сябе злачынствамі, калабарацыянізмам, подласцю. З годнасцю прымаючы на сябе ўдары лёсу, яны захавалі ў сабе пачуццё радзімы і Бацькаўшчыны, веру ў чалавека і яго высокае прадвызначэнне. І гэты чалавечы і грамадзянскі знак Сапегаў ёсць, бадай што, найважнейшай аздобай і кляйнотай іх амаль шасцісотгадовай прысутнасці ў гістарычным лёсе і культуры беларускага народа.

## СПАСЫЛКІ

[1] Dom Sapieżyński / opr. E. Sapieha. Warszawa: Wydawnictwo Naukowe PWN, 1995. s. 9.

[2] *Кароткі У. Г.* «Песня пра зубра» – помнік элітарнай пісьмовай культуры Беларусі, „Літаратура і мастацтва” 2004, 27 жніўня.

[3] *Rachuba A.* Heraldyka sapieżyńska, (w:) Dom Sapieżyński, s. 42-47; Герб «Ліс» // Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя: у 2 т. Мінск, 2006. Т. 2. С. 199-200.

[4] *Грыцкевіч А.* Сапегі, Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Мінск, 2001. Т. 6, кн. 1. С. 223.

[5] Памятники русской старины в западных губерниях. Санкт-Петербург, 1885. Вып. 7. С. 249 ; *Чаропка В.* Уладары Вялікага княства, 2-е выд., дап. Мінск : Беларусь, 2002. С. 329.

[6] *Rachuba A.* Heraldyka sapieżyńska,// Dom Sapieżyński … S. 37.

[7] *Kognowicki K.* Życia Sapiehow y listy od monarchow, książąt y rożnych panujących do tychże pisane. W 3 t. T. 1, Wilno, 1790. S. 17.

[8] *Грыцкевіч А.* Старонкі нашай мінуўшчыны, Мінск: Кнігазбор, 2009. С. 107.

[9] *Sapieha E.* Sapiehowie czerejsko-różańscy, // Dom Sapieżyński … C. 21.

[10] Dom Sapieżyński … C. 61–125.

[11] *Tazbir J.* Wstęp,// Dom Sapieżyński … S. 14.

[12] *Лазутка С.* Лев Сапега и третий Литовский Статут / С. Лазутка // Леў Сапега (1557–1633) і яго час : зб. навук. арт. Гродна, 2007. С. 82.

[13] *Лазутка С.* Леў Сапега (жыццё, дзяржаўная дзейнасць, палітычныя і філасофскія погляды), пер. з літ. В. Люкевіча ; пад рэд. Я. Я. Іванова // Край=Kraj. 2004. № 1/2. С. 12–13.

[14] *Tazbir J.* Wstęp, // Dom Sapieżyński … S. 14.

[15] Тамсама. С. 15.

[16] Гл.: *Гарэцкі М.* Гісторыя беларускай літаратуры, Вільня, 1920. С. 38; *Шкялёнак М.* Леў Сапега, // Спадчына. 1991. № 1. С. 78; *Саверчанка І. В.* Канцлер Вялікага Княства: Леў Сапега, Мінск, 1992; *Грыцкевіч А.* Старонкі нашай мінуўшчыны, Мінск : Кнігазбор, 2009. С. 107.

[17] *Лазутка С.* Леў Сапега,, op.cit. С. 97–100.

[18] Dom Sapieżyński … С. 629–692.

[19] Тамсама. С. 693–695.

[20] *Lulewicz H.* Dymitr, // Dom Sapieżyński … С. 156.

[21] Sapiehowie : materiały historyczno-genealogiczne i majątkowe. W 3 t. T. 1. Petersburg, 1890. С. 406.

[22] *Rachuba A.* Jan Piotr, // Dom Sapieżyński … С. 224.

[23] *Нікалаеў М. В.* Гісторыя беларускай кнігі. У 2 т. Т. 1, Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2009. С. 283.

[24] Цыт. па: *Кісялёў Г.* Героі і музы: Гіст.-літ. нарысы, Мінск, 1982. С. 28.

[25] *Kognowicki K.* Życia Sapiehow, op.cit., T. 1… S. 23.

[26] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1959. С. 191.

[27] *Саверчанка І. В.* Канцлер Вялікага Княства … С. 11.

[28] *Шкялёнак М.* У трохсотныя ўгодкі сьмерці Вялікага канцлера Льва Сапегі», // Спадчына. 1991. № 1. С. 64.

[29] *Kognowicki K.* Życia Sapiehow, op.cit., S. 38.

[30] *Сапега Л.* Зварот да усіх саслоўяў, пер. з старабел. А. Разанаў // Крыніца. 1995. № 1/2. С. 3.

[31] Тамсама, С. 4, 6.

[32] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мінск: БелСЭ, 1989. С. 47–48.

[33] *Пушкин А. С.* Собрание сочинений. В 10 т. Т. 9. Дневники, воспоминания, Москва: Правда, 1981. С. 183–184.

[34] *Галенчанка Г.* Метрыка Вялікага княства Літоўскага, //Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя : у 2 т. Мінск, 2006. Т. 2. С. 304–305.

[35] *Дубоніс А.* Праблемы Літоўскай Метрыкі: погляд з Вільнюса, // Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 2003. Т. 2. С. 19.

[36] Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI – першая палова XVIII стагоддзя / НАН Беларусі, Ін-т літ. імя Я.Купалы. Мінск, 2003. С. 691.

[37] *Szwejkowska H.* Książka drukowana XV–XVI wieku: zarys historyczny, Wrocław, Warszawa, 1983. C. 49.

[38] *Грыцкевіч А.* Сапегі … С. 224.

[39] Braziūnienė A. Bibliotheca Sapiehana as a mirror of European culture of the Grand Duchy of Lithuania, // Bibliotheca Sapiehana.Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinus Katalogas. Vilnius: Lietuvių literatūros ir tautosakos institutas, 2010. P.

XXVII- XXVIII.

[40] Bibliotheca Sapiehana.Vilniaus universiteto bibliotekos rinkinus Katalogas / sudarė Aušra Rinkūnaitė. Vilnius: Lietuvių literatūros ir tautosakos institutas, 2010. С. 286–287.

[41] *Лазутка С.* Леў Сапега…op.cit., С. 82–83, 87; *Праневіч Г. М.* Берасце і Літоўскі Статут 1588 г.: нараджэнне маніфеста свабоды, // Берасцейскія кнігазборы: матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання» (Брэст, 30–31 кастрычніка 2008 г.). Брэст, 2010. С. 454–457.

[42] *Баўтовіч М.* Асоба канцлера Льва Сапегі (паводле ліста ад 12.03.1623 г. да полацкага архібіскупа Іасафата Кунцэвіча), // Леў Сапега (1557–1633) і яго час: зб. навук. арт. Гродна, 2007. С. 82.

[43] *Rachuba A.* Kazimierz Leon, // Dom Sapieżyński … С. 265.

[44] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі С. 46.

[45] *Rachuba A.* Sapiehowie: mity, legendy, fakty, // Dom Sapieżyński … С. 35.

[46] *Ціборовська-Римарович І.* Стародруки з бібліотеки Берестейського езуďтського колегіуму в фондах Національноď бібліотеки Украďни імені В. І. Вернадського, // Берасцейскія кнігазборы: матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання» (Брэст, 30–31 кастрычніка 2008 г.). Брэст, 2010. С. 404–407.

[47] Тамсама, С. 412–413

[48] *Rachuba A.* Legenda o obrazie Matki Boskiej Gwadelupeńskiej, // Dom Sapieżyński … С. 50.

[49] На гэта падабенства ўпершыню звярнуў увагу М.В. Нікалаеў. Гл.: *Нікалаеў М. В.* Гісторыя беларускай кнігі, С. 264.

[50] *Нікалаеў М. В.* Гісторыя беларускай кнігі, С. 270.

[51] Тамсама, С. 378.

[52] *Сиесс-Кшишковски С.* Краткая история Коденского собрания книг Констанции Сапеги, // Берасцейскія кнігазборы : матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання» (Брэст, 30–31 кастрычніка 2008 г.). Брэст, 2010. С. 431, 433.

[53] *Berger-Mayerowa J.* Anna Paulina, // Dom Sapieżyński … S. 497.

[54] *Киркор А. К.* Литовское Полесье, // Живописная Россия: отечество наше в его земел., ист., племен., экон. и бытовом значении : Литовское и Белорусское Полесье. Репр. воспр. изд. 1882 г. Минск, 1993. С. 202.

[55] *Нікалаеў М. В.* Гісторыя беларускай кнігі, С. 378.

[56] *Baczewski S.* Kazimierza Nestora «arkadia urodzinowa», // Sapiehowie epoki Kodnia i Krasiczyna. Lublin, 2007. С. 454.

[57] *Kądziela Ł.* Kazimierz Nestor, // Dom Sapieżyński … С. 533

[58] *Kamiecka M.* «Bywanie w świecie» Kazimierza Nestora Sapiehy, // Sapiehowie epoki Kodnia i Krasiczyna. Lublin, 2007. С. 470.

[59] Існуе і іншая – бытавая версія смерці Аляксандра Сапегі, паводле якой ён быў выпадкова паранены раз'юшаным хатнім кабаном падчас агледзін дзярэчынскай гаспадаркі Францішка Сапегі, у якога ён гасцяваў. (Гл.: *Скобла М.* Дзярэчынскі дыярыюш: гістарычны нарыс, артыкулы, эсэ, Мінск : Беларускі кнігазбор, 1999. С. 41).

[60] *Киркор А. К.* Литовское Полесье, С. 198.

[61] *Скобла М.* Дзярэчынскі дыярыюш, С. 24-92.

[62] Філаматы і філарэты: зборнік /уклад., пераклад польскамоўных твораў, прадмова, біяграф. даведкі пра аўтараў і камент. К. Цвіркі. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. С.122.

[63] Цыт. паводле: *Piroĉkinas A.* Źródła romantyzmu Adama Mickiewicza, // Адам Міцкевіч і нацыянальныя культуры: матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 7-11 верасня 1998 г.) / Рэд. Н.Давыдзенка, А.Мальдзіс, Мінск: Беларускі кнігазбор, 1998. С. 42-43.

[64] Dziennik Mikołaja Malinowskiego, Wilno: Biblioteka Pamiętników, 1914. S. 56.

[65] Тамсама.

[66] Dziennik Mikołaja Malinowskiego, op.cit., S. 56-57.

[67] Тамсама. С. 57.

[68] Багушэвіч, Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты, / Уклад. Я. Янушкевіч, Мінск: Маст. літ., 1991. С. 16.

[69] Шкялёнак М. Леў Сапега, op.cit., С. 78.

# ВЫВЕРАНАЕ І СПРАЎДЖАНАЕ ЖЫЦЦЁМ
## (Тэарэтычныя аспекты даследчыцкага метаду Серафіма Андраюка)

**Яўген Гарадніцкі**

Ва ўсёй разнастайнасці навуковых падыходаў і даследчыцкіх методык, якія выкарыстоўваюцца ў гуманітарнай сферы, як зрэшты і ў любой іншай, вылучаюцца два самыя агульныя – дэдуктыўны і індуктыўны метады. Адпаведна гэтаму метадалагічнаму размежаванню і фарміруюцца асноўныя тыпы даследчыкаў, якія падзяляюцца на тых, хто прытрымліваецца дэдуктыўнага метаду, і тых, каму больш блізкі метад індукцыі. Адны вучоныя зыходзяць з агульных палажэнняў, канцэпцый, гіпотэз, пацвярджэнне якім яны імкнуцца затым знайсці на практыцы, другія грунтуюцца на скрупулёзным аналізе фактычнага матэрыялу, вынікам якога становяцца пэўныя абагульненні і падсумаванні.

Серафім Антонавіч Андраюк, буйнейшы беларускі літаратуразнавец, гісторык літаратуры і крытык, мабыць, належыць у большай ступені да другога тыпу даследчыкаў. Для яго важней за ўсё раскрыццё рэальнага стану, у якім знаходзіцца літаратура на пэўным этапе свайго развіцця, высвятленне канрэтных абставін, у якіх

адбываецца літаратурны працэс. Важнейшым для пісьменніка ён лічыць як мага цяснейшую, рэальна адчувальную сувязь з жыццём, навакольным светам, праблемамі, надзеямі і трывогамі часу. Мастацкі талент ва ўсёй сваёй выяўленчай сіле і паўнаце можа быць рэалізаваны, увасоблены ў канкрэтныя і відавочныя эстэтычныя здабыткі толькі пры такой умове.

"Вывяраючы жыццём" – такую назву даў С. Андраюк адной са сваіх кніг (1976). Назва красамоўная, вобразная і канцэптуальная; яна дакладна выяўляе асноўны падыход выдатнага даследчыка і крытыка да літаратуры, галоўнае да яе патрабаванне. Крытэрый жыццёвасці (ён жа – праўдзівасці) – гэта той вызначальны, сутнасны падыход да кожнай мастацкай з'явы, які не вымагаецца нейкімі там разумовымі абстракцыямі, зараней прынятымі схемамі, а вынікае з рэальнага стану рэчаў, адпавядае ўнутраным пабуджальным матывам мастацкай творчасці.

С. Андраюк заўсёды ідзе ў сваіх працах ад тэкставай канкрэтыкі літаратурных твораў, паўнаты іх мастацкай увасобленасці, ад таго, што паддаецца аналізу, у чым раскрываецца творчая індывідуальнасць мастака слова.

У кожнага значнага пісьменніка – свой, не падобны на іншыя, асаблівы, самабытны мастацкі свет. Такога меркавання прытрымліваецца Серафім Антонавіч, паколькі яно адпавядае яго галоўнай даследчыцкай устаноўцы – на дэталёвы аналіз, усебаковы разгляд, узважанае падагульненне ўсіх адметнасцей, характэрных праяў аўтарскага стылю, індывідуальнай творчай манеры.

Невыпадкова менавіта С. Андраюк вылучыў катэгорыю ***мастацкі свет*** пісьменніка як асабліва важную для выяўлення ўсёй шматстайнасці ўздзеянняў літаратурнай творчасці на чытача, на мастацкі працэс, на духоўную атмасферу часу. Узгадваючы імёны славутых творцаў розных народаў, С. Андраюк зазначае, што "кожны з гэтых адзіных у сваёй адноснай мастацкай закончанасці і цэласнасці мастацкіх светаў цікавы і сваёй змястоўнасцю, і ўнутранай структурай, і вонкавымі абрысамі, і (магчыма, гэта асноўнае) той эмацыянальнай, духоўнай атмасферай, абалонкай, якая яго ахінае..." [1, с. 3].

С. Андраюк як уважлівы даследчык усіх вышэй адзначаных ім аспектаў мастацкага свету, ствараемага пісьменнікам, надае аднолькава важнае значэнне як змястоўным, так і фармальным бакам літаратурнага твора, у якім гэты мастацкі свет увасабляецца. Яшчэ адна важнейшая мастацкая катэгорыя, распрацоўкай якой ён займаецца ў сваіх працах – гэта катэгорыя ***стылю***.

Менавіта Серафім Андраюк унёс істотны ўнёсак у вывучэнне праблемы мастацкага стылю як у тэарэтычным, так і ў гісторыка-літаратурным аспекце. Выдатным паказальнікам значнасці напрацовак

айчыннага літаратуразнаўства ў гэтай складанай сферы з'яўляецца ўступны раздзел С. Андраюка "Да пытання аб індывідуальным стылі пісьменніка", змешчаны ў калектыўнай манаграфіі "Стыль пісьменніка" (1974). У гэтым раздзеле дакладна вызначаны ключавыя моманты дадзенага пытання. Яго асноўныя палажэнні і сёння застаюцца актуальнымі і адкрытымі для далейшага абмеркавання і развіцця.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што стыль цікавіць даследчыка перш за ўсё як праява творчай індывідуальнасці, як выражэнне ў мастацкай форме аўтарскай асабовасці. Займаючыся вывучэннем агульных заканамернасцей літаратурнага працэсу, аналізучы тэндэнцыі і напрамкі мастацкага развіцця ў іх гістарычнай узаемаабумоўленасці, С. Андраюк між тым заўсёды сканцэнтраваны на асобе творцы. Аўтар для яго быў і застаецца ключавым момантам творчага працэсу, вызначальным фактарам у арганізацыі мастацкага свету літаратурнага твора.

Праз асобу аўтара, яго жыццёвы вопыт, адметнасць светаўспрымання якраз і адбываецца паяднанне мастацкай рэальнасці з рэчаіснасцю быццёвай, рэалізуецца сувязь літаратурнага твора з шырокім кантэкстам. Гэта даследчыцкая пазіцыя выразна пастулiруецца ў працах С. Андраюка. Такі падыход, на нашу думку, актуалізуецца менавіта ў сучасных умовах развіцця літаратуразнаўчай навукі, на якую аказала пэўнае ўздзеянне ў апошнія дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя тэорыя *"смерці аўтара"*.

С. Андраюк звяртае нашу ўвагу на тое, што ў творах тых пісьменнікаў, для якіх мастацкае слова па сваёй істотнасці, сэнсавай важкасці, напоўненасці жыццём раўназначна рэчам і з'явам сапраўднага свету, аўтарскі, суб'ектыўны фактар адыгрывае выключна важную ролю. Уласна кажучы, асноўным аб'ектам даследавання літаратуразнаўцы якраз і з'яўляюцца тыя творы, у якіх найбольш поўна і адметна ўвасобіўся ўнутраны свет аўтара, выявілася яго разуменне жыцця.

Як тэарэтык літаратуры, С. Андраюк зыходзіць з фундаментальнага для айчыннага літаратуразнаўства палажэння аб выяўленні ў мастацкім творы прыкмет рэчаіснасці. Аднак ён падкрэслівае пры гэтым, што рэаліі ў мастацкім свеце пэўным чынам пераўтвараюцца. "У літаратуры аб'ектыўны рэальны свет заўсёды суб'ектывіруецца, падпарадкоўваецца мастацкай, у аснове сваёй індывідуальна-непаўторай, трансфармацыі" [2. с. 5]. У рэшце рэшт самай галоўнай і надзейнай крыніцай творчасці прадстае менавіта аўтар у сваім чалавечым і мастакоўскім адзінстве. "Сам жа мастак, пісьменнік часцей за ўсё стварае тое, адбітак чаго, хаця б у разрозненых, недастаткова акрэсленых элементах, знаходзіць у сабе" [2, с. 5], – пранікліва заўважае С. Андраюк.

Асноўны метад даследавання, які выкарыстоўвае знаны літаратуразнавец і крытык у дачыненні да празаічных твораў (а ён нязменна засяроджаны менавіта на творчасці празаікаў), вызначаецца сваім

***сінтэтызмам***, ахопам усіх аспектаў творчага працэсу. Зыходзячы з прынцыпаў такога сінтэтызму, С. Андраюк не ўспрымае звычайна размяжоўваемыя родавыя прыкметы – аб’ектыўнае і суб’ектыўнае – як несумяшчальныя ў творчасці аднаго аўтара або ў адным творы.

Пэўным чынам аспрэчваючы нязменнасць традыцыйнага падзелу літаратуры на “аб’ектыўную” эпіку і “суб’ектыўную” лірыку, С. Андраюк даводзіць: “Па сутнасці творчасць пісьменніка – гэта і адлюстраванне аб’ектыўнай рэчаіснасці, і выражэнне сябе, асэнсаванне сябе ў навакольным свеце, у грамадстве, у адносінах з іншымі людзьмі” [2, с. 5]. Істотна тое, што такое мастакоўскае самавыражэнне даследчык адносіць не толькі да асобнай разнавіднасці прозы (так званай “лірычнай прозы”), але і да ўсёй іншай.

Адным з першых у беларускім літаратуразнаўстве С. Андраюк звярнуўся да паняцця ***мадэлі свету*** як своеасаблівага спосабу мастацкага асваення рэчаіснасці. На яго думку, характэрнай прыкметай мастацкага мадэлявання якраз і з’яўляецца суб’ектыўны момант, паколькі кожны значны мастак слова імкнецца ўвасобіць у творах сваю ўласную мадэль рэчаіснасці.

“Калі пісьменніку ўдаецца эстэтычна сцвердзіць свой ідэал, удаецца стварыць сваю мадэль рэчаіснасці, якая як бы роўная рэчаіснасці ў сваёй цэласнасці і завершанасці і ў той жа час адзіная і непаўторная, можна тады гаварыць пра стыль” [2, с. 5], – робіць заключэнне даследчык. Звернем увагу на тое, што ў дадзеным азначэнні няма адназначнай сцвярджальнасці, аўтар пакідае месца для дапушчэння іншых магчымасцей і падыходаў. Усё сапраўды залежыць ад канкрэтнай сітуацыі, ад уліку ўсіх абставін і складнікаў творчага працэсу.

Разважаючы над складанейшай праблемай вызначэння стылю (як вядома, існуе мноства спроб даць прымальнае азначэнне гэтай важнейшай катэгорыі), С. Андраюк улічвае сінтэтычную паяднанасць самых разнастайных элементаў і ўзроўняў мастацкай структуры літаратурнага твора і разам з тым імкнецца адшукаць сутнаснае ядро гэтай з’явы.

У выніку даследчыкам прапаноўваецца арыгінальнае і, думаецца, надзвычай удалае, тлумачэнне таго, што сабой уяўляе мастацкі стыль, стыль літаратурнага твора. Самае, мабыць, распаўсюджанае вызначэнне стылю зводзіцца да ўяўлення аб ім як сукупнасці выяўленчых сродкаў, мастацкіх прыёмаў і г. д. С. Андраюк увогуле пагаджаецца з такой трактоўкай, хоць і значна пашырае кола аб’ектаў, звязаных са стылем. “Стыль, праяўляецца ва ўсім, – заўважае ён, – у нейкай меры ўключае ў сябе па сутнасці ўсе кампаненты зместу і формы мастацкага твора ці твораў: жанр, сюжэт, кампазіцыю, сістэму вобразаў, эмацыянальную атмасферу, характар апавядальнай манеры, мову з яе сінтаксісам, інтанацыйна-рытмічным ладам, лексікай” [2, с. 9].

Надзвычай каштоўна, што ў дадзеным пераліку з’яў, якія нясуць у

сабе адзнакі стылю пісьменніка, згадваюцца і такія, як “эмацыянальная атмасфера” або “інтанацыйна-рытмічны лад”. Гэта сведчыць аб сапраўды шырокім ахопе з’яў, якія аналізуюцца даследчыкам пад вуглом гледжання праблемы стылю.

Што ж усё-такі ўяўляе сабой стыль паводле канцэпцыі С. Андраюка? Абазначыўшы з’явы, датычныя стылю, ён заўважае пры гэтым, што самі па сабе яны яшчэ не ўтвараюць стылявой характэрнасці твора або творчасці пісьменніка. “Разам з тым гэта не мова, не кампазіцыя і г. д. самі па сабе, у іх канкрэтным праяўленні ў дадзеным творы ці творчасці. Гэта і не сума пэўных мастацкіх прыёмаў, не іх тая або іншая камбінацыя” [2, с. 9].

Стыль, на думку С. Андраюка, гэта праяўленне мастацкай адметнасці цэласнага характару на ўзроўні найперш агульнай мастацкай структуры. “Стыль – сістэма, якая арганічна ў сябе ўключае, сінтэзуе ўсе кампаненты мастацкай структуры” [2, с. 9 – 10].

У сямідзесятыя гады, калі выйшла з друку кніга “Стыль пісьменніка” з тэарэтычным уступным раздзелам С. Андраюка і яго такім жа грунтоўным (зрэшты, як і ўсе яго працы) нарысам пра стыль Івана Мележа, прыкметна выявілася цікавасць беларускіх літаратуразнаўцаў да пытанняў, звязаных са структурным аналізам літаратурнага твора. Працы С. Андраюка гэтага перыяду знаходзяцца ў шэрагу такіх, як “Структура твора” Васіля Жураўлёва, “Структура вершаванага вобраза” Івана Шпакоўскага і інш. Ужо самі назвы гэтых манаграфій гавораць аб зацікаўленасці беларускіх навукоўцаў магчымасцямі структурнага падыходу.

Гэты ўздым зацікаўленасці быў у пэўнай ступені абумоўлены бурным развіццём у той час структуралізму як навуковага напрамку і, у прыватнасці, неабходнасцю выказаць крытычнае стаўленне да яго асноўных палажэнняў, зыходзячы з вопыту, набытага нацыянальнай літаратурай і яе даследчыкамі. Структуралізм, які адсякаў за сабой якія б там ні было магчымасці суаднясення тэксту твора з пазатэкставай рэальнасцю, быў у такім выглядзе непрымальным для беларускіх літаратуразнаўцаў. Разам з тым у самім структурным падыходзе, у выяўленні ў глыбіні тэксту пэўнай структуры, на якой трымаецца ўся цэласнасць твора, бачылася значная навуковая перспектыва.

Ідэі С. Андраюка, яго канцэпцыя “ўзаемапранікнення аб’ектыўнай рэальнасці і суб’екта” [2, с. 12] давалі магчымасць знаходзіць прадуктыўныя моманты ў структурным аналізе, спалучаючы апошні з індывідуальнай стылявой адметнасцю аўтара, з яго светабачаннем, жыццёвым кругаглядам.

Грунтоўна, шматбакова аналізуючы творы многіх беларускіх празаікаў (найперш тых, чыя творчасць вызначаецца самастойнасцю мастацкага выяўлення, індывідуальнай адметнасцю, глыбінёй пранік-

нення ў жыццёвыя пласты), С. Андраюк ідзе якраз па такому шляху – у пошуках гарманічнай цэласнасці вонкавага і ўнутранага, змястоўнага і фармальнага, жыццёвым лёсам наканаванага і мастацкімі законамі прадвызначанага. Паколькі перакананы, што задача сапраўднага пісьменніка заключаецца ў тым, каб "не толькі паказаць рэчаіснасць, але і выразіць сябе, сваю псіхалогію, сваю этыку і эстэтыку – сваю жыццёвую філасофію" [2, с. 238].

Такі падыход дапамог выдатнаму літаратуразнаўцу і крытыку раскрыць мастацкую адметнасць, унутраны духоўны патэнцыял творчасці цэлага шэрагу беларускіх аўтараў. Мастацкія светы Я. Брыля, В. Быкава, У. Караткевіча, І. Мележа, І. Пташнікава, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава і многіх іншых творцаў нацыянальнай літаратуры наблізіліся да нас, адкрыліся сваім невычарпальным сэнсам якраз дзякуючы сінтэтычнаму метаду пазнання мастацкай рэальнасці, распрацаванаму С. Андраюком.

Зроблена ім у літаратуразнаўчай навуцы і літаратурнай крытыцы, абапіраючыся на дадзеную метадалогію, вельмі багата. Несумненна, тэарэтычныя ідэі і канцэпцыі выдатнага вучонага, ураджэнца беластоцкага краю, уплываюць і на даследаванні іншых навукоўцаў, на агульны стан развіцця айчыннага літаратуразнаўства.

Літаратура
1. *Андраюк, С.* Вывяраючы жыццём, Мінск: Маст. літ., 1976.
2. *Андраюк, С.* Стыль пісьменніка, Мінск: Навука і тэхніка, 1974.

# Мастацкі свет Яўгена Гарадніцкага

(Эмпатычныя нататкі)

**Юрый Паталкоў**

1

Вядомы беларускі літаратуразнаўца Я. Гарадніцкі даследуе філасофскую і эстэтычную праблематыку літаратуры, тэарэтычную паэтыку, метадалогію літаратуразнаўчага аналізу. Мы разглядаем толькі адзін з момантаў гэтай шляхетнай зацікаўленасці – распрацоўку паважаным даследчыкам філасофскай праблематыкі літаратуры. Выбар прадмета асэнсавання не выпадковы: перад сучасным чалавецтвам (а значыць, і перад літаратуразнаўствам) усе больш востра паўстае неабходнасць духоўнага самавызначэння і філасофскага самаасэнсавання.

Сістэма тэарэтычных прынцыпаў, на якой грунтуецца ўспрыняцце вобразнага матэрыяла Я. Гарадніцкім, адпавядае, як нам падаецца, найбольш перспектыўным высілкам сучаснай сусветнай гуманітарыстыкі па ўзмацненні этычнага ўздзеяння індывідуума на грамадскую свядомасць. Абагуленым доказам адпаведнасці поглядаў навукоўца гэтым высілкам можа служыць падзагаловак адной з найблізкіх па часе з'яўлення яго кнігі «Паэтыка беларускай літаратуры XX стагоддзя» (2010 г.).

Падзагаловак такі: „Суб'ектна-аб'ектныя адносіны”. Не аб'ектна-суб'ектныя, а такія, у якіх перад фенаменальнай сацыяльнай абумоўленасцю на першы план выходзіць усясветная субстанцыя асабовасці. Такая пазіцыя тым больш пажаданая, што сённяшняя філасофія, адчуваючы небяспеку з боку надмернага насілення спрошчанага рацыяналізму, усё часцей выходзіць да метафізікі быцця.

Ёсць і асабістая прычына нашага звароту да поглядаў менавіта Я. Гарадніцкага: ва ўласнай літаратуразнаўчай дзейнасці мы распрацоўваем філасофска-этычную ідэю трыадзінай эмпатыі, роднасную поглядам паважанага даследчыка. Канечне, роднаснасць не азначае ідэнтычнасці. Больш таго: яна акрэслівае ступень адноснай аддаленасці (часам, палемічнай) дзвюх канцэпцый. Але відавочна: пільная ўвага да рэцэптыўнай эстэтыкі, у рэчышчы якой сярод іншых працуе Я. Гарадніцкі – актуальная задача сучаснага літаратуразнаўства.

2

Пачнем роздум з акалічнасці амаль непрыкметнай: у № 15 часопіса «Тэрмапілы» за 2011 год побач апынуліся два артыкулы: Яўгена Гарадніцкага “Метафізічная прастора паэзіі Анатоля Вярцінскага” і мая “Метафізічны змест часопіса «Тэрмапілы»”. Матэрыял артыкулаў сведчыў, што справа не ў выпадковым падабенстве назваў, а ў вызначанай настроямі сучаснасці блізкасці даследчыцкіх пастаў. Публікацыя матэрыялаў у такім наватарскім і асабліва чуйным да сучасных плыняў мыслення выданні, як «Тэрмапілы», даводзіла, што за супадзеннем праглядваецца шырокая літаратуразнаўчая тэндэнцыя.

Вядучая тэза артыкула Я. Гарадніцкага такая: *...выходзячы за межы канвенцыйнага, традыцыйнага, паэзія яшчэ у большай ступені набліжаецца да сваёй неспазнавальнай і таямнічай сутнасці”* (1,237). Калі канвенцыйнае – гэта лагічна-структурнае ў змесце мастацкага вобраза, дык выходзячы да звышнатуральных асаблівасцяў літаратуры, пісьменнік і чытач аказваюцца перад неабходнасцю абраць вызначальную пачуццёвую *практыку* самапраяўлення. Я. Гарадніцкі названую неаб-ходнасць добра адчувае. Таму падкрэслівае: *Да звыклай формулы "стыль – гэта чалавек" у выпадку з Вярцінскім так і хочацца дадаць, удакладніць:* ***стыль – гэта чалавек, які мысліць і суперажывае*** (1,237 )

Гэтую думку мы горача падтрымліваем, тым больш што

суперажыванне (эмпатыя) – гэта і ёсць тая пачуццёвая практыка (вызначальная!), пра якую мова. Іншая справа, што трэба было б высветліць, *з кім, чаму і дзеля чаго* суперажывае індывідуум з удакладнённай формулы стылю. У дачыненні да высокапаважанага паэта А. Вярцінскага такое ўдакладненне, безумоўна, прымаецца. Але чаму толькі да яго? Чым больш значны паэт, тым больш грунтоўныя *тэндэнцыі* часу адбіваюцца ў яго творчасці.

У маім артыкуле з «Тэрмапіл» размова ідзе менавіта пра *тэндэнцыю: Сёння на змену эпосе Асветніцтва прыходзіць эпоха суперажывання (эмпатыі). Дакладней кажучы, надыходзіць эпоха трыадзінага суперажывання (2,* 245).

Ёсць шмат вызначэнняў "суперажывання" (эмпатыі). Найбольш характэрнае такое: "Эмпатыя (грэч. empattheia – суперажыванне) – спосаб спасціжэння і разумення стану чалавека, твораў мастацтва сродкамі адчування, асобых інтэнцыянальных адносін да прадмета разумення" (3, 324).

З прыведзеным слоўнікавым тлумачэннем можна згадзіцца толькі часткова. Ці здольны рэцыпіент *разумець* тую іпастась твораў мастацтва, якая выходзіць за межы канвенцыйнага і ўяўляе сабою неспазнавальную і таямнічую сутнасць? Да ўзроўню анталагічнага ў мастацтве падыдзе толькі суперажывальна надрацыянальнае асваенне вобраза, пры якім пачуццё выступае як крэатыўная ініцыятыва чалавека-індывідуума, падначаленая звышчалавеча ўсясветнаму сумленню, гэта значыць – Богу.

Прамовіўшы "звышчалавечае ўсясветнае сумленнне", мы аказваемся перад неабходнасцю раскрыцця той тэарэтычнай паставы (трыадзінай эмпатыі), з якой падыходзім да асэнсавання літаратуразнаўчай канцэпцыі Я. Гарадніцкага.

Сутнасць нашых поглядаў наступная: духоўная праца сучаснага чалавецтва (і літаратараў – у тым ліку) павінна рухацца ў бок усё большага ўсведамлення *трыадзінасці* быцця. У дачыненні да літаратуры згаданая трыадзінасць праяўляецца ў прызнанні таго, што мастацкі вобраз – вынік дзейнасці *трох* творчых актантаў.

Першазадума вобраза належыць метафізічнаму і адвечнаму Творцу ўсяго існага (з пазіцыі "палюбі блізкага свайго"). Усявышні дае чалавеку галоўны сродак выратавання – боль. Боль патрабуе ад асобы і грамадства працы па набліжэнні да гармоніі. Менавіта боль ад недасканаласці быцця аказваецца першапрычынай паўстання і развіцця мастацтва.

Другім актантам літаратурнай вобразатворчасці аказваецца пісьменнік-крэатар. Заклікань болем, згаданым вышэй, літаратар матэрыялізуе свае мітрэнгі ў матэрыі сюжэта. Калі голас Божага болю пісьменніку пачуць удалося – мастацкі твор "адбыўся".

Трэці ўдзельнік пабудовы мастацкага вобраза (як аказваецца – ні ў чым не менш значны, чым першыя два актанты) – рэцыпіент, чытач. Ён

успрымае вынікі трудоў першых двух актантаў і пераўтварае іх у практыку свайго жыцця, чым дае Збаўцу і пісьменніку нагоду для фармавання далейшых шляхоў адвечнага тварэння гармоніі. Чытач – *саўдзельнік* вобразатворчасці, а *не спажывец* яе.

Мы падкрэсліваем своеасаблівасць месца трэцяга ўдзельніка ў працэсе паўстання т в о р у, маючы на ўвазе галоўны прынцып эмпатычнага чытання літаратуры: *усе мастацкія вобразы распавядаюць мне толькі пра адну асобу – пра мяне, рэцыпіента.* Не толькі распавядаюць, але і менавіта ад мяне, канкрэтна, патрабуюць вернасці Боскаму "палюбі блізкага свайго".

3

З прамоўленага вышэй выцякае: з узрастаннем грамадскага амаралізма (і адпаведна з узмацненнем болі Усявышняга і пісьменні-ка -крэатара) – этыкатворчая роля рэцыпіента будзе ўзрастаць. Па-ін-шаму быць не можа: толькі адухаўлёны Богам і пісьменнікам чы-тыч у стане абараніць блізкіх сваіх ад наступаючага бязладу. Таму мы з асаблівай удзячнасцю далучаемся да думкі паважанага калегі на гэтую тэму:

*... у сучаснай даследчай парадыгме значна ўзрасла роля рэцыпіента літаратурнага твора./.../ ... узаемаадносіны аўтара і патэнцыяльнага чытача ў самых розных яго іпастасях маюць істотнае значэнне для захавання цэласнасці і непарыўнасці творчага працэсу, паяднання ў ім крэатыўпых і рэцэптыўных аспектаў* (4,45-46)

Цалкам падтрымліваючы выснову аб узрастаючай ролі рэцыпіента, мы тым не менш чакаем ад літаратуразнаўцы не толькі канстатацыі з'явы, але і філасофскага яе патлумачэння. *Чаму* ўзрастае роля рэцыпіента? Вынікам *якіх* іманентных грамадскіх тэндэнцыёй гэты ўзрост выступае? Ці падтрымае паважаны даследчык выснову (выцякаючую з мегаідэі трыадзінай эмпатыі) , што першапрычынай вобразатворчасці (а значыць і ўзрастання ролі рэцыпіента) з'яўляецца Боскі боль з нагоды недасканаласці быцця?

Згаданыя пытанні – не марныя: этычныя працэсы ў мастацтве – індыкатар будучых лёсаў цывілізацыі. На нашу думку, адно *трыадзіная* эмпатыя ў стане даць пераканальныя адказы на пытанні аб гэтых лёсах. Таму пэўную нязгоду выклікае наступнае выказванне паважанага навукоўца:

*Несумненна, існуе неабходнасць у такім шырокім паняцці, у філасофска-эстэтычнай катэгорыі, якая ахоплівала б сабой двуадзіны (падкрэслена намі – Ю.П) дыялектычны працэс крэацыі/рэцэпцыі, падчас якога рэальнасць пераасэнсоўваецца і трансформуецца паводле мастацкіх за-конаў* (4, 46).

Працытаванае выказванне вядзе нас да высновы: сучаснае літаратураўства павінна ці прызнаць *трыадзінасць* быцця мастацкага вобраза,

ці высунуць важкія аргументы супраць яе. Канечне, можа папросту *не заўважыць* з'явы... Але ў даным выпадку не заўважыць не атрымаецца: Я Гарадніцкі распрацоўвае філасофска-эстэтычную катэгорыю вельмі значную, можа быць, вырашальную– **мастацкі свет.**

Даследчык удакладняе: ***Мастацкі свет*** *з'яўляецца катэгорыяй, якая аб'ядноўвае ў сабе сферу ідэй і канцэпцый, метафізіку з матэрыяльна-прадметнымі уласцівасцямі быцця, вобразамі і рэаліямі рэчаіснасці* (4, 46).

*З* гэтай катэгорыяй і з яе трактоўкай Я. Гарадніцкім трэба не толькі захоплена пагадзіцца, але і аднесці распрацоўку *мастацкага света* да найзначнейшых навуковых дасягненняў паважанага даследчыка, ды і беларускага літаратуразнаўства ўвогуле. У святле сучасных (прынамсі – экзістэнцыялісцкіх) разуменняў жыцця, як пераадолення пагранічных сітуацый, катэгорыя мастацкага свету *не можа быць* двуадзінай. Хаця б таму, што яна, як адзначае навуковец, аб'ядноўвае метафізіку быцця з матэрыяльна-прадметнымі яго ўласцівасцямі. Дык што: Усявышні этычны ідэал, усясветная душа, субстанцыя, змест адвечнага Боскага тварэння да метафізікі не належаць?

4

Упэўненасць паважанага даследчыка ў двуадзінасці творчага працэсу не можа не прывесці яго да высноў, на наш погляд, спрэчных. Мы маем на ўвазе выказванне пра *аўтарскую стратэгію стварэння мастацкага свету* (4, 59). Сцверджанне такой стратэгіі было б магчлівым, калі б мы адмовіліся ад думкі, што праца над мастацкім творам пачынаецца з уздзеяння Найвышэйшага этычнага ідэала на настрой крэатара і – у далейшым – на рэцыпіента. Але рэальнасць прамаўляе адназначна: *стратэгам* быцця з'яўляецца толькі Надчалавечая сутнасць духа, што вызначае межы дабра і зла. Чалавек жа (у тым ліку і пісьменнік) – адно *тактык* гэтага быцця.

Можа падацца, што палеміка аб двуадзінасці-трыадзінасці мастацкага свету сінанімічная супроцьстаянню атэізму і рэлігійнай веры. Праблема, па нашаму разуменню, у іншым: атэізм на паверку – паняцце безсэнсоўнае. Без *тэаса* (найвышэйшага этычнага ідэалу) не жывуць ні адна асоба, ні адно грамадства. Іншая справа, якая ідэя, які *тэас* у той ці іншы перыяд гісторыі, у тым ці іншым месцы выступае ў якасці маральнага абсалюта. Атэізм – гэта паніжэнне аднаго бога ў імя ўзвялічвання бога наступнага. Паўстанне ж і развіццё мастацтва (побач з развіццём іншых сфер дзейнасці чалавека) – рэальная праява адвечнага і несканчонага Божага тварэння. Адмаўляцца ад гэтай аксіёмы – значыць, у новых формах сцвярджаць менавіта яе.

Так што мастацкі свет, аб якім (дзякуй, Яўген Андрэевіч!) гаворыць Я. Гарадніцкі, насамрэч існуе, але складаецца ён з суперажывальнай дзейнасці *трох* творчых актантаў. Па-іншаму быць і не можа. Нездарма

літаратурныя назіранні паважанага даследчыка, у якіх пра трыадзіную эмпатыю няма ані слова, аб'ектыўна менавіта да гэтай мегаідэі вядуць.

У артыкуле Я. Гарадніцкага "Міфалогія як мова мастацтва" ("Сон на кургане" Янкі Купалы ў супастаўленні з "Лясовай песняй" Лесі Украінкі") чытаем:

*У беларускай мастацкай сітуацыі міфалагізм літаратуры пачатку XX ст. абумоўліваўся і сваімі як унутрылітаратурнымі, так і спецыфічнымі ўмовамі нацыянальна-культурнага развіцця. Адной з прычын шырокага выкарыстання міфалагічных форм мастацкага выражэння трэба назваць спецыфічнасць аўдыторыі, на якую арыентаваліся прадстаўнікі маладой беларускай літаратуры. Судакрананне са светам, які выходзіць за межы звычайных уяўленняў, давала тагачаснаму рэцыпіенту магчымасць суаднясення рэчаў і з'яў прадметна ўспрыймаемага асяроддзя са з'явамі і катэгорыямі метафізічнага плану* (6, 240).

Судакрананне, суаднясенне – працэс. Ён павінен праяўляць сябе ў нейкай (вызначанай патрэбамі ўсясветнага быцця прыроды) форме кантактавання з матэрыяй. Такой формай можа быць толькі **супера-жыванне –** гэта значыць, надрацыянальнае, спантаннае праяўленне ідэнтычных духоўных дзеянняў, абумоўленых агульнасцю абставін, сярод якіх знаходзіцца ўсё існае ў Сусвеце – матэрыяльным і анталагічным.

Што трэба разумець пад з'явамі і катэгорыямі метафізічнага плану? Што такое – неспазнавальная і таямнічая сутнасць паэзіі ў яе па-за канвенцыйным праяўленні? Шукаючы адказаў на гэтыя пытанні, мы (разам з паважаным даследчыкам) дакранаемся да фундаментальных метафізічных паняццяў: субстанцыя, ноумен, у рэшце рэшт – Бог. Калі так, дык шляхетная і глыбока справядлівая тэза Я. Гарадніцкага аб прыналежным мастацтву першынстве суб'екта перад аб'ектам увасабляецца ў доказную трыадзіную духоўную рэальнасць. Гэтая рэальнасць непрадказальная ў сваёй складанасці, але бясспрэчна адно: вызначальнай рысай быцця аказваецца абавязковая прысутнасць у ім анталагічнай састаўляючай.

У святле прамоўленага мы з піэтэтам далучаемся да думкі даследчыка аб тым, што "*літаратурная творчасць уяўляе сабой складанае, шматузроўневае і шматпластовае перапляценне гістарычных і анталагічных уяўленняў і рэалій, катэгорый і вобразаў.(...) У сувязі з тым, што ў літаратуры XX стагоддзя ўзрастае роля мастацкай самарэфлексіі, (...) павялічваецца таксама актуальнасць аналізу механізмаў паўставання і функцыянавання літаратурнага твора ў агульнай сістэме прадуцыравання мастацкіх каштоўнасцей* (5,203).

У гэтым выказванні Я. Гарадніцкага "вытворчая" лексіка (аналіз, механізм, функцыянаванне, сістэма, прадуцыраванне), на першы погляд, успрымаецца як з'ява надмерная, беспадстаўная, чужародная ў літаратуразнаўчым даследаванні. Але, насамрэч, побач з заявай аб прысутнасці ў творы, сярод іншага, метафізічных рэалій і мастацкай

самарэфлексіі дакладныя акрэсленні набываюць новыя, шмат у чым нечаканыя, фарбы зместу.

Механізм і сістэма, у дзейнасці якіх абавязкова праяўляе сябе анталагічны, субстанцыйны, надрацыянальны, а тым больш надпачуццёвы змест, не можа быць створаны чалавекам, а гэта значыць, не падуладны яго розуму. Аднак паколькі ў вобразе (таксама абавязкова!) прысутнічаюць і гістарычныя, рацыянальныя, пачуццёвыя рэаліі (створаныя чалавекам і падуладныя яго розуму), паўстае патрэба ў адпаведным складанай сітуацыі тлумачэнні паняцця "аналіз".

5

Гэтая патрэба можа рэалізавацца, калі мы пазнаёмімся з тым, як Я. Гарадніцкі *аналізуе* вобраз Сама з драматычнай паэмы Янкі Купалы "Сон на кургане". Даследчык звяртае увагу на тое, *што Купалаўскі <u>Сам</u> не знаходзіць паразумення ў сваім сацыяльным асяроддзі. Сярод блізкіх яму людзей, дзеля шчасця якіх ён і шукае "зачараваны скарб"(...) Саму* не *стае сіл дасягнуць да скарба /.../("штось адпіхае, штось кідае мной, з рук выбівае сякеру", "бач,якбы сілы ўсе збыў,млее рука, не спазнаці")*. Характэрна апошняя з прыведзеных заўваг: *Сам не ўсведамляе, адкуль зыходзіць яго бяссілле, у чым яго прычыны (*4, 63*)*.

Чаму *крэатар,* Янка Купала, у паэме "Сон на кургане" прадставіў характар менавіта такой асобы, якая не ў сілах стаць *стратэгам стварэння свету*? Чаму *рэцыпіент* Яўген Гарадніцкі звярнуўся да асэнсавання персанажа, які не усведамляе, адкуль зыходзіць яго бяссілле? Які духоўны абсалют стрымлівае намаганні *Сама?* Атрымліваецца, што інтуітыўна, незалежна ад сваіх рацыянальных намаганняў, Янка Купала і Яўген Гарадніцкі выступілі голасам Першазадумы, выразам таго ў свеце, чаго "не спазнаці".

Вядома, што вытокамі мастацкага вобраза з'яўляюцца канкрэтна-гістарычныя абставіны, – сацыяльныя і нацыянальныя. Але ж гэтыя абставіны – толькі маленькая частка адвечнага быцця духа! Менавіта гэтае адвечнае быццё, субстанцыя Тварэння дае аб сабе знаць, калі даследчык падкрэслівае, што *да разумення ўласнай экзістэнцыі <u>Сам</u> прыходзіць праз пакуты, душэўны боль, адчуванне віны – уласнай і за іншых (*4, 63).

У працытаванай заўвазе выраз *"прыходзіць"* закліканы сцвярджаць самастойнасць удзелу асобы ў падзеях. Але самастойнасці няма: *<u>Сам</u> залежыць* ад вонкавай моцы, недасягальнай для яго розуму. Не *прыходзіць*, а *вымушаны* прыходзіць. *<u>Саму</u> наканавана* перажыць той душэўны боль, які даецца Богам ва ўратунак наш. Мастацкі свет нараджаецца гэтым болем; згаданы боль аказваецца і прычынай вобразатворчасці, І першым з актантаў трыадзінай эмпатычнай вобразатворчасці.

Так што *аналіз* вобраза *Сама,* праведзены Я. Гарадніцкім насамрэч аказваецца не двуадзіна рацыянальным асэнсаваннем прадмета, а суб'ектна-аб'ектным спасціжэннем вобраза праз суперажыванне рэцыпіента-даследчыка з крэатарам-паэтам і з тым Першапачаткам, якога "не спазнаці". Такі аналіз,. як мы пэўныя, пераканальны.

6

Падсумуем выказанае ў нашым артыкуле.

Распрацоўка філасофска-эстэтычнай катэгорыі **мастацкі свет –** справа шляхетная і патрэбная і да таго ж вельмі складаная, паколькі яна – і пакута, і вызваленне ад пакуты. Пакута – ад усведамлення таго, што доўгія гады мы без гэтай катэгорыі абыходзіліся; вызваленне – ад таго, што літаратуразнаўства на распрацоўку такой жыццёва неабходнай катэгорыі ўрэшце рэшт рашылася.

Заслуга высокапаважанага Яўгена Андрэевіча Гарадніцкага – у даследванні (а, можа, нават у адкрыцці) катэгорыі мастацкага свету безумоўная і відавочная.

Патрэбен далейшы крок ў асваенні мастацкага свету як філасофска-эстэтычнага феномена. З нашага пункту гледжання такім крокам павінен стаць выхад да трыадзінай эмпатыі. Наша ўпэўненасць у неабходнасці менавіта такога накірунку выцякае з факта, што трыадзіная эмпатыя – не гіпотэза, не навацыя, не прапанова, а адвечны імператыў духоўнага быцця чалавецтва. Імператыў метафізічны, стратэгічны і выратавальны. Не пагадзіцца з ім нельга.

Грунтоўнасць і капітальнасць прац Гарадніцкага – нагода спадзявацца на новыя яго дасягненні ў распрацоўцы катэгорыі мастацкага свету. Пажадаем майстру плёну ў яго светланоснай наватарскай дзейнасці.

Спасылкі

1. *Я. Гарадніцкі.* Метафізічная прастора паэзіі Анатоля Вярцінскага (стыль мыслення і паэтыка выражэння). Тэрмапілы, 2011, № 15)

2. *Ю. Паталкоў.* Метафізічнны змест часопіса "Тэрмапілы". Тэрмапілы, 2011, № 15.

3. Философский словарь студента (под общей редакцией В.Ф.Беркова и Ю.А. Харина. Минск 2003

4. *Я. Гарадніцкі.* Паэтыка беларускай літаратуры ХХ стагоддзя.Суб'ектна - аб'ектныя суадносіны. Мінск 2010

5 *Я. Гарадніцкі.* Мастацкі свет беларускай літаратуры ХХ стагоддзя, Мінск 2005

6. *Я. Гарадніцкі*. Міфалогія як мова мастацтва ("Сон нка кургане" Янкі Купалы ў супастаўленні з "Лясовай песняй' Лесі Украінкі") //Янка Купала і Якуб Колас у кантэксце славянскіх літаратур. Мінск 2002

# Kodeks moralny starszego pokolenia Polaków i Białorusinów na pograniczu polsko-białoruskim w latach trzydziestych

**Walenty Piłat**

Lata trzydzieste XX wieku na Wileńszczyźnie to swoisty konglomerat Polaków tam zamieszkałych i Białorusinów[1]. Przynależność narodowa zależała tam od wyznawanej religii (rzymsko-katolicy – to Polacy, zaś prawosławni – to Białorusini). Rzecz jasna, mimo tych różnic religijnych, tzw. lud tamtejszy żył podobnymi obyczajami, tym bardziej że Polacy w życiu codziennym posługiwali się także językiem „tutejszym", który zresztą był bardzo bliski literackiemu językowi białoruskiemu. Ten język „tutejszy" repatrianci przenieśli na Warmię i Mazury i posługiwali się nim w codziennych kontaktach. Jednakże kiedy ich dom odwiedzał „centralak", albo ktoś z jakiegoś urzędu, przechodzili na język polski, który był mówiąc oględnie dość koślawy. Prawdopodobnie wstydzili się posługiwać owym językiem „tutejszym". Ale posługiwali się w życiu codziennym, stąd i moja znajomość tego języka (może dialektu).

## Życie rodzinne

Zarówno w życiu Polaków zamieszkałych na Wileńszczyźnie i sąsiadujących z nimi Białorusinów życie rodzinne była to najwyższa wartość. Najczęściej mieszkali oni w rodzinach wielopokoleniowych. Na czele takiej rodziny zawsze znajdował się Dziadek. To on właśnie ustalał, jak i kto ma przestrzegać wartości ukształtowanych przecież od wieków. Najczęściej był to człowiek niezwykle surowy w stosunku na przykład do wnuków (choć ich bardzo kochał), nie okazywał z reguły jakieś czułości, a z własnego doświadczenia wiem, że pamiętał zawsze o naszych imieninach, urodzinach (a ja z bratem siedzieliśmy w oknie i oczekiwaliśmy, kiedy wreszcie ten Dziadek przyjdzie). Przychodził, rzecz jasna, z koszykiem pełnym słodyczy, jednakże zawsze z surową miną. Jak trzeba było, to nas zrugał, ale my wiedzieliśmy, że Dziadek to jest Dziadek i jak się gniewa z jakichś powodów, to pewnie nam wybaczy.

Babcia wśród rodzin Wileńszczyzny była raczej całkowicie podporządkowana decyzjom Dziadka. Kiedy jednak, w jej mniemaniu, zachował się nie tak, to potrafiła być stanowcza.

Najniżej w hierarchii rodzinnej na pograniczu polsko-białoruskim znajdowały się dzieci. Obowiązywało je wobec nestorów rodziny bezwzględne

[1] Zob.: T. Rostowska, *Małżeństwo, rodzina, praca i jakość życia*, Kraków 2008.

posłuszeństwo. Ale i tu były pewne rozgraniczenia. Z pewną dozą tolerancji traktowano synów, zaś córki, kiedy stawały się dorosłe, starano się jak najszybciej wydać za mąż. Dziewczyna, która przekroczyła dwudziestkę stawała się w mniemaniu środowiska tzw. starą panną. Miejscowi kandydaci na mężów raczej niechętnie spoglądali na owe stare panny. Dziś to raczej dziwi, ale takie były czasy. Dorosła dziewczyna musiała (jeśli to były rodziny wielodzietne, a były) iść na tzw. „swoje".

Z kodeksem moralnym rodziny polsko-białoruskiej na Wileńszczyźnie wiązały się także święta Bożego Narodzenia i Wielkiej Nocy. Mimo dość skromnej egzystencji na te właśnie święta przygotowywano prawdziwe rarytasy. W obyczajach rodziny było, by na te święta ubijać wieprza, i to były prawdziwe smakołyki, które przygotowywała pani domu. Tych smaków, tych zapachów już nie ma. Ale święta to nie tylko dobre jedzenie. Poprzedzał je post i przestrzegano go bardzo pilnie. Nie wolno było do syta się najeść, nie wolno było tańczyć, śpiewać. Jedynym słowem, zarówno na święta Bożego Narodzenia, jak i Wielkiej Nocy czekało się z prawdziwym utęsknieniem, bo wtedy wreszcie można było się do syta najeść i poczuć się, jak to się dzisiaj mówi, na „prawdziwym luzie". Zarówno z Bożym Narodzeniem, jak i z Wielką Nocą wiązał się cały szereg obrzędów i obyczajów. Znalazły one odzwierciedlenie przede wszystkim w pieśniach i przyśpiewkach ludowych[2]. Wszystkie one były wykonywane w języku „tutejszym" i w pamięci dziś już bardzo starszego pokolenia mieszkańców owych ziem zachowały się do chwili obecnej.

Boże Narodzenie („Kolady" – jak się mówiło) to przede wszystkim bardzo uroczysta wigilia (choć skromna), a potem rodzinne śpiewanie kolęd i wreszcie pójście na pasterkę. To był obowiązek, mimo późnej pory (inaczej, rzecz jasna, ten obrzęd wyglądał u prawosławnych). Pasterka to było swojego rodzaju misterium, w którym nie można było nie uczestniczyć. Prawosławni nieco inaczej świętowali tę noc, ale to wiązało się też z nieco innymi obyczajami. Te tradycje starsze pokolenie mieszkańców polsko-białoruskiego pogranicza na Wileńszczyźnie wpoiło swoim dzieciom i wnukom (czyli mojej generacji). Co będzie dalej, trudno przewidzieć. Dziś niestety liczą się inne wartości, przede wszystkim pieniądz. Niestety, ale tak już jest. Zadziwiające jest to, że mimo całego ubóstwa, dość nędznej egzystencji owo pokolenie polsko-białoruskiego pogranicza na Wileńszczyźnie zachowało godność i surowe przestrzeganie obowiązującego tam kodeksu moralnego.

**Trudna codzienność**

Codzienna rzeczywistość była rzeczywiście trudna. Jak już zaznaczy-

---

[2] Zob.: F. Sielicki, *Unia brzeska a lud i folklor białoruski*, W: „Acta Polono-Ruthenica", Olsztyn 1997; W. Piłat. *Działalność kulturalno-oświatowa we wsiach polsko-białoruskich Wileńszczyzny w dwudziestolecia międzywojennym*, „Тэрмапілы", Białystok 2002.

łem, były to rodziny najczęściej wielodzietne. By się jakoś utrzymać musiały żyć skromnie i nie mogły sobie pozwolić na jakąś życiową rozrzutność.

Kiedy Polska odzyskała niepodległość, każda rodzina Wileńszczyzny otrzymywała tzw. paski ziemi. Były to rzeczywiście „paski" liczące kilka hektarów. Uprawiano tam głównie podstawowe produkty: ziemniaki, warzywa, czasem jakieś niewielkie połacie zboża. Koszenie owego zboża należało głównie do dziewcząt (a koszono sierpem), które zresztą by mieć dla siebie dwa, czy pięć złotych „wynajmowały się" do pracy u bogatych mieszkańców wsi, względnie prowadziły gospodarstwo miejscowych nauczycieli. A propos nauczycieli, w większych wsiach Wileńszczyzny były tylko szkoły czteroklasowe. Na dalsze kształcenie nie można było sobie pozwolić (chociaż wśród młodzieży wiejskiej było wiele talentów, które z braku środków finansowych zostały po prostu zmarnowane). Być może dlatego największym marzeniem mojego Dziadka i Rodziców było, by mój brat i ja mogli także wykształcenie mieć. To się udało i Rodzice doczekali się tego, kim obecnie jestem. Dlatego kiedy dziś jakiś młody człowiek mówi, jaki to raj był za czasów sanacji, budzi mój sprzeciw.

Jednym słowem, pogranicze wileńsko-białoruskie w latach trzydziestych XX wieku było zaniedbane pod każdym względem. Życie mieszkańców sprowadzało się do skromnej, by nie powiedzieć, nędznej egzystencji.

Rzecz jasna, ówczesne sfery rządzące żyły w luksusie. Dwory, pałace w Druskiennikach – i miejscowości, gdzie mieszkali moi Rodzice, były przejawem owego niedostępnego dla ludu tych ziem komfortu. To jakby zrozumiałe, ale owe „sfery" traktowały lud polsko-białoruski jako zbędny balast.

A jednak ów lud, mimo trudnej codzienności, potrafił zachować podstawowe wartości moralne, dyktowane nie tylko przez wyznawaną religię, ale właśnie przez trudną, surową codzienność. Owe wartości przekazał kolejnym pokoleniom.

**Zamiast zakończenia**

Życie mieszkańców tego pogranicza po II wojnie światowej uległo zmianie, ale to niekoniecznie na lepsze. Władze radzieckie zmuszały ich do wstąpienia do kołchozów, ale to wcale nie sprzyjało integracji tych środowisk. Niewątpliwie miejscowa inteligencja (mimo pewnej rotacji) czyniła co mogła, by zachować swoją tożsamość. Tak zresztą jest do dziś[3].

[3] Zob.: S. Lewandowska, *Życie codzienne Wilna w latach II wojny światowej*, Warszawa 2001; *Wileńskie korzenie,* pod red. Z. Gładkowskiego i B. Pilarska, Olsztyn 2012.

# “Белавежы” – 55

## АДСТОЙВАЮЧЫ ГРАВІТАЦЫЮ РАДЗІННАГА

**Вольга Шынкарэнка**

За апошнія гады значна парадзеў гаманкі лес літаратурнай “Белавежы”. Гэтай ранняй вясной паменела ў ім яшчэ на аднаго магутнага волата-зубра, памятлівага нашчадка Сварога, адмаўляльніка ўсякіх п’едэсталаў, а заадно шматгадовага рэдактара “Нівы”, таленавітага чалавечнасцю і ашчадным стаўленнем да роднага слова і культуры па-сапраўднаму шчырага беларуса, паэта, празаіка, публіцыста Георгія Валкавыцкага (13.03.1923 – 7.04.2013; выступаў пад псеўданімамі Юрка Зубрыцкі, Сідар Макацёр). Сонцапаклоннік з Белай Вежы, а менавіта адсюль *найбліжэй да Сонца* [1, с. 24], творца заўсёды па-філасофску адносіўся да магчымага сыходу, немінучасці смерці.

*Час, як рака,*
*Плыве нястрымна.*
*І не пытае куды.*

*А чалавек – дым.*
*Нат вялікі памерам,*
*Ідзе з ветрам* [1, с. 10].

Думаецца, што такое мудрае ўспрыманне згасання як аднаго з немінучых законаў светабудовы шмат у чым падрыхтавана самім лёсам забранага красавіцкім ветрам Г. Валкавыцкага, багатым, акрамя адданых блізкіх і сяброў, хіба толькі на шматлікія выпрабаванні. Пасля сямігодкі і школы рамеснікаў у Гайнаўцы ён працаваў лесніком, рабочым, слесарам. А з пачатку ліпеня 1943 г. з Белавежы, праз Бельск, Беласток, Багушы, разам з некаторымі сябрамі і знаёмымі, іншымі маладымі людзьмі ў якасці рабочай сілы (арбайтараў) на таварняках быў адпраўлены на тэрыторыю Усходняй Прусіі, затым у Кенігсберг. Менавіта тут, да вызвалення горада войскамі маршала Васілеўскага,

малады чалавек распачынае сваю “службу працы” ў розных цэхах вагоннай фабрыкі і лагерах. Пра складанасці побыту і вандраванняў, школу ваеннага выжывання і непрыдуманую абсурдную рэчаіснасць, якую аўтар *без дай прычыны не прыпудрываў, без неабходнасці не падчарняў* [2, с. 5], Г. Валкавыцкі гранічна шчыра, а недзе нават з гумарам, наколькі гэта было магчыма ў тых умовах, піша ў сшыткавым жыццяпісе “У каменным крузе” (2000). У значнай ступені выцерпець наканаванае яму дапамагалі светлыя згадкі пра найпрыгажэйшыя белавежскія краявіды, здольнасць, як прызнаецца сам пісьменнік, выключацца з рэальнага вымярэння, душою лунаць над недасяжным [2, с. 48]. Пры гэтым герой-апавядальнік бязмерна ўдзячны лёсу за тое, што апынуўся ў ліку рэдкіх шчасліўцаў: *Зведаўшы смак волі, не толькі выбраўся з мёртвай пасткі, але спяваючы прайшоў і фільтрацыю. А мог загрымець на Калыму* [2, с. 65].

І пазней яшчэ не раз кляймо, у тым ліку аздобленае “*нялётным грыфам “Быў у акупацыі”* [3, с. 22], будзе помсліва нагадваць пра сябе ў жыццяпісе Г. Валкавыцкага. У тым ліку, і тады, калі ён, *вызвалены з прускай прымусоўкі, канаў на чужой зямлі пад дулам варашылаўскага стралка* [3, с. 83] і мог быць выпадкова забіты дурной куляй п’янага камбата. Што ж, сапраўды:

*У кожнага пакалення*
*Сваe бальшавікі,*
*Свой блукаючы прывід* [1, с. 11].

Плённа раскрыць прыроджаны талент, сцвердзіцца ва ўласнай эрудыцыі і паэтычных здольнасцях, пачаць натхнёна і разняволена – *на ўзор птушыны* – выяўляць сябе, выліваць *Строгі радок, … / У мадэрна хісткае дас’е* [4, с. 11] пачаткоўцу дапамагла вучоба ў Літаратурным інстытуце ў Маскве, адпаведны творчы асяродак, а пазней праца на пасадзе галоўнага рэдактара тыднёвіка беларусаў у Польшчы “Ніва”- (1956–1987), рэдагаванне “Беларускіх календароў» і шматжанравых мастацкіх выданняў сяброў “Белавежы”.

Так ужо выйшла, і не без унутранай патрэбы самога аўтара, якога вабілі многія пачыны-дарогі, літаратурныя далягляды, шматстайныя радасці свету, што Г. Валкавыцкі на працягу ўсяго жыцця самаахдана займаўся праблемамі беларушчыны. У тым ліку стварэннем БГКТ, літаратурнага аб’яднання, таго ж тыднёвіка, мастацкіх калектываў і інш. Праўда, вельмі хутка выявілася, пра што асабліва дакладна сведчаць датавана-дзённікавыя нататкі пісьменніка “Віры” (1991), у паўсядзённым жыцці яму досыць часта даводзілася сустракацца з праявамі featureнага кшталту культаў, кампаніямі абвінавачванняў, абмежаванасцю, манкуртствам, неверагодна жахлівымі паводзінамі некаторых адказных

асоб у грамадстве, якія насуперак логіцы ўвасаблялі сабой так званае *перманентнае адзінства*. Паводле яго, гаварылася адно, думалася другое, рабілася трэцяе [4, с. 31]. Ва ўсіх гэтых праявах абсурду асабліва ярка адкрывалася *мімікрыя Задрыпоніі* і ўласная бездапаможнасць. Якраз тады пісьменнікам напоўніцу і з горыччу пераканаўся, што *горшага пачуцця, як бездапаможнасць, – няма* [5, с. 77].

На шчасце, жыццё з яго сацыяльнымі, маральнымі і духоўна-філасофскімі праблемамі не стаіць на месцы і заўсёды ўтрымлівае зрухі да лепшага. Шматпланавая па зместу і стылёвай афарбоўцы аўтабіяграфічная і мастацкая творчасць чуйнага як да адмоўных, так і станоўчых праяў быцця Г. Валкавыцкага – з нязменна прысутным у яго эга, паэзіі і прозе іранічна-з'едлівым Сідарам Макацёрам – выразна пацвярджае гэтую ісціну. Менавіта таму "Белая вязь" (1998) пісьменніка, як і ўсё, што напісана ім, прадстае не толькі ўвасабленнем рэалістычнай і адначасова фантастычнай казкі творцы *пра сваю Планіду* [6, с. 5], але і застанецца кнігай, здольнай засцерагчы яшчэ не адно пакаленне нашчадкаў Сварога ад пачуцця непаўнавартаснасці, рэнегатства, бяспамяцтва дзякуючы правідчаму запавету яе складальніка, барацьбіта з няшчырасцю і шэрасцю, берагчы *родавую вязь*, Белую Вежу, свой край. Сам Г. Валкавыцкі ведаў, наколькі гэта няпроста:

*Цяжка без радзімы.*
*З радзімай яшчэ цяжэй.*
*Замнога адказнасці* [1, с. 45].

Вечнага спачыну светлай душы мудрай і адоранай творчай асобы, годнага сына зямлі сваёй!

1. *Юрка Зубрыцкі*, Міжчассе,Беласток: БЛА "Белавежа", 2003, с. 47

2. *Георгій Валкавыцкі*, У каменным крузе, Беласток: Праграмная рада тыднёвіка "Ніва", 2000, с. 70

3. *Георгій Валкавыцкі*, Ашчэпкі (1998 – 2000), Беласток: Праграмная рада тыднёвіка "Ніва", 2002, с.120

4. *Юрка Зубрыцкі*, Рознагоддзе, Беласток: ГП БКГТ, 1989, с. 54

5. *Георгій Валкавыцкі*, Віры. Нататкі рэдактара, Беласток: 1991, с. 184

6. *Георгій Валкавыцкі*, Белая вязь, Беласток: 1998, с. 235

# Bielavieža: A Remarkable Initiative

**Arnold McMillin**

Bielavieža is a remarkable, even unique literary organization that has not only continued for over half a century, but has also grown in strength, despite or perhaps because of, its position as a minority group alongside a culturally strong majority. Its situation between Poland and Belarus has over the years given it a particular significance for the literature of both countries.

Various boundary changes in wartime and the post-war period led, amongst other things, to a considerable amount of ethnographically Belarusian territory falling within the boundaries of Poland. The population who lived there immediately became one of the most numerous minorities in Poland: in the early 1980s there were about 200,000 Belarusians in the Białystok region alone (Akiner 1982, 4). At first some of them aroused suspicions, including the ridiculous one that these Polish Belarusians were communists, simply because of their Soviet neighbours, suspicions that were quickly dispelled. The organization of Belarusian writers in Poland was begun by Hieorhi Valkavicki (b. 1923), a poet, writer and political activist, born in the village of Białowieża, who had studied literature in Moscow and on his return in 1954 became the first editor of the Belarusian weekly paper *Niva*, a post he held until 1987. In addition to encouraging writing and, in time, publishing books, many gatherings of members of Bielavieža were organized. Not all the Bielaviežcy lived in the Białystok area, but there were branches of the group as far afield as Warsaw, Opole, Krakow and Poznań. Various early outlets for Belarusian writers from the mid-1950s included the literary page of *Niva* and some Belarusian calendars: indeed, it was only in these publications that texts could be published in the late 1950s. For a review of the earlier period see Zaniewska 1997, with its evocative title, *Strażnicy pamięci*, indicating one of the main concerns of the earliest Belarusian writers in Poland. The first issue of the literary almanac *Bielavieža* in 1965 changed this situation greatly for the better. Later *Termapily* (inaugurated by Jan Čykvin [b. 1940] in 1998) and *Annus Albaruthenicus* (founded two years later by Sakrat Janovič [b. 1936]) brought the work of Bielavieža onto a broader, more academic stage. Čykvin and Janovič, undoubtedly the leading Belarusian writers in this part of Poland, also both, particularly the former, played a very considerable part in producing the group's own annual periodical. Here is not the place to discuss the outstanding creative work of Čykvin and Janovič, which has received considerable and well deserved critical attention over many years. Other writers, however, also deserve mention. Amongst those not referred to elsewhere are, in poetry: Zosia Sačko (1955) who uses strongly dialectal language, and Jurka Hienijuš (1935-1985) who also wrote

prose; amongst prose writers may be mentioned VasiÍ Pietručuk (b. 1926), Uladzimir Hajduk (b. 1941), and two who also wrote verse, the ethnographer Mikola Hajduk (b. 1933) and journalist Mira Lukša (b. 1958).

At first the quality of *Bielavieža* was decidedly uneven, and suffered particularly from a lack of professional criticism from outside the group. One of the first editors, Jaša Burš (pen-name of Janka Aniserovič, b. 1929), himself an experimental poet, called for a break with the formally conventional and thematically rustic traditions of some of his compatriots (Burš 1963, 3). His challenge was taken up by many of the Bielavieža poets, as was confirmed by Jan Čykvin in his frank introduction to the third volume to be entitled *Bielavieža* (in 1980; the second volume had appeared in 1971) (J. Čykvin 1980, 3), one sign being that some of their work was translated into Polish. Two books of the Bielavieža group's works had appeared earlier: *Ruń* (Białystok, 1959) and *Moj rodny kut* (Białystok, 1963); a third volume named *Bielavieža* came out ten years later in Belarus itself: *Litaraturnaja Bielastoččyna*, and a fourth, again in Białystok, in 1988 (Valkavycki 1988).

In time, books of individual writers began to appear, one of the first being *Bielaviežskija matyvy* by Aleś Barski (pen-name of Aliaksadr Barščeŭski, b. 1930 ) (Barski, 1962). Since that time there have appeared many poetic collections ranging from the outstanding work of Jan Čykvin and other enterprising poets like Jaša Burš and Nadzieja Artymovič (b. 1946) to the more conventional work of Viktar Švied (b. 1925), much of his work being narrative, reminiscent or with young audiences in mind, a characteristic book being *Dziacinstva prystań* (Švied 1975). Easily the most gifted in both prose and playwriting is Sakrat Janovič, who has always lived in Krynki near the Belarusian border, some distance from Białystok. These and many other Bielavieža writers have been discussed in a considerable number of articles and monographs, amongst the most detailed of the general surveys being those by Akiner (1982, 1983), Konan (Skobla (ed.), 2000, 3-10), Barščeŭski (2001), McMillin (2002 and 2004) and Zaniewska (1992 and 2010, 13-60). Alongside this critical literature there are many studies of individual writers. Very important for the overall picture are the several bibliographies, tracing the history of the group's activities. These include Janovič 1979 (which also cites reviews of the publications listed), J. Čykvin 1998 and 2003, and Charytaniuk, 1998. A record worth mentioning particularly is a photographic collection that acts as something of a supplement to the other collections and studies, especially Skobla 2000: J. Čykvin 2003.

Admirable as such thorough chronicling of the activities of Bielavieža undoubtedly is, simple statistics reflect neither the inspiration of individual writers nor the immense efforts of the editors and compilers of the group's almanacs and periodicals. Nonetheless, a few statistics will indicate the tremendous progress that was made since the start of the initiative in 1958: by

1980 twenty-five books and at least two thousand literary works had been published, in addition to which about three thousand meetings had been held (J. Čykvin 1980, 3-4). Also noted is that by then four Bielavieža writers had become members of the Union of Polish Writers. By 1992, this number had risen to nine (Tvaranovič 2000, 154). At the millennium, 140 books had been published as part of the organization's Library, which had been founded by Čykvin in 1990. The overall number in the group at the beginning of the 21st century was over six thousand, swelled by many new members.

Bielavieža could be called a small fatherland,[1] a border territory, not only geographically but also culturally between Poland and Belarus. Some of the principal literary themes are shared between all three cultures, especially the problems of town and country, and the generation gap. More specific to the Polish Belarusians is the theme of loss, not only of fatherland and youth, but of much else that need constant vigilance such as language and ethnic identity, for instance. Unsurprisingly, the influence of Poland and its culture has become increasingly strong. Writers like Eduard Różewicz, Konstanty Gałczyński and Tadeusz Nowak have been particularly influential on the group's poets, including Čykvin, Artymovič and Michaś Šachovič (b. 1953). On the other hand, the writing of the best Belarusian writers, through translations into Polish, has also enriched its host culture, whilst Polish translations of world literature have potentially broadened the experience and outlook of the Belarusian group. As part of this process, in 1998 there was held a productive meeting in Białystok to discuss Polish-Belarusian cultural relations. For many years the Polish government encouraged and to some extent subsidized the group's activities, although some Polish readers were shocked by Sakrat Janovič's 1985 essay on the relationship between Polish and Belarusian literature, *Białoruś! Białoruś!*. Elżbieta Čykvin has referred to Bielavieža, a productive minority, as stigmatized (E. Čykvin 2000), and its problems should not be understated, for example, the tendency of some Belarusians of the area to look down on their language as simple compared with more sophisticated Polish, a phenomenon that was satirized by Aleś Barski in a play that appeared in the first issue of *Bielavieža* (Barski, 1965). This naive, not to say stupid, snobbery, *mutatis mutandis*, is very familiar in Belarus itself from the top down (or vice versa). On the other hand, an undoubted success that arose from the early inspiration and efforts of Bielavieža was the founding in 1956 of a chair of Belarusian at Warsaw University, headed at first by Professor Antonina Obrębska-Jabłońska and, later, by the prominent poet and scholar from the Bielavieža group, Aliaksandr Barščeŭski.

The considerable change in literary practice and theory over the last half century (to which, incidentally, writers like Švied, Dźmitry Šatylovič [b. 1926] and, from the younger generation, Jurka Bajena [b. 1957] remained largely immune) were more than matched by political changes in Poland and

Belarus. According to Janovič, funding for his annual literary gatherings in Krynki diminished radically after Poland entered the EU and NATO, events which, of course, had a powerful effect on Belarus's attitude to its western neighbour. Any lack of funds or stigmatization, however, fades by comparison with the oppression of the Polish minority in Belarus. Moreover, the organization Bielavieža seems like a haven of civilization compared with the tragic recent events in Belarus, as the authoritarian regime has tried, so far unsuccessfully, not only to damage the Writers' Union but also to destroy real literature and its practitioners by ruthless sanctions and by the creation of a second union in the pay of the authoritarian regime and led by a General from the Ministry of the Interior. Against this background, a national minority in a large democratic country does not seem at all a bad option

Present day problems only highlight happier times, such as 1991, with Belarus between independence and dictatorship, when the outstanding poet Aleś Razanaŭ (b. 1947) and the philosopher Uładzimir Konan (1934-2011) visited Bielavieža at the invitation of Jan Čykvin. Also notable, and a sign of what might be in other, better circumstances was Razanaŭ's set of very characteristic hermeneutic commentaries or responses to poems by Artymovič (Razanaŭ 1994). If nothing changes for the better in Belarus, the community in Poland will have to bear an increasing burden responsibility for keeping national culture alive, somewhat as Chopin did in France. In any case Bielavieža is a landmark on the map of European culture in its own right and can take pride in many real achievements. Žyvie Belarus! Žyvie Bielavieža!

**Literature**


Akiner, Šyryn, *Sučasnyja bielaruskija piśmieńniki ŭ Polščy*, Białystok: Haradzki dom kuĺtury, 1982.

Akiner, Shirin, 'Contemporary Byelorussian Literature in Poland (1956-81)', *Modern Language Review*, 78, 1, 1983, 113-29.

Barski, Aleś, *Bielaviežskija matyvy*, Białystok: Vydańnie praŭleńnia Bielaruskaha hramadska-kuĺturnaha tavarystva, 1962.

Barski, Aleś, 'Haradskija hości', *Bielavieža*, 1, 1965, 19-40.

Barščeŭski, Aliaksandr, *Tvorcy bielaruskaha litaraturnaha ruchu ŭ Poĺščy 1958-1998*, Minsk: Technaprynt, 2001.

Burš, Jaša, 'Budučynia u pošukach (Artykul dyskusijny', *Niva*, 1963, 5, 3 and 7.

Charytaniuk, Grażyna (comp.), *Polskie białorutenika literackie: Bibliografia przedmietowa 1945-1998*, Białystok: Bielavieža, 1998.

Czykwin, Elżbieta, *Białoruska mniejność narodowa jak grupa stygmatyzowana*, Białystok: Trans Humana, 2000.

Čykvin, Jan et al. (eds), *Bielavieža*, Białystok: Vydańnie praŭleńnia Bielaruskaha hramadska-kuĺturnaha tavarystva, 1980.

Čykvin, Jan (ed.), *Maje pieśni tabie daru: Litaraturny aĺmanach*, Biały-

stok: Bielavieža, 1993.

Čykvin, Jan, *Bielaruskaja litaratura Poĺšču: Biblijahrafičny daviednik 1957-1998*, Białystok: Bielavieža, 1998.

Čykvin, Jan, *Bielaruskaja litaraturnaje ab'jadnańnie Bielavieža u fatahrafijach 1958-2003*, Białystok: Bielavieža, 2003.

Janovič, Sakrat et al. (eds), *Bielavieža: Kronika sekcji literacko-plastycznej 'Białowieża' ZG BTS-K*, Białystok: Klub Związku Literatów Polskich and Białostockie Zakłady Garbarskie, 1979.

Janovič, Sakrat, *Miniatures*, ed. and trans. Shirin Akiner, London: The Anglo-Byelorussian Society, 1984.

Janovič, Sakrat, *Białoruś! Białoruś!*, Warsaw: Iskry, 1987.

McMillin, Arnold, *Belarusian Literature of the Diaspora*, Birmingham: Birmingham Slavonic Monographs, 34, 2002.

Makmilin, Arnol'd, *Bielaruskaja litaratura dyjaspary*, Minsk: Technaprynt, 2004.

Razanaŭ, Aleś, *Dźviery: tekst i kantekst*, Białystok, Ministerstwo Kultury i Sztuki, 1994.

Skobla, Michaś (ed.), *Bielaruskija piśmieńniki Poĺšču: Druhaja palova XX stahodździa*, Minsk, Bielaruski knihazbor, 2000.

Švied, Viktar, *Dziacinstva prystań*, Białystok: Vydaviectva HP BHKT, 1975.

Tvaranovič, Halina, *Sliaza piakučaja ajčyny: Tvorčy partret Jana Čykvina*, Białystok: Bielavieža, 2000.

Valkavycki, Hieorhi, *Bielavieža: Litaraturny aĺmanach*, Białystok: Addziel kuĺtury i mastactva Vajavodskaj upravy ŭ Bielastoku, 1988.

Zaniewska, Teresa, *Stražnicy pamięci: Poezja białoruska w Polsce po roku 1956*, Białystok: Trans Humana, 1997.

Zaniewska, Teresa, *Podróż daremna: Szkice o poezji białoruskojęzycznej w Polsce*, Białystok: Bielavieža, 1992.

Zaniewska, Teresa (ed.), *Białorusini*, Warsaw: Wydawnictwo Sejmowe, 2010.

Žyčka, F. and P. Šaŭcoŭ (eds), *Litaraturnaja Bielastoččyna*, Minsk: Mastackaja litaratura, 1973.

# ГАЛЕРЭЯ ВОБРАЗАЎ-ТЫПАЎ БЕЛАСТОЦКАЙ ПІСЬМЕННІЦЫ МІРЫ ЛУКШЫ

**Ала Петрушкевіч**

Свет, які стварае ў сваіх апавяданнях беластоцкая пісьменніца Міра Лукша, убірае ў сябе тыя працэсы, якія відавочныя на сённяшняй Беласточчыне: знішчэнне таго мацерыка беларусчыны, а поруч з гэтым і тых спрадвечных маральна-этычных нормаў, якімі жылі ранейшыя пакаленні. Недарэмна, рэцэнзуючы кнігу пісьменніцы "Бабскія гісторыі", літаратуразнаўца Анна Саковіч назвала свой артыкул "Вобразы свету, які адыходзіць".

У цэнтры галерэі вобразаў, створаных Мірай Лукшай, тып маленькага чалавека, які ціха, непрыкметна жыве ў сваёй вёсцы самотна або са сваёю сям'ёю, выжывае ў розных не зусім спрыяльных варунках, а ўрэшце проста дажывае адведзенае яму ў гэтым свеце. За лёсам кожнага героя (часцей гераіні) аўтарка бачыць лёсы цэлых пакаленняў. Ёю створана вялікая галерэя разнастайных вобразаў-тыпаў.

Галоўнае, што аб'ядноўвае большасць вобразаў, – гэта тып, які вымірае. І працэс гэты няўмольны, незваротны. Таму невыпадкова, што многія героі – людзі сталага веку. Аўтарка адлюстроўвае працэс знішчэння старых адносін між людзьмі. Яны ўжо і не жывуць, а дажываюць, але ўсё ж трымаючыся за сваё.

Адмірае тое, што спрадвеку было асновай існавання ў гэтым Краі, – любоў да зямлі і праца на ёй. Унутраны маналог гераіні апавядання Настулі, якая праз няпростае змаганне з сквапнымі нашчадкамі гаспадара даказала сваё права на зямлю, напоўнены глыбокай роспаччу: "Як жа можна зямлю аддаваць, калі яе ніхто рабіць потым не хоча?! Ляжаць палоскі аблогамі! Як чалавек можа на гэта глядзець! Ці ж ім сэрцы не баляць!" [1, с. 34]. Гэты крык душы гераіні выказаны праз рытарычныя пытанні. Адказы на іх зразумелыя – адмоўныя. Відавочна, многія глядзяць спакойна і сэрцы ім не баляць. Але жыццё тут яшчэ ўсё трымаецца не на гэтых абыякавых сузіральніках заняпаду, а менавіта на такіх, як яна, Настуля.

Любоў да зямлі, якая была грунтам існавання, гэтае вялікае пачуццё ўспрымаецца зараз як анахранізм, а нават як дзівацтва. Сям'я Печкуроў, што шчыруе не толькі на сваіх загонах, але і апрацоўвае палеткі суседзяў, не знаходзіць у тых разумення: "Нашто Печкурам тая работа, тая зямля?.. Дзеці ўсе ў горадзе, усім кватэры бацькі пакуплялі, цяпер унукам усё поўныя торбы цягнуць… Каму ўсё гэта пакінуць, тую гаспадарку?" [1, с. 50]. Такім апантаным у працы на зямлі паўстае і Раман – герой аднайменнага апавядання. Разважаючы пра яго шчыраванне

на зямлі, суседзі прыходзяць да высновы, што не здолеў чалавек змяніцца, адысці ад таго, чым жыў заўсёды: “Ну, весь век добры гаспадар быў. Без зямлі жыць не можа, рукі склаўшы” [1, с. 55]. Разважаючы над гэтымі праблемамі, даследчыца прозы белавежцаў Галіна Тычка падкрэслівае: “Трагічны і непрадказальны паводле сваіх наступстваў адыход у нябыт феномена чалавека-гаспадара, феномен вёскі, як асноўнай захавальніцы нацыянальна-адметнай самасвядомасці… у кнізе М. Лукшы паказаны надзвычай выразна” [2, с. 187].

На першы план пісьменніцай якраз і вылучаюцца асобы працавітыя. Апантаныя працаю, якія бачаць у ёй сэнс існавання, асабліва не вылічаючы выгаду ці нявыгаду. Найлепшая характарыстыка такім асобам “рабацяшчая”, як, да прыкладу, Марылька з апавядання “На сваім”. Пад свае паводзіны героі падводзяць філасофскую аснову. Так, гераіня апавядання “Ратунак”, ад чыйго імя вядзецца аповед, як глыбока вынашанае, як аксіёму, сцвярджае: “Так Бог дае чалавеку труд, каб выжыў” [1, с. 53]. Сэнс назвы “Ратунак” – гэта і ёсць праца, цяжкая, не заўсёды стваральная, часам разбуральная, што не заўсёды ідзе на карысць іншым (жанчыне давялося здалёку насіць і прадаваць самагонку). Але гэта быў адзіны ратунак, каб не памерці з голаду ў цяжкія пасляваенныя гады, каб падняць дзяцей. Аўтарка не выступае тут суддзёю, як, зрэшты, і ў іншых творах. Аде і не староннюю апавядальніцай.

Большасць герояў – асобы адкрытыя свету. Яны выказваюць свае беды, здольныя да споведзі. Многія творы і ўяўляюць сабою такія асабістыя споведзі. І спавядаюцца людзі не перад жорсткім суддзёю, які здольны вынесці справядлівы, але не заўсёды спачувальны прысуд, а перад прыязным чалавекам, якога шануюць, якому давяраюць. Часам гэтым слухачом непасрэдна паўстае вобраз аўтара, свайго чалавека ў беластоцкай глыбінцы. Як адзначыла Анна Саковіч, “сялянскі свет добра вядомы пісьменніцы, але дыстанцыя паміж яе гераінямі, вясковымі жанчынамі і аўтаркай вельмі выразная. М. Лукша шкадуе сваіх гераінь, шчыра спачувае ім, бярэ ў абарону, аднак пры тым цікавіцца імі ў пэўнай ступені ўжо як “музейнымі рарытэтамі” [3, с. 307].

У некаторых творах асоба аўтаркі ўключана ў сюжэтную канву. А часам гэты вобраз паўстае апасродкавана, але прысутнасць яе, уважлівай слухачкі, заахвочвае да шчырае споведзі. Іншыя героі апавядаюць пра жыццё добрых знаёмых, суседзяў, сяброў. Гавораць ад іх імя, бо не могуць не паведаміць свету пра надзвычай цікавыя гісторыі, сведкамі якіх яны былі. Бо героі гэтых аповедаў самі расказаць не могуць. Яны ўжо не жывуць, як у творы “Пад акупацыяй”, у якім пераплецена столькі чалавечых лёсаў, столькі болю, смерцяў. Бо праз жыццё гэтых людзей прайшла ваенаая навала.

Ці проста не можа Марылька, гераіня апавядання “На сваім”, падзяліцца з іншымі тым, што давялося перажыць ёй ад нялюдскіх свёкраў. За яе раскажа добрая суседка, бо ўсё ж адбываецца на яе вачох.

Але пісьменніца далёка не ідэалізуе людзей і вясковае беларускае жыццё. Поруч з цалкам станоўчымі тыпамі, якія і насамрэч, без усялякай пісьменніцкай ідэалізацыі, сустракаюцца між нашага люду, існуе і іншы тып чалавека зацятага, злога, які жыве нянавісцю, чыя дзейнасць разбуральная, скіраваная на знішчэнне. А ўчынкі вызначаюцца жорсткасцю. Нават да самых блізкіх. Такія свёкры Марылькі. “Як ваўкі”, – гэтую трапную характарыстыку знаходзіць ім, крыху задумаўшыся, суседка-апавядальніца.

У аснове сямейнай канцэпцыі, створанай пісьменніцай, звычайна лёс дзяцей, які вымяраецца традыцыйнымі меркамі: удаўся – не ўдаўся. У першым разе ва ўсіх жыццё складваецца амаль аднолькава: кудысьці з’ехалі, займелі добрае жыллё, гадуюць сваіх дзяцей. Адышлі ад гэтага свету. У другім выпадку ў кожнага свая гісторыя, свае трагедыі. Цэлая галерэя такіх вобразаў створана пісьменніцай у кнізе “Бабскія гісторыі”. Гэта адзінокія мужчыны, што засталіся самотнымі, не маючы ні сям’і, ні блізкіх людзей. Большасць з іх топіць сваю адзіноту ў гарэлцы. Многія не страцілі дабрыні, а іншым характэрны праявы жорсткасці, нялюдскасці.

Ужо на першай старонцы кнігі сустракаем такога “няўдалага” сына гаспадара Андрэя і яго жонкі Надзі: “Шосты, наймалодшы, у позні век народжаны, Ясь, не вельмі ім удаўся, цяжка яму давалася навука, і астаўся на гаспадарцы. Дзякаваць Богу і за такое, а можа перш за ўсё якраз за тое, што астаўся памочнік дома... Але памёр Ясь. Шкада, непітушчы, спагадлівы, рабацяшчы быў хлопец. Ішоў з вясковага клуба цераз лес і штосьці з сэрцам яму зрабілася” [1, с. 5]. Але гэта якраз тая “няўдаласць”, якая магла толькі радаваць бацькоў, калі б не такі змрочны фінал.

Зусім іншым паўстае Вінцусь з апавяданні “Зязюльчыны слёзы”, сын Жэні Зязюлі, калісьці выдатнай краўчыхі, які дайшоў да апошняй ступені маральнай дэградацыі: крадзе нават у маці: “Той трэці сын зусім ёй не ўдаўся. Старэйшыя паканчалі студыі, а гэтага выкінулі ў першым класе з сярэдняй. Навучыўся ў жыцці толькі піць ды біцца. Былі калісь славутыя Баяры сваімі “баярамі”, ды тыя баяры мелі свой гонар, хоць бандыцкі. Рабавалі не сярод сваіх. А цяпер во павялося!.. Матцы забірае” [1, с. 178]. У творы па-мастацку пераасэнсоўваецца фальклорны матыў зязюліных слёзаў. Гераіня, якая па іроніі лёсу носіць прозвішча Зязюля, зязюляй да сваіх дзяцей не была. Падсвечваюць гэты матыў і тыя нялётныя зязюляняты, якія немаведама адкуль бяруцца на падворках гаспадароў і якіх няшчадна забіваюць куры, як нейкае недарэчнае насланнё, што павялічвае і так глыбокі смутак няшчаснай

кабеты. Праліваць слёзы ёй даводзіцца з-за дзіцяці, якое ў рэальнасці не страціла, але трапіла ў становішча, што выглядае горш, чым страціла б.

Безумоўна, не абышла аўтарка гендэрную праблематыку. Гэта заяўлена ўжо ў назве кнігі. Калі раней у нашай прозе, як і ў жыцці, відавочным было дамінаванне мужчынскага пачатку, то ў творах Міры Лукшы, безумоўна, назіраецца перавага жаночага. Класічная фраза, укладзеная ў вусны жанчыны, "рабіць з мужчынаў чалавекаў", сцвярджае ідэю выключнай ролі жанчыны ў сям'і, у вырашэнні розных праблемаў. Гераіні ўмеюць трымацца за жыццё, даць сабе рады ў кожнай сітуацыі. Яны больш камунікабельныя, чым самотныя мужчыны, значна лягчэй вырашаюць побытавыя праблемы, не засяроджваюцца на сваіх бедах, што дае адчуванне недарэмнасці існавання, патрэбнасці людзям. Такою паўстае Нюрка, гераіня апавядання "Не мела баба… дзеда", якая "мела талент натуральнага і простага кантакту з людзьмі. Адкрываліся перад ёю незнаёмыя людзі ў цягніку, на прыпынках, якраз у яе пыталі дарогу, парады. І сама заўважала, да каго трэба падысці з дапамогай, з добрым словам" [1, с. 9].

Адзінота часцей не палохае жанчын. Яны ўмеюць развеяць яе, клапоцячыся пра іншых, забываючыся на свае беды. Так, гераіня апавядання "Раман і Юля", што зведала вялікую несправядлівасць, абразу, здраду з боку чалавека, якога кахала, за якога выйшла замуж, пакінутая ім, і ў сталым веку засталася такою ж добрай, ахвярнай. Ён з'явіўся (патэлефанаваў), калі жыццё ўжо мінула, стары, бяззубы, без грошай. Без злосці і крыўды гэтая жанчына дазваляе яму: "Прыязджай…" Аўтарка выкарыстала ў гэтым творы кальцавую кампазіцыю, калі апавяданне пачынаецца і заканчваецца той жа тэлефоннай размовай. А між рэплікамі, нібы адно імгненне, прамільгае чалавечае жыццё. Матыў усёдаравання гучыць тут адначасна і нечакана, і вельмі натуральна, бо гераіня твора ўсё жыццё жыла па законах дабра, міласэрнасці (недарэмна ж яна працуе медсястрой). Іначай, напэўна, яна зрабіць і не магла б, бо ўсё жыццё імкнулася гарманізаваць свет свайго жыцця і стаць апораю для іншых.

Не абышла пісьменніца надзвычай важную праблему нацыянальнай ідэнтычнасці, бо, як слушна сцвярджае даследчыца айчыннай прозы Алена Белая, гэтая праблема "ў беларусаў паўставала востра і не заўсёды вырашалася ў духу талерантнасці" [4, с. 177]. Паўстае тып сумленнай, прыгожай жанчыны, што трывае абразы з-за сваёй нацыянальнасці.

Пагардлівае стаўленне да беларусаў, зняважлівая назва "кацапка", якую даводзіцца чуць на свой адрас гераіням апавяданняў "Не мела баба… дзеда", "Настуля", успрымаецца як нічым не заслужаная абраза, што, натуральна, выклікае крыўду. Асабліва, калі перажыванні выказвае маці, якая аддала замуж дачку-беларуску за мазура. Каштоўнасць такога

жыцця жанчыны зведзена на нішто: "Што гэта за жыццё, калі штодзень чуе яна "кацапка" ды "кацапка" і ад яго, і ад свякрухі, і ад родных сыноў!" [1, с. 34].

Вылучаецца між жаночых вобразаў незвычайны тып жанчыны-пасіянарыя. Гэта гераіня апавядання "Марыя Кузьма". Мо і пражыла б гэтая кабета звычайнае жыццё, не выявіўшы незвычайную сілу свайго характару, калі б не пякельныя ўмовы ваеннага часу, у якіх ёй даводзілася ратаваць іншых, каб не загінуць напрыканцы вайны, у выгнанні. Усё зруйнавана, мноства людзей, як у нейкім пекле, смагнуць без вады, а яна цячэ па вуліцы, атручаная. І ратаваць усіх выйшла менавіта гэтая кволая жанчына: "Я падышла да тых немцаў, што стаялі ў браме, гляджу па-за імі – а там лонкі відна, даліну, волю! А вада гудзе па тратуары. Кажу немцу: "Дайце вады! Мы на вас столькі працавалі! Дзеці нашыя ўміраюць, вады просяць... З нашых гаспадарак тое ў нас засталося, што на плячах, а мы ж мелі дамы, кароў, коней... Нас сагналі вы сюды тысячамі, дайце нам хоць перад смерцю напіцца. Пасля можаце нас усіх, і дзяцей нашых – пабіць" [1, с. 58]. Гэты кантраст: маленькая бяззбройная жанчына і ўзброеныя дужыя салдаты, асабліва падкрэслівае незвычайную смеласць гераіні. Звяртаецца яна, імкнучыся выклікаць у іх чалавечыя пачуцці спачування, апелюючы да іх гуманнасці, але гэта просьба не прыніжанай ахвяры, а годнага чалавека, які патрабуе, гаворыць з выклікам і нават з пагрозай: "Я тады была такая цянюткая, толькі што выйшла з бальніцы, страшныя атакі болю пячонкі мяне ў крук сагнулі... Стаю такая маленькая перад тымі ўзброенымі немцамі. "Я свайго шаснаццацігадовага сына, такога як і вы, аддала ў акопы, не ведаю, ці ён жывы... Дайце вады! Жыццё і так усё страчана наша. А не – то мы самі вас паб'ём!" [1, с. 58].

Шлях гераіні, яе сям'і і іншых выгнанцаў з ахопленай вайною Нямеччыны нагадвае апакаліптычныя карціны, калі ўсё вакол віравала смяротным агнём. Але ўсё ж і яна сама і яе блізкія ацалелі, бо такою моцнаю была яе сіла, яе слова, да якога прыслухоўваліся і немцы, і рускія. Перад намі паўстае вобраз жанчына-правадыра, якая вядзе людзей да выратавання: "Занялі нас рускія, пазбіралі, уцягнулі ў якісь дом. А на трэцім паверсе – немцы. У паніцы выбегла адна жанчына. То выбяжыць, то зноў вернецца, нікога не слухае. Трэці раз выбегла, немец з акна – пах! У апошні дзень вайны загінуць... Бабы ў плач. Я выйшла, прашу таго, што з камяніцы страляў, па-нямецку: "Не трэба страляць! То ж усенька Бог бачыць! Мы ж столькі год на вас рабілі! А гэтая ж жанчына нямецкая фраў, і яшчэ адна тут з намі ёсць, бо мы тут усе, цывільныя, перамешаныя!" Бачу, перабег той немец доўгім акном. Кажу людзям: "Бярэце свае гаспадаркі на плечы, пойдзем. Не плачце! З намі Бог. Я з радзінаю сваёю пайду спераду" [1, с. 59]. Гэты іх паход бачыцца адчайным рухам, выкліканым магутным імкненнем захаваць

жыццё, калі спадзявацца можна было толькі на Бога.

Той, іншы свет існавання, па-за вёскай, для галоўных герояў Міры Лукшы закрыты. Там, у новых вілах, кватэрах, пабудаваных часцей не без іх удзелу, жывуць дзеці, унукі. Ім жа месца ў летніх кухнях, у калідорах. А калі нават у сваёй кватэры, то гэта часовы прыстанак, бо ўжо будучыя гаспадары-нашчадкі ўважліва цікуюць за старымі, ведаючы, што ім хутка прыйдзе пара перабірацца ў Вечны Дом.

Пісьменніца далёкая ад таго, каб ідэалізаваць часам невыносную, знішчальную для прыгажосці працу на зямлі, якая забірае ўсё, не даючы ўзамен ні задавальнення, ні шчасця. І ў адлюстраванне жыцця гэтых людзей-працаўнікоў уваходзіць новы матыў – метамарфоза, якая адбываецца з чалавекам, пераўвасабленне яго ў іншага, калі рэзка змяняецца лад жыцця, які змяняе герояў і знешне, і ўнутрана. Паўстае новы тып загадкавай жанчыны. Да прыкладу, гераіня апавядання "Надзя з Пядзі". Заміж той зямлі, якая забірала ўсе яе сілы, жанчына знайшла для сябе іншы свет, цікавы, прывабны, дзе яна адчула сябе жанчынаю. Недарэмна зямля гераіні называецца Пядзяю. Кавалак, які закрыў увесь свет. Нечаданна для ўсіх яна знаходзяць шчасце.

Праўда, мы не бачым іх там, у тым новым, шчаслівым жыцці. Міра Лукша малюе выключна гэты свет. Яны, змененыя да непазнавальнасці, вяртаюцца сюды з розных нагодаў, але ненадоўга. Каго прыводзіць на колішнія сядзібы настальгія, якая гучыць у душах несціханаю смутнаю песняю. Так, у апавяданні "Дом Паўліны" матыў вяртання гераіні дасканаліцца пяшчотнай пейзажнай замалёўкай, якія вельмі ашчадна і даволі рэдка выкарыстоўвае Міра Лукша. Пейзажныя вобразы рухомыя, дынамічныя. Не толькі таму, што героі-падарожныя назіраюць іх, едучы ў машыне. А таму, што ўсё наогул існуе ў пастаянным руху, у зменах: "Шаша роўна бегла паміж бярозкамі, свежыя лісточкі якіх павявалі на доўгіх, далікатных галінках над узбочча̀м дарогі, там-сям прамільгалі за маладняком хутары ў старых садах. Паднялося роўнай шчоткай жыта, праз шыбу ўціскаўся салодкі пах гною і свежае зямлі" [1, с. 43]. Гэтая карціна падаецца праз успрыняцце Паўліны, што жыве ў далёкай Амерыцы і з настальгіяй убірае ў сябе даўняе, роднае, што так яскрава паўстала перад вачыма. А вось яе сяброўку дзяцінства, тутэйшую жанчыну Карусю Маліноўскую краявіды не кранаюць, бо звыкла бачыць іх заўсёды, бо яны для яе "аднолькавыя і нецікавыя".

А іншых прыводзяць сюды справы, як Надзю з Пядзі, што выглядае зараз "як з нейкай амерыканскай "Дынастыі". Далёка не замілаванасць да ранейшага ўзнікае ў душы гераіні. Не жадае яна нават справамі зямельнымі займацца, так даўся ёй у знакі гэты кавалак зямлі, забраўшы яе маладосць і здароўе.

Сустракаюцца ў гэтай галерэі вобразаў асобы рэфлексійнага тыпу, што выпрацоўваецца, дасканаліцца найперш дзякуючы прафесійнай

дзейнасці. Гэта пісьменнікі, мастакі, настаўнікі. Але нават і “простыя” людзі, узгадаваныя зямлёю і працай рук сваіх, здольныя да развагаў, роздуму пра сваё жыццё. Незвычайныя гэта асобы, інтуітыўныя філосафы, якія задумваюцца над вечнымі праблемамі. Іх цікавіць, чаму адбываецца так, а не інакш. Часцей яны фаталісты. Прыходзяць да высновы: такі лёс, а лёс не выбіраюць. Як герой апавядання “Дом Паўліны” Ігнась, які, застаўшыся самотным, прымае гэта як наканаванасць: “Не сам жа чалавек свой лёс выбірае. З лёсам на гэты свет прыходзіш…” [1, с. 47].

Большасць герояў, прыняўшы наканаванае, дажываюць у сваіх хатах, ратуючыся ад адзіноты рознымі спосабамі. Але сустракаецца між імі даволі рэдкі тып героя, які ў айчынную класічную літаратуру ўпершыню ўвёў Максім Гарэцкі. Гэта асобы, здольныя да меланхоліі, душэўна надзвычай далікатныя, якія ўспрымаюць усе беды свету як асабістыя трагедыі. На першы погляд, усё ў іх добра. Але не толькі матэрыяльнымі дабротамі, ладам у сям’і вымяраюць такія асобы вартасць свайго жыцця і жыцця іншых. Дваіцца іх душа. Між знешнім ладам і ўнутранай незадаволенасцю, што і прыводзіць да трагедыі. Такім паўстае Міхал Брук з апавядання “На злосць павешуся!” Дарэчы, назва твора вельмі недакладная, а нават недарэчная. Бо не меў герой ніякага зла ні на кога. І фраза гэтая, не ўкладзеная ў ягоныя вусны, бо яна яму і нехарактэрная, проста “павісае” ў паветры. А пайшоў з жыцця герой, бо меў непераадольную дэпрэсію: “Находзіла на яго нейкая туга. Усё гаварыў, што так перажывае бяссэнсавасць існавання, войны на свеце, гвалт і голад на зямлі” [1, с. 116]. Нагадвае чалавека, які не змог злагодзіць свой дабрабыт з пакутамі іншых, хай нават далёкіх і невядомых людзей, пазбаўленых самага неабходнага. Ягоны зварот да маці сведчыць пра гэта: “Гляньце, мама, мы забілі звера, ямо яго мяса, а ў Афрыцы дзеткі з голаду пухнуць, нават адной бульбіны не маюць. Жывецца мне так добра, а ўсё здаецца, бы грашу. За што мне Бог даў такое шчасце?” [1, с. 116]

Роспачнае пытанне маці ў фінале твора якраз і прыводзіць да высновы, што не ад злосці ён загубіў сваё жыццё, бо да ўсіх і ўсяго быў выключна добрым. А ад чагосьці незразумелага іншым людзям, якія здольныя проста радавацца шчаслівым падзеям, перажываць гора спакойна-натуральна, без надрыву. Людзям звычайным, якія характарызуюцца выпрацаванай здаўна меркай: як усе. Трагедыя Міхала якраз у тым, што ён не быў як усе: “Але, вось, бачыце, нашага Мішу ўсе людзі так любілі, паважалі... Нават чужыя сабакі, каты за ім проста ўлягалі, хадзілі за ім, як прывязаныя. Якую ж злосць ён мог мець на жыццё?..” [1, с. 117]. Невыпадкова пісьменніца заканчвае твор гэтым пытаннем. Яно застаецца, бо адназначна вытлумачыць трагедыю, якая адбылася ў сям’і Брукаў, нельга.

Анна Саковіч слушна вылучае яшчэ адзін цікавы тып, створаны Мірай Лукшай, – верніцы, які асабліва выразна выяўлены ў вобразе Сасанны, гераіні аднайменнага апавядання: "…З заглыбленнем у гісторыю гераіні перад чытачом узнікае вобраз вельмі веруючай жанчыны. Хіба менавіта яе вера і малітвы памаглі выжыць ёй…" [3, с. 309]. Ды і ўчынкі Марыі Кузьмы таксама ўвесь час вывяраюцца Боскімі законамі дабра і справядлівасці.

У аснове аўтарскага стаўлення любоў да сваіх герояў, гэтых звычайных, нічым асабліва не прыкметных людзей. Любоў, якая не выказваецца непасрэдна, але яскрава праступае праз скупаватыя аўтарскія характарыстыкі, праз характарыстыкі з боку іншых персанажаў, але найперш праз учынкі і паводзіны саміх герояў.

Як гэта ні скрушна, свет герояў Міры Лукшы і сапраўды адыходзіць у нябыт. Але, увасоблены ў вобразах, у мастацкім слове, ён застанецца цікавым для тых, хто не імкнецца як найхутчэй разарваць сувязь з сваімі каранямі.


1. Лукша, М. Бабскія гісторыі, Беласток: ББЛА "Белавежа", 2001.
2. Тычка, Г. Жаночы погляд Міры Лукшы, //М. Лукша. Бабскія гісторыі, Беласток: ББЛА "Белавежа", 2001, с. 181–190.
3. Саковіч, А. Вобразы свету, які адыходзіць ("Бабскія гісторыі Міры Лукшы"), // Тэрмапілы 2008, № 12, с. 307–315.
4. Белая, А.І. Герой. Асоба. Характар (мастацкая персаналогія ў беларускай прозе першай трэці XX стагоддзя), Баранавічы: РВА БарДУ, 2012.


Да 80-годдзя
з дня нараджэння пісьменніка

# Народная мудрасць у казках і легендах Міколы Гайдука


**Ангеліна Масальская**


Мікола Гайдук быў адным з паэтаў і празаікаў Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Тварыў на працягу многіх гадоў і, несумненна, унёс у беларускую паэтычна-празаічную плынь свой важкі ўклад.

Нарадзіўся пісьменнік 29 мая 1933 года ў вёсцы Кабылянка Беластоцкага ваяводства ў сялянскай сям'і. Два гады вучыўся ў савецкай школе. Падчас нямецкай акупацыі наведваў нелегальную беларускую школу, у якой вучыў праваслаўны святар Уладзімір Дарашкевіч, паз-

нейшы мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій. Пасля вайны скончыў агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове (1951). Потым два гады працаваў у гміннай управе. З 1953 года вучыўся ў СССР на філалагічным факультэце ва ўніверсітэтах Растова-на-Доне, Ленінграда, Мінска. Сваю вышэйшую адукацыю атрымаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце (1959) як спецыяліст у галіне русістыкі і беларусістыкі.

Вярнуўшыся ў Польшчу, М. Гайдук пачаў працаваць у рэдакцыі штотыднёвіка ”Ніва” ў Беластоку, а праз паўгода выехаў у Бельск Падляскі, каб выкладаць беларускую, рускую і лацінскую мовы і літаратуры ў Бельскім беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча. На працягу 1965–1971 гадоў ён быў дырэктарам гэтага ліцэя. У 1959–1964 гадах працаваў М. Гайдук таксама выкладчыкам беларускай літаратуры на беларускім аддзяленні завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. З 1971 года – публіцыст, а з 1986 – намеснік галоўнага рэдактара ”Нівы”. Яго жыццёвы шлях завяршыўся 2 верасня 1998 года ў Беластоку.

Мікалай Гайдук узнагароджаны Залатым і Сярэбраным Крыжам Заслугі, Кавалерскім крыжам ордэна Адраджэння Польшчы і медалямі. Быў сябрам Саюза польскіх пісьменнікаў і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Дэбютаваў ён лірычнымі вершамі ў ”Ніве”, якія дасылаў з Мінска, будучы студэнтам універсітэта. Вершы мелі прыродаапісальны характар. Потым яны ўвайшлі ў яго паэтычны зборнік ”Ціш” (1989).

У свой час М. Гайдук абышоў і аб’ездзіў амаль усю Беласточчыну, дзе спрадвеку на сваёй зямлі жывуць беларусы, збіраў казкі і легенды, звычаі, абрады і песні. Ён апісаў і сфатаграфаваў ці кожную мясцовасць, правёў шмат размоў з жыхарамі. У выніку вандровак Міколы Гайдука па Беласточчыне ўзніклі таксама ”Краязнаўчы слоўнік” і сцэнарый тэлефільма ”Беларускае вяселле”, пастаўлены польскім тэлебачаннем. Аднак найважнейшым здабыткам гэтых вандровак М. Гайдука сталі сабраныя ім звыш пяцьсот беларускіх песень з нотамі, якія друкаваліся часткова ў ”Ніве”, а затым з'явіліся ў кніжным выданні Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь пад назвай ”Песні Беласточчыны” [Мінск 1997].

Трэба адзначыць, што сабраныя М. Гайдуком народныя песні былі тэкстамі наскрозь аўтэнтычнымі, арыгінальнымі. Збіральнік іх не перарабляў і не змяняў іх зместу. Іншым шляхам пайшоў ён, публікуючы народныя казкі і легенды. Адметнасць падыходу праявілася ў тым, што М. Гайдук апрацоўваў сабраныя казкі. Гэта значыць, уносіў у іх змест такія змены, дзякуючы якім яны ставаліся больш камунікатыўнымі, пазбаўляліся ўсіх характэрных для арыгіналу адхіленняў і адступленняў ад галоўнага сюжэтнага стрыжня і даўняй стылістыкі. Можна, аднак, паставіць пытанне, ці збіральнік меў рацыю, ці, можа, зрабіў памылку? Адказ на гэтак пастаўленае пытанне даволі просты. Калі ўзяць пад увагу

тое, што казкі, апублікаваныя М. Гайдуком, выкарыстоўваліся ў працэсе навучання беларускай мове ў пачатковых школах Усходняй Беласточчыны, дык трэба сказаць, што яны сталіся больш даступнымі для вучняў, чым былі б у арыгінальнай форме. Калі аднак глянуць на гэтыя апрацоўкі з пункту погляду навуковых фальклоразнаўчых патрабаванняў, дык няма сумненняў, што гэтыя пераапрацоўкі пазбавілі казачныя тэксты гістарычнай і культурнай значнасці. Фалькларысты могуць зрабіць яшчэ адзін закід М. Гайдуку. Усе сабраныя казачныя тэксты, апублікаваныя ім на сучаснай беларускай літаратурнай мове, у сапраўднасці былі створаны на моўных дыялектах, што раней выступалі ў розных рэгіёнах Усходняй Беласточчыны. І якраз гэтая моўная народная адметнасць народных казачных тэкстаў і была парушана.

Казкі, сабраныя і апрацаваныя Гайдуком, часткова публікаваліся на старонках ”Нівы”. Тады ўпершыню маглі пазнаёміцца з імі наймалодшыя чытачы-дзеці, а таксама моладзь. Пасля Мікола Гайдук выдаў іх у кнізе ”Аб чым шуміць Белавежская пушча”. У кніжку ўвайшлі 24 тэксты, змешчаныя ў падраздзелах ”У звяроў і птушак”, ”Паміж людзьмі і жывёламі”, ”Калі пушчу сцераглі асочнікі”, ’’Сярод людзей”. Казкі, змешчаныя ў гэтым зборніку, падзяляюцца на дзве групы. У першую ўваходзяць жывёльныя казкі, а ў другую – сацыяльна-прыгодніцкія. Як у адной, гэтак і ў другой, выступаюць матывы, вядомыя з беларускага казачнага эпасу іншых рэгіёнаў Беларусі. Аднак часта трапляюцца таксама тэксты, наскрозь арыгінальныя, характэрныя толькі для ўсходнебеластоцкага рэгіёна. Як адна, гэтак і другая катэгорыя казак, адлюстроўваюць старую сялянскую псіхалогію, інтэрпрэтацыю навакольнага свету, успрыманне свету звяроў і самога чалавека. І менавіта ў гэтым аспекце зборнік мае істотную вартасць і каштоўнасць.

„Кожны раз, як я наведваў Белавежу і ўслухоўваўся ў гэты яе няспынны пошум, мне здавалася, што чую нейкае бясконцае апавяданне на дзіўнай, незразумелай мне мове. Але ніяк не мог разгадаць гэтую дзівосную мову-сказ. І што вы думаеце? Усе мае размоўцы згодна запэўнілі і пераканалі мяне, што ўдзень і ўночы, ва ўсе поры года, Пушча бае свае розныя дзівосныя казкі і легенды. Некаторыя з іх сталі даступныя людзям, і яны мне іх расказалі,” – пісаў М. Гайдук. „Каб лепш зразумець сённяшняе, трэба уважліва зазірнуць ва ўчарашняе – такая ўжо адвечная праўда, – сцвярджае пісьменнік. – Як жа мы, беларусы на Падляшшы, мала ведаем пра сваю мінуўшчыну! Спытайце любога з насельнікаў гэтай зямлі і таго, хто закончыў сярэднюю ці нават вышэйшую школу – ён нам нямнога патрапіць сказаць пра гісторыю роднага краю. За такі трагічны стан гістарычнай свядомасці беларусаў у Польшчы віна падае на нашу інтэлігэнцыю – працаўнікоў навукі, настаўнікаў, дзеячоў на ніве культуры і асветы, да якіх належыць абавязак паўсюдна тлумачыць людзям, хто мы і які наш радавод”. І гэты

абавязак ён быццам за ўсю тутэйшую беларускую інтэлігэнцыю бярэ на сябе. Ён друкуе ў ”Ніве” вялікі цыкл гістарычных эсэ пад загалоўкам ”Шляхам гадоў”, якія потым увайшлі ў зборнік ”Паратунак” [Мінск 1993]. Публікаваныя на старонках ”Нівы”, у ”Беларускіх каляндарах” і літаратурных альманахах ”Белавежа”, вельмі цікавыя апавяданні, звязаныя з гістарычным мінулым Беласточчыны, пабачылі свет таксама ў кнізе ”Трызна” [Мінск, ”Мастацкая літаратура”, 1991].

Апрача песень і казак, Мікола Гайдук выдаў таксама зборнікі легенд і паданняў: ”Белавежскія быліцы і небыліцы” [Мінск, ”Юнацтва”, 1996], ”Легенды Беласточчыны” [Беласток, 1997]. Гэтыя кнігі змяшчаюць легенды і паданні, якія нарадзіліся ў мясцовасцях навокал Белавежскай пушчы, і тыя, якія завандравалі на Беласточчыну з берагоў Нёмана, Дняпра, Віслы і нават больш далёкіх краін. Гэтыя легенды спакон вякоў жывуць у памяці людзей, перадаюцца з вуснаў у вусны, з пакалення ў пакаленне. Іх расказваюць на беларускай мове не толькі дзецям, але таксама іх добра ведае і моладзь.

Паводле літаратуразнаўчага вызначэння, легенда – гэта фальклорнае фантастычнае апавяданне. Змест легенды можа быць звязаны з гістарычнымі падзеямі, славутымі імёнамі, аднак абавязковай адзнакай легенды з’яўляецца наяўнасць у ёй элементаў фантастыкі, неверагодных здарэнняў, незвычайных герояў і іх дзівосных учынкаў і прыгод. Блізкім да легенды па форме і зместу з’яўляецца паданне. Гэта фальклорнае апавяданне, у якім ад імя сведкі або ўдзельніка расказваецца пра розныя жыццёвыя з’явы, падзеі, герояў і іх учынкі, подзвігі. Розніца у тым, што паданне пазбаўлена фантастычнага, чарадзейнага элемента. Легенда можа расказваць пра мінулае, сучаснае і нават будучыню, паданне заўсёды скіравана толькі ў мінулае. Гэтыя рысы, характэрныя легендам і паданням, адлюстроўваюцца таксама ў творах, сабраных М. Гайдуком.

Зборнік ”Легенды Беласточчыны” складаецца з пяці раздзелаў: ”У часы рыцарскія”, ”Пры бляску свечкі”, ”Калі сэрца не здрыгнецца”, ”У панскай волі’, ”За лёгкім хлебам”. Кожны з гэтых раздзелаў мае падраздзелы. Спецыфіка гэтага зборніка ў тым, што аўтар аздабляе легенды гербамі некаторых нашых гарадоў і мястэчак. Аўтар хоча, каб мы прыглядзеліся да іх бліжэй і змаглі палюбавацца імі. Зразумела, усе легенды з’яўляюцца вельмі цікавымі, аднак, прынамсі некаторыя з іх, заслугоўваюць, на маю думку, асаблівай увагі.

Адной з такіх легенд з'яўляецца легенда ”Грошы – гэта смерць”. Здарылася тое ў часы, калі ў войску служылі салдаты аж дваццаць пяць гадоў. Галоўнымі героямі з’яўляюцца тры салдаты, якія, адслужыўшы свой тэрмін, вяртаюцца дамоў. Дарога была далёкая. Як рушылі са свайго гарнізона пасля Каляд, дык і Вялікдзень у дарозе святкавалі. Ідучы, сустрэлі нейкага селяніна, які араў поле. Салдаты прывіталі яго ”Помажы Божа” і рушылі далей. Ажно бачаць, што гаспадар спыніў

валоў і пачаў з зямлі нешта выкалупваць. Салдаты зацікавіліся і пачалі пытаць селяніна. А той, падняўшы гаршчок з зямлі, усклікнуў:

”Гляньце, салдацікі-брацікі, гэта ж з яго, няйнакш, золата сыплецца?!!” Салдаты пазіралі на гаспадара зайздросна. А той, падумаўшы хвіліну, аддаў усё золата ім, кажучы: ”Вы, нябось, без граша пры душы: прыдасца яно вам на закладку новага жыцця”. Адзін з ашчасліўленых вяяроў не мог паверыць, што селянін адмовіўся ад такога багацця. На тое адказаў яму селянін: ”Не хачу я скарбаў, бо грошы – гэта смерць”. Але салдаты былі так рады, што не задумаліся над словамі мудрага чалавека. Шчаслівыя рушылі ў далейшую дарогу. Ажно дайшлі да разыходных дарог і аднаму з ваяроў прыйшла пара адлучыцца ад грамады і пайсці ў свой бок. Развіталіся яны з сябрам і пайшлі далей. Ідучы, тыя ўдвух, падумалі, што дагоняць сябра і забяруць у яго грошы. Так і зрабілі. Забілі сябра, а труп закапалі ў лесе. Прыйшла хвіліна, калі ім трэба было пайсці кожнаму сваёй дарогай. Разлучыліся і пайшлі адзінока. Аж адзін з іх падумаў, што калі забярэ грошы ў сябра, увесь скарб будзе яго. Як падумаў, так і зрабіў. І пайшоў далей: ”...а тыя грошы пяклі яму сумленне, бы той жар”. У роднае сяло зайшоў вельмі позна, ужо змяркалася. Зайшоў да старасты, каб замэльдаваць пра сваё прыбыццё (калісьці быў такі абавязак), і потым пайшоў да сваёй хаты. Маці і сёстры не пазналі яго, дык ён прыдумаў, што прыкінецца чужым. Сказаў, што за вячэру і дазвол пераначаваць добра заплаціць, і паказаў ім грошы. Што здарылася далей, не цяжка дадумацца. Маці з дочкамі рашыла забіць салдата і адабраць у яго грошы. Раніцай, калі ў хату увайшоў стараста і паведаміў, што іх сын вярнуўся ноччу з войска, маці адразу павалілася мёртвай у ногі старасты, а дочкі заплакалі над сваёй доляй і нябожчыкам.

Паводле мяне, гэта адна з цікавейшых легенд у гэтым зборніку. Яна заключае ў сабе глыбокую думку, народнае выслоўе павучальнага характару.

Наступным творам, на які хочацца звярнуць увагу, бачыцца легенда пад назвай ”Валасок”. У цэнтры ўвагі тут сужонства, даволі згоднае і памяркоўнае. Ні жонка мужу, ні муж жонцы крыўднага слова ніколі не скажа. І усё было б добра, каб не зайздрасць суседзяў. Суседзі не маглі сцярпець шчасця і дабра сужонства і рашылі падбунтаваць бабу-жабрачку. Пайшла жабрачка ў згодную сям’ю ”міласці прасіць”. Гаспадыня была добрай жанчынай, вынесла з каморы кавалак саланіны і дала ёй. Жабрачка падзякавала і пачала раіць жанчыне, што яна павінна зрабіць, каб яе муж стаў яшчэ лепшым чалавекам: ”Табе толькі скажу, мая ты галубка, дабрату тваю ведаючы. А ты ўжо нікому пра тое ні слова, і мужу таксама нічога не кажы, бо лекаванне не паможа. Ты гэта, вечарам, як ён ляжа спаць, вазьмі брытву і абрэж валасок, што на шыі ў твайго мужа. Валасок гэты доўгі і ў ім, каб ты тое ведала, уся мужыкова

злосць таіцца...” Жанчына задумалася, падвастрыла брытву і паклала яе ў зручным месцы. Жабрачка тым часам пайшла ў клуню, дзе гаспадар авёс малаціў і сказала: ”Ты тут малоціш, з сілы выбіваешся і не ведаеш, што смерць твая ўжо на парозе. Нечакана і негадана смерць ударыць па табе. Ад рукі таго, што ты і не спадзяешся, у хаце тваёй ноччу, на пасцелі”. Сказаўшы гэта, жабрачка ўцякла з панадворка. Вечарам, калі толькі муж заплюшчыў вочы, гаспадыня рашыла абрэзаць валосок. Калі толькі падышла да ложка, муж сарваўся і давай жонку з калом у руках вакол хаты ганяць. І адгэтуль у сям'і запанавала нязгода. І тут аўтар прыгадвае народную мудрасць: ”Чужой рады слухай, а свой розум май”.

Гэтая народная мудрасць выбіваецца амаль ва ўсіх легендах М. Гайдука. Аўтар надзвычай умела і цікава апісвае сваіх герояў і абставіны, у якіх яны апынуліся. Несумненна, сабраныя і апрацаваныя ім легенды і паданні надоўга застануцца ў памяці многіх чытачоў.

# ТЭРМАПІЛЫ

Адрас: 15-420 Białystok, Plac Uniwersytecki 1

выдае

*Беларускае літаратурнае аб'яднанне „БЕЛАВЕЖА”*

**Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji**

## Да ведама аўтараў

Рэдакцыя прымае да разгляду празаічныя творы аб'ёмам не болей 5 друкаваных аркушаў (прыблізна 120 стр. машынапісу), паэтычныя да 200 радкоў, артыкулы да 2 друкаваных аркушаў. Усе матэрыялы прымаюцца ў электроннай і раздрукаванай форме.
Рукапісы не вяртаюцца.

Аўтары нясуць адказнасць за свае матэрыялы ў адпаведнасці з законам аб друку Польшчы.

Апублікаваныя матэрыялы неабавязкова адлюстроўваюць пункт погляду рэдакцыі часопіса.

Druk:
„Prymat” Mariusz Śliwowski, Białystok, ul. Kolejowa 19
tel. 602 766 304, e-mail: prymat@biasoft.net
www.prymat.biasoft.net